ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ ДВУХТЫДНЁВІК

ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 12

30-га ЧЭРВЕНЯ 1934 г.

ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 80; адк. сакратара,—12; гарадскі—21044.

# 10 ГОД НЯСТОМНАЙ БАРАЦЬБЫ ЗА ГЕНЕРАЛЬНУЮ ЛІНІЮ ПАРТЫІ

## Дзесяцігадоваму юбіляру, тэарэтычнаму органу ЦК ВКП(б)—часопісу „Большевик“

Часопіс „Большевик“ за 10 год свайго існавання мае выключна багатую гісторыю барацьбы за генеральную лінію партыі супроць усіх масцей і адценняў апартунізма, шырока і глыбока ўнядраў у сазнанне найшырэйшых кругоў членаў і кандыдатаў партыі вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

„Большевик“ паказвае ўзоры спалучэння марксісцка-ленінскай тэорыі з рэволюцыйнай практыкай і з'яўляецца ў руках шырокіх кругоў партыйнага актыва кіруючым партыйным часопісам, даючым адказ на ўсе асноўныя, важнейшыя пытанні партыйнага жыцця. „Большевик“ з'яўляецца незамянімым памочнікам партыйнага актыва ў яго барацьбе за ператварэнне на практыцы марксісцка-ленінскай тэорыі на ўсіх участках социялістычнага будаўніцтва.

Сусветна-гістарычнай важнасці задача, пастаўленая партыяй на другое пяцігоддзе—задача пабудавання бяскласавага соцыялістычнага грамадства ставіць перад партыйным друкам выключна агромнай важнасці барацьбу ў справе выкарчоўвання астаткаў капіталізма ў сазнанні людзей, у справе ператварэння працоўных у свядомых будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Трудна пераацаніць тую агромную ролю, якую выконвае „Большевик“ у справе паказу ўзораў большэвіцкай работы, на прыкладах якой вучацца партыйныя часопісы брацкіх рэспублік, вучыцца ўвесь друк Совецкай Беларусі, неад'емнай часткі Вялікага Совецкага Саюза, вучыцца ўнядраць у практыку сваёй работы сталінскі стыль.

Дзесяцігоддзе часопіса „Большевик“ мы ў БССР адзначаем узмацненнем прапаганды марксізма-ленінізма, палепшаннем работы рэспубліканскага партыйнага часопіса „Бальшэвік Беларусі“, замацаваннем і пашырэннем тыражу падпіскі на „Большевик“.

Беларуская ССР выклікае Заходнюю вобласць на спаборніцтва па павелічэнню чытачоў „Большевика“.

Тысячы новых чытачоў, лепшая пастаноўка марксісцка-ленінскага выхавання сярод комуністаў, комсамольцаў і беспартыйных працоўных будзе лепшым прывітаннем слаўнаму дзесяцігадоваму юбіляру,— тэарэтычнаму органу ЦК ВКП(б)—часопісу „Большевик“.

**Заг. аддзела культуры**
**і прапаганды ленінізма**
**ЦК КП(б)Б** ***Конік***

# Баявому органу ЦК ВКП(б)

Дзесяцігоддзе часопіса „Большевик"—гэта дзесяцігоддзе барацьбы баявога органа ваяўнічага марксізма-ленінізма за справу соцыялізма, дзесяцігоддзе нястомнай сістэматычнай большэвіцкай прапаганды тэорыі Маркса—Леніна—Сталіна.

„Большевик"—пільны вартавы генеральнай лініі партыі, несакрушальная апора ленінскага ЦК, узбройваючы шырокія кругі членаў партыі рэволюцыйнай тэорыяй—скарбніцай марксізма, паказвае ўзоры спалучэння рэволюцыйнай тэорыі з рэволюцыйнай практыкай, служыць пуцевадзіцелем і настольнай незамянімай кнігай барацьбы за генеральную лінію ленінскага ЦК.

„Большевик"—тэарэтычны орган ЦК ВКП(б), з'яўляючыся багатай школай барацьбы з апартунізмам, быў і будзе для партыйных часопісаў брацкіх рэспублік узорам барацьбы за захаванне чыстаты большэвіцкай тэорыі, узбройваючы іх у барацьбе з права-апартуністычнымі, трацкісцкімі, нацдэмаўскімі і іншымі відамі нацыяналістычных элементаў, якія прабуюць працягваць (што часткова і ўдавалася ім) на старонках часопіса „Большэвік Беларусі" свае антыпартыйныя, антысовецкія тэорыі.

Пад ідэйна-тэарэтычным кіраўніцтвам часопіса „Большевик", пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, „Большэвік Беларусі" на сваіх старонках праводзіў і будзе праводзіць большэвіцкую прапаганду рашэнняў XVII з'езда, рашэнняў ЦК КП(б)Б, змагацца за інтэрнацыянальнае выхаванне працоўных мас, за ленінскую нацыянальную палітыку, за ўмацаванне бацькаўшчыны працоўных усяго свету—Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**Адк. рэдактар часопіса**
**„Большэвік Беларусі"**
***Мінкін.***

# К дзесяцігоддзю „Большевика“

10 год прайшло з пачатку выхаду ў свет палітыка-эканамічнага двухтыднёвіка ЦК ВКП(б) „Большевик“. Мінуўшае дзесяцігоддзе ёсць дзесяцігоддзе напружанай барацьбы за чыстату ленінскага вучэння, за пабудаванне соцыялізма ў нашай краіне. Пад знакам гэтай барацьбы ўсё больш расла, мацнела і атрымала велізарнейшыя гістарычныя перамогі наша большэвіцкая партыя. Распаўсюджванне „Большевика“, бурны рост яго тыражу з'яўляецца адным з паказчыкаў гэтага магутнага ідэйнага і арганізацыйнага росту і перамог большэвікоў. Досыць прывесці дзве лічбы: першы нумар „Большевика“ вышаў усяго ў колькасці 12 000 экз., а цяпер тыраж часопіса—450 000, амаль у **сорак** раз больш! **Ні адна партыя ў свеце не мае такога масавага тэарэтычнага органа, як ЦК нашай слаўнай большэвіцкай партыі!**

Па старонках „Большевика“ за гэтыя дзесяць год можна прасачыць, як разгортвалася барацьба за ідэйную **маналітнасць** партыі, як бязлітасна выкрываліся ўхілы ад лініі партыі, чуждыя і варожыя большэвізму плыні і групы не толькі ў ВКП(б), але і ў брацкіх компартыях.

Ленінская тэорыя аб магчымасці пабудавання поўнага соцыялістычнага грамадства ў адной краіне, геніяльна развітая і канкрэтызаваная тав. **Сталіным**, атрымала велізарнейшую перамогу ў лютых баях з трацкізмам і правым апартунізмам. „Большевик“ быў асноваи па ініцыятыве т. **Сталіна** пасля „славутай“ дыскусіі 1923 г., навязанай партыі Троцкім,—адной з чарговых „дыскусій“, якія імкнуліся стварыць крызіс у нашай партыі. Па камплектах „Большевика“ за 1924—1927 гг. можна бачыць, якую агромную колькасць сілы і энергіі ў партыі патрабавала барацьба з трацкізмам, які з кожным годам усё больш скатваўся на меншавіцкі, контррэволюцыйны шлях. У „Большевике“ сістэматычна выкрываліся атакі трацкізма супроць партыі, даваўся ім сакрушальны адпор. Прэтэндаваўшыя на ролю тэарэтычнай платформы трацкізма „Экономические заметки“ Прэабражэнскага, антыпартыйныя пісанні Осоўскага, Майзліна (ці многія помняць цяпер гэтыя ў свой час нашумеўшыя прозвішчы і псеўдонімы, даўно выкінутыя разам з меншавіком Троцкім на сметнік гісторыі, сумных „герояў“ антыпартыйнай барацьбы!), Шляпнікава і іншых—усе гэтыя пісанні сустракалі бязлітасную крытыку на старонках „Большевика“, і гэты адпор узбройваў партыю для барацьбы з трацкізмам. Асабліва важнае значэнне ў барацьбе з трацкісцкай апазіцыяй мелі артыкулы т. **Сталіна** „Октябрская рэволюцыя і тактыка рускіх комуністаў“, „К пытанням ленінізма“, і інш., упершыню апублікаваныя ў нашым часопісе.

У перыяд, калі правы ўхіл стаў галоўнай небяспекай, віднейшае месца на старонках „Большевика“ займалі артыкулы, прысвечаныя выкрыццю ідэалогіі і практыкі **правага ўхілу**. У радзе артыкулаў былі ўскрыты тэарэтычныя, метадалагічныя карэнні праваапартуністычных выступленняў тав. Бухарына, аказаўшагася ў ролі галоўнага тэарэтыка правага ўхілу, яго ідэйнага натхніцеля.

„З песні слоў не выкінеш“. Падводзячы вынікі дзесяцігадовай работы нашага часопіса, нельга ўмаўчаць і аб тым, што ў першыя гады яго існавання мелі месца спробы з боку небезвядомай „школкі“, якая групавалася ў свой час вакол тав. Бухарына, выкарыстаць старонкі „Большевика“ для прапаганды праваапартуністычных ідэй і ідэек. Між іншым, на старонкі „Большевика“ „школцы“ удалося працягнуць махровы праваапартуністычны тэзіс тав. Бухарына аб мірным урастанні кулака ў соцыялізм, які ў розных формах прапагандаваўся затым „школкай“ у паасобных артыкулах, высунут быў тэзіс аб „абмежаванні“ самакрытыкі і т. д. Усім гэтым спробам працягвання небольшэвіцкіх, апартуністычных ідэй у наш друк Цэнтральны камітэт партыі своечасова даваў самы рэзкі адпор.

Цэнтральны камітэт заўсёды надаваў агромнае значэнне „Большевику“, як свайму тэарэтычнаму органу, выхаваўчая работа якога носіць агульнапартыйны характар. І калі з боку так званай ленінградскай апазіцыі напярэдадні XIV з‘езда была зроблена спроба арганізаваць свой фракцыйны часопіс, паралельны „Большевику“ і пад той-жа назвай, ЦК забараніў выхад такога часопіса.

На XIV з‘ездзе тав. **Сталін** гаварыў: „Мы не згадзіліся з гэтым, заявіўшы, што такі **часопіс, паралельны маскоўскаму „Большевику“, немінуча ператворыцца ў орган групы, у фракцыйны орган апазіцыі, што такі крок небяспечны і падарве адзінства партыі**. Інакш кажучы, мы забаранілі выхад часопіса“ (**И. Сталин** „Об оппозиции“, стр. 224, Падкрэслена намі.—*Рэд.*).

Вялікі інтарэс прадстаўляюць тыя змяненні, якія адбыліся ў **аўтарскім** складзе „Большевика“, асабліва за апошнія гады. У першыя гады работы нашага часопіса, калі ў ім адчуваўся вядомы ўплыў памянёнай вышэй „школкі“, круг аўтароў быў параўнальна вузкі і замкнуты, толькі нязначны процант кіруючых работнікаў партыі, членаў ЦК, быў прыцягнут тады да ўдзелу ў часопісу. У далейшы перыяд, асабліва за апошнія гады, становішча рэзка змянілася. З агульнай сумы артыкулаў, змешчаных у часопісу за год, членамі ЦК і ЦКК напісана наступная колькасць: у 1925 г. з 113 артыкулаў—16; у 1926 г. з 110 артыкулаў—11; у 1927 г. з 120 артыкулаў—12, а ў 1933 г.—40 артыкулаў з 125. За першае паўгоддзе 1934 г. 21 артыкул з 50 напісан членамі ЦК нашай партыі. Кіраўнікі важнейшых участкаў соцыялістычнай гаспадаркі, кіраўнікі краявых і абласных партыйных арганізацый занялі трывалае месца ў аўтарскім актыве нашага часопіса. Няма чаго і гаварыць аб тым, што рэгулярна з‘яўляючыяся ў „Большевике“ грунтоўныя артыкулы кіраўнікоў нашых краявых і абласных партарганізацый маюць і буйнае значэнне для даных краёў і абласцей. Побач з імі ў часопісе актыўна ўдзельнічае рад маладых работнікаў тэарэтычнага фронта, прайшоўшых добрую школу большэвіцкай партыйнасці. Іменна гэты склад аўтароў дазваляе часопісу ў значнай ступені адлюстроўваць разнастайнасць нашай барацьбы за соцыялізм і ў галіне прамысловасці, і ў галіне сельскай гаспадаркі, у гандлі, на транспарце і т. д.; даваць рад аператыўных артыкулаў, асвятляючых дасягненні, ускры-

ваючых недахопы, перадаючых вопыт партыйнага кіраўніцтва. Аднак мы можам і павінны пайсці тут значна далей: даваць яшчэ больш разнастайныя, старанна адабраныя, палітычна і тэарэтычна высокаякасныя артыкулы.

Партыя вядзе гіганцкую тэарэтычную, палітычную выхаваўчую работу. Партыя выхоўвае свой уласны актыў, які ахватвае зараз ужо сотні і сотні тысяч людзей, цвет рабочага класа. Партыя ставіць усё шырэй і глыбей дзяржаўную прапаганду марксізма-ленінізма, надаючы гэтай справе сусветна-гістарычны размах. Партыя выхоўвае цэлае пакаленне новых людзей, авангарда змагаючагася чалавецтва. Ва ўсёй гэтай вялікай рабоце палітыка-эканамічнаму часопісу ЦК, выходзячаму тыражом амаль у поўмільёна экземпляраў, не можа не належаць адказнейшая роля. Кожны работнік „Большевика", кожны прыяцель і энтузіяст нашага часопіса не можа не аддаваць сабе адчота ў тым, якая вялікая задача кладзецца на такі орган.

Прывядзем некалькі водзываў нашых чытачоў аб часопісе, даваўшыхся на чытацельскіх канферэнцыях, праходзячых зараз у сувязі з дзесяцігоддзем часопіса:

„Часопіс „Большевик" сапраўды стаў для вельмі многіх комуністаў літаральна настольнай кнігай, у якой знаходзіш адказы на самыя разнастайныя пытанні нашай сучаснасці і гісторыі...".

„Часопіс „Большевик" за апошнія гады стаў больш актуальным часопісам, быстра рэагуючым і быстра адзываючымся на тыя актуальныя пытанні, якія выклікаюцца ходам соцыялістычнага будаўніцтва, і дастоінства „Большевика" перш за ўсё заключаецца ў яго **большэвіцкай партыйнасці**. Кожная старонка, кожны радок „Большевика" насычаны большэвіцкай партыйнасцю, ленінска-сталінскай партыйнасцю".

Такія водзывы зусім не адзінкавыя. Але, падводзячы вынікі дзесяцігадовай работы „Большевика", мы па добрай большэвіцкай традыцыі абавязаны помніць і цвёрда помнім перш за ўсё аб тым, што трэба зрабіць для далейшага паляпшання часопіса.

Мы, зразумела, упаўне аддаем сабе адчот у тым, што нашаму часопісу не хапае яшчэ вельмі і вельмі многага. Мы спадзяемся ў не надта далёкім будучым значна расшырыць тэматыку часопіса і ўвесці некаторыя новыя аддзелы.

Мы ставім перад сабою задачу больш блізкага вывучэння складу галоўных чытацельскіх груп „Большевика" з тым, каб мець магчымасць больш дэтальна асвятляць пытанні, бліжэй займаючыя і паасобныя значныя групы нашых чытачоў, напр., рабочую моладзь, лётнікаў, інжынераў, аграномаў, настаўнікаў і т. п.

У парадак дня ўсёй партыйнай работы пастаўлены пытанні **паляпшання якасці, аўладання тэхнікай** і т. п. Гэта не можа не адносіцца, зразумела, і да друкаванага слова. Мы можам і павінны далей працаваць над кожным артыкулам, аглядам, рэцэнзіяй, заметкай значна больш старанна,—не толькі над зместам, але і над формай ізлажэння. Пара дабіцца таго, каб старонкі нашага друку яшчэ лепш адлюстроўвалі перажываемую вялікую эпоху соцыялізма.

Рэдакцыя можа і павінна яшчэ больш расшырыць круг аўтароў і тэм, адлюстроўваючых і абагульняючых вопыт барацьбы на розных фронтах і ўчастках соцыялістычнай будоўлі. У нас, напрыклад, яшчэ не прыцягнута па-сапраўднаму да актыўнага ўдзелу ў часопісу такая буйная творчая сіла, як работнікі **палітаддзелаў** МТС, соўгасаў, палітаддзелаў транспарта. А сюды-ж партыя кінула свае лепшыя

сілы з вялікім арганізатарскім і палітычным вопытам мінулай работы, якая дагэтуль нярэдка працякала на тых або іншых участках тэарэтычнага фронта. Іменна гэтыя таварышы маглі-б даць серыю артыкулаў, індывідуальных і калектыўных, адлюстроўваючых вопыт гаспадарчага будаўніцтва ў соцыялістычным земляробстве, намячаючых практычныя шляхі вырашэння такіх важнейшых пытанняў, як, напрыклад, **жывёлагадоўля**, як далейшае **ўнядрэнне агранамічнай навукі** ў соцыялістычнае земляробства. Хіба нельга атрымаць ад іх артыкула з неабходным **тэарэтычным** абагульненнем багацейшага вопыту палітычнай работы, паказваючых шляхі **соцыялістычнай пераробкі сазнання людзей**, перавыхавання калгаснікаў, учарашніх аднаасобнікаў.

Яшчэ шырэй неабходна асвятляць круг пытанняў **соцыялістычнай эканомікі.** „Большевик" з'яўляецца палітыка-эканамічным двухтыднёвікам Цэнтральнага камітэта, і гэта абавязвае нас своечасова інфармаваць партыйцаў-чытачоў (а іменна яны састаўляюць галоўны круг падпісчыкаў часопіса) аб усіх дасягненнях і недахопах нашай гаспадарчай работы. У гэтых мэтах рэдакцыя рашыла даваць сістэматычныя **кан'юнктурныя трохмесячныя агляды** па ўсёй народнай гаспадарцы СССР. Мы прадпалагаем таксама рэгулярна змяшчаць **кан'юнктурныя агляды сусветнай гаспадаркі** і даваць аналіз тых з'яў, якія адбываюцца ў эканоміцы капіталістычных краін.

„... Асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі з'яўляецца завяршэнне рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. Рашаючай-жа ўмовай завяршэння тэхнічнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі ў другой пяцігодцы павінна з'явіцца асваенне новай тэхнікі і новых вытворчасцей",—гаворыцца ў рашэннях XVII з'езда партыі аб другім пяцігадовым плане. **„Пафас асваення"** новых заводаў і новай тэхнікі, вопыт перадавых прадпрыемстваў і перадавых галін прамысловасці ў барацьбе за асваенне новай тэхнікі, новых метадаў арганізацыі вытворчасці таксама павінны атрымаць шырокае асвятленне на старонках „Большевика".

Перабудова партыйных, савецкіх і гаспадарчых арганізацый на аснове рашэнняў XVII з'езда па **арганізацыйных пытаннях** асвятлялася намі яўна недастаткова. Між тым, тут ужо накапіўся вядомы вопыт. Асаблівай увагі заслугоўвае сярэдняе звяно дзяржаўнага і гаспадарчага апарата, якое пры сістэме функцыяналкі і абязлічкі аставалася ў цяню і пры добрай і пры дрэннай рабоце.

Праблемы партыйнага будаўніцтва ў новых умовах, пытанні палепшання ўласна партыйна-арганізацыйнай работы, вопыт інструктароў райкомаў, сакратароў буйных заводскіх парткомаў пасля перабудовы—усё гэта павінна атрымаць належнае асвятленне на старонках нашага часопіса.

У якасці цэнтральнай задачы наш часопіс ставіць перад сабою **нястомную прапаганду ленінізма ва ўсіх звеннях партыі.** У той ці іншай меры **кожны** артыкул „Большевика" павінен падымаць агульнатэарэтычны ўзровень чытачоў. Але ў асаблівасці гэта адносіцца да спецыяльных артыкулаў, прысвечаных розных бакам марксісцка-ленінскай тэорыі. Агромнае значэнне тут мае змяшчэнне ў часопісу дакументаў і неапублікаваных матэрыялаў літаратурнай спадчыны Маркса—Энгельса—Леніна. Гэты аддзел заняў ужо трывалае месца ў „Большевике" і павінен у далейшым рэгулярна развівацца. Інтарэс чытачоў да яго надзвычай вялікі.

Буйнейшай падзеяй у ідэйным жыцці партыі з'яўлялася і з'яўляецца змяшчэнне ў „Большевике" артыкулаў і матэрыялаў тав. **Сталіна.** На старонках „Большевика" былі апублікаваны наступныя яго матэрыялы: 1) „К международному положению" (№ 11—1924 г.); 2) „О компартии Польши" (№ 11—1924 г.); 3) „Октябрьская революция и тактика русских коммунистов" (№ 1—1925 г.); 4) „К национальному вопросу в Югославии" (№ 7—1925 г.) 5) „Еще раз к национальному вопросу" (№ 11-12—1925 г.); 6) „К вопросам ленинизма" (№ 3—1926 г.); 7) „В редакцию „Большевика" (письмо от 17 февраля 1926 г. по поводу ошибки тов. Сорина) (№ 4—1926 г.); 8) „О перспективах революции в Китае" (№ 23-24—1926 г.); 9) „Ответ тов. Дмитриеву" (№ 6—1927 г.); 10) Ответ тов. Ян—скому (О трех основных лозунгах партии по крестьянскому вопросу") (№ 7-8—1927 г.); 11) „Революция в Китае и задачи Коминтерна" (№ 10—1927 г.); 12) „О правой опасности в германской компартии" (№ 23-24—1928 г.); 13) „О правом уклоне в ВКП(б)" (№ 23-24—1929 г.); 14) „О правых фракционерах в американской компартии" (№ 1—1930 г.); 15) О некоторых вопросах истории большевизма" (№ 19-20—1931 г.); 16) „Письмо Ленину из Сольвычегодской ссылки 1910 г." (№ 1-2—1932 г.); 17) „Письмо с Кавказа 1909 г." (№ 4—1932 г.); 18) „Беседа с немецким писателем Эмилем Людвигом" (№ 8—1932 г.); 19) „Ответ тт. Олехновичу и Аристову" (№ 16—1932 г.): 20) „Господин Кэмпбелл привирает" (№ 22—1932 г.).

„Большевиком" былі выпушчаны ў 1933 г. спецыяльныя нумары к 50-годдзю са дня смерці Маркса, вышаўшыя затым асобным зборнікам і атрымаўшыя высокую ацэнку з боку партыйнага актыва як каштоўны дапаможнік па вывучэнню марксізма-ленінізма. Напярэдадні XVII з'езда партыі быў выпушчан спецыяльны нумар к дзесяцігадовай гадавіне смерці Леніна, які таксама атрымаў станоўчую ацэнку партыйнага актыва.

Адным з метадаў прапаганды ленінізма на старонках часопіса з'яўляецца арганізаваны намі па просьбе чытачоў аддзел кансультацыі, які дае пісьмовыя кансультацыі па тэарэтычных пытаннях. Адказы на найбольш важныя і характэрныя пытанні друкуюцца ў „Большевике". Аддзел кансультацыі, перапіска з сотнямі і тысячамі чытачоў, умацоўвае сувязь з чытацельскім актывам, дае магчымасць рэдакцыі ведаць запатрабаванні чытачоў. Як правіла, артыкулы-кансультацыі пішуцца ў больш папулярнай, сціслай форме і сустракаюць адабрэнне масавага чытача. У далейшым неабходна павышэнне тэарэтычнага ўзроўню нашых кансультацый.

Сярод прапаноў нашых чытачоў часта сустракаюцца настойлівыя пажаданні далейшага палепшання аддзела крытыкі і бібліяграфіі. Гутарка ідзе аб пашырэнні кругу і павелічэнні колькасці рэцэнзуемых кніг. Партыец-актывіст, прапагандыст, гаспадарнік хочуць атрымаць аўтарытэтную параду, што выбраць прачытаць з вялікай колькасці ўноў выходзячых кніг, і яны хочуць, хоць-бы коратка, даведацца аб змесце і напрамку раду рускіх і замежных кніг, якіх прачытаць яны пакуль што не могуць з-за адсутнасці часу або па іншых прычынах. Зусім неабходна, каб побач з падрабязнымі рэцэнзіямі, даючымі крытычную ацэнку і разбор зместу найбольш важных кніг, даваліся таксама кароткія рэцэнзіі па паасобных кнігах і агляды па групах кніг па таму або іншаму пытанню са сціслай ацэнкай і кароткім іздажэннем зместу.

**Міжнародныя тэмы** заўсёды займалі ў нашым часопісе вялікае месца, і артыкулы на гэтыя тэмы чыталіся з глыбокім інтарэсам.

Абстаноўка патрабуе яшчэ большага расшырэння гэтага аддзела, і, зразумела, палепшання якасці матэрыялаў.

Вялікае значэнне для арыентацыі чытача ў міжнародным становішчы маюць кароткія агляды, бібліяграфічныя артыкулы і заметкі па **замежнаму друку**. Гэты раздзел павінен стаць адным з важнейшых у часопісе. Сюды ўвойдзе таксама асвятленне найбольш цікавых матэрыялаў замежных часопісаў („Эканаміст“, „Анналіст“, „Кампф“ і інш.).

Іменна неабходнасць усё больш абагачаць і даваць разнастайны **змест** часопіса прымушае нас, паўтараем, звярнуць асаблівую ўвагу на яго **форму**. Трэба змясціць большую колькасць разнастайных артыкулаў на той-жа друкуемай „плошчы“. **Мова** многіх нашых аўтароў патрабуе карэннага палепшання. Трэба вучыцца ў Леніна, у Сталіна іЗлагаць самыя глыбокія тэарэтычныя палажэнні ў самай сціслай, простай, крыштальна яснай, празрыстай і вобразнай форме!

* * *

У дакладзе тав. **Сталіна** на XVII з'ездзе, з'яўляючымся партыйнай дырэктывай, былі падняты на агромную вышыню пытанні палітычнага кіраўніцтва і ідэйнага жыцця партыі.

Таварыш Сталін выставіў наступныя задачы ў галіне ідэйна-палітычнай работы:

„1) Падняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню;

2) Узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі;

3) Весці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі;

4) Выхоўваць партарганізацыі і акружаючы іх беспартыйны актыў у духу ленінскага інтэрнацыяналізма;

5) Не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма;

6) Сістэматычна выкрываць ідэалогію і астаткі ідэалогіі варожых ленінізму плыняй“.

У гэтых словах тав. Сталіна выражана агромная праграма **ўзмацнення ідэйна-палітычнай работы партыі**. І немалую ролю ў падняцці тэарэтычнага ўзроўню партыі на належную вышыню, у глыбокай, настойлівай прапагандзе ленінізма ва ўсіх звеннях партыі, у справе выхавання партыйцаў і беспартыйнага актыва ў духу ленінскага інтэрнацыяналізма павінен адыграць „Большевик“.

Падняць часопіс на ўзровень тых высокіх патрабаванняў, якія партыя прад'яўляе да работнікаў ідэалагічнага фронта, зрабіць яго яшчэ больш вострай зброяй партыі ў барацьбе за будаўніцтва соцыялізма, за канчатковую перамогу соцыялізма пад сцягам Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна—такава наша задача!

„Большевик“ з'яўляецца адным з кіруючых друкаваных органаў ЦК нашай партыі. Гэта ўскладае на ўсіх нас, работнікаў рэдакцыі, актыў „Большевика“, усіх супрацоўнікаў нашага часопіса, велізарнейшую адказнасць. Кожны радок нашага часопіса павінен быць прасякнут большэвіцкай партыйнасцю, павінен прапагандаваць рашэнні ЦК ва ўсіх галінах партыйнай работы, павінен служыць абароне і пашырэнню ідэй **Леніна і Сталіна**.

**„Большевик“ быў, ёсць і будзе баявым органам ваяўнічага марксізма-ленінізма, несакрушальнай апорай нашага ленінскага ЦК, органам, які пільна стаіць на варце генеральнай лініі партыі.**

(Перадавы № 11 часопіса „Большевик“).

# За большэвіцкае правядзенне ўборкі

Поспехі веснавой сяўбы 1934 г. у БССР з'яўляюцца яркай ілюстрацыяй перабудовы партыйнага кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, аўладання „дэталямі калгаснай вытворчасці", яркай ілюстрацыяй узросшай вытворчай актыўнасці тысячы тысяч калгаснікаў і калгасніц ва ўмацаванні калгаснага ладу.

Веснавая сяўба паказала, што сельская гаспадарка БССР цвёрда стала на шлях магутнага ўздыму. Асаблівасці сяўбы гэтага году заключаюцца перш за ўсё ў тым, што сёлета, як ніколі, была разгорнута **рашучая барацьба за якасць**. Лепшая апрацоўка глебы, пасеў добраякасным насеннем з паказам высокай усхожасці, скарочаныя тэрміны сяўбы,—вось што стала ў цэнтры ўвагі партыйнай арганізацыі і калгасных мас. У гэтай барацьбе за якасць выраслі сотні і тысячы новых калгаснікаў. Вырасла новая нябачаная дагэтуль фігура інспектара якасці, стаўшая ганаровай, паважанай фігурай калгаснай вёскі.

Тэхнічныя аснашчэнні сельскай гаспадаркі, якія з кожным годам павялічваюцца, у гэтым годзе былі найбольш лепш выкарыстаны. У барацьбу за асваенне новай тэхнікі ўступілі новыя слаі калгаснікаў і калгасніц. Лепшаму выкарыстанню тэхнікі дапамагала і значна лепшае правядзенне рамонту трактарнага парку і сельска-гаспадарчых машын к веснавой пасеўнай кампаніі.

Самым яркім і характэрным у веснавой сяўбе з'явіліся **новыя** адносіны да грамадскай працы і калгаснай дысцыпліны. Таму карэннае змяненне ў адносінах да калгаснай працы, да калгаснай працоўнай дысцыпліны дало магчымасць дабіцца поспехаў у веснавой сяўбе.

Вядома, што веснавая сяўба праходзіла ў абстаноўцы лютай класавай барацьбы супроць астаткаў разгромленага кулацтва, супроць дробна-буржуазнай стыхіі. Кулацкія і нацдэмаўскія элементы ў сваёй контррэвалюцыйнай рабоце супроць калгаснай вытворчасці і дыктатуры пролетарыята прабавалі і прабуюць выкарыстаць адсталыя, дробнабуржуазныя перажыткі паасобных груп калгаснікаў і калгасніц.

Патрэбна найвялікшая пролетарская пільнасць, каб своечасова разгледзіць манеўры класавага ворага, паказаць калгасным масам яго сапраўдны твар. Іменна ў гэтым сказалася велізарнейшая заслуга палітаддзелаў МТС і соўгасаў, уступіўшых у гэты сельска-гаспадарчы год узброенымі вопытам гадавой работы, здолеўшых своечасова выкрыць манеўры класавага ворага, выхоўваючы калгасныя масы на барацьбу супроць кулацтва.

На фоне поспехаў за своечасовае і высокаякаснае правядзенне веснавой сяўбы, адставанне раду раёнаў і МТС, цягнучых уніз усю рэспубліку, паказала, што ў гэтых раёнах і МТС перабудова работы па-новаму яшчэ не даведзена да канца.

Майскі пленум ЦК КП(б)Б запісаў гэтым раёнам і МТС, што:

„Побач з гэтым, паасобныя раёны: Мсціслаўскі, Крычаўскі, Клімавіцкі, Лёзненскі, Сіроцінскі, Веткаўскі, Гарадоцкі, Суражскі, Асвейскі і рад МТС—Путчынская, Горацкая, Мсціслаўская—яшчэ да канца не перабудавалі сваю работу па-новаму і цягнуліся ў хвасце на працягу усёй сяўбы; асабліва гэта датычыць значнай часткі соўгасаў. Кіраўніцтва гэтых раёнаў і МТС павінна зрабіць для сябе сур'ёзныя палітычныя і практычныя вывады з вопыту і вынікаў работы па пасеўнай і ўзмацніць канкрэтнае кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, дабіўшыся пры правядзенні чарговых работ па сельскай гаспадарцы поўнай ліквідацыі свайго адставання.

Разам з тым, кожны раён павінен, у рэзультаце прыняцця раду канкрэтных мерапрыемстваў, дабіцца ў гэтым годзе такога становішча, каб у раёне не было адстаючых соўгасаў, калгасаў і сельсоветаў і каб усе віды сельска-гаспадарчых работ па кожнаму калгасу, соўгасу і сельсовету былі выкананы ва ўстаноўленыя тэрміны і добра па якасці, на справе і да канца дабіўшыся высокага ўраджаю".

Таксама зацягнулі перабудову сваёй работы зямельныя органы і НКЗБ. Па сутнасці, веснавая сяўба застала зямельныя органы і НКЗБ у працэсе перабудовы. Тая крытыка, якая была дана на майскім пленуме ЦК КП(б)Б работы зямельных органаў, павінна быць тэрмінова ўлічана, бо перыяд уборкі НКЗБ і зямельныя органы павінны сустрэць дакладным, аператыўным кіраўніцтвам.

Яшчэ больш жорсткай крытыцы быў падвергнут на пленуме і апарат Наркомсоўгасаў і работа соўгасаў. Тыя поспехі, якія дасягнулі соўгасы ў параўнанні з мінулым годам, нас ні ў якім разе задаволіць не могуць. Наркомсоўгасаў яшчэ не перабудаваўся і канкрэтна работай соўгасаў не кіруе. Да гэтага часу соўгасы цягнуцца ў хвасце сельска-гаспадарчых работ. Такое становішча далей нецярпіма. Партыя патрабуе рашучай большэвіцкай перабудовы работы. Упаўнаркамсоўгасаў трэба вывесці соўгасы БССР на перадавыя пазіцыі. Соўгасы павінны паказаць узоры работы, служыць прыкладам для калгасаў. Работнікі соўгасаў павінны ўлічыць усе недахопы, дапушчаныя ў веснавую пасеўную кампанію з тым, каб унікнуць іх ва ўборачнай.

* * *

Своечасова і добра пасеяць—гэта толькі пачатак. Трэба добра захаваць пасевы, не даць заглушыць іх сарнякам, добра і без страт убраць і абмалаціць зярно—гэта значна складаней, чым пасеяць. Нарэшце, трэба выканаць такія, маючыя важнае значэнне, работы, як падняцце цаліны, узмёт папараў, добрае правядзенне сенаўборкі.

Мы маем усе ўмовы для таго, каб гэтыя работы правесці своечасова і не зацягваючы. Ад умелага аператыўнага кіраўніцтва РК і палітаддзелаў, земорганаў і кіраўнікоў калгасаў залежыць поўнае скарыстанне гэтых умоў.

Пераключэнне, пасля веснавой сяўбы, на падняцце папараў, цаліны, рашучая барацьба, праведзеная партыйнымі арганізацыямі, палітаддзеламі з настроямі міжпапар'я, дало значныя рэзультаты ў выкананні важнейшых сельска-гаспадарчых работ. Так, падняцце цаліны, якое для Беларусі мае асаблівае значэнне, у сувязі з нязначнай колькасцю чыстых папараў і зацягваннем справы ўвядзення правільных севазва-

ротаў, на 25|VI-34 г. выканана на 67,2 проц.: з 115 тыс. **га** паднята 77 348 **га.** У параўнанні з мінулым годам мы маем агромную розніцу: за ўвесь 1933 г. было паднята цаліны толькі 16 060 га, з якіх на 25|VIII-33 г. паднята было 4 241 **га.**

На XVII партз'ездзе тав. **Сталін** даў ясную і чоткую ўстаноўку значэння падняцця цаліны, гаворачы, што:

> „У так званай спажывецкай паласе ёсць каля 5 млн. **га** цалінных зямель, пакрытых хмызняком. Вядома, што клімат у гэтай паласе не дрэнны, засухі не бывае. Калі ачысціць гэтыя землі ад хмызняку і правесці рад мерапрыемстваў арганізацыйнага характару, можна будзе атрымаць грамадны раён зернавых культур, які можа даць таварнага зярна пры звычайнай вялікай ураджайнасці ў гэтых месцах не менш, чым дае цяпер Ніжняя або Сярэдняя Волга“.

Бюро ЦК КП(б)Б і асабіста тав. **Гікало** неаднакраць завастралі ўвагу ўсіх большэвікоў Беларусі на выкананне гэтага ўказання правадыра нашай партыі, на неабходнасць аператыўнага, канкрэтнага кіраўніцтва ходам падняцця цаліны.

На сёнешні дзень мы дабіліся некаторых поспехаў. Але самым небяспечным было-б зараз самазаспакаенне, што, моў, 67,2 проц. выканана, далейшае выкананне пойдзе без усякіх труднасцей. **Наадварот**— зараз патрабуецца яшчэ большая напружнасць, яшчэ большая мабілізацыя калгасных мас на выкананне і перавыкананне гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай задачы. Асабліва гэта трэба зразумець тым раёнам, дзе план падняцця цаліны адстае ад агульнага рэспубліканскага плана. Гэтым раёнам трэба помніць, **што ЦК КП(б)Б будзе патрабаваць безагаворачнага выканання плана, дадага кожнаму раёну, кожнай МТС.**

Ход выканання падняцця папараў ідзе таксама значна лепш у параўнанні з мінулым годам і па колькасці і па якасці. Калі на 25|VI-33 г, было паднята 169 691 **га**, то на 25|VI-34 г. ужо паднята 298 806 **га**, або 78,6 проц.

Чысты папар, як адзін са сродкаў павышэння ўраджайнасці нашых палёў, з'яўляецца баявой задачай сёнешняга дня. Калгасныя масы гэта зразумелі. Мы маем рад узораў сапраўднай большэвіцкай барацьбы за **своечасовае** выкананне плана падняцця папараў, а гэта значыць, барацьбы за высокі калгасны ўраджай. Так, калгасы зоны дзейнасці Чашніцкай МТС ужо на 25|VI-34 г. паднялі папараў 2 201 **га** пры плане ў 1 351 **га.** Такія-ж добрыя ўзоры мы маем і па іншых раёнах.

Напр., калгасы Плешчаніцкай МТС, якія адставалі ў часе веснавой сяўбы, улічыўшы недахопы ў сваёй рабоце і выпраўляючы іх, ужо дасягнулі раду сур'ёзных поспехаў у справе падняцця папараў, цаліны, праполкі зернавых. Начальнік палітаддзела т. Сапун паведамляе, што к 28|VI прапалота 4166 **га** або 160 проц.; паднята папараў 1 340 **га** пры плане 1125 **га** або 120 проц.; паднята цаліны 930 **га** пры гадавым плане ў 710 **га** або 132 проц.

Барацьба за высокі ўраджай з'яўляецца немагчымай без своечасовага і поўнага правядзення праполкі. Бязлітасная вайна буйна растучым сарнякам, якія бяруць вільгаць ад зернавых культур, **стала справай гонару кожнага калгаса.** На 25|VI-34 г. прапалата зернавых 1 025 499 **га** або 119 проц., з якіх па калгасах прапалата 762 301 **га**

або 130 проц. У прапалцы ад калгасаў не адстаюць і аднаасобнікі, прапалоўшыя на гэта-ж чысло 353 188 га або 100 проц.

Не горш ідзе і прапалка ільну—на 25|VI прапалата 168 866 га.

Таксама нядрэнна абстаіць справа і з абсыпкай бульбы і прапалкай гародаў.

Але, паўтараем, на дасягнутых поспехах нельга заспакойвацца. Прапалоць трэба ўсю плошчу пасеву зернавых, дзе ў той ці іншай меры ёсць сарнякі. Дзе яны зноў паяўляюцца, трэба правесці паўторную прапалку. Гэта патрабуе дакладнай арганізаванасці работы, патрабуе рашучай барацьбы з самазаспакаеннем.

Не менш важнай задачай чым уборка зернавых, з'яўляецца **задача своечасовага правядзення сенаўборкі**. Тая работа, якая прароблена пасля XVII партз'езда беларускай партыйнай арганізацыяй і калгаснымі масамі па ўздыму жавёлагадоўлі, настойліва патрабуе свайго замацавання і далейшага развіцця па забяспечанню жывёлы кармамі. Трэба помніць, што ад таго, як калгас здолее забяспечыць нармальны пракорм жывёлы, якая знаходзіцца ў калгаснай ферме і ў **карыстанні ў калгаснікаў,** залежыць расшыранае социялістычнае аднаўленне жывёлагадоўлі.

Аднак, ход сенакашэння і асабліва сіласавання выклікае сур'ёзныя апасенні за своечасовае і высокаякаснае забяспечанне жывёлы кармамі. Так, на 25|VI-34 г. план сенакашэння выканан толькі на 26 проц., план сіласавання—на 6,6 проц. Таму зусім натуральна, што зараз ад райкомаў, палітаддзелаў МТС і соўгасаў патрабуецца **рашучы перадом** як у сенакашэнні, так асабліва і ў сіласаванні. Мы абавязаны ў гэтым годзе своечасова правесці як першы, так і другі ўкос траў, застагаваць іх і поўнасцю захаваць. План сіласавання павінен быць безагаворачна і поўнасцю выканан. Гутаркі, якія адбываюцца ў Чэрвеньскім і Ушацкім раёнах, аб тым, што няма чаго сіласаваць, трэба разглядаць як яўна апартуністычныя. У гэтым годзе, як ніколі, калгасы і калгаснікі ўзяліся за сіласаванне, выкарыстоўваючы для гэтага сарнякі, свірэпку і зараз, калі закончана першая прапалка, калі свірэпка ад прапалкі зернавых яравых валяецца ў кучах і гніе, гаварыць аб тым, што няма чаго сіласаваць, значыць прызнацца ў сваім няўменні кіраваць справай арганізацыі людзей.

Мала забяспечыць кармамі жывёлу, якая знаходзіцца ў калгаснай ферме. Трэба забяспечыць стада, якое знаходзіцца ў карыстанні ў калгаснікаў. Для гэтага неабходна ўжо зараз, без усякага прамаруджання, прыступіць к закладцы сіласных ям на 4—5 калгасных двароў. Ураджайнасць сенажацей сёлета ніжэйшая, чым у мінулым годзе, таму справа сіласавання другога ўкосу набывае выключнае значэнне, і мы з гэтай задачай абавязаны справіцца.

* * *

Лозунг, пад сцягам якога калгаснікі і калгасніцы ўступаюць ва ўборку—убраць ураджай так, каб не прапала ні адно зярне—**патрабуе стараннай падрыхтоўкі ўсіх матэрыяльных сіл і чоткай арганізацыі людзей.** Рабочы склад брыгад на ўборачную павінен быць ужо распрацован і даведзен да кожнага калгасніка і калгасніцы. Неабходна ўжо зараз заняцца арганізацыяй камбінаваных звенняў у брыгадзе, **бо ўборка, як ні адзін працэс работы, патрабуе найбольш дакладнай і правільнай расстаноўкі людзей, правільнага раздзялення працы.**

Аднак ход рамонту ўборачнага інвентара, па даных на 20|VI-1934 г., па МТС і калгасах іх зоны, гаворыць аб тым, што матэрыяльная база ўборачнай яшчэ не гатова. Возьмем хоць-бы найбольш важныя паказчыкі. Так, пры плане рамонту ільнацерабілак у 875—адрамантавана 815 або 93 проц., снопавязалак трактарных пры плане ў 166—адрамантавана 139; снопавязалак конных 327 — адрамантавана 211 або 64,5 проц., жняярак-лобагрэек пры плане 4552—адрамантавана 3970 або 87,2 проц. Побач з рамонтам уборачнага інвентара павінен адбывацца і рамонт як складаных, так і конных малатарань, бо задача ўборкі заключаецца ў тым, каб не дапусціць разрыву паміж уборкай і малацьбой. Трэба аднначасова праверыць якасць рамонту і своечасова перарабіць тое, што дрэнна зроблена.

Самы нізкі процант рамонту ва ўборачным інвентары мы маем па малатарнях. Так, з 1097, падлягаючых па плану рамонту складаных малатарань па МТС, на 20|VI адрамантавана 580 або 52,9 проц., малатарань конных—трэба адрамантаваць 5804, адрамантавана 4638 або 79,9 проц. Гэтыя даныя аб ходзе рамонту ўборачнага інвентара абавязваюць дырэкцыю МТС і соўгасаў тэрмінова канчаць рамонт. Прычым трэба звярнуць выключную ўвагу на якасны бок рамонту як уборачнага інвентара МТС і соўгасаў, так і калгасаў. Неабходна забяспечыць усе жняяркі і снопавязалкі зернеўлавіцелямі. Адрамантаваны, змазаны і праверaны ўборачны інвентар павінен быць да ўборкі адпраўлен у поле на тыя ўчасткі, дзе яны будуць працаваць. Нарэшце, ні на мінуту не забываць аб людзях, працуючых на машынах: іх падбор, уменне ўладаць тэхнікай сваёй справы, адданасць калгаснай вытворчасці—**павінны стаяць у цэнтры барацьбы за ўраджай.**

Убраць ураджай без страт—гэта значыць забяспечыць поўнае выкарыстанне работы машын, бо нельга сабраць ураджай без страт, калі не будзе **вельмі добра** працаваць машыніст у малатарні. Таму соцыялістычнае спаборніцтва, умелае і поўнае выкарыстанне ўборачнага інвентара дасць нам магчымасць справіцца з правядзеннем уборкі без страт.

У сваёй адозве да ўсіх трактарыстаў, камбайнераў і машыністаў Совецкага саюза трактарысты, камбайнеры, машыністы і шоферы Піцерскай МТС, Саратаўскага края, пішуць:

> „Касіць круглыя суткі нельга. Але і стаяць трактарам таксама нельга. Як-жа быць? Мы ў сябе знайшлі такі выхад. Кожнаму трактару адводзіцца не толькі ўборачны ўчастак, але і пэўны ўчастак для ворыва зябліва або культывацыі папараў. З ранняй раніцы да позняга вечара трактар будзе касіць, а ўначы ўзворваць або апрацоўваць папары“.

І гэта зусім правільна. Трактар павінен быць поўнасцю выкарыстан у часе ўборкі. У гэтай-жа адозве гаворыцца:

> „Справай нашай чэсці, нашым святым абавязкам з'яўляецца прымусіць гэтыя машыны працаваць выдатна, убраць соцыялістычны ўраджай без страт“.

На гэту адозву беларускія трактарысты, машыністы і шоферы адгукнуліся сваёй згодай забяспечыць кругласутачную бесперабойную работу трактароў, бесперабойную работу ўсіх уборачных машын. Ініцыятыву ў гэтай справе ўзялі трактарысты і машыністы Менскай МТС.

Нарэшце, трэба не забываць аб кліматычных асаблівасцях гэтага года. У радзе раёнаў і МТС могуць быць розныя тэрміны паспявання хлябоў. Было-б вельмі глыбокай памылкай пачынаць уборку пры паспяванні ўсіх хлябоў. Наадварот, майстэрства аператыўнага кіраўніцтва заключаецца іменна ў тым, каб без усякага пратэрмінавання пачаць уборку на паспяваючых участках, не парушаючы плана расстаноўкі машын і людзей. Наогул трэба поўнасцю ўлічыць і ўнікнуць памылак леташняй уборкі, калі, чакаючы агульнага паспявання на ўсім участку, дапускалі асыпанне хлябоў.

Трэба ўмець правільна спалучаць работу ўборачных машын з ручной уборкай. Тут павінна быць, безумоўна, поўнае выкарыстанне машын. Трэба даць самы рашучы адпор антымеханізатарскім настроям, але ў той-жа час там, дзе трэба, дзе неабходна, умець арганізаваць своечасовую касьбу хлябоў уручную і нават пусціць у справу сярпы.

Асабліва трэба правільна арганізаваць спалучэнне работы машыны з ручным спосабам уборкі, бо ад правільнай расстаноўкі ўборачнага інвентара ў МТС у многім будзе залежыць вынік своечасовага правядзення ўборкі. Трэба ўнікнуць памылак веснавой пасеўнай, ні на мінуту не выпускаць з-пад увагі адстаючыя прарыўныя калгасы, своечасова дапамагчы ім матэрыяльнымі сіламі і арганізацыяй працы.

Асабліва трэба звярнуць увагу на ахову ўраджаю, Трэба забяспечыць такую расстаноўку сіл, каб ураджай поўнасцю быў захаван, каб лодыры і злодзеі не нажываліся за кошт чэсных калгаснікаў. Пачынаючы з уборкі хлеба з поля і канчаючы дастаўкай яго ў свірны, трэба забяспечыць поўны ўлік і захоўваемасць зярна. Якасці ўборкі павінна быць удзелена максімальная ўвага. Ролю інспектароў па якасці трэба ўзняць на яшчэ большую вышыню. Трэба дабіцца, каб хлеб, здаваемы дзяржаве, быў у якасных адносінах зусім беззаганным. Барацьбу за якасць трэба паставіць у цэнтры ўвагі.

Найбольш востра стаіць пытанне з правядзеннем уборкі ў соўгасах. У сілу зацягнення сяўбы ў соўгасах, тут рад работ натыкаюцца адна на другую. У радзе соўгасаў мы маем і недапушчальную зацяжку з праполкай і рамонтам уборачнага інвентара. Кіраўнікі соўгасаў абавязаны арганізаваць падрыхтоўку к уборцы ў соўгасах з такім разлікам, каб забяспечыць соўгасам **вядучае месца ва ўборцы.** Для гэтага ў першую чаргу трэба своечасова адрамантаваць уборачныя машыны, правільна расставіць іх, прыставіць да іх кваліфікаваных рабочых, па-сапраўднаму заняцца планаваннем і арганізацыяй работы на ўборцы. Трэба ўжо зараз забяспечыць соўгасы рабочай сілай, стварыць нармальныя ўмовы для іх работы, не дапускаючы цякучасці.

Віды на ўраджай ў Беларусі зусім не дрэнныя, не горшыя, чым у мінулым годзе. Трэба толькі сабраць яго і абмалаціць без страт. У нашых сілах зрабіць так, каб **ні адно зярно не прапала. Калгасная беражлівасць, барацьба са стратамі з'яўляецца цэнтральнай задачай** усёй партыйнай арганізацыі, калгаснікаў і рабочых соўгасаў. **Уборка,** а затым і **зернапастаўкі** павінны падняць на новую, больш высокую ступень, узрослую свядомасць калгаснікаў, рост якой ужо паказала веснавая сяўба. На гэтых этапах сельска-гаспадарчых работ мы асабліва павінны выхаваць у кожным калгасніку і калгасніцы пачуццё адказнасці за агульную калгасную справу, падняць іх свядомасць да яснага разумення агульна-дзяржаўных інтарэсаў і задач. У сваіх рашэннях пленум ЦК ВКП(б), гаворачы аб выкананні плана пастаўак

зярна і мяса, падкрэслівае, што выкананне зернапаставак пролетарскай дзяржаве ёсць **пярвейшая запаведзь калгасаў, умова іх далейшага росту.**

Выкананне гэтай пярвейшай запаведзі **трэба па-большэвіцку арганізаваць.** Было-б найглыбейшай памылкай думаць, што тут усё пойдзе гладка. Самым небяспечным будзе прадастаўленне справы хлебапаставак самацёку. Ні на мінуту нельга забываць аб тым, што астаткі разгромленага кулацтва, антысовецкіх і нацдэмаўскіх элементаў будуць прабаваць сарваць нам выкананне хлебапаставак і натураплаты МТС. Імення ў справе зернапаставак мы можам ў паасобных калгасах і соўгасах сустрэцца з антыдзяржаўнымі тэндэнцыямі проціста ўлення паасобных калгасаў і соўгасаў інтарэсам пролетарскай дзяржавы.

Гэтым спробам і тэндэнцыям, якія выходзяць з апартуністычных і кулацкіх элементаў, трэба даць з самага пачатку рашучы і сакрушальны адпор. Ніякага лібералізма, прымірэнцтва не павінна быць да тых, хто не выконвае ў тэрмін сваіх абавязацельстваў па хлебапастаўках перад дзяржавай. Узбройваючы кожнага комуніста, кожнага калгасніка і калгасніцу, рэзалюцыя пленума гаворыць, што:

> „Пленум ЦК ВКП(б) папярэджвае партыйныя і совецкія арганізацыі аб небяспецы праяўленняў у бягучым годзе ў паасобных соўгасах і калгасах антыдзяржаўных тэндэнцый: затрымкі выканання і нават спробы прамога зрыву дзяржаўных заданняў па зернапастаўках спасылкамі на неспрыяючыя метэаралагічныя ўмовы вясны бягучага года".

Гэта палажэнне пленума ЦК ВКП(б) павінна стаць баявой зброяй усіх калгаснікаў. Задача большэвікоў Беларусі заключаецца ў тым, каб ужо зараз, сёння, давесці рэзалюцыю пленума да кожнага рабочага соўгаса, калгасніка, да кожнага аднаасобніка, каб памагчы быстрэй уясніць яе.

Такая-ж барацьба павінна быць неадкладна разгорнута і за безагаворачнае выкананне ў тэрмін плана мясапаставак. Асабліва гэта трэба ўлічыць тым раёнам, дзе з выкананнем плана паставак мяса ўсё яшчэ ёсць адставанне.

Пленум намеціў канкрэтныя мерапрыемствы барацьбы за арганізацыю своечасовай уборкі і абмалоту, указваючы як можна ўнікнуць разрыву паміж уборкай і абмалотам, даў чоткую і ясную дырэктыву ў барацьбе са **стратамі** ва ўсіх працэсах работы.

Справа за намі. Поспех уборкі і хлебапаставак будзе залежыць ад таго, як мы здолелі падняць калгасныя масы на барацьбу за большэвіцкую рэалізацыю рашэнняў чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б), за бязлітасны, сакрушальны адпор апартуністычным і кулацкім элементам.

Пленум патрабуе ад усіх партыйных, совецкіх арганізацый і палітаддзелаў МТС і соўгасаў усвоіць, што:

> **„Выкананне плана хлеба і мясапаставак з'яўляецца зараз, як і раней, асноўнай умовай далейшага росту і ўмацавання Совецкага Саюза".**

Гаворачы аб правядзенні ўборкі і аб хлебапастаўках, нельга ні на мінуту забываць аднаасобніка. **Вопыт веснавой сяўбы паказаў, што там, дзе аднаасобнік не быў закінут, дзе з ім праводзілася масава-палітычная работа, ён цягнуўся за калгасам і таму своечасова і**

**добра пасеяў.** Трэба ў такой-жа меры падрыхтаваць яго к уборцы, дапамагчы яму ў рамонце ўборачнага інвентара, раз'ясніць яму неабходнасць своечасовай уборкі і хлебаздачы, уцягнуць яго ў соцыялістычнае спаборніцтва з працоўнымі Заходняй вобласці. Гэту работу не павінны забываць раённыя арганізацыі, сельсоветы і калгасы. Аднаасобнік на ўборцы павінен адчуваць увагу і дапамогу з боку партыйнай арганізацыі, з боку калгаса. Аднаасобніка—заўтрашняга калгасніка—трэба арганізаваць на барацьбу за высокі ўраджай, за своечасовае выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай.

Поспех уборкі і хлебаздачы будзе залежыць ад масава-палітычнай работы, умелай арганізацыі калгасных мас, разгортвання і паглыблення соцыялістычнага спаборніцтва, ахватваючага шырокія слаі працоўных Беларусі. Уступаючы ў рашаючы этап сельска-гаспадарчага года, мы павінны помніць словы тав. **Сталіна**, што **„перамога сама не прыходзіць, перамогу трэба арганізаваць"**. Апіраючыся на выращчаны калгасны актыў, узбагачаны вопытам барацьбы за большэвіцкія калгасы і заможнае калгаснае жыццё, компартыя БССР даб'ецца новых рашаючых поспехаў.

---





Готфрыд

# Прамысловасць БССР—на перадавыя пазіцыі*)

Таварышы, пытанне аб рабоце прамысловасці за прайшоўшыя месяцы 1934 г. мае для беларускай арганізацыі асабліва вялікае значэнне. Мы зараз абавязаны праверыць, як за месяцы, прайшоўшыя пасля XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б, большэвікі Беларусі, у прыватнасці тая частка іх, якая працуе ў прамысловасці, выканалі гэтыя рашэнні, выканалі ўказанні тав. Сталіна на XVII з'ездзе ВКП(б) і тав. Гікало на XV з'ездзе КП(б)Б.

Вось якія задачы перад усёй партыяй у галіне прамысловасці паставіў у сваім дакладзе на XVII з'ездзе ВКП(б) тав. Сталін:

„Разгарнуць вытворчасць тавараў шырокага спажывання па ўсіх гаспадарчых наркаматах.

Развязаць мясцовую совецкую прамысловасць, даць ёй магчымасць праявіць ініцыятыву ў справе вытворчасці тавараў шырспажыву і аказаць ёй магчымую дапамогу сыравінай і сродкамі.

Палепшыць якасць выпускаемых тавараў, спыніць выпуск некамплектнай прадукцыі і караць усіх тых таварышоў, не гледзячы на асобы, якія нарушаюць або абыходзяць законы Совецкай улады аб якасці і камплектнасці прадукцыі.

Дабіцца сістэматычнага росту прадукцыйнасці працы, зніжэння сабекошту і ўнядрэння гаспадарчага разліку. Дабіць абязлічку ў рабоце і ўраўнілаўку ў сістэме зарплаты.

Ліквідаваць канцылярска-бюракратычны метад кіраўніцтва ва ўсіх звеннях гаспадарчых наркаматаў, сістэматычна правяраючы выкананне рашэнняў і ўказанняў кіруючых цэнтраў ніжэйстаячымі органамі".

Я лічу таксама неабходным напомніць вам аб тым, што гаварыў па пытанню аб нашай беларускай прамысловасці тав. Гікало ў сваім адчотным дакладзе на XV з'ездзе КП(б)Б.

Вось яго словы:

„Прамысловасці Беларусі, галоўным чынам, лёгкай прамысловасці, выпускаючай тавары шырокага спажывання, мы павінны з самага пачатку 1934 года забяспечыць поўнае выкананне вытворчай праграмы гэтага года. Мы павінны ператварыць усе нашы прадпрыемствы ва ўзорныя прадпрыемствы. Наша лёгкая прамысловасць—швейная, трыкатажная, скурана-абутковая мае ўсе магчымасці, каб дабіцца па якасці аднаго з першых месц у Саюзе.

*) Даклад на III пленуме ЦК КП(б)Б.

Агульнае становішча нашай прамысловасці і прарывы на цэлым радзе ўчасткаў ставяць перад усёй КП(б)Б сур'ёзную задачу, каб у першым квартале 1934 года дабіцца карэннага пералому ў нашай рабоце ў бок безумоўнага стопроцантнага выканання тых заданняў, якія мы маем па прамысловасці".

XV з'езд КП(б)Б спецыяльна падкрэсліў „агромную адказнасць усёй КП(б)Б у справе рашучага палепшання работы лёгкай, харчовай прамысловасці і прамысловай кааперацыі".

Апрача таго, вы ведаеце, што асноўным патрабаваннем да работнікаў прамысловасці і да ўсёй партыі, прад'яўленым у рэзалюцыях XVII партканферэнцыі і XVII з'езда партыі, у рашэннях XV з'езда КП(б)Б і ўказаннях тав. Сталіна з'яўлялася патрабаванне—па-большэвіцку асвоіць новую тэхніку, а ў нас, у Беларусі, 82 проц. прадукцыі вытвараецца на новых прадпрыемствах. Таму для нас пытанне асваення новай тэхнікі, новых прадпрыемстваў—гэта пытанне, вырашаючае якасныя і колькасныя паказчыкі работы.

Трэба сказаць, што апрача гэтых указанняў партыі ў развіццё іх мы пасля з'езда мелі рад спецыяльных рашэнняў ЦК ВКП(б) аб запалкавай, шкляной прамысловасці, аб перабудове раду гаспадарчых наркаматаў і інш.

Узяўшы ўсю гэту суму задач, мы павінны адказаць на пытанне аб тым, на колькі комуністы на прадпрыемствах стаяць у авангардзе барацьбы за выкананне плана як па колькасных, так і па якасных паказчыках?

Мы абавязаны на гэтым пленуме даць правільную ацэнку таго, як большэвікі Беларусі на справе ажыццяўляюць усе гэтыя ўказанні партыі.

Прамысловасць Беларусі па чатырох наркаматах (Наркамлегпром, Наркамцяжпром, Наркамлес, Наркамснаб) выканала свой промфінплан у першым квартале толькі на 90,2 проц. і за красавік месяц— на 93,4 проц. (саюзная—95,1 проц., рэспубліканская—92,3 проц.).

Па наркаматах:

Упаўнаркамцяжпром выканаў план у першым квартале на 93,1 проц. (саюзная—101,1 проц., рэспубліканская—87,0 проц.); у красавіку па саюзнай—100,6 проц., па рэспубліканскай—87,9 проц.

Наркамлегпром выканаў план у першым квартале на 95,1 проц. (саюзная—101,7 проц., рэспубліканская—94,9 проц.); у красавіку па саюзнай—103,5 і рэспубліканскай—97,2 проц.

Наркамснаб выканаў у першым квартале на 84,3 проц. (саюзная — 88,8, рэспубліканская — 80,2 проц.); у красавіку па саюзнай—93,6 проц.

Па Ўпаўнаркамлесу план у першым квартале выканан на 87,7 проц. (саюзная—87,8 проц., рэспубліканская—83,6 проц., без Лесбела), рэспубліканская—66,7 проц.

Заводы Ўпаўнаркамцяжпрома за 4 месяцы недадалі прадметаў шырспажыву на 1 100 тыс. руб., Упаўнаркамлес—на 634 тыс. руб.

Сампромкааперацыя выканала план першага квартала па Белкаапромсовету толькі на 86,3 і па Белкааплессаюзу—на 96,4 проц.

Я звяртаю вашу ўвагу на наступныя, выцякаючыя з гэтых лічб вывады: першы—наша прамысловасць працавала горш, чым саюзная; другі—нашы наркаматы—Упаўнаркамцяжпром і Упаўнаркамлес не выканалі рашэнняў XVII з'езда партыі і ўказанняў тав. Сталіна па пытанню аб шырспажыве.

Тав. **Сталін**, адзначаючы адсутнасць сур'ёзнага клопату аб разгортванні выпуску тавараў шырспажыву як па лёгкай і харчовай, так і па лясной прамысловасці, паставіў задачу „**падвоіць і патроіць выраб тавараў шырокага спажывання ў другой пяцігодцы**“.

І ў нас Упаўнаркамцяжпром за 4 месяцы недадаў прадукцыі шырспажыву на 1 100 тыс. руб. і Упаўнаркамлес—на 634 тыс. руб.

Дрэнна працавала сістэма промкааперацыі. План па Белкааппромсовету выканан толькі на 83,9 проц. (18,8 проц. гадавога); асабліва ганебныя паказчыкі маюцца па такіх важнейшых галінах, як будматэрыялы — 49,9 проц., металавырабы — 65,4 проц., скурана-абутковая—78,7 проц.

Лепш працавала лясная промкааперацыя, але ўсё-ж план свой недавыканала (96,4 проц., што складае 27 проц. гадавога).

Усяго за 4 месяцы прамысловасцю Беларусі недадана прадукцыі на 24 млн. руб., прычым палавіну з іх недадала рэспубліканская прамысловасць.

Хто-ж з'яўляецца канкрэтным віноўнікам таго, што мы выходзім з такім яўна нездавальняючым вынікам работы ў галіне прамысловасці; хто з'яўляецца канкрэтным віноўнікам невыканання рашэнняў XVII з'езда ВКП(б), XV з'езда КП(б)Б, указанняў тав. **Сталіна** і ўказанняў тав. **Гікало**? Пасля XVII з'езда партыі мы не можам абыйсці гэта пытанне. Мы не можам зараз ставіць пытанне наогул. Кожны з нас павінен поўнасцю і цалкам адказваць за даручаны яму ўчастак работы.

Я павінен сказаць, што з агульнай сумы недаданай прадукцыі перадавыя прадпрыемствы перакрылі 4 млн. руб., і таму ў рэзультаце ў нас атрымалася недадача на 24 млн. руб. А калі не лічыць гэтага перакрыцця, то недадача раўняецца 28 млн. руб.

Раней чым перайсці да канкрэтных віноўнікаў, да тых, хто гробіў нашу прамысловасць за гэтыя 4 месяцы, я хачу абвясціць спіс тых прадпрыемстваў, якія ідуць уперадзі. Першая—гэта фабрыка „КІМ“—дырэктар т. Марушкін, член ЦК нашай партыі (у яго вышла не зусім добра па лініі працоўнага законадаўства, за гэта ён пакаран). Ён добра арганізаваў работу па ліквідацыі прарыву. Гэта фабрыка ў мінулым была памыйнай ямай, куды баяліся ісці, а ён гэту фабрыку выцягнуў, арганізаваў масу, здолеў так паставіць работу, што „КІМ“ зараз ідзе ў ліку перадавых прадпрыемстваў не толькі Беларусі, але і ўсяго Совецкага саюза, паколькі яна дае 16 проц. асноўнай прадукцыі панчох (45 млн. пар). Наступная—фабрыка імя К. Цэткін—дырэктар т. Ханіна. Фабрыка добра працуе. Фабрыка „Сцяг індустрыялізацыі“—дырэктар т. Калабкоў і сакратар парткома т. Рохкінд (яны абодва прысутнічаюць тут на пленуме). Гэта фабрыка працуе добра. Фабрыка перабудавалася на новы асартымент і не гледзячы на гэта, яна ліквідавала тую ганьбу, якую мела ў мінулым годзе, калі тав. Любімаў загадаў закрыць адзін з яе цэхаў. Тт. Калабкоў і Рохкінд паказалі сябе на гэтай фабрыцы як сапраўдныя большэвіцкія арганізатары.

Рэчыцкая запалкавая фабрыка—быўшы дырэктар т. Ізакоў — не дрэнна працуе.

Барысаўская фабрыка „Пролетарская перамога“—добра працуе.

Гікало—Давай тых, хто дрэнна працуе.

Таму што вельмі многа дрэнных, я ўсё-ж такі хачу абавязкова пералічыць добрыя.

Фабрыка Могвалакно і завод імя Молатава ў Менску—не дрэнна працуюць.

Вось спіс прадпрыемстваў, на жаль, вельмі маленькі, абмежаваны спіс. Рад прадпрыемстваў, выканаўшых план, мы не можам тут прывесці, бо яны не выконваюць іншых паказчыкаў. Напр., Бабруйскі камбінат сапраўды вельмі сільна выконвае свае паказчыкі ў колькасным выражэнні, але ў стакнотным разрэзе дае толькі 88 проц. Вось бачыце, тав. Розін, а вы настойвалі ўключыць яго ў спіс перадавых, калі на сёння Бабруйскі камбінат (дырэктар т. Т а р а с а ў) не выконвае важнейшых заказаў для вагонабудаўніцтва.

Гомсельмаш на сёння выканаў сваё заданне па малатарнях. І ўсё-ж такі мы не можам яго запісаць у лік перадавых бо ён цягнуў, штурмаўшчынай займаўся.

Зададзім цяпер пытанне, хто-ж, па-просту гаворачы, гробіць наш промфінплан? Якія фабрыкі і якія людзі? (бо фабрыкі самі па сабе не працуюць, а людзі працуюць).

У нас, у Беларусі, 13 800 прадпрыемстваў, з іх калгасных 8 700, соўгасных 875, мясцовых каля 400, па чатырох наркаматах—519. З гэтых 519 прадпрыемстваў 309 саюзных, 210—рэспубліканскіх.

На пытанне, хто-ж з'яўляецца акцыянерам гэтага прарыву на 24 млн. руб., мы атрымліваем наступны адказ:

Упаўнаркамцяжпром (тав. С а к а л е н к а) недадаў прадукцыі на 2 200 тысяч рублёў. Уся яго недадача ў асноўным ідзе па рэспубліканскай прамысловасці.

Наркамлегпром недадаў 3 млн.

Наркамснаб (Г у р э в і ч і К л а д а в і к о ў)—8 млн., з іх 5 500 тысяч па рэспубліканскай прамысловасці.

Наркамлес недадаў 9 млн. (усё ідзе па Лесбелу і Белпапертрэсту).

Нашы самыя слабыя звенні, гэта—Наркамснаб і Наркамлес (Лесбел). Калі-ж адкінуць вывазку лесу і загатоўку, то мы ўбачым, што самы асноўны прарыў ідзе па Наркамснабу і самы злосны—па Упаўнаркамцяжпрому.

ЦК у апошні час вельмі многа займаўся наркамснабаўскай прамысловасцю, якая зараз пачала варушыцца, крыху паднімацца: фабрыка „Комунарка“ выканала промфінплан і ліквідавала прарыў, яшчэ некаторыя прадпрыемствы палепшылі сваю работу.

Але я хачу сказаць аб тым, што дрэнна яшчэ сам Наркамснаб кіруе сваімі прадпрыемствамі, дрэнна арганізоўвае сваю гаспадарку. Вось дзе, па маёй думцы, корань прарыву. Затым трэба сказаць, што і ГК і РК сапраўды ўдзяляюць выключна мала ўвагі харчовай прамысловасці, маючай для нас агромнае значэнне. Таму я дазволю сабе ў такім парадку называць гаркомы і райкомы.

Г і к а л о—Правільна.

У цэлым, па ўсіх галінах прамысловасці Беларусі гробяць нас у асноўным 37 прадпрыемстваў. Гэтыя 37 прадпрыемстваў удзельнічаюць у „акцыях прарыву“, па маіх падліках, на 15—18 млн. руб.

Г і к а л о—Гэта Віцебск, галоўным чынам?

Не, Віцебск выканаў свой план па гораду ў цэлым за 4 месяцы. Але, вядома, паасобныя адстаючыя прадпрыемствы ў яго ёсць. Іх перакрываюць перадавыя. Вось напр., фабрыка „КІМ“ дае прадукцыю роўную амаль палавіне Віцебска. Яна перакрывае паасобныя прарыўныя прадпрыемствы ў маштабе горада.

Калі вы паглядзіце на гэтыя 37 прадпрыемстваў, якія нам далі такія „бліскучыя“ узоры „барацьбы“ за промфінплан, то ўбачыці

што мы маем абсалютна слабую ўвагу да іх работы з боку адпаведных гаркомаў і райкомаў.

Гікало—А якія райкомы?

Я зараз назаву кожны райком. Аб тым, наколькі далёка зайшла няўважлівасць да работы прарыўных прадпрыемстваў, гаворыць той факт, што многія сакратары РК з прыемнай нечаканасцю толькі тут, на пленуме, даведаліся, што яны выканалі промфінплан па раёну ў цэлым. Да іх адносяцца, напр: Асіпавіцкі райком, Бабруйскі (праўда, т. Мілер усё-ж прамысловасцю займаецца), Оршанскі райком і рад іншых. Гэтыя РК не ведалі, ці ва ўсякім выпадку не рапартавалі, што раён у цэлым выканаў промфінплан. Вось аб утыльсыравіне яны рапартуюць, аб тым, што засеялі рабочыя гароды—рапартуюць, што ў іх яшчэ што-небудзь адбылося не вельмі значнае—рапартуюць, ну, аб сяўбе, вядома, рапартуюць і б'юцца за яе, але яб промфінплане—не, не ведаюць нават колькі прамысловасць выпрацавала. Я правяраў праз наш ЦУНХУ (тав. Стракоўскі), якія райкомы бяруць у яго мясцовых аддзяленнях прамысловую кан'юнктуру, аказалася—вельмі нямнога і сярод іх Гомель, Віцебск, якія здарава вядуць барацьбу за план. Менск у апошнія дні таксама пачаў здорава браць кан'юнктуру (с м е х). Орша, вось, не бярэ. У Бабруйску т. Мілер вярхом сеў на свайго работніка ЦСУ і правільна, бо ў гэтых кан'юнктурах відаць работа прамысловасці данага раёна або горада. І я лічу, што нядобра тое, што многія раённыя кіраўнікі толькі тут на пленуме ( у парадку сурпрызу) даведваюцца аб гэтай справе. Тэлеграму ў газеты аб выкананні іх раёнам прамфінплана яны не даюць, а тав. Гікало тут зусім справядліва гаварыў, што рапарт, які гаворыць аб перамозе таго ці іншага прадпрыемства або раёна, мае мабілізуючае значэнне не толькі для вашага раёна, а і для ўсяго беларускага пролетарыята.

У нас ёсць раёны, якія добра працуюць, змагаюцца за раённы план, за тое, каб быць перадавымі, Асабліва зараз у Віцебску за гэтую справу б'юцца, пачалі біцца і ў Бабруйску.

Гікало—Яны не б'юцца, а толькі шавяліцца пачалі.

Правільна, я згодзен з гэтай папраўкай.

Але трэба праўду сказаць: няма ў гэтых гарадах такой устаноўкі, каб большэвікі Гомельшчыны, Бабруйска, Оршы паставілі перад сабой задачу—выйсці першымі і паказаць, што значыць наша партыйная арганізацыя. Такога праяўлення пачуцця чэсці ў барацьбе за промфінплан у нас яшчэ няма; у барацьбе за сяўбу гэта ўжо ёсць, а ў барацьбе за промфінплан—няма.

А па гэтаму пытанню XVII з'езд нашай партыі вынес спецыяльнае рашэнне:

„З'езд партыі абавязвае ўсіх комуністаў, дзе-б яны не працавалі, забяспечыць выкананне ўказаных у гэтай пастанове мерапрыемстваў у справе арганізацыйнай перабудовы і палепшання работы ўсіх органаў пролетарскай дыктатуры.

З'езд партыі папярэджвае ўсіх работнікаў партыйных, совецкіх, профсаюзных, комсамольскіх і іншых арганізацый, у першую чаргу комуністаў, што заахвочваючы лепшых работнікаў, ЦК партыі і совецкія кіруючыя органы будуць знімаць з усякіх пастоў, ставіць на ніжэйшыя пасты і сурова спаганяць з усіх работнікаў, не гледзячы на асобы, якія будуць парушаць партыйную і совецкую дысцыпліну".

Я прывёў гэту вытрымку не для таго, каб сёння-ж знімаць таварышоў, якіх тут буду называць.

Гікало—А некаторых і трэба.

Але для таго, каб кожны, хто тут сядзіць, з кіраўнікоў прарыўнага і непрарыўнага прадпрыемства, трэста, наркамата і т. д. зразумеў, што нельга больш цярпець такой ганьбы, каб 37 прадпрыемстваў гробілі нам наш рэспубліканскі рапарт па промфінплану. Гэта-ж не фармальнасць—гэта рапарт.

Мы змагаемся і вышлі па сяўбе ў перадавыя рады па сельскай гаспадарцы. Мы павінны змагацца таксама за тое, каб выйсці ў рады перадавых у Саюзе і па прамысловасці. Мы маем усе магчымасці для гэтага. У нас ёсць добрыя пролетарыі, добрыя большэвікі, у нас ёсць добрыя гаспадарнікі, у нас ёсць добрыя людзі на прадпрыемствах, у цэхах, але яны яшчэ часткай загнаны, не выяўлены, не ведаем мы іх, а часта на чале якіх-небудзь цэхаў, прадпрыемстваў, нават некаторых трэстаў і ў некаторых аддзелах наркаматаў, сядзяць шляпы, якія гробяць нам промфінплан.

Гэта, таварышы, справа нашай чэсці, гэта палітыка, мы не можам гэтага дапусціць. Зусім ясна, аб'яўляючы спіс людзей, зрываючых нам план, я не прапаную ўсіх знімаць, але я прапаную, каб пленум тут сурова пакрытыкаваў іх і моцна папярэдзіў. Тут трэба ўлічыць тое, як выдатна сказаў адзін з кіруючых у нашай партыі таварышоў што „Большэвікі ад крытыкі мацнеюць,— размазня, апартуністы ад крытыкі слабнуць, а калі гэты чалавек прадстаўляе сабою наогул слякаць, то яго і біць праціўна, бо ўдарыш і бруд брызгамі ляціць і больш нічога“ (смех).

І так, я пачну свой аналіз з прамысловасці Наркамцяжпрома. Яна недадала 2 220 тыс. рублёў. Галоўны прарыў тут мы маем у т. **Левіна**—дырэктара Белметалатрэста (які сядзіць тут). Вось чалавек, які кіруе ў Наркамцяжпроме буйнейшай яго галіною. У цэннасным выражэнні яго прадукцыя складае 70 проц. усёй прадукцыі прамысловасці Упаўнаркамцяжпрома (падкрэсліваю, у цэннасным, бо у Упаўнаркамцяжпрома, вядома, нельга браць толькі ў такім выражэнні, бо ў ім ёсць, напр., такі танны прадукт, як торф і т. д.), але ўсё-ж 70 проц. гэта, вядома, многа.

Гікало—Гэта прадукцыя, без якой не могуць іншыя працаваць, вось што важна.

Зусім верна.

І тав. Левін і тав. Сакаленко павінны тут даць адказ—дзе прычыны таго, што рэспубліканская металапрамысловасць Упаўнаркамцяжпрома дала такія дрэнныя рэзультаты ў сваёй рабоце за 4 месяцы і сарвала выкананне задання ЦК ВКП(б) і тав. **Сталіна** па выпуску тавараў шырспажыву на 1 100 тыс. рублёў?

На прыкладзе двух заводаў я хачу папрабаваць ускрыць гэтыя прычыны і даць характарыстыку метадаў кіраўніцтва, у рэзультаце якіх мы атрымалі гэты прарыў. Так мне рэкамандаваў зрабіць т. **Гікало** і я яму вельмі ўдзячны за гэту дапамогу ў падрыхтоўцы к дакладу. Ён мне запрапанаваў наступнае: узяць 1—2 прадпрыемствы з самага нізу—з брыгады, з майстра, з рабочага і да самага верху, да самага высокага чалавека, да т. Сакаленко, т. Балціна, да іншых наркомаў,—і паглядзець, як ва ўсіх гэтых звеннях змагаюцца за промфінплан, супроць браку і т. д. Мы так і зрабілі. На большасць з 37 прадпрыемстваў мы паслалі свае брыгады, якія праверылі іх работу. Некаторыя матэрыялы з гэтай праверкі я хачу тут прывесці.

Вось, напр., два прадпрыемствы Упаўнаркамцяжпрома. Першае, якое гробіць 25 проц. усяго промфінплана па Наркамцяжпрому—гэта завод „Комунар“ у Менску. Гэты завод меў дырэктара т. Пожэвілко,

новы дырэктар т. **Драбышэўскі** там нядаўна. Сакратар парткома т. **Гоберман**, ён павінен тут прысутнічаць. Тут тав. Гоберман?

Гікало—Маўчыць.

Маўчыць, ну нічога. Старшыня заўкома т. Маслянскі—таксама павінен быць тут.

Другі завод—„Чырвоны металіст" у Віцебску, ён недадаў крыху менш, чым „Комунар", але ён змяншае станоўчыя рэзультаты Віцебскага рапарту па промфінплану на вельмі вялікую долю.

Што мы тут маем? Два заводы, якія даюць 50 проц. усёй недадачы Белметалатрэста. Паўстае пытанне, што зрабіў-бы кожны большэвік які павінен працаваць так, як гавораць рашэнні XVII з'езда, як гаварыў т. **Сталін**, як гаварыў т. **Гікало**, што павінны былі-б тут зрабіць большэвікі-гаспадарнікі і тт. Левін і Сакаленка? Яны павінны былі ўзяць пад свой асобы кантроль гэтыя прадпрыемствы, не вылязаць адтуль, а выцягваць гэтыя прадпрыемствы і выцягнуць, такім чынам, увесь свой план. Што-ж зрабілі гэтыя таварышы? Я вам зачытаю матэрыялы, якія ў мяне маюцца. Завод „Комунар" выканаў план першага квартала на 76 проц., красавіцкую праграму—на 65 проц., план першай дэкады мая—на 8,5 проц. месячнага задання і другой дэкады—на 20 проц. месячнага задання. Што-ж гавораць па гэтаму пытанню на самім заводзе?

Партком і гаспадарчае кіраўніцтва гавораць: няма бляхі, няма матэрыялу, няма кровельнага жалеза. Словам—толькі „аб'ектыўныя прычыны" зрываюць іх работу. Трэст гаворыць тое-ж самае. Толькі што перад сваім дакладам я гутарыў з тав. Левіным і ён мне гаварыў тое-ж самае: „няма жалеза, няма вагонаў, няма сыравіны". А я сцвярджаю, што і тыя і другія слаба ведаюць у чым справа. Вось т. Сакаленка, па маючыхся ў мяне звестках, за час свайго прабывання ў Наркамцяжпроме, за гэтыя 4 месяцы на „Комунары" быў толькі адзін раз і то ў выхадны дзень. Тав. Левін бывае на заводзе вельмі рэдка. Галоўны інжынер трэста зусім не бывае на заводзе і ніякай дапамогі яму не аказвае. Адкуль-жа ім ведаць галоўныя і сапраўдныя прычыны прарыву?

Так працуюць указаныя большэвікі-гаспадарнікі ў адносінах да завода, які дае 25 проц. прарыву па ўсяму наркамату.

Як-жа адказваюць на пытанне аб прарыве самі рабочыя завода? (Нашы таварышы перад пленумам правялі гутаркі з радам рабочых гэтага завода). Я дазволю сабе пералічыць асноўныя выказванні. Вось, напр., гутарка з ваграншчыкам-комуністам, праформгам ліцейнай тав. Шагідзевічам: у гэтай ліцейнай у чацвертую пяцідзёнку мая брак вырас з 5 да 8 проц., прычым у сапраўднасці брак вышэйшы, бо ён у асноўным ускрываецца ўжо ў механічным цэху, калі ідзе апрацоўка. Т. Шагідзевіч гаворыць: „Я прадастаўлен самому сабе; ні партком, ні заўком мне не дапамагаюць, а ў цэху выключна трывожна—браку многа; парторг па нашаму цэху, Клебанаў, але ён знаходзіцца на перабудове новага цэха і ў нас не працуе" („узор" партперабудовы на заводзе „Комунар"). Тэхнічны дырэктар завода тав. Сульскі прыходзіць у цэх не тады, калі падрыхтоўваюцца к адліўцы, а толькі пасля таго, калі работа ўжо праведзена. Майстар цэха Эйдэльман казённа адносіцца да сваёй справы, не дапамагае, не інструктуе рабочых, не цікавіцца справай.

За апошні час узраслі цэны на абеды ў сталовай. Павышэнне цэн у сталовай вельмі хвалюе рабочых, ніхто нам не аб'ясняе ў чым справа".

Я коратка пералічу непаладкі, ускрытыя намі на заводзе, прычым я пералічу іменна ўнутраныя непаладкі, тое, што ад снабжэння зне („аб'ектыўныя ўмовы") не залежыць.

Адзін комсамолец гаворыць: „Рабочых механічнага цэха ў апошні час вельмі хвалюе пытанне аб расцэнках у сувязі з пераходам на выпуск цэнтральных і нажовачных станкоў. Рабочыя сталі вельмі мала зарабляць. Вазьміце, вось, напрыклад, мяне. У лютым я меў каля 200 руб., у сакавіку—220 руб., а ў красавіку—160 руб.

Наколькі ненармальна становішча з расцэнкамі, відаць хоць-бы з таго, што адзін з самых лепшых нашых ударнікаў—токар-комуніст тав. Нойм у красавіку зарабіў 128 руб. і яму даплацілі 40 р., бо ў яго вялікая сям'я і ён не мог пражыць. Таксама ўдарнік Данілевіч зарабіў у красавіку 120 руб.".

А тт. Сакаленка і Левін пытаннямі зарплаты не займаюцца. Вось рабочы т. Мацько, беспартыйны, пацвярджае словы т. Ілікмана: „Так, за малы шкіў, які я лёгка паднімаю, плоцяць 20 кап. і 20 кап. плоцяць і за вялікі шкіў, які прыходзіцца паднімаць двaім рабочым. Расцэнка яўна няправільная. Я рашыў пакінуць завод, але пакуль не адпускаюць. Думаю, удасца вырвацца адгэтуль".

Чаму ўсё-ж такі адстаў „Комунар", які на працягу ўсяго мінулага года ішоў у радзе лепшых прадпрыемстваў Менска? Вось як адказваюць на гэта пытанне пасланыя намі на „Комунар" таварышы з газеты „Рабочий":

„У цэхах прыводзяць вельмі многа прычын, пры гэтым прызнаюць, што ўсе прычыны лёгка знішчыць, ва ўсякім разе значную частку іх. Што патрабуецца для таго, каб станкі механічнага цэха працавалі нармальна? Трэба, перш за ўсё, каб у аддзеле механікі чэсна працавалі, ліквідавалі такое становішча, калі адрамантаваныя станкі зараз-жа варочаюцца на паўторны рамóнт. Але гэтага якраз і няма.

Начальнік аддзела тэхнікі, член партыі т. Марголін, карыстаючыся бяздзейнасцю парткома завода (сакратар тав. **Гоберман**) не нясе адказнасці за агромны брак рамонтных работ. Прывядзем некалькі фактаў: такарны станок № 18 зараз-жа пасля выпуску з рамонту быў звернут у аддзел механікі, з-за таго, што не быў праверан ходавы вінт. Расточка дэталей атрымалася з разьбой. Другі такарны станок быў таксама нядбайна адрамантаван і ў рэзультаце конусы цэнтраў аказаліся з рознымі размерамі. Месяцы два таму назад была здана ў рамонт цыркулярная піла для рэзкі метала. Па выражэнню начальніка механічнага цэха т. Брэнгроса, без гэтай пілы прадпрыемства „што без рук". Але пасля месячнага рамонту пілу нельга было пусціць у эксплаатацыю: патрэбен быў дадатковы рамонт.

Прыведзеныя прыклады—не выключэнне. Папераджальны рамонт станкоў ідзе няпланава, між тым многае абсталяванне патрабуе сярэдняга і капітальнага рамонту. Да чаго ўсё гэта прыводзіць, даволі ярка выразіў рабочы тав. Худзікаў: „Мой станок нядаўна вышаў з рамонту", сказаў ён,—„а ўсё ў станку расхістана. Стараюся даць добрую работу, але гэта вельмі цяжка. Мая прадукцыйнасць з-за дрэннага стану станка панізілася, увесь час хвалююся, прыходзіцца гнаць, каб выканаць сваю норму".

Праўда, долю віны за дрэнную работу абсталявання павінны ўзяць на сябе і рабочыя механічнага цэха і іх начальнік—член партыі тав. **Брэнгроз**. Не аказалася амаль ні аднаго станка, на якім не было-б бруду—першая адзнака некультурнасці, наплявацельскіх адносін да сваіх працоўных абавязкаў. Часта ламаюцца станкі.

Нядаўна ў механічным цэху была праведзена фатаграфія рабочага дня групы рабочых і нізавога кіруючага звяна. Праверка паказала агромную страту рабочага часу, недапушчальна нізкую працоўную дысцыпліну. Так, у Кандратовіча—слесара 7-га разраду, брыгадзіра цэнтравальнага станка—рабочы дзень аказаўся загружаным толькі на 43,7—58,8 проц.; у рабочага Верамонька—на 54 проц., у токара 2-га разраду Ульянава—на 54,3 проц., у рабочага Рода—на 64 проц., у шаброўшчыка станіны цэнтравальнага станка, Сачука—на 81 проц., у Кантаровіча—на 79 проц., у Янушкевіча—на 84 проц., у Махліна—на 83,3 проц. і т. д.

Агромная растрата рабочага часу з'яўляецца прамым вынікам слабасці тэхнічнага кіраўніцтва, недахопам інструктажу малакваліфікаваных рабочых. Адчуваецца таксама адсутнасць падсобнай рабочай сілы. Прастоі, напр., бываюць з-за таго, што няма каму падаваць дэталі к станкам. Трансмісіі часта маюць выгляд змеявіка. Па заяве начальніка цэха тав. Ерэнгроза, рымар завода не спраўляецца з работай. Драбязлівыя перашкоды, якія можна лёгка ўстараніць, сталі сур'ёзным тармазам у выкананні промфінплана заводам.

Начальнік ліцейнага цэха т. **Копаць** не мог прывесці якога-небудзь сур'ёзнага аб'яснення прычын браку. Ён вымушан быў прызнаць, што брак з'яўляецца вынікам расхлябанасці і безадказнасці ў цэху. Гэтай-ж думкі, як мы бачылі, прытрымліваецца і ваграншчык—комуніст т. Шагідзевіч, які скардзіцца на тое, што ў цэху ніхто не клапоціцца аб павышэнні працоўнага абавязку, аб чэсных адносінах да справы. Вось, тав. Гоберман, люстэрка вашай работы. Факт гэта ці не? Адкажыце пленуму, тт. Гоберман, Левін і Сакаленка.

На „Комунары“ забылі аб соцыялістычным спаборніцтве. Па заяве новага старшыні заўкома т. Маслянскага, пабудова брыгад на заводзе няправільная—людзі не арганізаваны ва ўдарныя брыгады, не аб'яднаны адзінымі соцыялістычнымі абавязацельствамі. Гаспадарча-разрахунковых брыгад таксама няма. На заводзе лічаць, што ёсць адна такая брыгада, аднак яна існуе толькі на паперы. У заўком час-ад-часу дастаўляюцца індывідуальныя соцыялістычныя дагаворы, але яны запаўняюцца шаблоннымі абавязацельствамі, як напр., „своечасова прыходзіць на работу“ і т. п., што з'яўляецца абавязковым на аснове правіл унутранага распарадку. Заўком займаўся пытаннямі спаборніцтва толькі ў перыяды кампаній.

Зусім запушчанымі з'яўляюцца ў заўкоме пытанні зарплаты—адно з важнейшых пытанняў работы прафсаюзаў.

Некалькі слоў аб матэрыяльна-бытавых пытаннях. Сталовая прадастаўлена сама сабе. Ніхто з кіраўніцтва завода не бачыць, што ў сталовай брудна, што ў апошні час цэны на абеды павысіліся на 15—30 кап.

Паміж трыкутнікам завода і загадчыкам сталовай устанавіліся своеасаблівыя адносіны: у сувязі са склікannем розных сходаў або вечароў, сталовай заказваліся вячэры. Такім чынам, накапілася запазычанасці каля пяці тысяч рублёў. Цяпер заводакіраўніцтва і заўком адмаўляюцца пакрыць гэту суму. Фінансавае становішча сталовай з прычыны гэтага значна пагоршылася, што адбіваецца на абслугоўванні рабочых. Аднак, ні заўком, ні ЦП саюза машынабудаўніцтва (старшыня тав. Піліпёнак тут прысутнічае), якія ведаюць аб гэтым, не прымаюць ніякіх мер, каб упарадкаваць гэта пытанне.

Вось яшчэ адно выказванне па матэрыяльна-бытавых пытаннях. Гаворыць рабочы—комуніст т. Крывашэеў:

„Пры заводзе адкрылі кафэ-рэстаран. Пачынанне вельмі добрае. Але ў кафэ, калі ў цябе няма знаёмых, ты не можаш атрымаць булачку. Рабочым адмаўляюць, а потым ціханька раздаюць знаёмым. Быў выпадак, калі рабочыя паднялі скандал, і запатрабавалі, каб ім далі паглядзець, што робіцца за прылаўкам. Там аказалася сотня булачак. Чамусьці ад рабочых іх хаваюць? Вельмі проста, на рынку яны каштуюць рубель, а ў кафэ 35 кап. Відаць, нехта нажываецца на гэтым. Трэба палажыць канец злачынствам у заводскім кафэ“.

Нарэшце, апошняе—гэта будаўніцтва новага цэха на заводзе „Комунар“. На ім трэба вывесіць „мемарыяльную“ дошку ганьбы з прозвішчамі усіх тых, хто будаваў і недабудаваў, таму што далей такой ганьбы нельга дапускаць. Будаваць з 1929 г. і недабудаваць! Дом урада пабудавалі, масу заводаў пабудавалі, а цэх не могуць дабудаваць, а таму ў ім выключна дрэннае становішча. У сувязі з гэтым трэба персанальна даручыць тав. Васерману ў бліжэйшы час закончыць будаўніцтва гэтага цэха. Да ўсяго гэтага я дабаўлю наступнае (у парадку прыяцельскай парады): я не прапаную зняць новае кіраўніцтва завода „Комунар“, я не думаю, што яны не большэвікі, я думаю, што ад-таго, што мы тут па іх ўдарылі, яны выправяцца і стануць мацнейшымі. Тав. **Драбышэўскі**, які вылучыўся ў дырэктары з быўшых беспрытульных, добры гаспадарнік, трэба яго падтрымаць, але нельга прайсці міма таго, што ён не чытае „Правды“. Што-ж гэта за дырэктар, які не чытае „Прады“? Тое-ж самое трэба сказаць і сакратару парткома т. Гоберману. Трэба чытаць „Правду“ не раз у 10 дзён, а штодзенна.

Так абстаіць справа з заводам „Комунар“. Вы бачыце, што ад аб‘ектыўных прычын асталося вельмі мала.

Калі мы возьмем завод **„Чырвоны металіст“** у Віцебску, ён таксама гробіць нам план. Я павінен сказаць, у парадку самакрытыкі, што вінават і Промаддзел ЦК. Мы былі на многіх прадпрыемствах, а да гэтага прадпрыемства не дабраліся. Становішча на гэтым заводзе не лепшае, чым на заводзе „Комунар“, прычым доля віны і трэста і наркамата павялічваецца, бо яны слаба біліся за снабжэнне гэтага завода сыравінай. Гэта праверан факт. Завод за 4 месяцы недадаў 294 тыс. руб., выканаўшы план на 84,4 проц.

Так абстаіць справа па Белметалаттрэсту і Упаўнаркамцяжпрому. Хіба гэта гаворыць аб тым, што гаспадарнікі-большэвікі, там працуючыя, перабудаваліся? Я не хачу адмаўляць добрых якасцей тав. Сакаленка, ён энергічны чалавек. Я не хачу, каб тут атрымалася такое ўражанне, што ў мяне ёсць намер знішчыць тав. Сакаленка, такога намеру ў мяне няма, але ў тав. Сакаленка ёсць адно славечка, адлюстроўваючае агульныя іх гутаркі аб „аб‘ектыўных умовах“ (аб ім я і хачу тут сказаць). Тав. Сакаленка надта часта гаворыць слова „лімітырує“. У 1921—22 г. у нас увайшла ў моду фраза „аб‘ектыўныя ўмовы“. Гэту фразу рэзка высмейваў у свой час Уладзімір Ільіч і тав. Сталін. Тав. Сакаленка не гаворыць аб „аб‘ектыўных умовах“, ён замяніў гэту фразу другой. Майце на ўвазе, я вас папярэджваю, што калі т. Сакаленка гаворыць слова „лімітырує“, то гэта ў яго азначае таксама слова „аб‘ектыўныя ўмовы“ (с м е х). Я думаю, што пытанне яснае. Таварышы з Белметалатрэста і Упаўнаркамцяжа яшчэ не перабудаваліся, заблыталіся ў штодзёншчыне, цякучцы, не кідаюць сіл на галаўныя ўчасткі, не ўдзяляюць увагі тым прадпрыемствам, на якіх маецца прарыў і рэзультаце гэтыя прадпрыемствы іх гробяць, а яны гробяць нашы агульныя дасягненні.

Два словы аб **Менску.** Менск па паліву знаходзіцца ў цяжкім становішчы. Сакратар Гаркома тав. Рыскін займаўся пасля XV з'езда тым, што біўся не столькі за снабжэнне дровамі прадпрыемстваў, колькі за снабжэнне палівам радзільных дамоў, больніц і пякарань. Паліўнае пытанне для Менска—гэта вельмі сур'ёзнае пытанне.

Але праў тав. Рыскін, калі ён узяў курс на барацьбу і за электрастанцыі і на барацьбу, у першую чаргу, з унутранымі непаладкамі на прадпрыемстве. І зараз Менскі Гарком у цэнтры сваёй увагі паставіў пытанне барацьбы іменна з унутранымі непаладкамі.

У рэзультаце такой устаноўкі Менскага Гаркома, мы сёння маем на такім адстаючым прадпрыемстве, як „Комунарка", не толькі выкананне плана, але і ліквідацыю сваёй запазычанасці. Гэта вялікая справа. Там цяпер новы дырэктар—т. Любін.

Калі мы возьмем **абутковую фабрыку** імя **Кагановіча.** Тры з палавінай гады фабрыка не выконвала плана, а зараз пачала выконваць. Не малую ролю тут адыграла газета „Рабочий"—гэта трэба прызнаць. „Рабочий" разам з гаркомам выцягнуў фабрыку імя Кагановіча з прарыву.

Цяпер адносна лямцавай фабрыкі. Вы падумайце, дайшло да такой ганьбы, што фабрыка, пры агіднейшай якасці, выканала 40 проц. плана. Менскі Гарком разам з т. Балцiным аддалі пад суд яе дырэктара т. **Свідэрскага** (гэта, здаецца, у нас два выпадкі, калі судзілі за дрэнную якасць прадукцыі). Вы паглядзіце, якую прадукцыю фабрыка выпускала. Хіба не праўда, што ў кожны валёнак улезе па дзве вялікіх нагі, ці бачылі вы што-небудзь больш агіднае? А пасля камандыроўкі на фабрыку новых людзей валёнкі пачалі выпускаць ужо крыху лепшыя.

Які можна зрабіць вывад?

Новыя людзі—новыя валёнкі (с м е х). Гэта яшчэ раз пераконвае нас у тым, якое значэнне мае падбор людзей, бо толькі людзі вырашаюць поспех справы. Адсюль мы можам зрабіць вывад, што ранейшыя кіраўнікі фабрыкі замест таго, каб валяць валёнкі—валялі дурака (с м е х).

Вы паглядзіце на вяроўку, якую выпускае гэта фабрыка (Я магу вам паказаць, але прашу асцярожней—не ацарапацца).

Калі-б не было такога адказнага схода, можна было-б ужыць вельмі рэзкае слова па поваду гэтай прадукцыі. Гэта людзі вінаваты, а не вяроўка. Не пянька вінавата, людзі вінаваты ў тым, што гэта фабрыка ганьбіла нас на ўвесь Саюз.

Як абстаіць справа з іншымі прадпрыемствамі Наркамлегпрома?

ЦК умацаваў кіраўніцтва Наркамлегпрома, паставіўшы туды моцнага большэвіка, члена нашай партыі з 1909 г.—т. **Балціна.** Гэта вялікая справа, але мы яшчэ недастаткова ўмацавалі апарат т. Балціна. Яму цяжка ў наркамаце, тым больш, што наркамат запушчан, запушчаны прадпрыемствы і, па-мойму, патрэбна сур'ёзная і моцная рука ў дапамогу т. Балціну і нам прыдзецца пасля пленума гэта зрабіць.

Адным з галоўных недахопаў у Наркамлегпроме БССР з'яўляюцца недахопы па тэкстыльнаму трэсту. Дырэктар трэста т. **Добравольскі** тут, няхай скажа пленуму ЦК, чаму ён гробіць Наркамлегпром? Восьлямцавая фабрыка—гэта ваша?

Д о б р а в о л ь с к і—Мая.

„Перадавое" прадпрыемства. Я хачу яшчэ адно ваша прадпрыемства ўзяць, хоць-бы Дубровенскую фабрыку. Як т. Добравольскі—дырэктар трэста—аб'ясняе прарывы на Дубровенскай фабрыцы?

Аб Дубровенскай фабрыцы трэст гаворыць наступнае: няма пражы, аб'ектыўныя ўмовы. Я не ведаю прозвішча сакратара райкома.

Галасы—Мышалёў.

Гэта новы, а старога?

Галасы—Кацман.

Зусім правільна т. Кацман, ён тут, ён зараз сядзіць на Гомсельмашы, няхай ён паслухае аб сваіх старых справах, „большэвікі мацнеюць ад крытыкі". Сакратар райкома таксама гаварыў, што прарыў адбываецца па прычыне аб'ектыўных умоў"—„няма пражы". Дырэктар т. Кадышаў гаворыць—„аб'ектыўныя ўмовы", „няма пражы"; сакратар партыйнага камітэта т. Дварэцкі (прашу не змешваць з цяперашнім дырэктарам Добрушскай фабрыкі) таксама гаворыць аб аб'ектыўных умовах.

Тады Промаддзел ЦК разам з рэдакцыяй „Рабочий" паслаў туды таварышоў паглядзець на гэтыя аб'ектыўныя прычыны. І вось што яны прывезлі з гэтай фабрыкі. Дазвольце паўтарыць тое, што я прарабіў па „Комунару". Дубровенская фабрыка за красавік месяц дала 82 проц. выканання плана, за дзве дэкады мая—80 проц., брак-жа дайшоў за студзень месяц да 60 проц., за люты да 40 проц., за сакавік да 34 проц, за красавік 31 проц. супраць плана 7,5 проц. Фабрыка панесла страт за 4 месяцы толькі з-за браку на 107 тыс. руб.

У чым прычыны гэтага ганебнага адставання. Прычына заключаецца ў кіраўніцтве фабрыкай, зноў-такі ў людзях. Дырэктар фабрыкі т. Кадышаў выдаў з пачатку студзеня месяца 67 загадаў толькі аб працоўнай дысцыпліне і аб якасці прадукцыі. На фабрыцы да гэтай справы так прывыклі, што працуюць па-старому і не чытаюць загадаў. І калі мы паслалі тэлеграму з ЦК аб дрэннай якасці прадукцыі, т. Кадышаў выдаў 68-ы загад.

Справа дайшла нават да таго, што і т. Дварэцкі—сакратар парткома—таксама выдаў загад усім, усім, усім... у тым ліку і тэхнічнаму персаналу.

Прывяду вам матэрыял таварышоў, абследваўшых, па даручэнню ЦК, фабрыку перад пленумам.

Вось якая атрымліваецца карціна.

На фабрыцы пануе паўнейшая абязлічка. Адзін цэх перакладае віну за дрэнную работу на другі. Адзін майстар на другога ці майстар на рабочага, а рабочы на майстра.

Партыйныя і профарганізацыі супроць гэтага не змагаюцца, а бываюць выпадкі, што нават і падтрымліваюць.

На фабрыцы ўсе выязджаюць на аб'ектыўных прычынах, вінаватых бракаробаў, жывых людзей не бачаць. Вось прыклад:

У ткацкім цэху маюцца цэлыя камплекты (25—30 станкоў), якія сістэматычна не выконваюць план і даюць па 50—75 проц. браку (5,8 і інш. камплекты). Напр., 28 мая прыёмшчыца Ізраілевіч забракавала ўсе 132 метры тканіны 8-га камплекта з-за дэфектаў: забоі, недасекі. З прынятых 495 метраў ад 5 камплекта забракавала 348,5 мет., 10-ы камплект даў за 26 і 27 мая 316 метраў браку і ніякіх мер да гэтых камплектаў не прымаецца і яны прадаўжаюць псаваць тканіну.

Праўда, за апошні час увялі на фабрыцы так званую матэрыяльную адказнасць за брак і вылічваюць з зарплаты, але гэта мерапрыемства праводзіцца толькі адміністрацыйным шляхам праз кантору. Бывае, што рабочы нават не ведае, за што ў яго вылічваюць, а грамадскасць супроць бракаробаў не мабілізуецца. З-за абязлічкі часам трудна ўстанавіць сапраўднага віноўніка і бывае, што караецца нявінны.

Напр., матальны цэх, які прыгатаўляе шпулькі для ткацкага цэха, да 28 мая матэрыяльна нічым не адказваў, і ткачы неслі адказнасць за той брак, які даваў матальны цэх. Таму ўсе меры аб матэрыяльнай адказнасці не даюць належнага эфэкту. Партарганізацыя фабрыкі і фабком нават добра не ведаюць, хто з'яўляецца злосным бракаробам.

Работніца 8-га камплекта Шатраўка (комсамолка)—з першага дня работы на фабрыцы дае вялікі процант браку (50—90 проц.), а фабком аб гэтым нават не ведае. Парторг 5-га камплекта Алейнікава дае сплашны брак, а партарганізацыя не рэагуе на гэта толькі таму, што сама не ведае.

На паперы ў фабкома, у парткома налічваецца 448 ударнікаў, але яны не хочуць гарантыраваць, што з гэтых ударнікаў ніхто не выпускае браку, а такія ёсць. Напр., работніцы Івуліна, Янкіна—лічацца ўдарніцамі, а даюць вялікі процант браку.

У вялікім процанце браку і невыкананні плана вінаваты не толькі рабочыя, але яшчэ ў большай меры тэхперсанал, які агідна адносіцца да абсталявання. Падмайстры, якія павінны сачыць за спраўнасцю і наладжваннем ткацкіх станкоў, не цікавяцца гэтым. Рабочыя патрабуюць, указваюць, што нельга працаваць на неналаджаных станках, што дробны рамонт можна справіць ля станка, але падмайстры не звяртаюць увагі на ўказанні рабочых. Таксама і кіраўніцтва фабрыкі. І бывае, што рабочы, калі яго пераводзяць на другі, наладжаны станок, перавыконвае план.

Вось, напр., работніца **Базіна**, 5-га камплекта, піша ў шматтыражку фабрыкі, што яна ўжо многа разоў указвала падмайстру Чэрніну і майстру Юхвідзіну, што яна не можа працаваць на разладжаным станку 1-38, а яны нічога не прадпрымаюць і яшчэ абвінавачваюць яе ў сімуляцыі ў той час, калі яна, працуючы на трэцім камплекце 8 месяцаў, перавыконвала план.

Які ўплыў робіць неналаджанасць станкоў, паказваюць наступныя даныя: у 5-м камплекце (падмайстры тт. Алейнікаў, Глезер) з 25 станкоў—15 разладжаны і 8 спраўных, з якіх 15 неналаджаных станкоў выканалі план на 80,5 проц., далі абрыў на 1 метр—1,65 проц. (па плану дапускаецца 0,72), а 8 наладжаных выканалі на 113,5 проц. і далі 0,59 проц. абрыву (ніжэй плана).

8-ы камплект (падмайстры Малчанаў і Войкаў)—з 25 станкоў—17 разладжаных і 8 спраўных, з якіх 17 выканалі план на 87 проц., абрыў 1,65, а 8 спраўных станкоў выканалі план на 104 проц., абрыў 0,63. На фабрыцы з усіх 361 ткацкіх станкоў 50 проц. неналаджаных. Гэта ясна гаворыць аб прычыне невыканання фабрыкай плана.

Тэхперсанал на фабрыцы вельмі слабы, больш за ўсё гэта адчуваецца па сярэдняму звяну—падмайстру, але ніхто на фабрыцы нічога не робіць, каб павысіць тэхнічны ўзровень падмайстраў і рабочых. За ўвесь час у тэхгуртку навучалася 37 рабочых, з іх здалі тэхэкзамен 17 чал., з якіх 6 на „выдатна“. Ёсць яшчэ на фабрыцы гурток для падмайстраў, але ён працуе з перарывамі, большасць падмайстраў яго не наведвае і ніхто на гэта не рэагуе.

Фарбавальна-апаратурны цэх дае 14 проц. браку (бывае і 25), а па плану—0 проц. З кіраўнікоў фабрыкі ніхто туды не заглядвае. Майстар гэтага цэха **Марозаў** нядбайна адносіцца да сваіх абавязкаў. У фарбавальнай машыне так званы „праходны апарат“ не чысцілі ўжо больш 3-х месяцаў і там накапілася столькі бруду, што нельга

прапусціць тканіну, а гэту машыну трэба кожныя пяць дзён чысціць, бо бруд садзіцца на тканіну і пакідае на ёй плямы. Рабочыя тт. Ліўшыц і Розенталь пасланаму ЦК таварышу прама заявілі, што калі не вычысцяць машыны, яны не будуць працаваць, а Марозаў яшчэ спрачаецца з імі, што бруд не робіць уплыву на якасць.

З-за дробязей атрымаўся брак.

Напр., фарбу да гэтага часу ўлівалі ў машыну прама вёдрамі зверху, у той час калі тканіна ішла паміж валікамі і каплі фарбы, пападаючы на тканіну, пакідалі на ёй плямы, ад чаго атрымліваўся брак. А патрэбна было ўстанавіць 2-3 бляшаныя лейкі. Парторг гэтага цэха т. Аноеў, які лічыцца лепшым парторгам на фабрыцы, не толькі гэтага не заўважыў, але нават рэдка падыходзіць к гэтаму месцу, каб пагутарыць з рабочымі.

У гэтым цэху ёсць 4 партыйцы і адна комсамолка, але яны ўсе няправільна выкарыстоўваюцца. Напр., член партыі т. Юхрыд пастаўлен на разборку ласкуткоў і т. д. А ў красільным цэху (там, дзе рашаецца якасць работы) партыйцаў няма.

Такая расстаноўка партыйных сіл наглядаецца прыблізна ва ўсіх цэхах.

Апрача пералічаных лічб браку, ёсць яшчэ адзін брак, які на фабрыцы нікім не рэгіструецца, але арганізацыі, атрымліваючыя гатовую прадукцыю гэтай фабрыкі, лічаць бракам і састаўляюць акты. Гэта адносіцца к матрацнаму ціку, які выраблярцца на нартропаўскіх аўтаматычных станках, на якіх брак атрымліваецца ад падвойнага ўдару.

Разам з гэтым дэфектам брак на фабрыцы даходзіць да 90 проц. З пачатку года аб гэтым ужо сігналізавалі арганізацыі, атрымліваючыя тавар з гэтай фабрыкі, і дайшло, нават, да таго, што ў Смаленску адмовіліся прыняць тавар. Тады толькі на фабрыцы пачалі думаць аб лепшым вырабе тавара. Некаторыя рабочыя ўказалі, што трэба надзець на станкі „шчуплы“, якія захоўваюць ад падвойнага ўдару, але ў жыццё гэтага ніхто не правёў. Нават не хацелі ўвесці як пробу на адным станку. І майстры і іншыя кіраўнікі спасылаліся на тое, што гэта зніжае прадукцыйнасць працы, а фактычна сабатыравалі гэта. І толькі пасля тэлеграмы ЦК КП(б)Б аб недапушчальна дрэннай рабоце фабрыкі 22 мая дырэктар выдаў загад, каб на працягу 7 дзён надзець на ўсе станкі „шчуплы“, але, як і ўсе загады, гэты загад не выконваецца. Толькі на два ці тры станкі надзелі, што зараз-жа дало добрыя рэзультаты.

Вось якая расстаноўка партыйных сіл на гэтым „перадавым“ прадпрыемстве Дубровенскага раёна. Як мы бачым, партыйная арганізацыя раёна і фабрыкі тут дапусціла рад сур'ёзнейшых памылак, партыйцы на фабрыцы не паказваюць сваёй авангарднай ролі. Райком партыі не толькі не памагае партыйнай арганізацыі, але можна сказаць, нават перашкаджае. У той час, калі фабрыка знаходзіцца ў прарыве, райком партыі забірае тав. Дварэцкага і пасылае на пасеўную кампанію, не паспеў ён прыехаць, пабыў 3—4 дні і райком зноў яго паслаў у вёску па правядзенню падпіскі на пазыку. Сёння на пленуме райком партыі павінен даць абяцанне выцягнуць гэту фабрыку з прарыву.

Прывяду яшчэ адзін факт. Возьмем работу фабрыкі „Усход“, у Менску. Вось што гаворыць стары рабочы т. Свержынскі аб становішчы на фабрыцы:

„На фабрыцы „Усход“ я працую 3 з палавінай гады. Па скуранай галіне я працую вельмі многа год. Трэба сказаць, што за гэты год

фабрыка значна вырасла. Вараслі карпусы і колькасць рабочых, але недахопаў у нас вельмі многа".

Ёсць і такія факты, калі партыйныя і комсамольскія сілы расстаўлены няправільна. Не ўсе комсамольцы і комуністы з'яўляюцца прыкладам на вытворчасці. У групе Капелевіча кандыдаты партыі выпускаюць трохскладаныя бумажнікі. Па плану другога сорту прадугледжана 12 проц., а даюць 25 проц. Дрэнна адчуваецца на вытворчасці кіраўніцтва трэста. Нам. дырэктара т. Левін гаворыць, што галантарэяй нам няма калі займацца, а таму атрымліваецца, што планавы аддзел трэста пускае адно заданне, а аддзел снабжэння—другое. Раней мы даставалі сыравіну для фабрыкі самі. Цяпер Белскурснабзбыт нас снабжае, але ён рэарганізуецца ў збыт і снаб. „Ідзе рэарганізацыйная гарачка, а мы церпім".

Фабрыка „Усход" не вылазіць з прарыву. За першы квартал—94 проц. плана, за красавік—78,6 проц., за першую дэкаду мая—94, за другую—83,2.

На фабрыцы 30 комуністаў і 18 кандыдатаў партыі (сакратар парткома т. **Гефен**). Не ўсе комуністы знаходзяцца непасрэдна на вытворчым участку. Многія заняты на адміністрацыйнай і іншай рабоце. Так, напр., у чамаданным цэху з 14 комуністаў—у станка непасрэдна працуе толькі 7. Не ўсе комуністы служаць прыкладам у рабоце. Напр., група майстра Ануфрыенко не выконвае план. Партыйны камітэт не рэагуе на дрэнную работу паасобных комуністаў.

Тав. Гефен гаворыць, што галоўная прычына дрэннай работы фабрыкі—гэта так званыя „аб'ектыўныя ўмовы", а тав. Клебанаў—кандыдат партыі, майстар закройнага цэха, ускрывае рад сур'ёзнейшых унутраных прычын, якія недалічвае, відавочна, т. Гефен.

„Два з палавінай гады працую майстрам закройнага цэха,—гаворыць т. Клебанаў.—У першым квартале 1934 г. у нас маецца прарыў, па цэху промфінплан выканан за першы квартал на 97,2 проц., за красавік на 86,3 проц. Цэх мае 9 брусовачных машын, але ўсе яны няспраўныя. Яны многа даюць браку, бо механік некваліфікаваны і не можа добра справіць машыны. У рэзультаце гэтага кожны дзень бываюць прастоі па 3-4 машынагадзін.

У нас яшчэ дрэнна пастаўлена сярод рабочых масавая работа. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва не разгорнута, партарганізацыя ў цэху не адчуваецца. Дрэнна пастаўлена работа па аўладанню тэхнікай. Большасць нашых рабочых не наведваюць тэхвучобы, не маюць магчымасці прачытаць тэхнічнай літаратуры, бо ў нас яе няма. Дысцыпліна расхістана, ну і зразумела, што рабочы дзень поўнасцю не ўшчыльнен".

Тав. **Левін**—дырэктар Скуртрэста—замест жывога аператыўнага кіраўніцтва, канкрэтнай дапамогі фабрыцы (а фабрыка ў Менску, пад бокам у трэста) выдае загады, прыблізна такога зместу: „Да ўсіх рабочых даверанага мне трэста. Вітаю вас з пролетарскім сусветным святам 1 мая".

Ён піша некалькі слоў аб частковай стабілізацыі капіталізма, пару слоў аб прадпрыемстве і заканчвае: „Уперад да новых перамог". А ўнізе падпісана—„Намеснік старшыні трэста—Левін".

Вельмі добра, што нашы гаспадарнікі займаюцца палітыкай, але лепш было-б, калі-б яго планавы аддзел спускаў правільна і своечасова заданні, каб не затрымаць работу фабрыкі.

А то быў яшчэ такі факт, калі на фабрыцы імя **Кагановіча** доўгі час ляжала 120 т. пар гатовага абутку для пролетарскіх цэнтраў

і не адгружаўся толькі таму, што Левін не прасачыў за правільнай разнарадкай іх адгрузкі.

Яшчэ некалькі заўваг. У нас, у Беларусі, мае месца такая хвароба, аб якой вельмі рэзка ні адзін раз выказваліся тт. **Сталін і Кагановіч.** Я гавару аб панска-пагардлівых адносінах да дробных прадпрыемстваў. Прывыклі мысліць, думаць маштабам завода „Варашылава“, Гомсельмаша, ф-кі „Сцяг індустрыялізацыі“, „КІМ“ і інш. буйных прадпрыемстваў, а часта ўпускаюць з пад увагі прадпрыемствы, на першы погляд здаючыяся дробяззю, а ў сапраўднасці маючыя каласальнае значэнне для нашай нават саюзнай, прамысловасці. На самой справе, вось вам прыклад: прадукцыяй нашых дражджавых заводаў карыстаюцца рабочыя Масквы, Ленінграда і раду іншых гарадоў. Тав. Гурэвіч, на дрожджах тваіх прадпрыемстваў 25 проц. усіх працоўных СССР пякуць хлеб, а разам з тым планы па дражджавых заводах выкананы толькі на 60 проц. Гэта ганьба не толькі для цябе, тав. Гурэвіч, для тав. Кладовікова, гэта таксама і наша агульная ганьба.

Гомельскі завод „**Чырвоны хімік**“ дае амаль 100 проц. саюзнай прадукцыі крэйды для зубнога парашку; крэйдай т. Шафарэнка чысцяць зубы ўсе працоўныя Савецкага саюза (смех). А таварышы не выконваюць промфінплан.

Рэчыцкі **дубільна-экстрактны** завод дае 24 проц. усёй саюзнай прадукцыі. Трэба сказаць—добра працуе гэты завод. На жаль, я яшчэ не ведаю прозвішча яго дырэктара

Галасы—т. Шусцін.

Тав. Шусцін. Ён варт гонару, каб яго прозвішча упамянуць тут на пленуме.

Вазьміце завод ланцугоў Галля. 60 проц. усіх ланцугоў Галля, выпрацоўваемых ў саюзе, дае наш завод, а план не выконваецца (вы, відаць, чыталі аб гэтым у „Правде“?).

Гікало—Расскажы пленуму, для чаго ідуць ланцугі Галля?.

Для камбайнаў, для веласіпедаў і для многіх іншых машын.

А хто з вас, гаворачы адкрыта, мае якое-небудзь уяўленне аб гэтых прадпрыемствах? Вось Могвалакно ведаюць, Гомшклозавод ведаюць. А вось, што 30 проц. убытку па лёгкай прамысловасці падае на лямцавую фабрыку—гэтага ніхто не ведае.

У спісу, разданым вам, падрабязна ўказана, хто ўгробіў промфінплан нашай беларускай прамысловасці за апошнія 4 месяцы. Вось яны, канкрэтныя віноўнікі невыканання ўказанняў XVII з‘езда ВКП(б), XV з‘езда КПБ(б), канкрэтных указанняў т. **Сталіна** і т. **Гікало.** Многія з кіраўнікоў гэтых прадпрыемстваў тут прысутнічаюць і маюць магчымасць даць пленуму аб‘ясненне па данаму надзвычай важнаму і востраму для іх пытанню. Востраму таму, што зараз стаіць пытанне аб аб‘ясненнях, заўтра—аб адказнасці, а паслязаўтра—аб партыйным білеце. Як-жа інакш?

Гікало—Правільна.

Пераходжу коратка да прамысловасці Наркамснаба. Наркамснаб, як я ўжо сказаў, па рэспубліканскай прамысловасці недадаў 3 600 000 р., а ўсяго 8 млн. 50 проц. недадачы па рэспубліканскай прамысловасці падае на прамысловасць НКСнаба. Тт. Гурэвіч і Кладавікоў павінны даць аб‘ясненне прычын гэтай акалічнасці. Яны не могуць паскардзіцца на недахоп увагі з боку ЦК і СНК да харчовай прамысловасці.

Гэты прарыў па харчовай прамысловасці—вельмі сур‘ёзны прарыў. Гэта—недадача працоўным пячэння добрай якасці, цукерак, макаронаў і т. д.—адным словам, недадача харчовых прадуктаў. Гэта б‘е па нас

больш, чым, якая-небудзь іншая прамысловасць, бо недадача па іх галіне—гэта палітыка.

Гікало—Гэта снабжэнне дзяцей, хворых.

Так, гэта самае вострае для нас пытанне. Таму я зараз хачу спыніцца на тым, як трэсты нашага Наркамснаба выконваюць свой план.

Белмяса (т. **Гравіт**)—106 проц.

Махорачны трэст—108,6 проц.

Белкмо (т. **Трыфсік**) знаходзіцца ў глыбокім прарыве. Ён недадаў прадукцыі на мільён з лішнім рублёў. Тав. Трыфсік загадвае патакай, кандытэрскімі вырабамі.

Белрыбтрэст—87,7—(дырэктар т. **Семашко**—ён новы чалавек і на яго я не хачу націскаць, ён ужо і так пацярпеў па Дуброўне) (смех).

Белмаслапром (т. **Жалезны**)—63 проц., Белплодгародніна (дырэктар т. **Анікейчык**)—42,3 проц., Белптушкапрадукт--73,8—там новы дырэктар. Хто там сядзіць, тав. Гурэвіч?

Гурэвіч—не помню.

Вось бачыце, нарком свайго работніка не ведае. Ну, даруем наркому (смех).

Белброд—72 проц.

Тав. **Кузьмічоў** (дырэктар Белдзяржспірта)—павінен прызнаць тут перад пленумам, што яго трэст у апошні час дрэнна працуе. Ён выканаў усяго 89,2 проц., а вы ведаеце ўсе т. Кузьмічова. Кузьмічоў вельмі гробіць. Кузьмічоў, прызнайся перад пленумам, дрэнна яшчэ працуеш. Не хочаш? (смех).

Кузьмічоў—правільна.

Прадпрыемствы, якія нас гробяць, я ўказаў. Хачу сказаць аб раёнах.

Лепш за ўсіх па харчовай прамысловасці за 4 месяцы ідзе Орша—выканала план на 110 проц. Але не ведаю, ці ведае аб гэтым т. **Соскін**. Калі не ведае, я магу з прыемнасцю паведаміць яму аб гэтай справе. Там быў буйны прарыў, але справа зараз пачынае выпраўляцца. Там т. **Гравіт** (дырэктар Мясатрэста) многа робіць.

Віцебская прамысловасць дала 97,9 проц. Але я павінен тут прызнаць, што тт. **Башмачнікаў і Жураўлёў** здорава займаюцца ў гэтым квартале прамысловасцю, у тым ліку і харчовай.

Гікало—не спяшайся.

Жураўлёва не перахваліш, т. Гікало. Віцебск на фоне нашых прарываў працуе ня дрэнна. Я прыпамінаю словы аднаго з нашых праваdыроў, які гаварыў: „Вы што думаеце, мы тут сядзім таму, што вельмі ўжо добрыя; мы сядзім таму, што пакуль лепшых за нас няма. А калі знойдуцца лепшыя, лепшых пасядзяць".

Галасы—Правільна! (Апладысменты).

Гэта павінны помніць усе мы, у тым ліку і віцебскія таварышы.

Калі мы возьмем Менск, то тут сканцэнтравана 19 проц. усёй харчовай прамысловасці Беларусі. А дала яна толькі каля 80 проц. Асноўныя прадпрыемствы Менска, правальваючыя тут нам промфінплан па харчовай прамысловасці гэта—дражджавы завод, які недадаў прадукцыі на 623 тыс. руб.; патачны завод „Чырвоная зара"—369 т. р.; завод малочных кіслот—426 тыс. руб.; кандытэрская фабрыка „Камунарка"—591 тыс. руб. і менскі мясакамбінат—431 тыс. руб.

Гомель дае 20 проц. усёй харчовай прамысловасці Беларусі, а недадаў з агульнай недадачы ў 8 млн. руб.—3 млн. Гэта вельмі многа, надта многа, гэта палітыка, т. Шафарэнка,—я прашу вас, не падазравайце мяне ў асобай прыхільнасці да вас. Я ў даным выпадку падыхожу аб'ектыўна. Я не хачу, как вы зразумелі гэта як нападкі, не

трэба прымешваць пастаронніх акалічнасцей, гэта не дапамагае рабоце, а перашкаджае.

Гікало—Правільна.

Важны той факт, што Гомель недадаў прадукцыі на 3 млн., г. зн. даў толькі 75 проц. выканання промфінплана за 4 месяцы.

Асоба стаіць пытанне аб якасці наркамснабаўскай прадукцыі. Тут у нас яшчэ вельмі нядобра.

Вось, таварышы, лічбы—бесспрэчныя, ясныя, якія з усёй відавочнасцю паказваюць, як таварышы б'юцца за выкананне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б), XV з'езда КП(б)Б, адозвы ЦК па харчовай прамысловасці, указанняў тт. **Сталіна** і **Гікало** па пытанню аб перабудове наркамснабаўскай харчовай прамысловасці. Зусім ясна, што ўсім таварышам і раёнам трэба падцягнуцца, інакш яны рыскуюць застраць безнадзейна ў хвасце і да іх будзе прыменена агульнавядомая прыказка аб тым, што „адсталых б'юць“.

На нас ляжыць задача не толькі выканання плана па ўсіх галінах, але і ліквідацыя запазычанасці, інакш мы не вылезем з гадовым планам. І зараз, калі т. **Гікало** паставіў перад усімі бальшэвікамі БССР задачу—біцца за атрыманне ордэна імя Леніна для Беларусі па сельскай гаспадарцы, зараз вам знаходзіцца ў самым хвасце апартуністычнага абозу, гробячага промфінплан усёй нашай прамысловасці, прадпрыемстваў,—не варта.

Мы дабіліся ў гэтую вясну, не гледзячы на адрыў кадраў у вёску, таго, што наша прамысловасць звычайнага для Беларусі „сезоннага“ хістання ўніз на дала. Трэба зрабіць так, каб яна не дала гэтага „сезоннага“ хістання і ў часе сенакосу, уборкі, г. зн. у перыяд, калі звычайна адбываецца некаторы адліў рабочай сілы на палявыя работы. Мы павінны змагацца за тое, каб наша прамысловасць роўна, упэўнена пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і т. **Сталіна**, пад кіраўніцтвам т. **Гікало**, прышла не ў канцы абоза, каб ў барацьбе за атрыманне ордэна Леніна ў сельскай гаспадарцы нашы сельскія гаспадары маглі сказаць: прамысловасць у агульным балансе нас не падвяла. Гэта справа гонару кожнага з нас—і мы, зразумела, не падвядзем, але мы ўсе, таварышы, павінны ўспомніць словы т. **Сталіна** на XVII з'ездзе аб тым, што: „Перамога ніколі не прыходзіць сама, а звычайна яе прыцягваюць“ і ўпорна змагаюцца за гэту перамогу.

Розін—Мяне крыўдзіш.

Голас—Розін крыўдзіцца.

Нічога падобнага, тав. Розін у мяне на чарзе, і я яму ўдзялю апошнія „грамавыя“ тры мінуты (смех).

Пераходжу да тав. Розіна. Таварышы, прамысловасць Розіна недадала 9 млн. руб., я адкідваю зараз Лесбел, загатоўкі і вывазку лесу, бо гэта пытанне асвятлялася ў дакладзе тав. **Галадзеда** і ў спрэчках. Для нас стаіць, як вайстрэйшае пытанне, зараз, побач з торфам, гэта пытанне аб сплаве. Сплаў зараз павінен быць пастаўлен у цэнтры ўвагі. Нам не даруюць прарыву па торфу і па сплаву.

Далей, я хачу сказаць аб **паперы.** Не аб паперах, якія піша тав. Розін, а аб паперы, якую ён недадае пролетарскай дзяржаве школьнікам, друкарні на падручнікі і т. д. Ён недадаў паперы на 2 з лішнім мільёны руб. Добрушская фабрыка ў Гомелі ганебна працавала. Фабрыка „Чырвоная звязда“ у Чашніках таксама.

К „чэсці“ сакратара Чашніцкага райкома т. **Марголіна**, фабрыка працуе выключна дрэнна. Маленькая фабрыка, а недадала 70 проц. недадачы Добруша. А кажуць, што Добрушская фабрыка на другім

або трэцім месцы ў Саюзе. Так, значыць Чашнікі ўзялі „пяршынства“ з усіх райкомаў, якія маюць нямнога прадпрыемстваў. Гэта можна запісаць тут на пленуме, у стэнаграме па-крайняй меры, так: т. Марголін узяў пяршынства па невыкананню заданняў нямногімі прадпрыемствамі ў яго раёне, з'яўляючыміся к таму-ж пролетарскай базай, асновай вылучэння, пролетарскім касцяком усёй партыйнай арганізацыі. 70 проц. недадачы Добруша на „Чырвонай звяздзе“— гэта вам ганьба тав. Марголін, вам ганьба, дырэктар фабрыкі, т. Ігнатоўскі, вам ганьба сакратар парткома, т. Кужэўскі.

Тт. **Розін** і **Сычоў**—(начальнік Белпапертрэста) дрэнна працавалі з паперай. Трэба гэта тут прама сказаць. ЦК вымушан быў вельмі сільна займацца папяровай прамысловасцю. Тав. **Гікало** вымушан быў штодзенна займацца Добрушскай фабрыкай і гэта пры наяўнасці тт. Розіна, Дварэцкага, дырэктара Белпапертрэста т. Сычова, які на пленуме павінен даць адказ, як ён думае ў будучым працаваць, ці думае ён нас гробіць, ці думае выцягваць.

* *
*

З усяго сказанага зусім ясна, што прычыны прарыву ляжаць у асноўным у гэтых 37 прадпрыемствах і леспрамгасах. Па сутнасці, 37 прадпрыемстваў з 519 падводзяць нас усіх. Іх кіраўнікі павінны разумець, што яны ганьбяць сваёй рабочай усю Беларусь і што, калі зараз ідзе гутарка аб недахопах іх работы, то заўтра мы будзем гаварыць аб праявах апартуністычнай бяздзейнасці. Усе вы помніце, як рэзка і справядліва гаварыў т. **Сталін** па поваду спасылак на аб'ектыўныя ўмовы, або, ў пераводзе на мову т. Сакаленка, па поваду лімітыруючых акалічнасцей, па поваду труднасцей, на якія, як я вам ужо вышэй указаў, так часта спасылаюцца многія кіраўнікі прарыўных прадпрыемстваў. Вось гэтыя словы т. **Сталіна:**

„Што гэта за труднасці і дзе яны гняздзяцца?

Гэтыя труднасці з'яўляюцца труднасцямі нашай арганізацыйнай работы, труднасцямі нашага арганізацыйнага кіраўніцтва. Яны гняздзяцца ў нас саміх, у нашых кіруючых работніках, у нашых арганізацыях, у апаратах нашых партыйных, савецкіх гаспадарчых, профсаюзных, комсамольскіх і ўсякіх іншых арганізацый.

Трэба зразумець, што сіла і аўтарытэт нашых партыйна-савецкіх, гаспадарчых і ўсякіх іншых арганізацый і іх кіраўнікоў выраслі да небывалай ступені. І іменна таму, што іх сіла і аўтарытэт выраслі да небывалай ступені,—ад іх работы залежыць цяпер усё або амаль усё. Спасылка на так званыя аб'ектыўныя ўмовы не мае апраўдання. Пасля таго, як правільнасць палітычнай лініі партыі пацверджана вопытам раду год, а гатоўнасць рабочых і сялян падтрымаць гэту лінію не выклікае больш сумненняў,—роля так званых аб'ектыўных умоў звялася да мінімуму, тады як роля нашых арганізацый і іх кіраўнікоў стала рашаючай, выключнай. А што гэта значыць? Гэта значыць, што адказнасць за нашыя прарывы і недахопы ў рабоце кладзецца ад гэтага часу на дзевяць дзесятых не на „аб'ектыўныя“ умовы, а на нас саміх, і толькі на нас“.

Ці-ж не ясна, таварышы, што гэтыя словы нашага любімага правадыра—не ў брыво, а ў вока б'юць, у прыватнасці, па нашых беларускіх любіцелях спасылак на аб'ектыўныя ўмовы.

Некалькі мінут аб мясцовай прамысловасці. Тав. **Сталін** на XVII з'ездзе сказаў, што нашай баявой задачай з'яўляецца:

„Развязаць мясцовую совецкую прамысловасць, даць ёй магчымасць праявіць ініцыятыву ў справе вытворчасці тавараў шырокага спажыву і аказаць ёй магчымую дапамогу сыравінай і сродкамі".

Сэнс рашэнняў XVII з'езда і ўказання т. **Сталіна** быў у тым, каб адшукаць дадатковую колькасць мясцовай сыравіны, арганізаваць дадатковую вытворчасць, а не толькі арганізоўваць новыя фабрыкі і патрабаваць сыравіну з цэнтра. Не, трэба перш за ўсё выкарыстаць усе мясцовыя магчымасці, г. зн. даць дадатковыя масы тавараў шырокага спажывання. У нас такіх прадпрыемстваў зараз каля 400. Гэта прамысловасць РВК. Я вам зараз расскажу, як мы выконваем гэта ўказанне т. **Сталіна**. Перш за ўсё як быццам зусім ясна, што райвыканкомы павінны быць кроўна зацікаўлены ў тым, каб атрымаць гэтыя прадпрыемствы, але вось, калі СНК пастанавіў перадаць млыны РВК, то Жлобін, Полацк і Касцюковічы адмовіліся іх прыняць. Калі-же прымалі млыны—бо гэта было немінуча—Полацк, Дуброўна, Орша высунулі праект перадаць іх калгасам, г. зн. зняць з сябе адказнасць.

А як дапамагаюць раёны мясцовай прамысловасці? Я не маю часу для падрабязнага аналізу і таму буду проста пералічваць: Стайкаўскі лесазавод, Оршанскага раёна, працуе на экспарт, не можа працаваць на другую змену з-за адсутнасці рабочай сілы. Мэблявая ф-ка— у Мазыры—мае 51 рабочы дзень прастояў з-за непадачы электраэнергіі.

Як забяспечваюць гэтыя прадпрыемствы кіруючымі кадрамі? Я зноў буду толькі пералічваць факты:

а) Дырэктар торфазавода „Новая Беларусь" (Бабруйск)—**Ледэр** у часе падрыхтоўкі к сезону быў перакінут старшынёй сельсовета.

б) На клінкерным заводзе (Менск) за год зменена 3 дырэктары. У Бабруйску на цагельным заводзе № 3 за год зменена таксама 3 дырэктары.

в) Нам. дырэктара керамтрэста (Гомель) т. **Гурэвіч** пастановай РВК быў аддан пад суд і знят з работы. Праз некаторы час ён быў прызначан дырэктарам гэтага-ж трэста.

Такія раёны, як Гомель, Слуцк, Бабруйск, Полацк затрымліваюць сродкі на капіталаўкладанні ў мясцовую прамысловасць.

Вось прыклад: Гомель—т. Карначоў тут?

Голас—тут.

Тав. Карначоў адказвае за гэта па Гомелю.

Шафарэнка—і гарком.

Не, давайце раздзелім. Ты адказвай як след за Добруш, а тав. Карначоў, старшыня РВК, ён павінен быць зацікаўлен у тым, як працуюць гэтыя прадпрыемствы мясцовай прамысловасці. Гэта-ж яго кроўная справа. К Добрушу, к буйным прадпрыемствам яго-ж не пускаюць, там ён улады не мае, а тут ён зацвярджае промфінплан, нікому зводак не дае, ад яго ўсё залежыць, а ён нічога не робіць. Не робіш, тав. Карначоў, нічога, каб рушыць уперад справу мясцовай прамысловасці, павінен я табе прама, па-бальшэвіцку сказаць, бо калі я табе гэтага не скажу, нам у ЦК ВКП(б) гэта скажуць, правяраючы выкананне рашэнняў па мясцовай прамысловасці.

Некалькі слоў аб кіраўніцтве з боку райкомаў мясцовай прамысловасцю. Вось тав. **Мілер** змагаецца за выцягненне прамысловасці. Прамысловасць у Бабруйскім раёне план за гэтыя 4 мес. выканала на 100 з лішнім проценты. Гэта Бабруйск, які цягнуўся у ар'ергардзе, які цягнуўся ў хвасце, у якога была „традыцыя“ не выконваць! промфінплан, цяпер гэту прамысловасць выцягвае. Але і т. Мілер не знайшоў часу зацвердзіць гадавы план мясцовай прамысловасці.

Голас—Не Мілер, а старшыня РВК Мільчонак.

Ды і Мільчонак адказвае.

Таварышы, рад раёнаў не разгледзілі і не зацвердзілі гадавога плана мясцовай прамысловасці, як Магілеў, Менск, Гомель. Мы прапануем у бліжэйшы час у канцы чэрвеня, каб СНК склікаў нараду па мясцовай прамысловасці. Да тав. Гікало прышоў т. Фліор, які прывёз узоры заграністых вырабаў. Прыгожыя рэчы, якія можна рабіць і на нашых прадпрыемствах, а іх ніхто не робіць. А можна вельмі добрыя рэчы рабіць і на экспарт і на ўнутраны рынак.

Трэба, таварышы, прама сказаць, што да гэтых пор пытанне аб мясцовай прамысловасці (г. зн. прамысловасці, падпарадкаванай непасрэдна РВК) не вырашана. Яна бясправўна, загнана, не мае сыравіннай базы. Указанні т. **Сталіна** аб дапамозе сыравінай і сродкамі, як я вам даказаў на фактах, не выконваюцца. Нашы савецкія і рэспубліканскія арганізацыі гэта пытанне як след не прапрацавалі і мы тут, у ЦК КП(б)Б, да яго ўшчыльную яшчэ не падышлі, а з часу XVII з'езда партыі прайшло звыш 3-х месяцаў—тэрмін вялікі для таго, каб павярнуцца і рушыць справу ўперад, тэрмін настолькі вялікі, што далейшая затрымка проста нецярпіма і нам могуць справядліва „нашвыраць“ за гэту справу.

Цяпер адносна Сампромкааперацыі, якая мае 1100 арцелей. Гэта-ж агромнай важнасці ўчастак. У мяне няма часу, каб прывесці вам адчаянныя пісьмы старшынь арцелей. „Я,—піша ў ЦК адзін старшыня арцелі,—даю па промфінплану некалькі мільёнаў руб. і мяне цэлы год трымаюць на сяле. Калі я прыязджаю, мяне гоняць, выключаюць з партыі“. У рэзультаце, людзі не хочуць ісці ў Сампромкааперацыю.

Я павінен на пленуме прама сказаць, што беларуская партарганізацыя к выкананню рашэнняў XVII партз'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б аб Сампромкааперацыі яшчэ не прыступіла. Гэта самае цяжкое, што можна сказаць. Таму ў нас унесена на пленум наступная прапанова: Белкааппромсовет і лясная промкааперацыя маюць 1100 арцелей. Ёсць прапанова—старшынь гэтых арцелей склікаць у Менску разам з сакратарамі асноўных райкомаў партыі, разам з кіраўнікамі прадпрыемстваў, якія могуць даваць адыходы саматужнікам. Рад РК праяўляюць асабліва агідныя факты ігнаравання пытанняў работы Сампромкааперацыі.

Тут мы ўсе забылі ўказанні **т. Гікало** на XV з'ездзе, у нас яшчэ ёсць факты пагардліва-панскіх адносін да гэтай сістэмы промкааперацыі. Павярнуць гэту справу рашуча, як умеюць большэвікі, пад кіраўніцтвам **т. Гікало**, вырашыць вялікія пытанні, вывесці нашу рэспубліку і па гэтай частцы на перадавыя пазіцыі, паказаць, што большэвікі Беларусі нават такую цяжкую справу, як Сампромкааперацыя могуць выцягнуць, і я ўпэўнен, што калі мы за гэта возьмемся, мы безумоўна выцягнем і выканаем указанне, якое рабіў т. **Гікало** на XV з'ездзе КП(б)Б па гэтаму пытанню.

Наша кіраўніцтва Наргасуліку дало мне за мінулы год лічбы аб сабекошце. Мы патрацілі толькі па сабекошту па прамысловасці БССР у мінулым годзе 45 млн. руб. Калі падлічыць, колькі мы ў гэтым годзе ўжо патрацілі па сабекошту, то гэта будзе лічба каля 10 млн. руб. Што тут робіцца? Хто нас грабіць?

Што робіцца з сабекоштам? Ніхто барацьбой за сабекошт не кіруе. Лічбы па сабекошту для нашых гаспадарнікаў—заўсёды нечаканасць, а тут трэба кожны дзень глядзець і глядзець.

Таварышы забываюць, што ўсё ідзе з адной касы і недадача па сабекошту прымушае нашага Наркамфіна т. Хацкевіча ламаць галаву—адкуль яму ўзяць сродкі на капіталаўкладанні і т. д. І зусім праў наш наркамфін, калі на кожным паседжанні Бюро ЦК, пры разглядзе пытанняў прамысловасці, высоўвае гэта пытанне, але яго дрэнна слухаюць, а банкі нашы не кантралююць гэту справу. Банкі нашы думаюць аб тым, дзе ім націснуць, не выдаць, калі трэба, а за сабекоштам не сочаць.

Нашы наркаматы не арганізуюць барацьбы за сабекошт. У іх зводак па сабекошту няма. У іх зводкі толькі колькасныя. Гэта справа сур'ёзная і тут мы не выконваем аднаго з асноўных указанняў тав. Сталіна. Ясная справа, што стварыць тут рашаючы пералом—справа гонару ўсіх комуністаў і комсамольцаў, працуючых у прамысловасці Беларусі.

Мы маем рад дасягненняў па частцы матэрыяльна-бытавых пытанняў. Мы ведаем, што ў радзе раёнаў ёсць свабодны продаж хлеба, ёсць ужо індывідуальныя гароды і т. д. Гераўкер моцна падцягнуў гэту справу. Гэта вялікае дасягненне нашай партарганізацыі. Многа тут было недачотаў. (Аб гэтым няма часу рассказваць.) Вось, напр., старшыня горсовета Гомеля т. Карначоў ведае, як тут абстаяла справа. Але сур'ёзным недахопам профсаюзных арганізацый з'яўляецца тое, што профактыў у барацьбе за промфінплан амаль не ўдзельнічае. Мы не можам назваць ні аднаго прыкладу, ні аднаго факту, калі-б тав. **Лісковіч**—ЦСПСБ або ЦП саюза за невыкананне промфінплана зняў-бы старшыню фабкома. Мала нашы прафсаюзы займаюцца, як гаварыў т. **Гікало** на Бюро, калі разглядалі гэты праект—дробязямі рабочага быту і нашы кіраўнікі многа шляпяць у гэтым. У нас ёсць рад фактаў пагардлівых, няўважлівых адносін нашых гаспадарнікаў і часткі прафсаюзнікаў да пытанняў матэрыяльна-бытавога абслугоўвання рабочых. Такія факты ёсць нават і з боку партарганізацый прадпрыемстваў—вось адзін факт (з рассказаў інструктара ГК). На шчотачным камбінаце на партсходзе аб чымсьці талкуюць. У чым-жа справа? Аказваецца, стаіць пытанне аб выключэнні адной комуністкі з партыі. За што? За тое, што яна не наведвае сходаў. У канцы разбору атрымлівае слова гэта комуністка і гаворыць: „А чаму вы не пацікавіліся, з-за чаго я стала пасіўнай. Ці ведае хто-небудзь з вас, што я хварэла 30 дзён двухбаковым запаленнем лёгкіх і не было каму мне вады падаць у часе хваробы? А ці ведае парторг, што я прымушана наведваць штодзённа тубдыспансер? Ніхто ні разу са мною не гутарыў, у мяне ніхто не быў, а адразу паставілі пытанне аб выключэнні мяне з партыі". Аказваецца, яна зварачалася ў фабком з просьбай выдаць ёй дапамогу, а фабком на працягу 2 месяцаў яе заяву так і не разбіраў. І калі пайшлі да яе на кватэру, тады толькі ўбачылі, што яна вельмі дрэнна жыве.

Дзе тут падыход да жывога чалавека, дзе тут чулыя адносіны?

Я павінен сказаць тут на пленуме, што ў радзе месц у нас, у Беларусі, надта многа адміністравання з жывымі людзьмі, мала канкрэтнага падыходу.

Сутнасць справы заключаецца ў тым, што ў нас мелі месца на некаторых прадпрыемствах паасобныя факты нячулых, агідных адносін да жывога працоўнага чалавека. Тав. Гікало, можна сказаць аб пісьме, якое Вы пісалі некаторым райкомам па гэтаму пытанню?

Гікало—Гаварыце, гаварыце.

Тав. Гікало вымушан быў па гэтаму пытанню напісаць пісьмо вельмі буйным гаркомам аб тым, што ЦК вельмі трывожаць паасобныя факты грубага адміністравання ў адносінах да паасобных рабочых, што яны павінны разглядаць кожны факт не з пункту гледжання судова-следчага, а з пункту гледжання партыйна-палітычнага і моцна біць па віноўніках у кожным паасобным выпадку.

Усё гэта, вядома, перш за ўсё звязана з пытаннем аб перабудове нашых партыйных арганізацый. Тут усё пытанне ў тым, што ў нас дрэнна пастаўлена масавая профсаюзная і партыйная работа, бо, па сутнасці гаворачы, калі браць віноўнікаў прарыву, які мы маем у прамысловасці з пункту гледжання палітычнага, то гэта—партарганізацыя, гэта парторг, гэта сакратар партыйнага камітэта, гэта гарком і райком, гэта—мы—партарганізацыя Беларусі ў цэлым. Вось як, а не інакш абстаіць справа. А паглядзіце, што ў нас робяць профсаюзы ў галіне соцспаборніцтва? У нас-жа толькі 65 проц. усяго складу рабочых ахвачана соцспаборніцтвам і з іх толькі 68 проц. выконваюць свой план. Прычым, „найлепшыя“ паказчыкі дае шкляная прамысловасць.

Кіраўнік Шклотрэста, т. Кроль, тут?

Кроль—тут.

Вось гардзіцеся дасягненнямі ў гэтай галіне—толькі 37 проц. з усёй колькасці ўдарнікаў выконваюць план.

Гікало—Наогул самае горшае становішча гэта ў шкляной прамысловасці.

Па шкляной толькі 59 проц., па абутковай—61 проц., па Шклоўскай папяровай фабрыцы—21 проц. Гэта ганьба і толькі ганьба, іншага слова нельга сказаць. Ганьба наша, ганьба профсаюзаў, ганьба нашай партыйнай арганізацыі перш за ўсё.

Я хачу сказаць аб складзе нашых рабочых. У нас ёсць 46 проц. жанчын, у нас 40 проц. усіх рабочых складае моладзь да 23-х год. Ясная справа, што роля комсамола, роля партмасавай арганізацыйнай работы тут надзвычай вялікая. Трэба каб жанчыны гэтыя былі абслужаны, каб моладзь была як след арганізавана, каб нашы формы работы былі для яе цікавымі—гэта-ж вялікая справа. І я павінен сказаць, як правільна гаварыў т. **Гікало**, што комсамол Беларусі, які правярнуў за апошні час рад вялікіх спраў, у гэтай частцы яшчэ дрэнна працуе на радзе прадпрыемстваў.

У чым сутнасць перабудовы партарганізацыі—ні адзін раз указваў **т. Кагановіч.** Сутнасць яе састаіць у тым, каб дабрацца да жывога чалавека. Аб перабудове партработы мы будзем судзіць па таму, колькі людзей раней забітых, раней загнаных, раней партыйнай арганізацыі невядомых—сталі актыўнымі, сталі вядомымі.

Я не бяруся вычарпаць гэтым пытанне аб перабудове, але мне здаецца, што рад сур'ёзных заўваг тут трэба зрабіць.

На радзе прадпрыемстваў партыйныя дні і ўсе наогул сходы ператвараюцца ў тыя-ж вытворчыя нарады, а дзе Далека-ўсходнія падзеі, міжнароднае і ўнутранае становішча і т. д.? Хто сказаў, што

гэтыя пытанні можна не раз'ясняць шырокім слаям членаў партыі і ўсім рабочым?

Таму мы прапануем скарыстаць адзін вопыт маскоўскіх бальшэвікоў—гэта так званыя палітдні, якія праводзяцца адзін раз у месяц. Яны арганізуюцца так: за 3 дні да прызначэння палітдня збіраюць пытанні, якія цікавяць рабочых. Тэма палітдня, а таксама дакладчыкі зацвярджаюцца бюро ЦК, гаркома і райкома. Людзі, якім бюро ЦК, гаркома і райкома не давяраюць, не пасылаюцца ў якасці дакладчыкаў.

Гікало—Раней многія адмаўляліся ісці рабіць даклад, а зараз мы самі будзем пасылаць толькі правераных.

Трэба пасылаць такіх, якія-б маглі зацікавіць, узняць масу. Мы будзем пасылаць такіх людзей, у якіх упэўнены, што яны могуць раз'ясніць лінію партыі. Тое-ж самае павінны зрабіць гаркомы і райкомы КП(б)Б.

Раней звычайна так бывала: пачнуць даклад з міжнароднага становішча, гавораць аб Японіі, аб Далёка-ўсходняй небяспецы, а потым пераходзяць к таму, што трэба лепш працаваць каля свайго станка, на сваёй фабрыцы, потым пераходзяць з агульных на мясцовыя пытанні.

Зараз пасля дакладаў усе запіскі павінны збірацца ў ЦК, гаркоме ці райкоме і па ўсіх, хвалюючых рабочых, пытаннях будуць прымацца адпаведныя меры, з апублікаваннем, што вось, моў, па такіх-то і такіх-то пытаннях прыняты такія-то меры, а старшыня ФЗМК, работнікі ЦСПСБ павінны будуць адчытацца, якія мерапрыемствы былі прыняты па пытаннях мінулага палітдня. Гэта арганізоўвае масы, яшчэ больш згуртоўвае іх вакол партыі, выклікае вялікі энтузіязм у барацьбе за план.

А ў Менску мы будзем пасылаць дакладчыкамі адказных работнікаў. Возьмем, напр., т. Васермана—ён воstраумнейшы дакладчык. Чаму-ж абавязкова толькі т. Васермана трэба пасылаць ліквідаваць прарыў на Крычаўскім або іншым заводзе, чаму нельга т. Васермана паслаць на гэты-ж крычаўскі завод, але ўжо для раз'яснення рабочым і служачым міжнароднага становішча? Я ўпэўнен, што ён з задавальненнем паедзе і з такім даручэнннем ЦК. Іменна так трэба зараз ставіць пытанне. Мы будзем у нас на прадпрыемствах змагацца за тое, каб унядрыць „палітдзень“ у быт беспартыйных рабочых таксама, як у комуністаў увайшоў у быт партдзень.

Я, таварышы, хачу сказаць яшчэ наступнае. У нас ёсць такія раёны, якія з'яўляюцца сельскагаспадарчымі. Некаторыя сакратары гэтых райкомаў сядзяць на гэтым дакладзе як імянніннікі. Возьмем напр., сакратара Суражскага райкома. У яго на фабрыцы імя Вароўскага ня дрэнна выконваецца план, але там дрэнна пастаўлена партмасавая работа. На гэтым прадпрыемстве старшыня фабкома—ён-жа сакратар парткома. Калі яму выгадна, ён націскае на дырэктара, як фабком, калі яму выгадней з другога бока, ён націскае на дырэктара па лініі парткома, а дырэктар круціцца ў гэтым „трыкутніку“ і ў рэзультаце атрымалася склока. Дырэктар фабрыкі прысылае т. Гікало тэлеграму—„ратуйце, гіну“. ЦК прыходзіцца пасылаць „выратавальную брыгаду“. Прывозяць у ЦК дырэктара, старшыню фабкома. За поўгадзіну вырашаем пытанне, ціскаем адзін другому рукі і ўсё, як быццам наладжана. Няўжо-ж абавязкова трэба было т. Гікало заняцца гэтым пытаннем.

Чаму-ж райком нічога не зрабіў, а яны саслаліся, што займаюцца шкляной фабрыкай—„**Ноўка**“? Прыязджаем, глядзім—„Ноўка“ у пра-

рыве. Хто-ж вінават? Райком вінават. Дзе-ж ён? Аказваецца, ён сяўбой займаецца. Ну, добра, паглядзім, як-жа ў яго сяўба ідзе? Аказваецца і па сяўбе ён на апошнім месцы. Значыцца райком і сяўбой як след не займаўся. У т. Шундэрова раён вельмі цяжкі, яго фабрыка „Ноўка" знаходзіцца у 50 кілометрх ад раёна, туды ўлезеш, не вылезеш (с м е х). Мы думаем, што т. Шундэроў улічыць гэтыя заўвагі і як большэвік возьмецца за работу і будзе добра кіраваць усёй гаспадаркай раёна.

Вось яшчэ адзін прыклад. Наш інструктар па харчовай прамысловасці тав. **Штромберг** абследвала рад спіртаводачных заводаў і выявіла, што там ніякай палітычнай работы з рабочымі не вядзецца, на адным з іх (Смалявічы) дырэктар займаўся самадурствам, а райком глядзеў на гэта скрозь пальцы і прыняў рашучыя меры толькі пасля таго, як там пабываў наш інструктар. Бачыце, раённае кіраўніцтва лічыць ганебным займацца спіртаводачным заводам. Гэта, вядома, няправільна, большэвікі не могуць так адносіцца да справы. А ў нас такіх дробных заводзікаў—маслабойных, крахмальных і т. д.—сотні і сотні, яны распалажаны ў аддаленых кутках і ўвагу да іх трэба праявіць значна большую, чым праяўляецца зараз.

Некалькі слоў аб вылучэнні новых работнікаў. Усім вядома, што нельга гаварыць, што ў нас няма людзей. Колькі раз гаварылі тт. **Ленін, Сталін, Кагановіч** аб тым, што ў нас колькі хочаце людзей, але мы дрэнна ведаем, што ў нас ёсць жывыя, добрыя большэвікі, трэба толькі дапамагчы ім вылучыцца. А што ў нас робіцца, каб даведацца, вылучыць і выявіць гэтых людзей? Трэба па праўдзе сказаць, яшчэ вельмі і вельмі мала. У нас усё яшчэ прадаўжаюцца гутаркі аб тым, што людзей няма.

Што мы намячаем зрабіць у Промаддзеле ЦК па вылучэнню новых работнікаў? Мы хочам перагледзець усіх намеснікаў. У нас ёсць людзі, якія сядзяць па многу год намеснікамі. Калі яны дрэнна працуюць, то трэба іх паслаць уніз, а калі добра, то пара вылучыць на самастойную работу. Гэта для нас вялікі і каштоўны рэзерв.

Што мы яшчэ намячаем? Мы бярэмся за выкарыстанне і ў гэтай рабоце вопыту маскоўскіх большэвікоў. МК ВКП(б) прарабіў наступнае: з прадпрыемстваў было ўзята некалькі дзесяткаў вопытных пролетарыяў—членаў партыі. Іх паслалі на некалькі месяцаў на курсы, спецыяльна арганізаваныя на станцыі Бакінка. Там гэтыя людзі займаліся. Потым бюро МК іх размяркоўваў, устанавіўшы, што без рашэння Бюро МК зняць іх ніхто не мае права. З іх зараз выраслі добрыя таварышы. Мы хочам такую штуку прарабіць і ў нас у Беларусі. Мы ўжо сёе-тое арганізавалі. Тав. **Гікало** нас актыўна падтрымаў у гэтай справе. Я хачу, каб сакратары райкомаў не праяўлялі мясніцкіх тэндэнцый і далі нам на гэтыя курсы патрэбных людзей. Мы хочам правесці такі вопыт па Беларусі, але мне здаецца, што не шкодзіла-б такую работу правесці і кожнаму гаркому і райкому ў паасобку.

Тав. **Гікало** на XV з'ездзе КП(б)Б выступаў з лозунгам—**„дагнаць па прамысловасці перадавыя вобласці Савецкага саюза"**. Як працуюць перадавыя вобласці вы ведаеце. Масква з года ў год, з месяца ў месяц, з квартала ў квартал выконвае промфінплан па кожнаму раёну горада. Мы паставілі сабе задачай дабіцца такога-ж становішча і ў нас. Віцебск амаль дабіўся гэтага. За ім ідзе Барысаў, падцягнуўся Гомель. Падыходзіць к 100 проц. па лёгкай прамысловасці Магілеў, Бабруйск.

Я прапаную, каб пленум гэту задачу барацьбы за выкананне плана

горадам, раёнам у цэлым запісаў у рэзалюцыю пленума як баявую задачу ўсіх нашых арганізацый. Наша задача браць на буксір адстаючыя прадпрыемствы, дапамагаць ім і тады мы іх выцягнем.

Таварышы, у нас ёсць прадпрыемствы, якія для Саюза і рэспублікі маюць выключнае значэнне: напр., Добрушская фабрыка, Гомельскі шклозавод (тут выступаў яго дырэктар т. Гайдамак), акулярная фабрыка, „Сцяг індустрыялізацыі“, „КІМ“, Могвалакно, Белдрэс, Оршанскі мясакамбінат і т. д. ЦК у апошні час многа імі займаўся. Тут трэба сказаць аб тым факце, што наш кіраўнік—т. **Гікало**—выключную ўвагу ўдзяляе прамысловасці, кожнаму прадпрыемству, кожнаму сакратару, парткому, дырэктару. Ён кожны дзень запытвае, як план цягне прамысловасць. Гэта можна прасачыць па таму факту, што мы на час пасеўнай не аслабілі работу прамысловасці. Гэта факт выключна паказальны і сведчыць аб новай ступені, на якую паднімаецца партарганізацыя Беларусі ў сваёй бягучай рабоце. Гэта ступень к ліквідацыі кампанейшчыны, зацішша на адным фронце, калі партыя займаецца якім-небудзь іншым пытаннем.

Гэту справу трэба замацаваць і не дапускаць звычайнага сенакоснага і ўборачнага аслаблення ўвагі да прамысловасці. Неабходна замацаваць тую ўвагу да прамысловасці, якая маецца з боку ЦК да кожнага РК і зрабіць так, каб лета, якое ў Беларусі, па справядліваму выражэнню т. Гікало,—рашае, корміць нашу прамысловасць на ўвесь год (загатоўкі торфу, лесу, сыравіны), што лета ў нас павінна быць праведзена ўзорна. Мы павінны выцягнуць нашу прамысловасць на перадавыя пазіцыі.

У нас дрэнна абстаіць справа з будматэрыяламі, а гэта таксама ўся мясцовая прамысловасць. Тав. Іваноў—Упаўнаважаны Камісіі Совецкага Кантролю, калі мы папярэдне разглядалі праект пастановы на бюро, вельмі справядліва настойваў, каб націскаць на будматэрыялы.

У нас дрэнна з укладаннямі ўласных сродкаў прамысловасці ў капітальнае будаўніцтва. Правільна падкрэслівае гэту справу тав. Хацкевіч. Гэта справа залежыць ад выканання плана па сабекошту, ад выканання плана наогул. Трэба ўзяць пад асобы наш кантроль такія пабудовы, як Оршанскі камбінат, Дылераўскую станцыю, другую чаргу Белдрэс, Менскую ЦЭЦ і інш.

Мы не можам не ўлічваць, што ўсе гэтыя будуючыяся прадпрыемствы ўключаны ў гадавы промфінплан. Калі мы іх не выцягнем—мы сядзем, а мы не можам гэтага дапусціць. Мы павінны звярнуцца з заклікам да перадавых прадпрыемстваў, каб яны прадаўжалі перавыконваць план з тым, каб перакрыць ганьбу адстаючых прадпрыемстваў, і разам з тым звярнуцца да ўсіх гаркомаў і райкомаў, каб падцягнуць адстаючыя прадпрыемствы. ЦК возьме гэтыя 37 прадпрыемстваў пад свой асобы нагляд і будзе іх выцягваць.

У нас непачаты край барацьбы і работы па далейшаму ажыццяўленню рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б і ўказанняў тт. **Сталіна** і **Гікало**. Мы толькі пачалі іх праводзіць. Слаба працуе яшчэ большасць нашых парткомаў, марудна яшчэ перабудоўваюцца партыйныя арганізацыі. ЦК КП(б)Б на чале з тав. **Гікало**, пад яго непасрэдным аператыўным кіраўніцтвам, пры дапамозе і кіраўніцтве ЦК ВКП(б) і нашага любімага правадыра тав. **Сталіна**—выканае гэтыя задачы.

Усе бальшавікі Беларусі па-баявому забяспечаць ліквідацыю перманентнага адставання Беларусі і па лініі прамысловасці (доўгія апладысменты).

К. Ратнек

# Выкарыстаць усю магутнасць трактарнага парка

У справе соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі трактару, безумоўна, належыць вядучая роля.

У гэтым годзе 204 000 трактароў у 3 млн. 100 тыс. конскіх сіл бараздзяць калгасныя і соўгасныя палі нашага Саюза, паднімаюць зямлю для будучага ўраджаю нашых соцыялістычных палёў. 204 000 трактароў—гэта

> «сіла... не малая, здольная выкарчоўваць усе і ўсякія карэнні капіталізма ў вёсцы. Сіла, удвая перавышаючая тую колькасць трактароў, аб якой гаварыў у свой час Ленін, як аб далёкай перспектыве» **(Сталін).**

У арсенал тэхнічнага ўзбраення ўваходзяць толькі па лініі МТС Саюза: 122300 трактароў, 11500 камбайнаў, 17600 рухавікоў і лакамабіляў, 50 тысяч складаных і поўскладаных малатарань, 13500 грузавых аўтамабіляў, каля 1 300 электраўстановак для малацьбы і сотні тысяч складаных прычапных машын. Агромны машынны парк атрымаў салідную рамонтную базу ў колькасці 2 000 рамонтных майстэрань.

На палях калгасаў і соўгасаў БССР працуюць 3 276 трактароў. У веснавой пасеўнай кампаніі гэтага года ўдзельнічала 1 789 трактароў МТС, з якіх 695 трактароў маркі ХТЗ, 920 трактароў маркі ФП, 9 трактароў маркі ЧТЗ і 165 трактароў іншых марак. У пераводзе на механічныя сілы гэта азначае 20 782 сілы. У мінулым годзе большую частку нашых палёў падымалі маленькія «Фардзоны-пуцілаўцы», у гэтым годзе асноўная маса пасеўнай плошчы паднімалася ўжо дзецішчамі нашых трактарных гігантаў у Харкаве і Сталінградзе.

Трактарны парк БССР асабліва расце, пачынаючы з 1929 года, года пачатку масавай калектывізацыі, даўшай магчымасць прымяняць складаныя сельска-гаспадарчыя машыны.

Трактар—вораг хутарской гаспадаркі, вораг мяжы, прадстаўнік больш высокай і перадавой тэхнікі буйнай соцыялістычнай гаспадаркі. Іменна таму нядзіўна, што класавая барацьба з асобай сілай разгарнулася вакол трактара. Работа трактароў не ўкладаецца ў рамкі хутарской гаспадаркі—гэтага ідэалу нацдэмаўскай контррэволюцыі. Трактар патрабуе іншых прастораў і абвяўляе барацьбу за калектывізацыю, за больш высокія ўраджаі соцыялістычных палёў. Вось чаму класавы вораг—кулак, бандыт, белы афіцэр, шпіён, нацыянал-інтэрвент—надзяваў замасленую блузу трактарыста, рабіўся механікам і трактарыстам і садзіўся на трактар для таго, каб вывесці яго са строю. Шкоднікі сканцэнтравалі ўсе свае магчымасці на вывадзе са строю трактарнага парка, а «тэарэтыкі» контррэволюцыі падмацавалі

гэту справу «тэарэтычнай» базай: трактар, моў не прыспасоблен, не падыходзіць да спецыфічных умоў Беларусі.

У гэтай сувязі будзе зусім зразумела, чаму ўся работа і асабліва першы перыяд работы палітаддзелаў характэрны рашучай ачысткай МТС, МТМ і трактарных атрадаў ад чужакоў і шкоднікаў.

Далейшая барацьба за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне МТС і за найбольш поўнае і правільнае выкарыстанне трактарнага парка патрабуе таксама сугубай пільнасці к класаваму ворагу, які прабуе пранікнуць у нашы рады. Трактар павінен быць у надзейных руках чэснага калгасніка і пролетарыя, умеючага і жадаючага берагчы яго і працаваць на ім чэсна і сумленна. Без гэтага нямысліма наша барацьба за ўзорную работу трактарнага парка. Трактарыст з'яўляецца вядучай і асноўнай фігурай у МТС, бо перш за ўсё яму даверан трактар—гэта асноўная машына, асноўная механізаваная сіла ў соцыялістычным земляробстве.

Растучая з кожным годам тэхнічная ўзброенасць сельскай гаспадаркі прад'яўляе нам усё большыя і большыя патрабаванні. Першае патрабаванне—гэта **па-сапраўднаму аўладаць той тэхнікай, якую мы маем у сельскай гаспадарцы і якая сканцэнтравана ў МТС.**

Лозунг аўладання тэхнікай, даны тав. **Сталіным**, цалкам і поўнасцю адносіцца да работы МТС і ў асаблівасці нашага трактарнага парка. Адна з важнейшых і першачарговых задач, якая стаіць перад работнікамі МТС і палітаддзелаў—яна з усёй сілай выцякае з аналізу работы МТС у веснавой сяўбе гэтага года—заключаецца ў тым, каб **выкарыстаць усю магутнасць трактарнага парка** і гэтым па сутнасці стварыць асноўную прадпасылку для **выкарыстання ўсёй астатняй тэхнікі МТС** (прыцапны інвентар і т. д.).

Аўладаць сельска-гаспадарчай тэхнікай, выкарыстаць усю магутнасць трактарнага парка—гэта значыць дабіцца таго, каб станавы хрыбет соцыялістычнай перабудовы нашай вёскі—МТС—быў-бы сапраўды **вядучым** у кожным раёне, выцягваў-бы адстаючыя раёны і вывеў-бы сельскую гаспадарку Беларусі на шырокі шлях далейшага развіцця і росквіту.

Поўнасцю выкарыстаць тую магутнасць, якая заложана ў нашым трактарным парку, устанавіць сапраўды большэвіцкі парадак у доглядзе і ў скарыстанні трактароў, знішчыць агромны прастой машын, арганізаваць адпаведны тэхнічны догляд за трактарам, арганізаваць своечасовы бягучы і сярэдні рамонт, арганізаваць папераджальны рамонт, устанавіць моцную большэвіцкую дысцыпліну сярод работнікаў трактарнага парка, забяспечыць трактарны парк і трактарыста ўсім неабходным для бесперабойнай і прадукцыйнай работы, даць трактару падрыхтаванага, кваліфікаванага трактарыста і зямельныя масівы ўпаўне дастойныя магутнасці трактара—у гэтым перш за ўсё і галоўным чынам гвозд пытання.

Тав. **Сталін** у сваім гістарычным дакладзе на XVII партыйным з'ездзе сказаў, што.

> «Наяўнасць агромнага парка трактароў і машын абавязвае, здавалася-б, зямельныя органы трымаць гэтыя каштоўныя машыны ў парадку, своечасова іх рамантаваць, выкарыстоўваць іх на рабоце больш ці менш зносна. Што робіцца імі ў гэтай галіне? На жаль, вельмі мала. Захоўванне трактароў і машын нездавальняючае. Рамонт таксама нездавальняючы, бо да гэтых пор яшчэ не хочуць зразумець, што аснову рамонта састаўляе

бягучы і сярэдні рамонт, а не капітальны. Што датычыць выкарыстання трактароў і машын, то нездавальняючае становішча гэтай справы да таго ясна і агульнавядома, што не патрабуе доказаў».

Гэтыя ўказанні правадыра нашай партыі т. **Сталіна** з'яўляюцца праграмай работы для нашых зямельных органаў, МТС і палітаддзелаў. У радзе месц, безумоўна, у працэсе веснавой сяўбы была разгорнута сапраўдная барацьба за ажыццяўленне гэтых указанняў. І іменна там, дзякуючы гэтаму, дабіліся значных поспехаў у рабоце ўсёй сельска-гаспадарчай тэхнікі, трактароў у першую чаргу. Але лічыць, што ўказанні правадыра па гэтаму пытанню намі ўжо выкананы, азначала-б займацца самаабманам і антыпартыйнай дэмабілізацыяй работнікаў зямельных органаў і МТС. Мы павінны мабілізаваць усю нашу энергію на выкананне ўказанняў тав. **Сталіна** аб рабоце трактароў і іншых сельска-гаспадарчых машын.

Як па тэмпах, так і па якасных паказчыках і па арганізаванасці веснавая сяўба гэтага года прайшла ў БССР значна лепш, чым ва ўсе папярэднія гады. План пасеву зернавых і бульбы быў выканан на 35—40 дзён раней, чым у мінулым годзе. Сяўба прайшла пры вылючна вытворча-палітычным уздыме мас калгаснікаў. Усё гэта з'яўляецца рэзультатам бальшэвіцкага кіраўніцтва ЦК ВКП(б) на чале з т. **Сталіным,** вялікай арганізацыйна-масавай работы партыйных арганізацый і палітаддзелаў Беларусі і чэснай работы калгасных мас. Поспехі БССР у веснавой сяўбе ў значнай меры таксама былі абумоўлены той сельска-гаспадарчай тэхнікай, якая была кінута нашымі МТС на калгасныя палі. Вынікі барацьбы за тэмпы і якасць сяўбы абумоўліваліся бальшэвіцкім кіраўніцтвам работай нашых сельска-гаспадарчых машын, трактароў у спалучэнні з работай жывой цяглавай сілы і правільнай арганізацыяй працы саміх калгаснікаў.

Каля 10 проц. трактарнага парка ў гэтым годзе **ўпершыню** ўдзельнічала ў апрацоўцы палёў, асноўная-ж маса нашых трактароў, каля 80 проц. усяго парка, зімой капітальна рамантавалася. Таму неабходна паглядзець, як быў вытрыман экзамен нашымі машынна-трактарнымі майстэрнямі, дзе гэтыя трактары рамантаваліся.

Усе даныя пацвярджаюць, што зімняя рамонтная кампанія, не гледзячы на цэлы рад істотнейшых недахопаў, прайшла непараўнальна лепш, чым за ўсе мінулыя гады. Аб гэтым ярка гавораць колькасныя і якасныя паказчыкі веснавой пасеўкампаніі і даныя аб «захворванні» нашых трактароў у працэсе самой работы.

У перыяд веснавых работ 1933 г. вышлі са строю, з прычыны сур'ёзных аварый або сур'ёзнага псавання важнейшых дэталей, 350 трактароў, або каля 25 проц. усяго парка. Усе гэтыя трактары трэба было тэрмінова і капітальна рамантаваць. Другая-ж частка трактарнага парка, не менш 70 проц., адчувала вострую неабходнасць у сярэднім рамонце і толькі нязначны процант трактароў абышоўся бягучым рамонтам.

У 1934 г. мы маем зусім іншыя паказчыкі: сур'ёзных аварый за красавік і май было зарэгістравана 13, г. зн. не 25 проц., а ўсяго толькі 0,8 проц.; к 10-му-ж чэрвеня бягучага года лік выхадаў трактароў з веснаворыва, узняцця цаліны і папараў у капітальны рамонт састаўляе 3,3 проц. (57 выпадкаў); на сярэдні рамонт пастаўлен 341 трактар (20 проц.); астатнія-ж трактары, прапрацаваўшы палажаную ім норму, пастаўлены на чарговы агляд і бягучы рамонт.

Аб чым гавораць прыведзеныя даныя?

Яны гавораць, па-першае, аб тым, што зімні рамонт трактароў быў праведзен, не гледзячы на цэлы рад сур'ёзных недахопаў, значна лепш, чым у мінулым годзе. Гэта з'явілася рэзультатам таго, што кіраўніцтву МТС, палітаддзелам і партыйным арганізацыям удалося правесці рамонтную кампанію не толькі як тэхнічна-гаспадарчую, але ў такой-жа меры і як важнейшую **палітычную** кампанію. Даныя яшчэ і яшчэ раз падкрэсліваюць, што зімнім рамонтам у вялікай меры рашаецца поспех веснавой і летняй работы трактароў. Таму МТС і палітаддзелам у гэтым годзе прыдзецца яшчэ больш арганізавана і лепш правесці рамонтную кампанію.

Прыведзеныя даныя, па-другое, гавораць аб тым, што тэхнічная кваліфікацыя таксама як і палітычная актыўнасць і свядомасць нашых трактарыстаў сільна ўзраслі, бо адзін добры рамонт трактароў без гэтай рашаючай акалічнасці (без добрых трактарыстаў) ні ў якім разе не мог-бы забяспечыць бесперабойную работу трактарнага парка. Праведзеныя ўсімі МТС курсы трактарыстаў далі, безумоўна, станоўчыя рэзультаты. І сапраўды, дзе гэтыя курсы былі праведзены добра, там мы не мелі ні аднаго выпадку аварыі (Слуцкая, Дзяржынская, Церэхаўская і інш. МТС). Там-жа, дзе пытанне аб падрыхтоўцы трактарыстаў не было выдзелена, як важнейшы, рашаючы рычаг, там, мы мелі рад аварый (Рэчыцкая, Сіроцінская, Дубровенская МТС). Пераважная большасць аварый адбылася, галоўным чынам, не па віне дрэннага рамонту, а па віне паасобных трактарыстаў, некваліфікаваных, непадрыхтаваных, палітычна несвядомых і варварскі адносячыхся да сваіх машын. Задача падрыхтоўкі для нашай сельскагаспадарчай тэхнікі высока-кваліфікаваных людзей, тэхнічна і палітычна пісьменных трактарыстаў, задача пастаяннай сістэматычнай работы па павышэнню тэхнічнай кваліфікацыі трактарыстаў—важнейшая задача МТС і палітаддзелаў. Наіўна думаць, што малакваліфікаваны брыгадзір, тэхнічна непісьменны трактарыст здолеюць забяспечыць правільны тэхнічны догляд за машынай. Трэба прама прызнаць, што значная частка трактарыстаў, атрымаўшых «пасведчанне трактарыста», часта не адказвае свайму прызначэнню. Адсюль з усёй вастрынёй паўстае пытанне аб арганізацыі **тэхнічнай вучобы** ў працэсе самой работы, **на канкрэтным вопыце дня.**

Вышэйпрыведзеныя даныя аб «захворванні» трактароў у 1933 і 1934 гг., нарэшце, сведчаць аб тым, што ў працэсе работы трактароў на сяўбе і іншых работах гэтага года мы прыступілі к ажыццяўленню, але не ўсюды яшчэ ажыццяўляем указанне тав. **Сталіна** аб тым, што асновай павінен быць сярэдні і бягучы рамонт, а не капітальны. Зразумела, указанне тав. **Сталіна** не значыць, што МТС павінны механічна скарачаць планы капітальнага рамонту, што дастаткова ўсе машыны, у тым ліку старыя, зношаныя, фармальна залічыць у катэгорыю сярэдняга рамонту, каб лічыць выкананымі рашэнні XVII з'езда. Гэта было-б самаабманам і очкаўцірацельствам.

Трэба па іншаму адносіцца да машыны, трэба асвоіць тэхніку трактара, спалучыць максімальнае выкарыстанне машыны з мінімальным яе зносам і тым самым забяспечыць як мага большы тэрмін яе службы справе социялізма. У гэтым—важнейшая задача палітаддзелаў і ўсіх работнікаў механізаванага социялістычнага земляробства. Для гэтага трэба найстражэй праводзіць у жыццё вераснёўскую пастанову СТО аб трактарнай гаспадарцы і рамонце, дакладна выконваць правілы тэхнічнага догляду і перш за ўсё патрабаванні

прафілактычнага агляду і рамонту. Важней, вядома, папярэджваць паломкі і аварыі, чым выпраўляць іх. І папераджальны агляд і рамонт павінны рабіцца ў абавязковым парадку. Незалежна ад тэхнічнага стану машын і месца іх знаходжання, старшы механік ці брыгадзір абавязаны знімаць з работы трактары і накіроўваць для рамонту. Графік агляду і рамонту павінен быць непарушным законам.

Толькі пры гэтай умове, у спалучэнні ўзорнай якасці рамонту з чэснымі адносінамі да справы саміх трактарыстаў, трактар паслужыць справе сацыялістычнай рэканструкцыі нашай вёскі ўвесь палажаны яму тэрмін. Асновай будзе сярэдні і бягучы рамонт.

Гутарка ідзе, стала быць, аб сапраўднай тэхнічнай культуры, аб штодзённай барацьбе за асваенне тэхнікі ўсімі работнікамі МТС і палітаддзелаў, аб выхаванні ў кожным трактарысце пачуцця найвялікшай адказнасці за дзяржаўную машыну, аб недапушчэнні да машыны класавага ворага.

Па афіцыяльнай зводцы вучотна-статыстычнага аддзела Наркамзема Саюза МТС Беларусі (па даных толькі 56 з 71) на 31 мая г.г. план трактарных работ у калгасах выканалі на 59,5 проц. Гэта крыху больш, чым выканалі на гэта-ж чысло свой план трактарных работ калгасы МТС Заходняй вобласці (55,9 проц.), Маскоўскай вобласці (52,2 проц.), Ленінградскай вобласці (50,7 проц.), Ів. Прамысловай вобласці (40,0 проц.), але значна ніжэй сярэдняга процанту выканання МТС плана трактарных работ па Саюзу. Неабходна, між іншым, падкрэсліць, што ў радзе месц існуюць агідныя адносіны да ўліку работы трактароў. Палітаддзелы павінны пераадалець гэтыя недапушчальна бюракратычныя пагардлівыя адносіны да ўліку работы трактароў і прадстаўлення адчотнасці аб ёй дзяржаве.

Канчатковых вынікаў выканання плана трактарных работ яшчэ няма, але ўжо цяпер можна сказаць, што процант выканання плана ў гэтым годзе перавышае процант выканання плана трактарных работ мінулага года: на 10 чэрвеня ворыва пад пасеў выканана на 76 проц; план сяўбы трактарнымі сеялкамі выканан толькі на 27 проц.; план дыскавання, баранавання і культывацыі выканан на 37,5 проц. Гэтыя даныя патрабуюць некаторага аналізу і ставяць з усёй вастрынёй пытанне аб больш правільным, больш рацыянальным выкарыстанні трактарнага парка.

У мінулым годзе наглядалася, як масавая з'ява, выкарыстанне трактароў галоўным чынам на малацьбе, пры вельмі дрэнным выкарыстанні іх на работах па апрацоўцы глебы. У гэтым годзе, як аб гэтым сведчаць вышэйпрыведзеныя лічбы, нашы трактары працавалі на апрацоўцы глебы «чэсна», але вельмі часта бывалі спробы затрымаць трактары на больш лёгкіх работах. Толькі гэтым аб'ясняецца той факт, што план баранавання, дыскавання і культывацыі— гэтыя найбольш лёгкія моманты глебаапрацоўкі—нашымі МТС значна перавыканан за лік недавыканання плана ворыва. Гэта шкодная тэндэнцыя вядзе да няправільнага і нерацыянальнага выкарыстання трактарнага парка і таму павінна быць рашуча асуджана. Тэндэнцыя гэта мае сваіх «тэарэтыкаў» таксама і ў асяроддзі адказных работнікаў Наркамзема Беларусі (**Беркоўскі**), якія гавораць МТС: ваша задача, моў, зарабатаць сабе натураплату і кончана. Барацьба за рацыянальнае выкарыстанне сельска-гаспадарчай тэхнікі і за правільнае разуменне арганізацыйна-палітычнай і тэхнічна-гаспадарчай ролі МТС мае, як мы бачым, актуальнейшае значэнне.

Адзін з асноўных недахопаў веснавой сяўбы гэтага года састаіць ў недастатковым прымяненні радковай сяўбы, у недастатковым выкарыстанні сеялак (Полацкая, Плешчаніцкая і інш. МТС). Не ўсюды спробы ігнаравання сеялак знаходзілі адпор. Адсутнічала таксама тэхнічнае абслугоўванне сеялак і правільная арганізацыя іх работы.

Дрэннае скарыстанне сеялак у веснавой сяўбе сігналізуе аб магчымасці рэцыдываў агідных адносін да ільнацерабілак і інш. машын, якія мелі месца ў мінулым годзе. У асаблівасці на гэтым участку наглядалася супраціўленне, у якім удзельнічалі нават паасобныя работнікі МТС, аграномы, механікі, якія, здавалася-б, павінны былі быць прапагандыстамі гэтай тэхнікі, а на справе з'яўляліся кулацкім рупарам антымеханізатарскіх тэндэнцый. Іменна таму мы павінны своечасова і па-сапраўднаму арганізаваць поўнае скарыстанне ільнацерабілак і іншай сельска-гаспадарчай тэхнікі, даўшы рашучы адпор малейшым спробам супраціўлення і дыскрэдытацыі іх.

Цэлы рад МТС далі ў гэтым годзе добрыя паказчыкі па выкананню і перавыкананню плана трактарных работ. Найбольш перадавымі з'яўляюцца: Буда-Кашалёўская, Бялыніцкая, Дзяржынская, Крупская, Цялушская, Менская, Рагачоўская, Церахоўская, Заслаўская, Даманавіцкая, Расонская і інш. МТС. Побач з гэтым, аднак, некаторыя МТС (Рэчыцкая, Лагойская, Плешчаніцкая) вельмі адсталі, планы сваіх трактарных работ не толькі не выканалі, але нават блізка не падышлі да іх выканання. У наяўнасці, такім чынам, агромныя хістанні ў прадукцыйнасці трактароў паміж паасобнымі МТС. Яшчэ больш рэзка гэтыя хістанні выяўляюцца паміж паасобнымі трактарнымі брыгадамі ў саміх МТС і паміж паасобнымі трактарамі ў саміх брыгадах. Трактарная брыгада №1 Магілеўскай МТС (брыгадзір тав. **Шарыкаў)** выканала сваю праграму на 100 прсц., а трактарная брыгада № 3 гэтай-жа МТС (брыгадзір т. **Ільенкоў)** выканала сваю вытворчую праграму толькі на 74,9 проц. Трактар ФП 17 (трактарысты тт. **Банчарэнка і Пятроў)** выканаў свой вытворчы план на 122,8 проц., трактар ФП 21 (трактарысты тт. **Ухнашэў і Усоў)**—на 118,8 проц., а з трох трактароў трактарнай брыгады № 5 ні адзін трактр поўнасцю не выканаў свайго плану работы.

Гэтыя хістанні ў прадукцыйнасці трактароў паміж паасобнымі МТС і паасобнымі трактарнымі брыгадамі гавораць, з аднаго боку, аб вялікіх народна-гаспадарчых стратах, і, з другога боку, аб гіганцкіх рэзервах магутнасці, якія да гэтых пор яшчэ не пастаўлены на службу барацьбе за высокі і ўстойлівы ўраджай, за большэвіцкія калгасы і заможных калгаснікаў.

У веснавой сяўбе бягучага года цэлы рад МТС, у зонах якіх нагрузка на цяглавую сілу, на каня, большая, чым у астатняй частцы раёна, дзе буйныя калгасы, нярэдка прарыўныя і адстаючыя ў мінулым, усё-ж заваявалі вядучую ролю ў раёне (Рагачоўская, Магілёўская і інш. МТС). Гэта акалічнасць пераканальна гаворыць аб нявыкарыстаных рэзервах і агромных магчымасцях і для тых МТС і іх палітаддзелаў, якія гэту вядучую ролю МТС у раёне не заваявалі і якія часам нават адстаюць ад калгаса не зоны МТС. І дарэмна гэта адставанне некаторымі «матывіруецца» нібы больш труднымі ўмовамі, больш труднымі калгасамі, больш цяжкой глебай і т. д. Падобныя «матывы» ўзнікаюць, у лепшым выпадку, на глебе неразумення таго, што задача МТС і палітаддзелаў—гэтай новай формы партыйнага кіраўніцтва вытворчасцю—і яе роля заключаюцца зусім не ў тым, каб «ісці ва ўзровень» з раёнам, а ў тым, каб па-большэвіцку,

выкарыстоўваючы сваю высокую тэхніку, разгарнуць вялікую арганізацыйна-масавую і палітычную работу сярод калгаснікаў, перададоляваць усе труднасці, даваць больш быстрыя тэмпы і больш высокую якасць палявых работ.

Задача адстаючых МТС заключаецца не ў тым, каб плесціся ў хвасце гнілых, апартуністычных, не большэвіцкіх гутарак аб тым, што МТС нібы наогул адстаюць. Гэтыя гутаркі па сваёй сутнасці з'яўляюцца сваяцкімі старым гутаркам нацыянал-дэмакратычных водгаласкаў аб тым, што МТС і трактар быццам не падыходзяць да ўмоў Беларусі, дзе, моў, няма вялікіх масіваў, дзе балоцістыя палі, дзе, моў, трактару няма дзе разгуляцца і т. д. і т. п.

Гэтыя разважанні аб адставанні МТС «наогул» (просім не змешваць са здаровай крытыкай недахопаў і недачотаў у рабоце МТС) выходзяць або ад людзей, не жадаючых канкрэтна ўваходзіць у работу калгасаў і МТС, або ад людзей, жадаючых кампраметыраваць МТС і работу трактароў, г. зн. ад людзей, якія прадаўжаюць «традыцыі» няпрыязні да трактара, да тэхнікі ў сельскай гаспадарцы і якія з'яўляюцца прыхільнікамі дробна-хутарской гаспадаркі і тэхнікі гэтай гаспадаркі—што трактар, моў, не рэнтабельны для умоў сельскай гаспадаркі Беларусі, што МТС—накладны расход для сялян і інш.

Задача МТС заключаецца не ў тым, каб працаваць з года ў год толькі на тых палях, якія мы маем у Беларусі на сёнешні дзень, а ў тым, каб стварыць сапраўдныя масівы для трактара, стварыць такія прасторы палёў, як гэтага заслугоўвае, у прыватнасці, такі прыгожы трактар, як «Чэлябінец».

Задача МТС і іх палітаддзелаў заключаецца ў тым, каб ачысціць палі БССР для высокай тэхнікі, ствараючы гэтым яшчэ адну прадпасылку для росквіту ў будучым нашай сельскай гаспадаркі.

Гэта задача заключаецца ў раскарчоўцы палёў, у палепшанні масіваў, у знішчэнні хмызнякоў і ўсяго таго, што перашкаджае іх ператварэнню ў сапраўдныя масівы, аб якіх гаварыў тав. **Сталін**, і ў масівы для каштоўных тэхнічных культур, якімі з'яўляюцца ў Беларусі лён і бульба.

Імена ў гэтай сувязі набывае выключнае значэнне рабста па падняццю цалінных зямель. Тав. **Сталін** у сваім дакладзе на XVII партыйным з'ездзе сказаў:

> «У так званай спажывецкай паласе ёсць каля 5 мільёнаў гектараў цалінных зямель пакрытых хмызняком. Вядома, што клімат у гэтай паласе нядрэнны, асадкаў не мала, засухі не бывае. Калі ачысціць гэтыя землі ад хмызняку і правесці рад мерапрыемстваў арганізацыйнага характару, можна будзе атрымаць грамадны раён зернавых культур, які можа даць таварнага зярна пры звычайна вялікай ураджайнасці ў гэтых месцах— не менш, чым дае цяпер Ніжняя або Сярэдняя Волга. Гэта было-б вялікім падспор'ем для паўночных прамысловых цэнтраў».

БССР у гэтым годзе павінна падняць 115 000 га цалінных зямель. Гэта больш таго, што зроблена за ўсё папярэдняе пяцігоддзе ў гэтай галіне, але гэта задача ўпаўне па нашай сіле і мы павінны яе выканаць. Выкананне гэтай задачы павінна стаць справай чэсці кожнай МТС, палітаддзела, партыйнай арганізацыі, бо яна з'яўляецца **стрыжнявой** задачай. Асваенне новых зямель ва ўмовах БССР набывае асобае значэнне яшчэ і таму, што яно дапаможа нам увесці правільны сева-

зварот, упарадкаваць землекарыстанне і наогул становішча нашай сельскай гаспадаркі, навесці большэвіцкі парадак на нашых калгасных палёх.

Ход работ па падняццю цаліны, аднак, сведчыць аб тым, што рад МТС, палітаддзелаў і раённых арганізацый яўна недаацэньваюць гэту важнейшую справу. І гэта ў той час калі і трактары і прылады калгасаў яшчэ не загружаны ўборачнымі работамі. Па паасобных МТС мы маем значнае адставанне па падняццю цаліны, паасобныя палітаддзелы (напр., Лепельскай МТС) «яшчэ» па-сапраўднаму не павярнуліся да гэтай важнейшай задачы.

Работы па падняццю цаліны паспяхова могуць быць праведзены толькі пры правільным, умелым выкарыстанні ўсяго трактарнага парка ў спалучэнні з работай каня. У гэтай рабоце таксама, як і ў прадстаячых уборачных работах, неабходна ўлічыць і рашуча ўстараніць тыя недачоты, якія мелі месца **ў арганізацыі** работы трактароў у перыяд веснавой сяўбы.

Арганізацыйным пытанням работы трактароў не ўсюды было ўдзелена дастатковая ўвага. Трактарны парк у некаторых месцах вышаў у поле без строга выпрацаванага плана-маршрута, без папярэдняга агляду палёў і ўліку іх, адсутнічала папярэдняе замацаванне трактароў за пэўнымі ўчасткамі па глебавых умовах, годных для работы трактароў, адсутнічалі інструменты, неабходная колькасць вядзёр, леек і інш.

У рэзультаце дрэннай арганізацыі справы ў радзе месц, з самага пачатку работы трактароў, мелі месца вялікія прастоі, зусім лішнія перагоны трактароў з участка на ўчастак, з калгаса ў калгас, вялікі перарасход гаручага, факты работы трактароў на горшых і лепшых участках, пры адначасовай апрацоўцы лепшых і большых масіваў коньмі. Так, дырэктар Лагойскай МТС зусім не ведаў, дзе яму пачаць ворыва; былі выпадкі недагрузкі трактарнага парка па віне трактарыстаў і брыгадзіраў; у Чаусах у адным калгасе к трактару прымацавалі конны дыск, у Лагойску к трактару ФП прычапілі простую барану «зігзаг», былі выпадкі возкі гною трактарамі (Плешчаніцы, Жыткавічы) і інш.

Іменна з-за дрэннай арганізацыі, кепскага, выпадковага і несур'ёзнага планавання, а ў некаторых месцах з-за адсутнасці ўсякага планавання работы трактарнага парка, з-за адсутнасці правільнага спалучэння работ трактара з работай жывой цяглавай сілы,—растуць хістанні ў прадукцыйнасці трактароў паміж паасобнымі МТС і трактарнымі брыгадамі. Стала быць, для таго, каб павысіць прадукцыйнасць трактароў, выкарыстаць усю іх магутнасць, неабходна пакончыць з дробна-буржуазнай расхлябанасцю, са старымі метадамі работы і ўсур'ёз заняцца арганізацыяй і планаваннем работы трактароў.

МТС і палітаддзелы павінны ўдзяліць максімальную ўвагу ўсяму комплексу арганізацыйных пытанняў работы трактароў—пытанню знішчэння халастых, лішніх перагонаў, папярэдняй падрыхтоўкі ўчасткаў, выпрацоўкі плана-маршрута і т. д.—тым больш таму, што некаторыя нашы МТС пабудаваны шкодніцкі і трактары так ці інакш трацяць многа часу на пераезды, напр., Цялушская МТС расположана ў самым вуглу, а не ў цэнтры свайй зоны.

У нас часта, і зусім законна, спасылаюцца на факт астаткаў шкодніцкай работы ў размяшчэнні МТС. Задача цяпер заключаецца ў тым,

каб бальшэвіцкай работай і арганізацыяй справы больш рашуча ўстараніць гэтыя астаткі шкодніцтва.

Пытанне расходвання гаручага мае першачарговае значэнне. Гэта з'яўляецца як-бы адлюстраваннем работы трактароў, бо добрая работа трактароў, добрая арганізацыя гэтай работы, як правіла, суправаджаецца эканомным расходваннем гаручага. І наадварот—дрэнная работа трактарнага парка суправаджаецца перарасхсдам гаручага. І ў гэтай справе паміж паасобнымі МТС і паасобнымі трактарнымі брыгадамі ў саміх МТС наглядаюцца агромныя хістанні. Цэлы рад МТС далі эканомію гаручага: Быхаўская на 27 проц., Церахаўская—18 проц., Рагачоўская—9 проц. Іншыя-ж МТС далі значны перапал гаручага—Асіпавіцкая—33 проц., Пухавіцкая—17 проц., Прыямінская—11 проц.

Па ўсіх МТС БССР у цэлым мы ў гэтым годзе маем значна меншы перарасход гаручага, чым у мінулым годзе. Так, па 25 МТС Гароднебульбянага кіраўніцтва зрасходвалі гаручага на 1 проц. больш нормы. Гэта акалічнасць сведчыць аб тым, што трактарны парк МТС БССР у цэлым у гэтым годзе значна лепшы. Але барацьба за эканомнае расходванне гаручага астаецца актуальнай задачай МТС і палітаддзелаў. Барацьба за эканомію гаручага—гэта і ёсць барацьба за ўзорную работу трактароў.

У радзе раёнаў мы мелі, асабліва ў мінулым годзе, факты праяўленняў кулацкіх, антымеханізатарскіх настрояў: паасобныя калгасы не хацелі прымаць трактароў. Гэтыя настроі ўзніклі галоўным чынам у рэзультаце кулацкай агітацыі сярод адсталых і маласвядомых слаёў калгаснікаў, але скрозь і ўсюды і ў рэзультаце дрэннай работы трактароў, безадказных адносін МТС да выканання сваіх дагаворных абавязацельстваў. Прычым, гэтыя настроі захвацілі і паасобных сельскіх і нават раённых работнікаў.

У гэтым годзе, калі трактарны парк стаў працаваць непараўнальна лепш, мы маем у тых-жа раёнах іншыя адносіны да трактара—калгасы і калгаснікі самі просяць, каб у іх папрацаваў трактар. Вырас і расце вытворчы і палітычны аўтарытэт трактара і МТС, што гаворыць аб рашаючай ролі, якую ў гэтай справе адыгралі палітаддзелы. Добры трактар плюс добры трактарыст—гэта, стала быць, сіла сапраўды перакананьная, лепшая агітацыя супроць кулацкіх, антымеханізатарскіх настрояў.

Рашаючую ролю ў палепшанні работы трактарнага парка ў гэтым годзе іграе палітыка-масавая работа, якую палітаддзелы разгарнулі сярод трактарыстаў, у прыватнасці сярод іх комсамольскага ядра. І невыпадкова, што лепшыя, перадавыя трактарысты-ўдарнікі ў большасці сваёй з'яўляюцца комсамольцамі.

Пампалітам па комсамолу, ды і палітаддзелам у цэлым, трэба ўдзяліць яшчэ большую ўвагу кіраўніцтву пярвічнымі комсамольскімі арганізацыямі МТС, МТМ і трактарных атрадаў. Тут, у гэтых арганізацыях, у вялікай меры вырашаецца пытанне аб поўным і рацыянальным скарыстанні трактарнага парка. Узорная работа трактароў была забяспечана перш за ўсё там, дзе была праведзена вялікая палітыка-масавая работа сярод трактарыстаў і ў асаблівасці дзе добра працавала пярвічная комсамольская арганізацыя трактарнай брыгады.

Палітаддзелам Рагачоўскай МТС па трактарных брыгадах было наладжана рэгулярнае скліканне вытворчых нарад. Аб'яўленне ўсебеларускага конкурса на лепшую трактарную брыгаду дало магутны штуршок к ахвату трактарыстаў соцспаборніцтвам: былі арганізаваны

3 комсамольска-маладзёжных трактарных брыгады; кожны трактарыст атрымаў спецыяльна загатоўлены пакет з промтаварамі; для начной работы ўсе трактары былі абсталяваны асвятленнем; брыгадзіры былі снабжоны спецыяльнымі кніжкамі для ўліку соцспаборніцтва. За час сваёй работы ў полі трактарная брыгада комсамольца **Дубкова** не мела прастояў і паломак трактароў, вытворчы план перавыканала, з'эканоміла 4—5 кгр. гаручага на га, пры добрай якасці работ. Трактарыст **Мадорскі** на трактары «Интер» 10/20 сістэматычна перавыконваў норму—пры норме засеву 8,5 **га,** ён засеяў 11—12 **га,** пры норме ворыва—2,7, ён узорваў 3—4 **га,** не меў ні аднаго прастою, з'эканоміў гаручае. Трактарысты **Ерохаў** і **Васільеў** за ўзорную ўдарную работу прэміяваны і заваявалі пераходныя чырвоныя флажкі палітаддзела. За час работы трактароў на полі ў трактарных брыгадах Рагачоўскай МТС сістэматычна выпускаліся газеты, сігнальныя лісткі, праводзіліся кароткія вытворчыя нарады, усе трактарысты былі ахвачаны соцспаборніцтвам.

З трактарных брыгад Оршанскай МТС лепшыя паказчыкі па палявой рабоце, па эканоміі гаручага і збераржэнню трактара дала брыгада комсамольца **Банчарова**. У брыгадзе штодзённа праводзіліся кароткія вытворчыя нарады па праверцы выканання ўзятых на сябе абавязацельстваў. За перыяд сяўбы брыгада выдала 12 нумароў газеты.

Трактарны атрад № 7 Дзяржынскай МТС (брыгадзір т. **Трэцьяк)** выканаў свой вытворчы план на 125,3 проц., з'эканоміў 6,8 проц. гаручага. Трактарны атрад **Грышанкова,** гэтай-жа МТС, выканаў свой план на 118 проц., з'эканоміў 14,8 проц. гаручага.

Трактарная брыгада комсамольца **Харошкі**—лепшая ў Сенненскай МТС. Яна перавыканала свой план, з'эканоміла 350 кгр. гаручага і заваявала чырвоны флажок палітаддзела. (Палітаддзел у перыяд сяўбы практыкаваў уручэнне чырвоных і рагожных флажкоў лепшым і горшым трактарам). Уручэнне флажкоў праводзілася кожную пяцідзёнку ў тых калгасах, дзе працавалі трактары.

Прыведзеныя прыклады ўзорнай, ударнай работы трактарыстаў-ізотаўцаў—зусім не выключэнне, а **масавая** з'ява. Лепшыя перадавыя трактары выходзяць у поле з флажкамі і ўпрыгожаныя зеленню. У асяроддзі трактарыстаў адбываецца сапраўды масавая барацьба, большэвіцкае спаборніцтва за пераходны флажок, за першынства як у сваёй МТС, так і ў рэспубліканскім маштабе. Самі трактарысты выкрываюць і дабіваюцца выгнання са свайго асяроддзя разгільдзяеў, лодыраў, якія дрэнна адносяцца да трактара.

Задача МТС і палітаддзелаў заключаецца ў тым, каб у часе ўборкі падняць соцспаборніцтва трактарыстаў і палітыка-масавую работу сярод іх на больш высокі ўзровень. Лепшы вопыт работы трактароў зрабіць здабыткам усёй масы трактарыстаў, зрабіць перадавымі адстаючых, яшчэ больш палепшыць работу перадавых.

Задача поўнага асваення маючайся ў нас сельска-гаспадарчай тэхнікі, выкарыстання ўсёй магутнасці трактарнага парка ставіць з усёй вастрынёй пытанне аб палепшанні кіраўніцтва МТС і МТМ не толькі знізу, але і зверху. Сучасны этап развіцця сельскай гаспадаркі патрабуе больш канкрэтнага, больш дыферэнцыяванага кіраўніцтва. Тав. **Сталін** аб гэтым гаварыў яшчэ на аб'яднаным студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б).

Без рашучага, рэзкага палепшання кіраўніцтва работай МТС, МТМ, трактарнага парка з боку Наркамзема Беларусі нельга дабіцца поўнага

выкарыстання тых сіл і сродкаў, якія ў асобе МТС даны пралетарскай дзяржавай нашай сельскай гаспадарцы. Пытанні кіраўніцтва МТС, якія па сутнасці з'яўляюцца буйнымі, складанымі прадпрыемствамі, павінны заняць **цэнтральнае** месца, павінны быць асоба **выдзелены** ў рабоце Наркамзема. Зусім архаічнай, адсталай, адпавядаючай учарашняму дню сельскай гаспадаркі, з'яўляецца такая форма «кіраўніцтва», калі Наркамзем не выдзяляе МТС з раёна, кіруе раёнам у цэлым, раёнам наогул.

Аб гэтым сведчыць, напр., такі факт, калі Наркамзем спусціў планы па падняццю цаліны **параённа**, не выдзеліўшы МТС, і толькі потым стаў дабівацца ад МТС паведамлення, які план дан Райза. Да самага апошняга часу НКЗ БССР так і не ведае плана падняцця цаліны кожнай МТС. Хіба можна пры такой рабоце гаварыць аб аператыўным, канкрэтным кіраўніцтве?

Або факт з галіны планавання трактарных работ па паасобных МТС, Зернавое кіраўніцтва НКЗБ так «планавала» нагрузку трактароў па паасобных МТС, што ў выніку атрымалася, што, Даманавіцкая МТС атрымала нагрузку на адну сілу 5,5 га, Парыцкая МТС яшчэ менш—усяго 4,2 га, Старадарожская МТС—6,9 га, а Лельчыцкая МТС—19,9 га, Путчынская—17,6 га, Копыльская—14,7 га. Выходзіць так, што адна механічная сіла, па вылічэнню Зернавсга кіраўніцтва, у Лельчыцах амаль у пяць разоў большая, чым у Парычах; у Даманавіцкай МТС адна сіла чамусьці ў тры разы меншая, чым у Путчынскай МТС і т. д. У выніку такога, мякка выражаючыся, недарэчнага планавання мы маем агромную недагрузку раду МТС і вялікую перагрузку другіх МТС.

Гэты факт сведчыць аб тым, што ў паасобных рашаючых звеннях Наркамзема мы маем па крайняй меры безадказныя, галавацяпскія адносіны да такога важнейшага пытання, якім з'яўляецца планаванне трактарных работ МТС.

Зусім правільна і своечасова на апошнім майскім пленуме ЦК КП(б)Б, у прыватнасці ў выступленні тав. **Гікало**, было пастаўлена пытанне аб неабходнасці ўзмацнення і палепшання якасці арганізацыйнага і тэхнічнага кіраўніцтва работай МТС, аб неабходнасці сапраўднай перабудсвы Наркамзема. Поспехі раду МТС у выкарыстанні трактарнага парка, не гледзячы на наяўнасць яшчэ буйных недачотаў—у першую чаргу па лініі кіраўніцтва трактарным паркам, прад'яўляюць гэты рахунак Наркамзему Беларусі.

Нельга адносіцца да МТС, як да простага складу прылад, закінуных на сяло, як да простага практычнага пункту. МТС з'яўляецца гаспадарча-тэхнічным і арганізацыйна-палітычным цэнтрам кіраўніцтва нашай сельскай гаспадаркай. МТС патрабуе штодзеннага кіраўніцтва, сапраўднай, канкрэтнай, тэхнічна-арганізацыйнай дапамогі.

Вядома, Наркамзем за гэту вясну некалькі палепшыў сваю работу, але гэта яўна недастаткова ў параўнанні з павышанымі патрабаваннямі сёнешняга дня нашай сельскай гаспадаркі. Striving: Станоўчыя зрухі, якія адбываюцца ў рабоце МТС, у асаблівасці дзякуючы рабоце палітаддзелаў, патрабуюць, каб Наркамзем быстра і аператыўна перабудоўваўся, каб ён яшчэ больш канкрэтна кіраваў сельскай гаспадаркай Беларусі. Адсюль задача—перабудавацца па сутнасці, перабудавацца ў адпаведнасці з рашэннямі XVII партыйнага з'езда і ў гэтай перабудове злучыць, як асноўнае, рашаючае звяно, пытанні кіраўніцтва работай МТС, трактарнага парка.

Палітаддзелы павінны высока трымаць сцяг перадавой тэхнікі ў сельскай гаспадарцы. Гэта павінна знайсці сваё выражэнне перш за ўсё ў большэвіцкай арганізацыі і мабілізацыі тых жывых **людзей**, якім даверана сельска-гаспадарчая тэхніка, трактарны парк, у канкрэтным кіраўніцтве гэтымі людзьмі, у сапраўдным аўладанні гэтай тэхнікай. Мы павінны мабілізаваць усю масу трактарыстаў і работнікаў МТС на любоўныя адносіны да трактара. Мы павінны шляхам палітычнай, арганізацыйнай і масавай работы ўмацаваць ў найшырэйшых масах калгаснага сялянства такія адносіны да трактара, якія ён сапраўды заслугоўвае. Уся магутнасць трактарнага парка павінна быць поўнасцю выкарыстана. Трактарны парк павінен працаваць як дакладны механізм, як гадзіннік.

І. Фрыдман

# К пытанню аб шкодніцтве ў землеўпарадкаванні

Землеўпарадкаванне з'яўляецца адным з важнейшых участкаў класавай барацьбы на вёсцы.

Класавы вораг шкодніцкім землеўпарадкаваннем робіць стаўку на капіталістычны шлях развіцця сельскай гаспадаркі, на насаджэнне і ўвекавечанне дробнай капіталістычнай гаспадаркі, усякімі спосабамі змагаючыся з лініяй партыі па стварэнню найбольш спрыяючых умоў для калектывізацыі, для росту і ўмацавання калгаснага ладу.

Насаджаючы хутары і пасёлкі, аберагаючы непарушнасць буйных кулацкіх, так званых „культурных гаспадарак", ставячы стаўку на разарэнне бядняцкай часткі вёскі і падпарадкаванне яе кулацкай эксплаатацыі, прышчэпаўшчына імкнулася к стварэнню соцыяльнай базы для звяржэння дыктатуры пролетарыята і рэстаўрацыі буйнага памешчыцкага і кулацкага землекарыстання.

Прышчэпаўшчына ўсёй сваёй палітыкай была звязана глыбокім і моцнымі карэннямі са сталыпіншчынай, трымаўшай курс на магутнага кулака, як на апору памешчыцка-царскага ладу, але дзейнічалі яны ў розных соцыяльных умовах.

Прышчэпаўшчына ў сваёй шкодніцкай контррэволюцыйнай рабоце дабілася некаторых поспехаў: 1924—1929 гг. было землеўпарадкавана з перасяленнем на хутары і пасёлкі 92 030 двароў на плошчы 1 045 157 *га* і з астаўленнем на месцы ў хутарскіх і адрубных формах землекарыстання 37 612 двароў на плошчы 325 065, а ўсяго, значыцца, за 1924—1929 гг. было землеўпарадкавана на хутарах, адрубах і пасёлках 129 692 двароў на плошчы 1 370 222 *га*.

Па гадах яны размяркоўваюцца наступным чынам:

| Гады | Землеўпарадкавана з перасяленнем на хутары і пасёлкі | | Землеўпарадкавана хутароў і адрубоў (з астаўленнем на месцы) | |
|---|---|---|---|---|
| | Двароў | На плошчы | Двароў | На плошчы |
| 24—25 | 16 603 | 155 174 | 5 502 | 51 377 |
| 25—26 | 16 632 | 145 196 | 8 126 | 68 040 |
| 26—27 | 25 102 | 235 260 | 10 195 | 82 950 |
| 27—28 | 32 160 | 397 489 | 13 210 | 107 088 |
| 28—29 | 1 583 | 262 038 | 579 | 15 610 |
| Усяго: | 92 080 | 10 115 157 | 37 612 | 325 065 |

З гэтай табліцы відаць паступовае нарастанне, пачынаючы з 1924—25 г. аж да 1928—1929 гг., тэмпаў хутарызацыі БССР, што з'яўляецца вынікам разгорнутай дзейнасці ў гэтыя гады контррэволюцыйнай прышчэпаўшчыны, ставіўшай сваёй мэтай накіраванне развіцця сельскай гаспадаркі БССР па капіталістычнаму шляху.

Каб узмацніць нарастанне тэмпаў хутарызацыі, прышчэпаўшчына прымяняла да перасяляючыхся з вёсак на хутары і пасёлкі ільготы па падатках, крэдытах і аднясенне расходаў па землеўпарадкаванню за кошт дзяржбюджэта.

Так, за чатыры гады 1924—25 і 1927—28 г. зрасходавана па дзяржбюджэту на землеўпарадкаванне 5 231 618 р., з іх 4 805 203 руб. або 92,2 проц. на землеўпарадкаванне хутароў, адрубоў і пасёлкаў да нарэзкі палос уключна. Асігнаванні па дзяржбюджэту на землеўпарадкаванне значна перавышалі сродкі, якімі ўдзельнічала насельніцтва, што відаць з наступнай табліцы:

| Гады | Проц. удзелу ў землеўпарадкаванні дзярж.-бюджэтных сродкаў |
|---|---|
| 24—25 | 56 |
| 25—26 | 68,1 |
| 26—27 | 49,5 |
| 27—28 | 57,2 |
| 28—29 | 57,4 |

За гэтыя-ж гады было выдана перасяляючымся на хутары і пасёлкі доўгатэрміновых крэдытаў на тэрмін 3—5 год--2,083 200 р. і кароткатэрміновых 2 746 300 р., а ўсяго 4 829 500 руб.

З гэтых даных відаць, як абнаглеўшы вораг (прышчэпаўцы) мабілізавалі дзяржаўныя сродкі рабоча-сялянскай дзяржавы для таго, каб весці работу супроць соцыялістычнай дзяржавы і накіраваць развіццё сельскай гаспадаркі па капіталістычнаму шляху, каб шляхам насаджэння кулацкіх гаспадарак стварыць соцыяльную базу для звяржэння дыктатуры пролетарыята, для аднаўлення дыктатуры капітала і рэстаўрацыі буйнага памешчыцкага і кулацкага землекарыстання.

І толькі пачынаючы з 1929 года, г. зн. з года вялікага пералому ў развіцці нашага земляробства ад дробнай, адсталай індывідуальнай гаспадаркі к буйнаму перадавому калектыўнаму земляробству, з года, калі асноўная маса бядняцка-серадняцкага сялянства пайшла ў калгасы, спыняецца насаджэнне хутароў у БССР.

Так, у 1928—29 гг. было землеўпарадкавана з перасяленнем на хутары 1 583 гаспадаркі супроць 32 160 у 1927-28 г.; землеўпарадкавана, з астаўленнем на месцы ў хутарскіх і адрубных формах землекарыстання, 579 двароў супроць 13 210 двароў у 1927—28 годзе.

Рознымі шляхамі прышчэпаўшчына імкнулася і ў 1929 г. прадаўжаць сваю работу па насаджэнню хутароў у БССР, але партыя выкрыла гэтыя проіскі і разграміла прышчэпаўшчыну і гэтым самым расчысціла шлях для быстрага разгортвання калектывізацыі ў БССР.

Магутнае развіццё калектывізацыі ў 1929-31 гг. выклікала неабходнасць быстрага афармлення тэрыторыі калгасаў шляхам звядзення ў суцэльныя калгасныя масівы раздробленых участкаў быўшых аднаасобнікаў, уступіўшых у калгасы.

Землепаказанне, як прасцейшы від землеўпарадкавання, з'яўлялася ў той перыяд тым відам землеўпарадкавання, які дыктаваўся быстрым ростам калектывізацыі. Таму ў 1929—31 гг. землепаказанне займала пераважаючае месца ў рабоце па землеўпарадкаванню калгасаў, што адпавядала палітыка-гаспадарчым патрабаванням таго перыяду. Гаспадарчае ўпарадкаванне ў гэтыя гады займала ў агульным плане землеўпарадкавання калгасаў вельмі нязначнае месца.

Пачынаючы з пачатку 1932 г., калі партыя ва ўсю шырыню паставіла задачу арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, быўшаму кіраўніцтву па землеўпарадкаванню трэба было работу ўсяго свайго вытворчага апарата пераключыць на гаспадарчае ўпарадкаванне калгасаў з тым, каб стварыць умовы для іх арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання.

Аднак не толькі ў 1932 г. гаспадарчае ўпарадкаванне займала нязначнае месца ў агульным плане па землеўпарадкаванню, але і ў 1933 г. землепаказанне паглынае 66,5 проц. усіх асігнаванняў па землеўпарадкаванню, г. зн. што замест мерапрыемстваў, разлічаных на ўмацаванне калектыўнага руху, пераносілі старыя формы землепаказання на калгасы, уступіўшыя ў перыяд арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання і асваення калгаснай вытворчасці.

Аб'ясняецца гэта тым, што ў радзе зямельных органаў і ў Кіраўніцтве землеўпарадкавання ў гэтым перыядзе яшчэ асталося ахвосце прышчэпаўшчыны (масюкоўшчына), якое, мяняючы формы сваёй барацьбы з калгасным будаўніцтвам і ўсякімі спосабамі маскіруючыся, працягвала ў землеўпарадкаванні сваю шкодніцкую работу, накіраваную на зрыў мерапрыемстваў партыі і ўрада па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў.

Вялікую ўвагу ў сваёй дзейнасці шкоднікі ўдзялілі заблытванню ўліку зямельных плошчаў з тым, каб падарваць правільнае планаванне калгаснай вытворчасці, для чаго ў цэлым радзе раёнаў планы пасеўных плошчаў даводзіліся да калгасаў немагчымыя для выканання з-за адсутнасці зямлі.

З другога боку, у радзе калгасаў фактычная плошча землекарыстання была значна менш улічанай, што стварала ўмовы для кулацкай дзейнасці, накіраванай на ўтойванне асвоеных зямель ад абкладання. Так, у калгасе „Чырвоны пагранічнік“, Дзяржынскага раёна, было на 200 га больш, чым гэта было ўлічана пры землепаказанні.

У перыяд аб'яднання зямель у калгасныя масівы шкодніцтва ў галіне землеўпарадкавання прымала і іншыя самыя разнастайныя формы: стваралі цераспалосіцу для калгасаў, укліньваючы паміж іх землямі землі аднаасобнікаў, аднаасобнікам давалі лепшыя землі, уносілі блытаніну ў калгаснае землекарыстанне, а ў некаторых выпадках у замаскаванай форме нават працягвалі работу па насаджэнню новых хутароў (выпадкі нарэзкі хутароў у 1931—1933 гадах у Заслаўскім, Слуцкім, Дубровенскім і Дзяржынскім раёнах).

Шкодніцтва знайшло сваё адлюстраванне ў нязначнай рабоце, праведзенай у гэтыя гады па гаспадарчаму землеўпарадкаванню калгасаў.

Здыманне праводзілася такім чынам, каб нельга было атрымаць уяўлення аб землях сельска-гаспадарчага значэння па відах угоддзяў.

Згодна інструкцыі па землеўпарадкаванню, выданай у сакавіку месяцы 1930 г., на планы не наносяцца ўгоддзі да аднаго гектара і больш, распаложаныя сярод іншых масіваў.

Параграф 116 гэтай інструкцыі прапануе не здымаць „дробныя сітуацыйныя контуры да аднаго гектара, як не маючага асаблівага гаспадарчага значэння“.

Не здаволіўшыся заблытваннем уліку па ўгоддзях „адным гектарам“ (а такіх паасобных гектараў у БССР вельмі многа), тым-жа параграфам прапануецца не наносіць на план плошчы больш аднаго гектара, а іменна: „невялікія сітуацыйныя контуры плошчай больш аднаго гектара, якія ў бліжэйшы час будуць пераведзены без асаблівых страт на гэта ў той ці іншы асноўны від угоддзяў (пералог, дробныя рэдкія хмызнякі, чыстыя выганы, сухадольныя плошчы сенакосаў, годныя пад пахаць ворыўныя ўчасткі сярод сенакосаў і т. д.), таксама асобна не здымаюцца, а гэта пытанне ў кожным паасобным выпадку ўзгадняецца на месцы работы з аграномамі“.

Класавая сутнасць устаноўкі інструкцыі зусім ясная: калі ў радах землеўпарадкавальнікаў і аграномаў захаваліся прыхільнікі прышчэпаўскай палітыкі, то ім даецца дырэктыва для заблытвання аднаго з важнейшых пытанняў, на якім базуецца пабудова планавай сельскай гаспадаркі—пытання аб выяўленні наяўнасці зямельных фондаў.

Інструкцыю 1930 г. адмянілі ў сакавіку 1933 г., але адмянілі фармальна, бо другой не далі і таму ёю прышлося кіравацца да восені 1933 г. Фармальна адмяняючы, а па сутнасці пакідаючы ў сіле старую інструкцыю па тэхніцы здымання, яе дапаўняюць другой, якая яшчэ больш заблытвае даныя аб наяўнасці зямельных плошчаў у БССР: даецца ўказанне здымаць і наносіць на план толькі землі калгасаў, землі-ж аднаасобнікаў не здымаць і на план не наносіць.

Такім чынам кіраўнікі землеўпарадкавання адразу выкінулі з уліку каля 50 проц. ворыўных зямель, бо на плане землі аднаасобнікаў паказваліся белай плямай, а не ва ўгоддзях.

Не здавальняючыся такой шкодніцкай работай, класавы вораг шкодніцкім землеўпарадкаваннем падрыхтаваў тэрыторыю калгасаў да падзелу на дробныя пасёлкі, хутары—шляхам увядзення клетачнай сістэмы землеўпарадкавання, г. зн. разбіўкай калгаснага землекарыстання на клеткі ў 3—5—10 га (у цэлым радзе калгасаў Магілеўскага, Гомельскага, Дзяржынскага, Менскага і іншых раёнаў).

У справе землеўпарадкавання соўгасаў шкоднікі таксама прыклалі сваю руку, праводзячы такое адвядзенне зямель соўгасам, якое выклікала ў радзе выпадкаў абрэзку зямель калгасаў і аднаасобнікаў і пакіданне на тэрыторыі соўгасаў паасобных хутароў і дробных пасёлкаў.

Свядома адчуджаючы ў радзе выпадкаў землі калгасаў і аднаасобнікаў для арганізацыі соўгасаў, шкоднікі ставілі сваёй мэтай: 1) падрываць сярод калгаснікаў значэнне арганізацыі прадпрыемстваў паслядоўнага соцыялістычнага тыпу ў сельскай гаспадарцы, выклікаючы да іх дрэнныя адносіны; 2) тармазіць арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, парушаючы іх землекарыстанне, параджаючы ў калгаснікаў пагардлівыя адносіны да зямлі і да калгаснай гаспадаркі, прапануючы калгаснікам уступіць рабочымі ў соўгас, ажыццяўляючы лявацкі загіб па „соўгасізацыі“ калгасаў; 3) перашкаджаць арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню соўгасаў.

Партыя своечасова выкрыла соцыяльныя карэнні масюкоўшчыны (шкодніцкае насаджэнне соўгасаў на землях калгаснікаў, клетачную

сістэму землеўпарадкавання, заблытванне ўліку зямель і т. д.), вядучы супроць яе рашучую барацьбу.

Пастанова ЦК ВКП(б) ад 4 лютага 1932 г. „Аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў“ і пастанова ЦВК СССР ад 3/IX-32 г. „Аб устойлівым землекарыстанні калгасаў“ з'яўляліся дырэктывамі ў правядзенні землеўпарадкавання.

У ажыццяўленне гэтых дырэктыў партыі і ўрада работа па землеўпарадкаванню ў 1933 г. у БССР павінна была забяспечыць барацьбу за поўнае знішчэнне прышчэпаўшчыны і масюкоўшчыны ў землеўпарадкаванні і землекарыстанні, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, за далейшае разгортванне калектывізацыі, за большэвізацыю калгасаў, за заможнае і культурнае жыццё калгаснікаў.

Пастановы ЦК ВКП(б), ЦК КП(б)Б і СНК БССР у 1933 г. па пытаннях землеўпарадкавання і землекарыстання ў БССР указвалі канкрэтныя шляхі, па якіх павінна ісці работа партыйных і савецкіх устаноў БССР у галіне землеўпарадкавання і землекарыстання для ажыццяўлення вышэйуказаных задач.

Але, як мы ўжо адзначылі, скажэнні дырэктыў партыі і ўрада ў БССР прадаўжаліся і ў 1933 г., маючы ў сваёй аснове прышчэпаўска-масюкоўскі змест.

Быўшае кіраўніцтва землеўпарадкавання ў 1933 г. выходзіла з таго асноўнага, з дазволу сказаць, прынцыпова тэарэтычнага палажэння, што „чым горш—тым лепш“, г. зн. чым горшыя ўмовы мы створым для індывідуальнага бядняцка-серадняцкага сялянства, тым хутчэй ён уступіць у калгас і тым больш быстрымі тэмпамі пойдзе рост калектывізацыі.

Выходзячы з гэтага, яны праводзілі палітыку ізаляцыі аднаасобнікаў ад калгаса, палітыку закрыцця доступу аднаасобніку—бедняку і серадняку ў калгас, праводзілі свядомыя дзеянні, накіраваныя на стварэнне антаганістычных адносін паміж калгасамі і аднаасобнікамі. Вынікі гэтай палітыкі былі асабліва ярка выяўлены ў часе асенняй пасеўнай 1933 г., калі многія калгасы, пад уплывам засеўшых у іх кулакоў, пачалі самавольна адбіраць у аднаасобнікаў зямлю, падрыхтаваную апошнімі да азімай сяўбы, даючы ім узамен землі, патрабуючыя вялікіх затрат на іх падрыхтоўку да сяўбы, а часам і зусім не даючы замены.

СНК БССР вынес спецыяльную пастанову ад 11 верасня 1933 г. аб спыненні калгасамі захвату зямель аднаасобнікаў і аб прыцягненні да судовай адказнасці захватчыкаў.

Калі Прышчэпаў стварэннем хутароў і пасёлкаў біў па калектывізацыі, скарыстоўваючы для гэтага і дзяржаўныя сродкі, то землеўпарадкавальная палітыка прышчэпаўскіх прыхільнікаў у 1933 г. тармазіла развіццё калектывізацыі шляхам стварэння антаганістычных адносін паміж калгасамі і аднаасобнікамі, шляхам стварэння ўсякіх перашкод (закрытыя севазвароты і т. д.) да ўступлення аднаасобнікаў у калгасы.

Гэтыя няправільныя адносіны паміж калгасамі і аднаасобнікамі, выхаваныя прышчэўскімі прыхільнікамі, мелі свой адбітак нават і ў веснавую пасеўную 1934 г., калі ў радзе раёнаў калгасы захвацілі зямлю аднаасобнікаў, падрыхтаваную апошнімі да сяўбы, даючы ім узамен пералогі або нават зусім нягодную к асваенню зямлю.

Пастанова ЦК КП(б)Б у маі 1934 г. па Старадарожскаму раёну рашуча ўдарыла па носьбітах гэтых скажэнняў.

Безумоўна, пры росце калектывізацыі—арганізацыі новых калгасаў і пашырэнні тэрыторыі існуючых за лік новаўступаючых у калгас, павінна быць забяспечана прадастаўленне вялікіх ільгот калгасам (адвод лепшых і блізка распаложаных зямель і т. д.). Але гэта павінна праводзіцца арганізавана і ў адпаведнасці з існуючымі законапалажэннямі (ні ў якім разѐ не самімі калгасамі), прычым шляхам разгортвання масава-палітычнай работы.

* * *

Закрыты севазварот гэта „закрыты“ калгас, г. зн. калгас без перспектыў на далейшы рост, г. зн. закрыццё доступу не ўступіўшаму ў калгас бядняцка-серадняцкаму сялянству. Палітыка „закрытых“ калгасаў была асуджана як кулацкая.

Быўшае кіраўніцтва землеўпарадкавання ажывіла гэту палітыку для БССР і ў 1933 годзе.

Інструкцыя па нарэзцы палёў севазвароту, даная ў сакавіку 1933 г., яшчэ больш заблытвала землеўпарадкавальнікаў сваёй вельмі расплыўчатай невыразнай фармуліроўкай і адсутнасцю ў ёй паказу якога-небудзь прыкладу аб правільнасці нарэзу палёў севазвароту.

Вось гэты пункт:

„Палі калгаснага севазвароту праектуюцца такім чынам, каб вострыўныя масівы аднаасобных гаспадарак прылягалі **па магчымасці** да канцоў палёў калгаснага севазвароту“ (падкрэслена намі).

Каб многа не мудраваць, землеўпарадкавальнікі наразалі „па магчымасьці“ „закрытыя“ севазвароты, бо асноўная задача заблытанасці інструкцыі была накіравана іменна на тое, каб прымусіць наразаць „закрытыя“ севазвароты, г. зн. землеўпарадкавальнікі ў прамым сэнсе выконвалі іншасказальна напісаную дырэктыву.

Характэрна адзначыць, што гэта дырэктыва аб нарэзцы закрытых севазваротаў была спушчана ў раёны ў той час, калі брыгада НКЗ СССР на чале з т. Урыцкім ускрыла ў БССР скажэнні лініі партыі ў галіне землеўпарадкавання і ў прыватнасці ў пытаннях нарэзкі закрытых севазваротаў.

Класавы вораг, карыстаючыся тым, што на чале кіраўніцтва землеўпарадкавання НКЗБ стаяў яго прыхільнік, дабіўся таго, што землеўпарадкавальнікам не была дана дырэктыва аб спыненні нарэзак „закрытых“ севазваротаў і пасля пастановы НКЗ СССР ад 25 чэрвеня 1933 г., якая характарызавала нарэзку закрытых севазваротаў як кулацкую палітыку.

Не былі даны ўказанні аб спыненні нарэзкі закрытых севазваротаў і пасля пастановы СНК БССР ад 20-VIII—33 г., якая таксама рашуча асудзіла нарэзку закрытых севазваротаў.

Толькі ў кастрычніку 1933 г. ужо новым кіраўніцтвам была дана дырэктыва аб спыненні нарэзкі „закрытых“ севазваротаў, а да гэтага месяца землеўпарадкавальнікі прадаўжалі наразаць землі закрытых севазваротаў.

Тав. Самуйлаў—нач. групы па землеўпарадкаванню калгасаў Путчынскай МТС заявіў, што яшчэ ў ліпені месяцы наразаліся закрытыя севазвароты, а рэвізор т. Забароўскі, у акце абследвання Жыткавіцкай землеўпарадкавальнай партыі канстатуе, што ў гэтым раёне нават у верасні месяцы яшчэ наразаліся „закрытыя“ севазвароты (калгас „Чырвоная ніва“).

У выніку працягнутай кулацкай лініі ў землеўпарадкаванні па БССР за 1932 і 1933 гг. было нарэзана „закрытых“ севазваротаў на плошчы 92 0000 *га*. Па паасобных раёнах карціна такая: у Старобінскім—з 68 севазваротаў закрытых нарэзана 47, у Магілеўскім з нарэзаных 168—закрытых 133, у Чэрвеньскім з 41—закрытых 19.

З калгасаў за нарэзку „закрытых“ севазваротаў спагнана 717 000 рублёў.

Прыкрываючыся нібы ажыццяўленнем закона „Аб устойлівым землекарыстанні калгасаў“, быўшае кіраўніцтва землеўпарадкавання НКЗБ праводзіла лінію тармажэння росту калектывізацыі.

* * *

Інструкцыяй 1933 г. па нарэзцы севазваротаў было прапанавана ў катэгарычнай форме раней чым прыступіць да нарэзкі палёў севазвароту адвесці плошчу для **гаспадарчага** цэнтру.

З прычыны таго, што адвод гаспадарчага цэнтра праводзіўся для „закрытага“ калгаса, г. зн. калгаса з закрытым севазваротам, з улікам фактычнага землекарыстання калгаса на даны дзень (без перспектыў яго далейшага росту), то і выбар месца для **гаспадарчага** калгаснага цэнтру меў у сабе ўсе тыя палітычныя і гаспадарчыя недахопы, што і „закрыты“ севазварот.

Севазвароты праводзіліся апрача землеўпарадкавальнікаў таксама і студэнтамі і настаўнікамі, якія справу выбару гаспадарчага цэнтру дрэнна ведаюць, таму гэты выбар рабіўся з дэфектамі, без наяўнасці планавага матэрыялу.

У рэзультаце такога планавання гаспадарчы цэнтр знаходзіўся-б недзе ў эксцэнтрычным пункце ў адносінах да калгаса-сяла і пры росце калектывізацыі штучна ствараў-бы далёказямелле. Шкоднасць такой „праектыроўкі“ калгасных цэнтраў знайшла асабліва значнае адлюстраванне ў раёнах з хутарской формай землекарыстання.

Гэта аднак не азначае, что сядзіба калгаса павінна быць абавязкова ў геаметрычным цэнтры землекарыстання, яна можа знаходзіцца і на адлегласці ад геаметрычнага цэнтру ў залежнасці ад раду іншых умоў, прад'яўляемых да гаспадарчага цэнтру.

Арганізацыя калгасных цэнтраў, іх распланіроўка, асваенне ішло ў значнай меры самацёкам таксама і ў межах граніц закрытага калгаса, а быўшае кіраўніцтва орг. тэрыторыі ўзяло на сябе ролю староннягa назіральніка.

Скажэнні ў выбары калгаснага цэнтру не абмяжоўваюцца толькі тым, што ён збіраўся для закрытага калгаса (калгаса з „закрытым севазваротам“).

Інструкцыя рэкамендуе абіраць толькі **гаспадарчы** цэнтр, зусім ігнаруючы і абыходзячы маўчаннем выбар **сядзібнага** цэнтру, у той час як абраны для калгаса цэнтр павінен быць сядзібна-гаспадарчым, г. зн. канцэнтраваць у сабе і гаспадарчыя і жыллёвыя будоўлі калгаса.

Разрыў паміж сядзібным і гаспадарчым цэнтрам у агульнай сістэме работы быўшага кіраўніцтва землеўпарадкавання ў 1933 г. невыпадковы.

Разрыў гэты поўнасцю адпавядае тым задачам, якія паставіла сабе б. кіраўніцтва землеўпарадкавання—падтрымліваць палітыку Прышчэпава, але толькі іншымі спосабамі і метадамі.

Упор на выбар толькі гаспадарчага цэнтру, а не сядзібна-гаспадарчага быў зроблен для таго, каб стварыць яшчэ большыя труднасці для арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў шляхам штучнага адрыву сядзібных месц ад гаспадарчых.

. Гэта ясна паказвае таксама і тое, што быўшае кіраўніцтва землеўпарадкавання ні ў якой меры не ставіла сваёй задачай барацьбу з хутарской і дробна-пасялковай распыленасцю, ніякіх у гэтым напрамку работ не толькі асноўных, але і падрыхтоўчых не праводзіла, а тыя работы, якія праводзіліся, былі накіраваны супроць арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў.

* * *

27 сакавіка 1933 г. была апублікавана пастанова ЦК ВКП(б) аб празмерна вялікіх сядзібах асабістага карыстання калгаснікамі ў БССР, якія ператварыліся з падсобнай гаспадаркі ў асноўную і адцягвалі ўвагу калгаснікаў ад работы ў калгаснай вытворчасці.

З-за таго, што работа на сядзібе асабістага карыстання адцягвала ўвагу калгаснікаў ад калгаснай вытворчасці, многія калгасы несвоечасова спраўляліся са сваёй работай, а часам нават і зрывалі выкананне планаў ворыва, сяўбы, уборкі і т. д. Вага працадня была ў гэтых калгасах вельмі нізкая, што асабліва біла па тых калгасніках, якія аддавалі калгаснай вытворчасці ўвесь свой час, працавалі сумленна. Абследванне, праведзенае ЦКК РСІ БССР і НКЗ, паказала прамую залежнасць паміж велічынёй сядзібнага ўчастка калгасніка асабістага карыстання і колькасцю выпрацаваных у калгасе працадзён: чым большы размер сядзібы ў калгасніка, тым менш выпрацавана ім працадзён.

З моманту пастановы ЦК ВКП(б), ад 27 сакавіка 1933 г., да з'яўлення ў газеце „Правда" артыкула „Палітычная слепата", г. зн. да кастрычніка месяца, быўшым кіраўніцтвам землеўпарадкавання не было дана ні аднаго ўказання аб выкананні гэтай дырэктывы ЦК ВКП(б), што гаворыць аб прамым ігнараванні яе.

Класавы вораг ў аднолькавай меры выкарыстоўвае для сваіх мэт права-апартуністычныя і лявацкія ўстаноўкі, бо яны ўзаемна звязаны і разам, але з розных бакоў, накіраваны супроць генеральнай лініі партыі.

Быўшае Кіраўніцтва землеўпарадкавання ў адных выпадках ажыццяўляла кулацкія закрытыя калгасы, забараняла здыманне і нанясенне на план землекарыстання аднаасобнікаў і т. д, а ў другіх выпадках давала лявацкія ўстаноўкі на аграмаджанне зямель сядзібнага землекарыстання калгаснікаў.

Сядзібныя землі усіх калгаснікаў, пры ўступленні ў калгас, распараджэннем б. Кіраўніцтва землеўпарадкавання залічаны ў аграмаджаны фонд, што з'яўляецца прамым парушэннем статуту сельгасарцелі. Гэта дырэктыва б. Кіраўніцтва землеўпарадкавання існавала нядоўга (яна была хутка адменена пасля выкрыцця яе шкодніцкага характару), але знайшліся прыхільнікі, якія пачалі энергічна праводзіць яе ў жыццё.

Цыркулярны ліст Вышэйшай зямельнай камісіі за подпісам нам. Наркамзема СССР т. **Муралава** ад 25-VI-33 г., у якім прапанавалася наркамземам рэспублік, краёў і абласных зямельных кіраўніцтваў распрацаваць размеры прысядзібных участкаў і прадставіць на зацверджанне СНК, края і аблвыканкомаў, прапаў і знайшоўся толькі ў канцы лістапада месяца пасля доўгіх і старанных пошукаў.

Такім чынам, з чэрвеня да снежня месяца ніякай работы па выкананню дырэктывы НКЗ СССР аб размерах прысядзібных участкаў не вялося.

* * *

У галіне тэхнічнага і юрыдычнага афармлення землеўпарадкавальных спраў меў месца таксама значны самацёк і саматужніцтва. Кожны землеўпарадкавальнік працаваў па свайму жаданню: як ён лічыў найбольш зручным, так і афармляў справы, а ў радзе раёнаў адсутнічала ўсякае афармленне землеўпарадкавальных спраў, што стварыла вялікую заблытанасць ва ўліку зямель.

На працягу 1933 г. ніякіх інструкцый і ўказанняў па гэтаму пытанню не было.

Калгасам, пасля сканчэння работ, выдаваліся чарцяжы на звычайнай паперы, у лепшым выпадку на васкоўцы, без нанясення на іх неабходных даных, характарызуючых землекарыстанне калгаса (эксплікацыі) у цэлым і па палёх севазвароту, без указання землекарыстання аднаасобнікаў (у большасці выпадкаў, як ужо сказана вышэй, землі іх не здымаліся і на план не заносіліся), без указанняў сумежных землекарыстанняў.

Пры ўстанаўленні межаў землекарыстання зацікаўленыя бакі не выклікаліся, што параджала зямельныя спрэчкі паміж калгасамі. Ілюмінноўка чарцяжоў рабілася не ў адпаведнасці з устаноўленымі правіламі.

Кіраўніцтва землеўпарадкавання не рабіла ніякіх спроб для прымянення больш сучасных і навуковых метадаў здымання.

Вугламернае гарызантальнае здыманне ў большасці выпадкаў не было звязана з асноўнымі геадэзічнымі данымі і ў сувязі з гэтым давала самыя недакладныя матэрыялы аб сітуацыі ўгоддзяў.

Формы тэхнічнага адчоту былі пабудаваны такім чынам, каб заблытаць сапраўднае становішча работ па землеўпарадкаванню. Форма была пабудавана так, што які-б від работ землеўпарадкавальнік не выконваў (абход акружной мяжы, здыманне сітуацыі і т. д.)—усё гэта праводзілася па пэўных каэфіцыентах на поўнае гаспадарчае ўпарадкаванне (так званае „паглыбленне“).

Праводзіць, напрыклад, землеўпарадкавальнік здыманне акружной мяжы калгаса ці соўгаса, пасля чаго дае адчот аб тым, што ім на пэўнай колькасці гектараў праведзена поўнае гаспадарчае ўпарадкаванне, але ў сапраўднасці гэта не рабілася. Землеўпарадкавальнік, такім чынам, займаўся „ўзаконеным“ чынам очкаўцірацельствам.

У рэзультаце такога адчоту нельга было вызначыць, якому ліку соўгасаў ці калгасаў адведзена зямля, у якіх калгасах праведзена здыманне сітуацыі і на якой плошчы, у якой стадыі ў даны момант знаходзіцца работа па гаспадарчаму ўпарадкаванню соўгаса ці калгаса.

* * *

Кіраўніцтва землеўпарадкавання 14 ліпеня 1933 г. заключыла з профсаюзам батрацтва і МТС калектыўны дагавор. Дагавор гэты папярэдне не быў абгаворан на вытворчых нарадах землеўпарадкавальных партый, а таму з'яўляецца груба-бюракратычным творам, бо быў пабудован адарвана ад агульнага напрамку работ па землеўпарадкаванню.

Пунктам № 17 колдагавора прадугледжваецца гарантыйны мінімум акладу землеўпарадкавальніка, калі норма выпрацоўкі выканана ім ніжэй 66,7 проц. Пры выкананні нормы ад 66,7 проц. і вышэй земле-

ўпарадкавальнік атрымлівае аплату ў адпаведнасці з процантам выкананай нормы, а пры выкананні нормы ніжэй 66,7 проц. (напр., 50, 40, 20 проц.) ён атрымлівае гарантыйны мінімум у размеры $^2/_3$ свайго асноўнага акладу, а гэта значыць, што колдагавор даваў магчымасць працаваць з прахладцам, лодырнічаць і атрымліваць $^2/_3$ акладу пры невыкананні нормы выпрацоўкі.

Пры гэтым колдагаворам прадугледжваецца, што пры выпрацоўцы ніжэй 66,7 проц. $^2/_3$ акладу выплачваюцца ў той-жа месяц, забараняючы ў далейшым выплачваць пераразлік у тым выпадку, калі ў землеўпарадкавальніка маецца перавыкананне нормы ў наступны месяц.

За перавыкананне нормы дагавор прадугледжваў аплату без уліку таго, што ў мінулым месяцы была недавыпрацоўка. Дзякуючы гэтаму пункту магчымы былі ўсякія камбінацыі, як, напр., паказаўшы недавыпрацоўку ў адным месяцы і пералічваючы частку выпрацоўкі на наступны месяц, можна было атрымаць гарантыйны мінімум у першыя месяцы і перавыпрацоўку ў наступным месяцы.

Так, напр., у Крычаўскай райземпартыі выпрацоўка нормы ў старшага тэхніка **Тыкоцкага** наступная:

| | | |
|---|---|---|
| У красавіку | на 84 проц. | |
| У маі | „ 23,7 „ | У сярэднім за |
| У чэрвені | „ 75,8 „ | квартал 62,3 |

У старшага тэхніка **Пушкіна**:

| | | |
|---|---|---|
| У красавіку | на 153,5 проц. | |
| У маі | „ 41,4 „ | У сярэднім за квар- |
| У чэрвені | „ 94,3 „ | тал 94,5 проц. |

Выходзячы з п. 17 колдагавора ст. тэхнікам Тыкоцкаму і Пушкіну трэба выплаціць за май месяц гарантыйны мінімум у размеры $^2/_3$ асноўнага акладу, на чым катэгарычна настойваў профсаюз, які патрабаваў аплаты за другія месяцы (красавік і чэрвень) адпаведна нормам выпрацоўкі і пратэставаў супроць уплаты ў залежнасці ад пакварта́льнай выпрацоўкі, г. зн. за 62,3 проц. выпрацоўкі (Тыкоцкаму) і 94,5 проц. (Пушкіну). Пасля нашага раз'яснення профсаюз адмовіўся ад свайго няправільнага патрабавання.

Сістэма аплаты працы, прадугледжаная ўказаным колдагаворам, была накіравана супроць паспяховага правядзення работ па землеўпарадкаванню, супроць стымулявання высокаякасных і колькасных паказчыкаў выканання вытворчых планаў.

Адсюль нядзіўна, што сярод землеўпарадкавальнікаў былі слаба развіты соцыялістычныя метады працы.

* * *

Такім чынам, у 1933 г. у галіне землеўпарадкавання ў БССР класавы вораг прадаўжаў праводзіць сваю шкодніцкую работу. **На тых участках, дзе была праяўлена адсутнасць большэвіцкай пільнасці, класавы вораг меў некаторыя поспехі,** а іменна:

а) дабіўся ажыццяўлення ў радзе выпадкаў закрытых калгасаў шляхам нарэзкі „закрытых“ севазваротаў, тармозячых рост калгасаў;

б) ажыццявіў здыманне выключна калгаснага землекарыстання, выключыўшы, як аб'ект здымання, землі аднаасобнікаў, чым дабіўся заблытвання ўліку зямель у БССР;

в) узмацніў заблытванне зямельнага ўліку тым, што перадаў рэгуляванне аднаасобнага землекарыстання выключна сельсоветам, а тыя, у сваю чаргу, перадаверылі яго брыгадзірам калгасаў і ўпаўнаважаным сельсоветаў;

г) без сістэмы і без плана наразаў гаспадарчыя калгасныя цэнтры з разліку на закрыты калгас, г. зн. што па меры росту калгаса большая частка гэтых гаспадарчых цэнтраў не будзе адпавядаць свайму арганізацыйна-вытворчаму прызначэнню;

д) наразаўшы выключна **гаспадарчыя** цэнтры, а не **сядзібна-гаспадарчыя**, гэтым самым штучна затрымліваў выявіўшуюся сільную цягу калгаснікаў да сцягвання сваіх сядзіб у калгасныя цэнтры з тым, каб пакончыць з прышчэпаўскай спадчынай—з хутарской распыленасцю, адасобленасцю—і перайсці да культурнага жыцця;

е) замест таго, каб пераключыць землеўпарадкавальны апарат на гаспадарчае ўпарадкаванне калгасаў, яны і ў 1933 г. зрабілі землепаказанне па асноўных відах землеўпарадкавальных работ, зрасходваўшы на землепаказанне 66,5 проц. усіх сродкаў, затрачаных на землеўпарадкаванне. Гэтым яны часткова дабіліся зрыву аднаго з мерапрыемстваў па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў і далейшага заблытвання ўліку;

ж) апрача таго, што скажэннем палітычных установак партыі і ўрада яны прабавалі затрымаць рост калектывізацыі, яны нанеслі дзяржаве вялікую страту непрадукцыйным расходваннем сродкаў і такім-жа выкарыстаннем рабочай сілы;

з) ігнаравалі рашэнне ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб прысядзібных участках.

Усе вышэйпаказаныя скажэнні і шкодніцкія дзеянні ў галіне землеўпарадкавання прадстаўляюць сабою рэцыдыў прышчэпаўшчыны, формы барацьбы класавага ворага, у якога мэтай было накіраванне развіцця сельскай гаспадаркі БССР па капіталістычнаму шляху. (Дарэчы сказаць, кіраўніком землеўпарадкавання да 1 верасня 1933 г. быў тав. **Балотнікаў**, які даваў усе прыведзеныя намі дырэктывы за 1933 г. па землеўпарадкаванню. Гэта той самы Балотнікаў, які працаваў раней пад кіраўніцтвам Прышчэпава і практычна ажыццяўляў палітыку хутарызацыі не толькі як землеўпарадкавальнік-выканаўца, але і як акруговы землеўпарадкавальнік у б. Магілеўскай акрузе).

**Партыя своечасова выкрыла ўсе гэтыя скажэнні і шкодніцкія дзеянні ў галіне землеўпарадкавання і рашуча ўдарыла па іх носьбітах.**

* * *

Якавы-ж задачы землеўпарадкавання ў 1934 годзе?

Гэта—забяспечыць правільнае правядзенне ў жыццё дырэктыў партыі і ўрада ў галіне землеўпарадкавання і землекарыстання, весці рашучую і сістэматычную барацьбу са скажэннямі, пакончыць з усякімі спробамі ў той ці іншай форме працягнуць і ажыццявіць антыпартыйныя тэндэнцыі, якія ў паасобных месцах праявіліся ўжо і ў 1934 годзе.

Неабходна разгарнуць вялікую раз'ясняльную работу па выкрыццю шкодніцкай сутнасці нарэзкі „закрытых“ севазваротаў. Гэта асабліва важна калі ўлічыць, што ў некаторых раёнах маюцца яшчэ паасобныя кіраўнікі, якія лічаць, што закрыты севазварот—адзіна правільная форма, забяспечваючая выкананне закона „Аб устойлівым землекарыстанні калгасаў“.

Так, заг. Чырвонапольскага райза тав. Афанасенка характарызуе адкрыты севазварот (г. зн. такі, пры якім землі аднаасобнікаў прылягаюць к канцам палёў калгасаў) як „шкодны“, які хочуць працягнуць „пад флагам тэарэтычна правільнага“.

Прыхільнікі „закрытага“ севазвароту разглядаюць „адкрыты севазварот“ як быццам парушэнне закона „Аб устойлівым землекарыстанні калгасаў“, як тормаз к росту калектывізацыі.

А між тым іменна „закрыты“ севазварот тармозіць арганізацыйна гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, парушае ўстойлівае землекарыстанне калгасаў, бо ў сувязі з ростам калектывізацыі землекарыстанне калгасаў пашыраецца і таму, што гэта пашырэнне ідзе няроўнамерна да кожнага поля калгаса, то для стварэння роўнай плошчы палёў (з ваганнем да 5—7 проц.) прыходзіцца кожны раз, па меры прыліву аднаасобнікаў у калгас, перанарэзваць палі, перасоўваць землекарыстанне калгаса.

Раз'ясненне шкодніцкай сутнасці „закрытага“ севазвароту мае агромнае значэнне, бо на месцах ёсць яшчэ прыхільнікі „закрытых“ севазваротаў, якія актыўна не выступаюць, але моўчкі чакаюць указанняў, а самі не прадпрыймаюць ніякіх крокаў для знішчэння гэтай шкодніцкай устаноўкі.

Так, заг. Чаускім райза забараніў раскрываць севазвароты, матывіруючы тым, што ён не можа дазволіць раскрыццё да таго часу, пакуль не будзе атрымана на гэта дакладная інструкцыя.

Для таго, каб паспяхова правесці работу па нарэзцы севазваротаў і перанарэзцы „закрытых“, каб палітычна верна ажыццявіць гэту работу, сярод зямельных работнікаў (землеўпарадкавальнікаў, аграномаў і т. д.) неабходна разгарнуць упорную, сістэматычную, аператыўна-вытворчую, палітычна-насычаную работу для ўсваення імі правільнай лініі партыі і аўладання метадамі яе практычнага ажыццяўлення.

Практыка вясны 1934 г. паказала, што некаторыя работнікі катэгарычна адмовіліся ад права ініцыятывы і чакалі выключна дырэктыў з цэнтру нават і па дробных пытаннях, якія маглі-б быць паспяхова вырашаны на месцы.

Бліжэйшай задачай з'яўляецца павышэнне кваліфікацыі землеўпарадкавальнікаў як праектыроўшчыкаў арганізацыі тэрыторыі, узброіць іх уменнем дакладна разбірацца ў пытаннях севазваротаў і іх аграэканамічнага абаснавання.

У 1934 г. павінна быць даведзена да канца работа па змяншэнню празмерна вялікіх сядзібных участкаў калгаснікаў.

Гэта работа павінна праводзіцца аднačасова з нарэзкай севазваротаў і перанарэзкай закрытых севазваротаў. Пакуль па БССР зменшаны прысядзібныя ўчасткі на 12,627 *га* і звернуты ў калгасны фонд захвачаныя для асабістага карыстання калгаснікамі і аднаасобнікамі 2 955 *га*.

У адносінах пастаноўкі зямельнага ўліку яшчэ ў пачатку кастрычніка 1933 г. была дана дырэктыва аб абавязковым правядзенні здымання вёскі ў цэлым, у межах яе ранейшага землекарыстання (да выхаду на хутары і пасёлкі), уключаючы ў здыманне і землі аднаасобнікаў; дана інструкцыя аб здыманні і нанясенні на план усіх угоддзяў з дакладнасцю да 0,01 *га*, г. зн. наносіць на план і дробныя „блюдцы“, раскіданыя на пашы, якія так характэрны для БССР і займаюць часам на адным полі ў агульнай суме больш гектара.

У 1934 г. значна зменены метады здымання. Замест тэадалітнага „вісячага", не прывязанага да геадэзічных пунктаў здымання, пераходзім цяпер у значнай частцы на мензульнае здыманне, прывязанае да геадэзічных пунктаў і сістэм міжнароднай сеткі каардынатных пунктаў.

Замест распыленай невялікімі кавалкамі зазнятай тэрыторыі па паасобных раёнах у 1934 г. будзе праведзена сплашное здыманне. У 5 раёнах БССР, з іх: 3 наземным спосабам з нанясеннем рэльефу і 2 раёны шляхам аэрафотаздымання (аэрафотаздыманне па гэтых раёнах будзе скончана поўнасцю к чэрвеню 1936 г.). Сплашное землеўпарадкаванне будзе закончана ў 1934 г. (к студзеню 1935 г.) па 27 раёнах з дадатковым здыманнем плошчы, на якую няма планавага матэрыялу.

Аэрафотаздыманнем будзе ахвачана 10 тыс. квадратных кіламетраў (1 млн. *га*).

Уводзіцца індывідуальны ўлік кожнага калгаснага землекарыстання па картачнай сістэме з дэталізацыяй па ўгоддзях.

Вытворчыя працэсы па землеўпарадкаванню строга дыферэнцыруюцца і спецыялізуюцца. Раней землеўпарадкавальнік рабіў здыманне і быў праектыроўшчыкам, г. зн. павінен быў быць усебаковым спецыялістам, добра ведаючым арганізацыю гаспадаркі і інжынерам геадэзістам—тапографам.

У 1934 г. правядзенне здымання будзе даручана, як правіла, выключна тапографам. Яны павінны здаваць зусім закончаны планавы матэрыял да вылічэння плошчаў па ўгоддзях уключна.

Гэтым устанаўляецца персанальная адказнасць кожнага тапографа за дакладнасць здымання на яго планшэце.

Праектыроўшчык займаецца выключна складаннем праектаў арганізацыі тэрыторыі калгасаў і перанясеннем іх у натуру.

Упершыню ў БССР арганізавана праводзіцца работа па комплекснай арганізацыі тэрыторыі (комплекснаму землеўпарадкаванню) калгасаў, абслугоўваемых МТС (Путчынская і Дубровенская).

На працягу 1934 г. будуць арганізаваны яшчэ 2 брыгады па комплекснай арганізацыі тэрыторыі калгасаў МТС. Поўнасцю будзе выкарыстан маючыйся па 5 раёнах матэрыял (які дагэтуль ляжаў нявыкарыстаным) для разгортвання работ па сплашному землеўпарадкаванню калгасаў гэтых раёнаў.

НКЗ БССР абраў Дубровенскі раён як тыповы хутарскі, каб на вопыце гэтага раёна разгарнуць работу па сцягванню хутароў у калгасныя цэнтры.

З кожным годам гэта работа будзе ўсё больш разгортвацца, як прадпасылка для забяспечання заможнага культурнага жыцця калгаснікаў. Калгасы большэвізуюцца і на гэтай аснове шырокім размахам пойдзе ліквідацыя цяжкой сумнай спадчыны сталыпіншчыны і прышчэпаўшчыны—хутарской і дробна-пасялковай распыленасці.

Вырастуць новыя соцыялістычныя пасёлкі, распланаваныя і пабудаваныя такім чынам, што яны будуць выконваць соцыяльныя функцыі, ускладаемыя на іх соцыялістычнай дзяржавай для абслугоўвання калгасных мас.

Арганізацыі калгасных цэнтраў у радзе рэспублік удзяляецца выключная ўвага (Кабардзіна-Балкарская вобласць, Галадпасценскі раён—г. Мірзагуль, Узбекістан і інш.). Для гэтай справы прыцягваюцца не толькі паасобныя работнікі, але і аб'яднанні інжынераў будаўнікоў, архітэктараў, мастакоў.

У мэтах падрыхтоўкі работнікаў па распланіроўцы прысядзібных калгасных цэнтраў, НКЗБ камандыраваны ў Маскоўскі Навукова-даследчы інстытут арганізацыі тэрыторыі тры землеўпарадкавальніка на паўтары месяцы для кваліфікацыі ў галіне планавання калгасных вёсак.

Апрача гэтага к рабоце па распланаванню калгасных вёсак павінны быць прыцягнуты ўсе лепшыя інжынерныя, архітэктурныя і мастацкія сілы БССР.

Аб'яднанні работнікаў указаных кваліфікацый павінны прыняць актыўны ўдзел у барацьбе са спадчынай прышчэпаўшчыны, у стварэнні новай соцыялістычнай вёскі.

Выбар і адвод месц для калгаснай вёскі, яе распланіроўка павінны праводзіцца з улікам поўнай калектывізацыі данай вёскі або групы хутароў і дробных пасёлкаў, вышаўшых з адной вёскі (уключаючы і аднаасобнікаў, якія сёння яшчэ не састаяць у калгасе, але з'яўляюцца заўтрашнімі калгаснікамі).

Мы далі ў гэтым артыкуле толькі некаторыя моманты тэорыі і практыкі землеўпарадкавання ў БССР і поўнасцю не вычарпалі ўсяго матэрыялу, які маецца ў нашым распараджэнні.

Але тое, што намі асветлена і ўскрыта, патрабуе ўважлівых і пільных адносін к гэтаму з боку партыйных і совецкіх органаў.

Скажэнні ў галіне землеўпарадкавання поўнасцю яшчэ не зжыты, і рэцыдывы іх магчымы. На барацьбу з імі павінна быць мабілізавана ўся партыйная і совецкая грамадскасць.

---

**Д. Шухман**— Галоўны інжынер завода імя Гея
**С. Фельдман** — Парторг завода
**С. Малінін** —Заг. аддзела эканомікі працы Інстытута Працы

# Барацьба за торф на заводзе Імя Гея

Торф—асноўны від паліва для прамысловасці і электрастанцый БССР. Гэта вызначае тую выключную ўвагу, якую партыя і ўрад удзяляюць развіццю і ўмацаванню тарфяной прамысловасці. Майскі пленум ЦК КП(б)Б з вычарпальнай паўнатой ускрыў прычыны зусім нездавальняючай работы тарфяной прамысловасці за мінулы перыяд, указаў канкрэтныя шляхі перабудовы, абавязаўшы па-большэвіцку змагацца за поўнае, датэрміновае выкананне плана торфаздабычы 1934 года.

Калі сезоны 1931, 1932 і 1933 гг. з'яўляліся сезонамі сістэматычнага невыканання плана торфаздабычы, то сезон бягучага 1934 года павінен раз і назаўсёды пакончыць з ганебным і недапушчальным прарывам на гэтым важнейшым участку народна-гаспадарчага фронта. Тарфяная прамысловасць БССР павінна не толькі поўнасцю і ў тэрмін выканаць, але і значна перавыканаць план. Для гэтага яна мае ўсе аб'ектыўныя магчымасці, аб гэтым наглядна сведчыць і вопыт перадавых торфзаводаў БССР, якія, не гледзячы на наяўнасць цэлага раду не зжытых яшчэ буйных недахопаў у рабоце, усё-ж здолелі перабудавацца і забяспечыць выкананне і перавыкананне майскага плана здабычы.

Урокі работы гэтых заводаў павінны стаць прадметам шырокага абгаварэння і абмену вопытам сярод работнікаў тарфяной прамысловасці.

Торфазавод імя Гея ў сезоне 1934 г. павінен даць краіне 77 000 тон высокаякаснага торфу, з іх 44 000 тон фрэзернага, 33 000 тон кавалкавага.

Красавіцкі план торфазавод выканаў на 117 проц., майскі на 122 проц., у прыватнасці, па фрэзернаму торфу на 194 проц., у той час як выкананне каляндарнага плана здабычы за той-жа перыяд у сярэднім па ўсіх заводах Белторфа складае толькі 90 проц.

Чым-жа аб'ясняецца поспех, дасягнуты заводам імя Гея ў красавіку і маі?

Перш за ўсё тым, што кіраўніцтва завода старанна рыхтавалася к сезону, у асноўным правільна расставіла людзей і арганізавала працу непасрэдна ў брыгадзе, на агрэгаце, на фрэзерных палях і картах, аператыўна ўстараняючы недахопы, выяўляючыяся ў ходзе работы.

У падрыхтоўцы к сезону цэнтральнае месца займаюць: рамонт абсталявання, вярбоўка сезоннікаў і падрыхтоўка кадраў кваліфікаваных рабочых і нізавых арганізатараў вытворчасці (начальнікаў змен, агрэгатаў, дзесятнікаў), а таксама мерапрыемствы, накіраваныя к рашучаму палепшанню матэрыяльна-бытавых умоў і палітыка-выхаваўчай і масавай работы сярод торфа-рабочых.

Капітальны рамонт элеватарных установак і трактароў на заводзе Гея быў поўнасцю закончан к 15/IV, 16-га машыны былі апрабаваны і выявілі высокую якасць рамонту. Усе рамонтныя рабочыя ў перыяд падрыхтоўкі к сезону былі пераведзены на здзельшчыну, што аказала рашучы ўплыў на якасць і тэмпы іх работы.

У рэзультаце, за май агрэгаты прастаялі па механічных прычынах толькі 2,5 проц. ад валавога часу работы, замест планавых 3,8 проц. і 6 проц., меўшых месца у сярэднім за 1933 год. У паасобных брыгадах прастоі па механічных прычынах за май былі скарочаны да 0,5—2 гадзін (брыгады Агапава, Седунова, Лапценка), г. зн. усяго да 0,23—1 проц. Зараз догляд за машынамі пабудован па сістэме планава-папераджальнага агляду і рамонту. Асноўныя запасныя часткі загатоўлены ў дастатковай колькасці.

Другім рашаючым момантам з'яўляецца падрыхтоўка кваліфікаваных кадраў пастаянных рабочых і нізавога адміністрацыйна-тэхнічнага персанала, а таксама падняцце кваліфікацыі сезоннікаў. Рыхтуючыся к сезону торфазавод Гея праз спецыяльныя курсы падрыхтаваў 29 кваліфікацыйных начальнікаў змен і дзесятнікаў. 6 з іх здалі праверачныя іспыты на выдатна, 9 на добра. Тэхвучобай былі ахвачаны і здалі тэхмінімум усе трактарысты, параўшчыкі і слесары. У самым пачатку сезона тэхнарук завода і начальнікі агрэгатаў непасрэдна ў кар'еры правялі дакладны вытворчы інструктаж брыгад аб правільных прыёмах работы, правілах распрацоўкі кар'ера і абыходжання з машынай, арганізацыі перасоўкі і т. д.

Горш аказалася праведзена вярбоўка. Здавалася, што завод правёў цэлы рад мерапрыемстваў, якія павінны былі забяспечыць поўны поспех гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі. Старанна быў падабран кадр вярбоўшчыкаў, на вярбоўку былі пасланы начальнікі агрэгатаў і змен, выязджаў для вярбоўкі дырэктар. У раёнах вярбоўкі былі арганізаваны хаты-чытальні, праводзілася шырокая раз'яснялъная работа. План вярбоўкі быў перавыканан (завербавана 1700 чал., замест прадугледжаных планам 1158), аднак да 5/V на завод прыехала толькі 906 чал., або ўсяго 78,2 проц. плана.

У чым прычына?

Па-першае, завод у справе арганізаванага набору рабочай сілы не знішчыў яшчэ элементаў самацёку, не праявіў неабходнай настойлівасці і аператыўнай гібкасці іменна ў той момант, калі завербаваныя рабочыя, паасобныя калгасы і раённыя арганізацыі сталі не выконваць дагаворы аб несвоечасовым выездзе завербаваных на торфараспрацоўкі; не здолелі належным чынам арганізаваць сустрэчу і замацаваць усіх прышоўшых на завод рабочых, у рэзультаце чаго ўвесь май не спынялася цякучасць. Ушло 106 чал., што складае 10 проц. ад агульнага ліку рабочых завода.

Па-другое, ва ўпорным нежаданні раённых арганізацый аказаць заводу ў справе вярбоўкі актыўную, сапраўдную дапамогу. Даволі сказаць, што не гледзячы на спецыяльную тэлеграму ЦК КП(б)Б старшыні Расонскага РВК т. Партнову аб неабходнасці рашучага ўзмац-

нення тэмпаў вярбоўкі на працягу ўсяго мая, з гэтага раёна заводу не ўдалося атрымаць амаль ні аднаго рабочага.

Да станоўчых бакоў вярбовачнай кампаніі трэба аднесці замацаванне за заводам значнай колькасці старых сезоннікаў-тарфянікаў (22,3 проц. ад усіх тарфянікаў), працаваўшых на тарфяной прамысловасці, у прыватнасці на заводзе імя Гея, на працягу некалькіх год падрад. Гэтыя рабочыя былі расстаўлены ва ўсе брыгады і з самага пачатку сезону прывівалі маладым тарфянікам правільныя прыёмы работы.

Трэба падкрэсліць таксама, што адзначаная вышэй цякучасць амаль зусім не закранула перадавых ударных брыгад па здабычы, ахватваючы галоўным чынам групы рабочых, занятых на вывазцы, падрыхтоўцы балота і падсобных некваліфікаваных работах. Гэта акалічнасць несумненна дапамагала выкананню плана і дасягненню высокай прадукцыйнасці працы з самага пачатку сезона.

Многа ўвагі ў перыяд падрыхтоўкі к сезону было ўдзелена пытанню стварэння ўласнай харчовай базы, умацаванню і развіццю маючайся пры заводзе прыгараднай гаспадаркі.

Старанна была праведзена пасеўная: своечасова вывезена на палі ўгнаенне, поўнасцю адрамантаван інвентар, праверана на ўсхожасць насенне. У выніку засеяна 30 га: 11 га бульбы, 7 га капусты, 2 буракоў, $3^1/_2$ аўсу, 1 га ячменю, 1 гуркоў і т. д. Аднак, такі размер пасеўнай плошчы для патрэб завода зусім недастатковы. Плошча пасеву павінна быць павялічана ў 2—3 разы. Аб гэтым неаднакраць пытанне паднімалася перад раённымі арганізацыямі, але завод не толькі не знаходзіў падтрымкі, а, наадварот, у гэтым годзе Смалявіцкі райземаддзел нават урэзаў на 2 га зямлі прыгараднай гаспадаркі, перадаўшы іх бліжэйшаму калгасу.

Лік кароў, які састаўляў у прыгараднай гаспадарцы ў 1933 г. 3 шт., даведзен зараз да 19 (вырошчваецца яшчэ 3 цёлкі). Замест 5 свінаматак, меўшыхся ў гаспадарцы ў 1933 г., зараз 20 свіней пастаўлена на адкорм, расце 60 шт. маладняку. За перыяд сезону ўжо пайшло на палепшанне грамадскага харчавання рабочых 10 адкормленых у прыгараднай гаспадарцы свіней, з убойнай вагой ад 60 да 187 кгр.

## Машынна-фармовачны торф

Майскі план здабычы машынна-фармовачнага торфу выканан заводам на 101,8 проц. Аднак, даволі параўнаць паказчыкі па заводу за май (а май—першы месяц сезону, як правіла, дае найбольш нізкія, у параўнанні з іншымі месяцамі, паказчыкі) з адпаведнымі сярэднімі данымі па Белторфу за ўвесь сезон 1933 г., каб дасягненні завода сталі зусім відавочнымі (гл. табл.).

| | Выпрацоўка за 8-мігадз. брыгада-змену | Прадукцыйнасць працы тарфяніка за 8-гадз. змену |
|---|---|---|
| У сярэднім па Белторфу за сезон 1933 года . . . . . . | 22 920 | 962 |
| У сярэднім за май 1934 года па заводу імя Гея . . . . . | 31 960 | 1 227 |
| У проц. к 1933 году па Белторфу . . . . . . . . . . . | 139,4 проц. | 130 проц. |

Увага: У маі 1933 года торфазавод Гея даваў у сярэднім за адну 8-гадзінную брыгада-змену толькі 25—26 000 цэглы.

Ужо ў маі завод абагнаў мінулагодні сярэдні ўзровень заводаў Белторфу па выкананню брыгадамі зменнага задання на 39,4 проц., па ўзроўню прадукцыйнасці працы на 30 проц. Наступныя месяцы сезону несумненна дадуць яшчэ далейшы значны рост гэтых паказчыкаў.

З 12 брыгад, занятых на здабычы машынна-фармовачнага торфу, 7 перавыканалі майскае заданне, 5 недавыканалі яго.

Каб ускрыць прычыны адставання гэтых 5 брыгад, супаставім работу лепшай ударнай брыгады завода тав. **Жура**, набыўшай шырокую вядомасць у БССР, з брыгадай, даўшай найбольшае адставанне за май месяц—тав. **Матулеўскага** (гл. табл.).

| Паказчыкі работы брыгад у сярэднім за май 1934 г. | Выпрацоўка брыгады за 8-гадз. машына-змену. | | Прадукцыя тарфяніка за 8-гадз. змену | | Чысты час работы агрэгатаў у проц. (без уліку кантоўкі і дажджавых) | Час механічных прастояў за май месяц |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У цэглах | У проц. да нормы | У цэглах | У проц. да плана | | |
| Брыгада т. Матулеўскага (працуе на ваганетачнай машыне, норма 31 тыс. цэглы) . | 25 040 | 80,8 | 910 | 91 | 80,0 | 11 г. |
| Брыгада т. Жура (працуе на транспарцёрнай машыне, норма 31,5 тыс. цэглы). . . . | 36 704 | 116,5 | 1 548 | 117,8 | 83,0 | 3 г. 50 м. |
| У проц. да першай брыгады . | 146,5 | — | 170,1 | — | 103,7 | 34,8 |

Асноўныя вытворчыя паказчыкі абедзвюх брыгад, прадстаўленыя ў табліцы, гавораць самі за сябе з дастатковай пераканальнасцю.

Адначасова гэтыя лічбы лішні раз служаць бліскучым доказам памылковасці і шкоднасці рэакцыйных, антымеханізатарскіх гутарак найбольш адсталай часткі тарфянікаў і інжынерна-тэхнічных работнікаў, прадаўжаючых сцвярджаць, што быццам рэканструяваныя элеватарныя машыны, снабжоныя канатным транспарцёрам Інсторфу, даюць меншую магчымасць выконваць план, чым старыя—ваганетачныя.

Брыгада **Жура** дае высокую прадукцыйнасць працы, гэта—галоўная прычына, забяспечваючая ёй сістэматычнае перавыкананне плана. Брыгада максімальна ўшчыльняе свой рабочы дзень, даводзячы каэфіцыент выкарыстання агрэгата да 83,1 проц. У брыгадзе жалезная дысцыпліна. Распрацоўка кар'ера вядзецца правільна-ступенчата. Перасоўка агрэгата прадаўжаецца 15—20 мінут (нават пры наяўнасці на полі няўбраных штабеляў леташняга торфу). Паскарае перасоўку правільная расстаноўка рабочых. У брыгадзе ўведзена індывідуальная здзельшчына сцільшчыкаў, лепшыя з якіх за змену высцілаюць па 10—13 000 цэглы (тт. **Каваленка, Арэшанка**). Прэміяльная аплата начальніка агрэгата, пароўшчыка, дзяжурнага слесара—стымуліруе іх да актыўнай дапамогі брыгадзе ў перавыкананні плана. На агрэгаце пастаўлен адваротны рольны стол; брыгада асвоіла гэта рацыяналізатарскае ўдасканаленне (дарэчы сказаць, яно ўпорна не знаходзіць яшчэ шырокага распаўсюджвання на большасці торфараспрацовак Беларусі), якое не толькі надзвычай аблягчае работу рольшчыкаў

але і вядзе к пераводу аднаго лішняга рабочага ад рольнага стала ў кар'ер. Замест нацяжнога вінта на задняй карэтцы транспарцёра пастаўлен блок Людэрса, які дае па 5—7 мінут эканоміі пры перасоўцы.

Вялікае значэнне для паспяховай работы меў правільны падбор рабочых у брыгаду, праведзены ў перыяд вярбоўкі самім брыгадзірам т. Журам. З 23-х рабочых у брыгадзе толькі 5 чал. навічкоў, працуючыя на торфе першы год, астатнія старыя тарфянікі (3 чал. са стажам па 5 і больш год, 9 са стажам 3—4 гады, 6 са стажам 2 гады). Брыгада не ведае прагулаў (2 прагулы, якія лічацца за ёю ў маі, былі зроблены выпадковымі рабочымі, прысланымі ў брыгаду дырэкцыяй і не астаўшыміся ў ёй).

У брыгадзе добра пастаўлена партмасавая і прафесіянальная работа. Пад кіраўніцтвам партпрымацаванага тав. Рухневіча, праз кожныя 4—5 дзён праводзяцца вытворчыя нарады. На іх актыўна абгаварваюцца пытанні правільнай расстаноўкі сіл, соцспаборніцтва, барацьбы за пяршынства ва Усебеларускім конкурсе брыгад, пытанні дысцыпліны ўнутры брыгады, абгаварваюцца канкрэтныя прычыны, даўшыя зніжэнне выканання плана за тую або іншую змену, а таксама і пытанні палепшання культурна-бытавога абслугоўвання. Прынятыя рашэнні аператыўна праводзяцца ў жыццё. Пяць раз у месяц праводзяцца палітзаняткі, на іх прапрацоўваюцца рашэнні XVII партз'езда. Наладжана калектыўная чытка газет, для правядзення якой вылучан найбольш палітычна развіты і пісьменны рабочы. Актыўна працуе прафорг брыгады т. Марозаў.

У найбольш удачныя дні за 8-гадзінную змену брыгада Жура дае па 40—43 000 цэглы, за 9-ці, 10-гадзінную змену 45—50 000.

Зусім іншая карціна ў брыгадзе **Матулеўскага**. Брыгада недысцыплінавана, брыгадзір не карыстаецца аўтарытэтам, яго распараджэнні ў часе работы не выконваюцца. З 32 рабочых брыгады—28 упершыню працуюць на торфе. Не гледзячы на большую прастату машыны, чым у Жура, у брыгадзе Матулеўскага механічныя прастоі займаюць у 3 разы больш часу. Гэта аб'ясняецца, у першую чаргу, нізкай тэхнічнай пісьменнасцю рабочых і адсутнасцю беражлівых адносін да агрэгата. Маюць месца выпадкі хуліганства. За май у брыгадзе было 19 прагулаў, у пачатку чэрвеня 6 рабочых зусім пакінулі завод. Індывідуальная здзельшчына на сцілцы не праводзіцца. Безумоўна, што ў брыгаду пралезлі класава-чуждыя людзі, прагульшчыкі, хуліганы, лодыры. Палітмасавая і прафесіянальная работа ў брыгадзе таксама не праводзілася.

Работа абедзвюх брыгад ярка адлюстравалася і ў атрыманай рабочымі за май зарплаце. Калі ямшчыкі ў Жура заработалі па 180—190 руб., лепшыя сцільшчыкі па 180—183 руб., то ў брыгадзе Матулеўскага большая частка рабочых атрымала ніжэй сваёй тарыфнай стаўкі (ямшчыкі 80—110 руб., сцільшчыкі 70—80 руб.).

Аднак, пасля таго, як 8|IV на вытворчай нарадзе, праведзенай у брыгадзе Матулеўскага, старшынёй торфкома завода былі выяўлены карэнні ганебнага адставання і быў аб'яўлен дэкаднік штурму, ужо 9|IV, за нармальную 8-гадзінную змену брыгада дала 35 000 цэглы. Але, не гледзячы на гэта, заводскія арганізацыі павінны дакладна вывучыць склад брыгады і рашуча ачысціць яе ад класава-варожых і чуждых элементаў, вядучых там сваю падрыўную работу.

У сувязі з прыведзенымі фактамі з жыцця і работы паасобных брыгад, асабліва востра паўстае пытанне аб правільнай перабудове

і падняцці на новую вышыню ўсёй партыйна-масавай і прафесіянальнай работы на заводзе. Гэта адна з цэнтральных умоў выканання плана.

Правільная расстаноўка партыйных сіл, забяспечанне авангарднай ролі комуністаў і комсамольцаў на ўсіх, у першую чаргу, рашаючых вытворчых участках, штодзеннае правядзенне палітвыхаваўчай работы сярод тарфянікаў, пераносячы яе непасрэдна ў брыгаду, у барак, штодзеннае кіраўніцтва разгортваннем соцспаборніцтва і ўдарніцтва, арганізацыя грамадскай думкі ў брыгадах вакол канкрэтных фактаў зрываў і перабояў у вытворчасці—усё гэта дасць павышэнне прадукцыйнасці працы і поўнае выкананне і перавыканне плана.

Перабудова работы партарганізацыі завода яшчэ не закончана. Усе члены партыі і комсамольцы ўжо прымацаваны к важнейшым вытворчым участкам. Цэлы рад комуністаў, працуючых непасрэдна на вытворчасці, паказваюць прыклад таго, як трэба арганізаваць сістэматычнае перавыкананне плана (начальнік агрэгата **Беляцкі**, які забяспечыў перавыкананне плана абедзвюма брыгадамі агрэгата на 118—120 проц., начальнік агрэгата **Русакоў**, брыгадзір **Міхальчэнка В.**, комсамольцы **Быкаў** і **Туравец**, забяспечыўшыя перавыкананне норм брыгадамі на сушцы фрэзернага торфу на 150—190 проц.).

У адказ на рашэнне 3-га пленума ЦК КП(б)Б аб паліве, ударнікі і ІТР завода 16|VI узялі на сябе абавязацельства датэрмінова выканаць план здабычы торфу, ахваціць усіх рабочых тэхвучобай, давесці каэфіцыент выкарыстання элеватарных машын і трактароў да 82 проц., замест планавых 76 проц., значна павысіць прадукцыйнасць працы рабочых. Ударнікі завода звярнуліся да ўсіх работнікаў тарфяной прамысловасці БССР з заклікам датэрмінова выканаць план.

Але ў пастаноўцы партмасавай работы ёсць яшчэ рад буйных недахопаў. Прапрацоўка рашэнняў XVII партз'езда ў многіх брыгадах яшчэ не разгорнута. Выпіска газет у бараку наладжана, але яшчэ не ўсюды праводзіцца рэгулярная чытка і абгаварэнне іх. Соцдагаворы ў маі былі заключаны ва ўсіх брыгадах на здабычы, але праверка іх спазнілася, пачата толькі 8—9|VI. Няма сістэматычнай тэхвучобы ў брыгадах (пакуль тэхвучобай ахвачаны толькі 2 брыгады на здабычы—тт. Міхальчэнка і Бараніхіна, а таксама брыгадзіршы па сушцы). Самыя формы масавай работы недастаткова яшчэ гібкія, няма дыферэнцыяванага падыходу да паасобных груп рабочых (спецыяльная работа з пастаянным кадрам, са старымі рабочымі тарфянікамі, перадавікамі-ўдарнікамі і т. д.). Для мабілізацыі мас вакол асноўных гаспадарча-палітычных задач недастаткова яшчэ актывізуецца работа прафоргаў у брыгадах (ёсць брыгады, дзе яны дагэтуль яшчэ не выбраны), і брыгадных насценных газетах.

Недахоп работы заводскіх арганізацый заключаецца яшчэ і ў тым, што вопыт лепшых перадавых ударных брыгад (Жура, Агапава, Міхальчэнка В., Седунова), якія сістэматычна даюць за змену па 40 і больш тысяч цэглы, недастаткова папулярызуецца сярод усіх астатніх рабочых. Самі перадавікі не сталі яшчэ ініцыятарамі грамадскага буксіру, каб поўнасцю правесці ў жыццё асноўны прынцып соцспаборніцтва „таварыская дапамога адстаючым з боку перадавых, з тым, каб дабіцца агульнага пад'ёму" **(Сталін)**.

Высокія паказчыкі выканання плана і прадукцыйнасці працы дасягнуты не толькі на здабычы. Лепшыя ўдарныя брыгады на сушцы, на аснове соцспаборніцтва і правільнага правядзення індывідуальнай і дробна-групавой здзельшчыны, таксама даюць сістэматычнае перавыкананне норм выпрацоўкі (брыгада **Бруевай** на 112—122 проц.,

брыгада **Ерамеевай** на 111—114 проц.). Безумоўна, вялікі эфект, атрыманы ад унядрэння індывідуальнай і дробна-групавой здзельшчыны на сушцы торфа і ў рабоце сцільшчыкаў, з усёй вастрынёй ставіць пытанне аб пераходзе на індывідуальную і дробна-групавую здзельшчыну на ўсіх астатніх працэсах (здабычы, сушцы, падрыхтоўцы балот і т. д.), у прыватнасці аб спробе ўнядрыць індывідуальную або дробна-групавую сістэму аплаты ў кар'еры.

Канчаючы пытанне аб здабычы машынна-фармовачнага торфу, трэба падкрэсліць, што паказчыкі, дасягнутыя ў бягучым годзе торфазаводам Гея, гавораць **аб неабходнасці крытычнага перагляду цэлага раду планавых норм, традыцыйна ўстанавіўшыхся ў тарфяной прамысловасці на аснове вопыту мінулых год (з'яўляўшыхся прыкладам зусім нездавальняючай работы) і не маючых пад сабою досыць сур'ёзнага тэхнічнага абгрунтавання (нормы выпрацоўкі, план па прадукцыйнасці працы, доўгасць перасоўкі, каэфіцыент карыснай работы агрэгата)**. У дадатак да ўсіх прыведзеных вышэй даных, можна даць такі прыклад: усе агрэгаты завода Гея ўжо за май далі каэфіцыент карыснай работы звыш 80 проц., у той час як па плану ён павінен складаць толькі 75—76 проц.

## Фрэзерны торф

Пры дасягнутай тэхніцы фрэзерны спосаб здабычы торфа з'яўляецца найбольш механізаваным і найменш працаёмкім. Аднак, у БССР ва ўсе прайшоўшыя сезоны праграма здабычы фрэзернага торфу ганебна зрывалася (па Белторфу ў 1931 г. план выканан на 18,6 проц., у 1932 г.—на 24,6 проц., у 1933 г.—на 14,6 проц.). Рад работнікаў тарфяной прамысловасці БССР тлумачылі такі ганебны зрыў здабычы выключна неспрыяючымі метэаралагічнымі ўмовамі Беларусі, „спецыфічным“ характарам беларускіх торфамасіваў (дрэнная асушанасць іх, пністасць, непадыходзячы характар залежы), незацікаўленасцю спажыўца і цэлым радам падобных „аб'ектыўных“ прычын.

Апартуністычная сутнасць такіх разважанняў, цалкам перакладваючых віну на аб'ектыўныя прычыны і спажыўцоў, зусім відавочна. Іменна гэтыя „ўстаноўкі“ і былі адной з галоўнейшых прычын сістэматычнага зрыву сезонных заданняў і надзвычай нізкай прадукцыйнасці працы на фрэзерным торфу ў БССР, у параўнанні з данымі перадавых заводаў РСФСР.

Ужо тыя папярэднія даныя, якія мы маем па выкананню плана фрэзернай здабычы за май бягучага года (хоць, вядома, трэба агаварыцца, што мы мелі несумненна спрыяючыя метэаралагічныя ўмовы), наглядна паказваюць усю шкоднасць меўшых месца выпадаў супроць фрэзернага торфу (гл. табл.).

| | Здабыча торфу з пачатку сезону па 31 мая 1934 г. па Белторфу | |
|---|---|---|
| | Праграма | Здабыта |
| Асінторф . . . . . . | 2 400 | 7 538 |
| Торфазавод Гея . . . | 2 100 | 4 091 |
| Усяго . . . | 4 500 | 11 629 |

Упершыню ў гісторыі торфапрамысловасці БССР можна канстатаваць не толькі перавыкананне каляндарнага плана здабычы фрэзернага торфу, але нават значнае адставанне ад яго здабычы за май машынна-фармовачным спосабам.

У рабоце фрэзернага ўчастку торфазавода Гея ёсць рад бясспрэчных дасягненняў. Значна палепшана скарыстанне трактароў. Калі ў сезоне 1932 г. прастоі трактара за рабочую змену складалі ў сярэднім 34,4 проц., у 1933 г. 31,2 проц., то за май бягучага года лепшыя ўдарнікі-трактарысты паднялі каафіцыент скарыстання трактара да 79,4 проц., скараціўшы, такім чынам, прастоі да 20,6 проц. (трактар № 11, трактарыст **А. Міхейчык**). Уся штабялёўка фрэзернага торфу поўнасцю робіцца тачанкамі. Гэта прасцейшая механізацыя вызваліла тарфяніц ад цяжкай і мала прадукцыйнай работы з кошыкамі, павысіўшы прадукцыйнасць не менш чым на 30—50 проц. Агромную ролю ў павелічэнні прадукцыйнасці адыграла ўвядзенне заахвочваючага прадуктовага снабжэння за перапрацоўку нормы (у адпаведнасці з загадам т. **Орджанікідзе**) і дробна-групавой здзельшчыны, узамен арцельшчыны (так зв. брыгаднай здзельшчыны), пры якой па 20—30, а часам і больш работніц атрымлівалі з агульнага катла пароўну. Увядзенне абодвух гэтых мерапрыемстваў адразу рэзка падняла прадукцыйнасць працы. Нават брыгады, якія сістэматычна не выконвалі нормы, сталі перавыконваць іх.

Аднак, ёсць яшчэ і недахопы. Увядзенне індывідуальнай і дробна-групавой здзельшчыны праведзена яшчэ не ўсюды, а часта і недастаткова добра (пакінуты надта вялікія сумесна аплачваемыя групы работніц, ёсць выпадкі недавядзення да рабочых штодзенных заработкаў). Недастаткова настойліва малапрадукцыйная ручная праца тарфяніц замяняецца механізаваным варашэннем і валказбіраннем. Вельмі сумніўнай з'яўляецца пастаноўка ўліку выхаду торфу з *га* за цыкл (хоць гэта пытанне наогул з'яўляецца складаным і мала распрацаваным).

Фрэзернаму торфу ў гэтым годзе павінна быць ўдзелена выключная ўвага. Не толькі павінна быць забяспечана перавыкананне плана фрэзернай здабычы, але самі работнікі гэтай вытворчасці з дапамогай даследчых інстытутаў павінны дакладна праверыць і вывучыць усе асноўныя вытворчыя паказчыкі гэтага новага, многа абяцаючага спосабу. Павінны быць ускрыты ўсе нескарыстаныя рэсурсы і магчымыя крыніцы далейшага павелічэння плана здабычы і росту прадукцыйнасці працы: за лік далейшай механізацыі працэсаў, лепшага выкарыстання механізмаў, правільнай арганізацыі працы і зарплаты, забяспечання максімальнага ліку цыклаў і выхаду торфу з *га* і т. д.

* * *

У красавіку і маі торфазавод Гея ў выкананні плана дасягнуў пэўных поспехаў, але на гэтым нельга спыняцца. Трэба дабівацца максімальнага перавыканання плана, помнячы ўказанні апошняга пленума ЦК КП(б)Б, што

> „поўнае выкананне плана торфаздабычы будзе лічыцца толькі пры выкананні колькасных і **якасных паказчыкаў**".

Трэба зжыць усе тыя недахопы, якія маюцца яшчэ на заводзе, як у яго вытворчым жыцці, пастаноўцы партмасавай работы, так і ў палепшанні культурна-бытавога абслугоўвання рабочых. Напр.,

нядаўна ў радзе брыгад завода была ўспышка вострых страўнакішэчных захворванняў. Прынятыя меры спынілі захворваемасць. Але было выяснена, што ў сталовай не заўсёды захоўваюць неабходную чыстату, дрэнна пастаўлена водаснабжэнне працуючых брыгад (прывазілася неачышчаная сырая вада). Калі-ж сталі снабжаць брыгады толькі кіпячонай вадой, то аказалася, што ёмкасць маючыхся кіпяцільнікаў недастаткова і рад брыгад на працягу некалькіх дзён сядзелі ў бараках без вады, бо сырой прывазіць не дазвалялі, а кіпячонай нехапала. Зараз на заводзе праводзіцца хларыраванне вады.

Коратка апісаны вопыт работы торфзавода імя Гея павінен паслужыць далейшым штуршком к шырокаму развіццю абмену вопытам паміж усімі торфазаводамі Беларусі. Пры гэтым трэба толькі цвёрда запомніць указанні тав. **Сталіна** на XVII партз'ездзе аб тым, што перамога ніколі не прыходзіць сама,—яе трэба заваяваць, „планы выконваюцца ў барацьбе з труднасцямі, у ходзе пераадалення труднасцей“. Толькі пакончыўшы з самацёкам і самасупакаеннем, толькі ў актыўнай і аператыўнай барацьбе за план—можна забяспечыць яго перавыкананне.

30 чэрвеня па ініцыятыве лепшых ударных брыгад тт. **Курэнева** і **Бірана** (торфазавод „Шлях соцыялізма“), выканаўшых сезоннае заданне за 45—50 дзён да сканчэння сезону (24 і 28/VI), Цэнтральным праўленнем саюза тарфянікаў і газетай „Рабочий“ аб'яўлен Усебеларускі вытворчы паход імя т. **Гікало** за датэрміновае выкананне плана торфаздабычы і высокую якасць торфу.

Ініцыятыва тт. Курэнева і Бірана—зотаўцаў тарфяногa Донбаса—павінна быць падхвачана ўсімі рабочымі і ІТР торфапрамысловасці. Але гэтага мала. Павінна быць спецыяльна арганізавана глыбокае вывучэнне і абагуленне вопыту работ гэтых брыгад. Метады іх работы, дасягнутыя імі вытворчыя паказчыкі павінны стаць здабыткам усіх рабочых і ІТР.

Перадавыя брыгады завода Гея (тт. **Усура, Агапава** і інш.) ужо ўключыліся ў вытворчы паход імя т. **Гікало**, абавязаўшыся ў першых дэкадах ліпеня перавыканаць сезоннае заданне.

**Завод Гея павінен напружыць усе намаганні, каб не страціць першынства ў радах торфазаводаў Беларусі.**

---

**Касой**

Сакратар парткома
паравознага дэпо
ст. Віцебск

# Партыйна-масавая работа ў паравозным дэпо ст. Віцебск

Паравознае дэпо ст. Віцебск мае рашаючае значэнне ва ўсёй рабоце Маскоўска-Беларуска-Балтыйскай чыгункі. Станцыя перавозіць 40 проц. усіх грузаў дарогі, штодзённа выдаючы 70—75 паравозаў, а ў перыяд асенне-зімніх перавозак 110—120 паравозаў для абслугоўвання пасажырскіх і таварных паяздоў.

Паравозы дэпо абслугоўваюць такія напрамкі: Віцебск—Смаленск, Орша—Магілеў, Полацк—Бігосава, Новасакольнікі—Дно, па якіх перавозяцца грузы: вугаль, нафта, жалеза, хлеб, гародніна і інш. з поўдня, Донбаса ў Ленінград і з Ленінграда—машыны, промтавары на поўдзень.

Усяго ў дэпо працуе рабочых, ІТР і служачых 1898 чал., з якіх: комуністаў—174 чал., комсамольцаў—170 чалавек.

У адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда ВКП(б), пад кіраўніцтвам і пры непасрэднай дапамозе палітаддзела 6-га аддзялення МББ чыг. (начальнік палітаддзела т. **Васількоўскі**, член ЦК КП(б)Б), партыйная арганізацыя дэпо правяла перабудову партыйнай арганізацыі. Замест меўшыхся парт'ячэек і бюро, зараз створаны партгрупы на чале з парторгамі, а ў дэпо створан партыйны камітэт з 5 членаў і 2 кандыдатаў.

На работу парторга падбіраліся таварышы палітычна лепш падрыхтаваныя, вытрыманыя, добра працуючыя на вытворчасці. Так, напр., 4 парторга—Багданаў, Закржэўскі, Аржаны, Кандрацьеў скончылі ў гэтым годзе вячэрні комвуз, члены партыі з 1925—26 г., старыя вытворцы, неаднокраць прэміяваны. Парторг сам цяпер збірае членскія ўзносы, вядзе ўлік—хто з комуністаў, дзе і як вучыцца, ці з'яўляецца ўдарнікам, ці наведвае тэхвучобу, кіруе комсамолам—дае перыядычна заданні і правярае выкананне іх.

Мы ліквідавалі ўсякую запазычанасць па членскіх узносах: за красавік унеслі 701 р. 54 к. Усе комуністы здалі тэхмінімум, 60 чал. здала грамадска-тэхнічны экзамен на выдатна і добра (члены партыі **Атрафіменка, Самсонаў** і інш.). Да мала падрыхтаваных таварышоў прымацавалі сільнейшых, якія дапамаглі ім здаць тэхмінімум. Так тав. Валанда—член партыі (слесар у прамыўкі), пасля прымацавання да яго члена партыі т. Егорава (пам. нач. дэпо) і тав. Пекарскі, (памочнік дзяжурнага па дэпо), пасля прымацавання да яго члена

партыі т. Семанчука (дзяжурны па дэпо, герой першай пяцігодкі),— паспяхова здалі тэхмінімум.

Члены партыі і беспартыйныя машыністы, настаўнікі—Тонышэў, Дубіцкі, Блісмановіч, інжынер па здарэннях т. Дзерабін, Поль і інш.— сістэматычна праводзілі гутаркі з комуністамі і беспартыйнымі машыністамі, памочнікамі і качагарамі па здачы тэхмінімуму і грамадска-тэхнічнага экзамену.

У рэзультаце тэхмінімумам сярод паравознікаў было ахвачана 634 чал.—99 проц., з іх комуністы здалі ўсе—65 чал.

Грамадска-тэхнічным экзаменам ахвачана 150 чал. паравознікаў і 200 чал. па іншых цэхах.

Усе комуністы ахвачаны соцспаборніцтвам. З 155 чал. членаў партыі, працуючых непасрэдна на вытворчасці, ударнікаў 140 чал. За спазненні на работу, выплаўленне падшыпнікаў, дрэннае абыходжанне з паравозамі і паўторнасць рамонту 15 ч. пазбаўлены ўдарных картак. Так, член партыі Цыкуноў, слесар міжпаяздного цэха ў лютым і сакавіку меў па 3—4 паўторнасці рамонту і толькі пасля таго, як партгрупа абгаварыла гэта пытанне і дапамагла яму, Цыкуноў у красавіку справіўся і цяпер працуе добра.

Член партыі Рэут, машыніст С—17/1, Токарэў, Сухорскі—мелі сістэматычныя спазненні ў дарозе. Пасля таго, як ад іх запатрабавалі адказнасці за своечасовае следванне, таварышы справіліся і цяпер спазненняў не маюць.

У маі месяцы парторг паравознага цэха т. Лапацін сабраў нараду комуністаў (Рэута, Хадкевіча, Шафранскага і інш.), не атрымаўшых ударных картак, дзе абгаварылі прычыны дрэннай работы кожнага ў паасобку і як кожны з іх думае працаваць далей. Кожны ўзяў на сябе абавязацельства: у найкарацейшы тэрмін стаць як комуністу перадавым на прадпрыемстве.

Па дарожнаму конкурсу ад 25/II па 25/IV паравоз з'эканоміў 49,3 тоны паліва—24 проц. і выканаў прабег на 103 проц., нагон спазненняў не па віне брыгад у 775 мінут.

Паасобныя комуністы паказваюць сапраўдныя ўзоры работы. Так паравоз С—56 імя ЦК КП(б)Б—машыністы—член партыі т. **Поліцан** і кандыдат партыі т. **Шпакоўскі** Барыс—сістэматычна перавыконваюць вытворчыя заданні, не маюць здарэнняў у дарозе, паравоз знаходзіцца ў тэхнічных і культурных адносінах у спраўнасці.

Тав. **Шпакоўскі** Б.—герой першай пяцігодкі. 8/III дзякуючы сваёй пільнасці папярэдзіў крушэнне хуткага поезда на ст. Віцебск (калі яго прынялі на занятую чыгунку). Даюць прыклады добрай работы члены партыі **Семак**—машыніст, **Багданаў**—парторг, інструментальшчык, **Кюнькe** і інш.

Мы павінны паставіць перад сабой задачу—вопыт лепшых перадаць адстаючым.

* * *

Прапрацоўка матэрыялаў XVII з'езда была арганізавана па цэхах і зменах. Партыйны камітэт вылучыў 23 адказных таварыша (палітычна падрыхтаваных і ведаючых вытворчасць), якіх інструктавалі, пасля чаго гэтыя комуністы змаглі па групах весці прапрацоўку з'ездаўскага матэрыялу. Было раздана звыш 1 000 экз. даклада т. **Сталіна** і рэзалюцый XVII партз'езда. На працягу лютага прапрацоўкай матэрыялаў XVII партз'езда было ахвачана 1 500 рабочых.

Спецыяльна былі вылучаны прапагандысты: на пасёлку „Чырвоны Окцябр"—т. Гаруцкі П., жакт „Х Окцябра"— т. Бужынскі. На кватэры ў члена партыі Гулецкага, машыніста-ўдарніка, асобна збіраліся жанчыны для прапрацоўкі даклада т. **Сталіна.**

Для лепшай прапрацоўкі было арганізавана спаборніцтва паміж цэхамі і школамі, гурткамі. Пачынаючы з сакавіка месяца па май праводзілася паўторная паглыбленая прапрацоўка матэрыялаў з'езда, якой былі ахвачаны не толькі комуністы і комсамольцы, але і 300 беспартыйных рабочых, пасля чаго арганізавалі здачу грамадска-палітычнага экзамену. Жаданне здаць грамадска-палітычны экзамен было агромнае. Так, член партыі, ленінскага набору, Геруцкі (машыніст) пісаў:

„Прашу прыняць ад мяне грамадска-палітычны экзамен па дакладу т. Сталіна. Можаце запытаць у мяне хоць-бы І-ы раздзел даклада. Здам праз два тыдні".

Гэту заяву т. Геруцкі выканаў. Ён сур'ёзна дома падрыхтаваўся, прышоў на заняткі школы і здаў грамадскі экзамен на выдатна. Яго прыкладу паследвалі не толькі комуністы, але і комсамольцы і беспартыйныя рабочыя.

Усяго па дэпо грамадска-палітычны экзамен здала 157 чал., з іх комуністаў—58, комсамольцаў—40, беспартыйных—59, з якіх на выдатна—58, добра—59, здавальняюча—38 і слаба—3.

Грамадска-палітычны экзамен, як форма праверкі якасці прапрацоўкі матэрыялаў XVII партз'езда цалкам сябе апраўдала. Партактыў дэпо ў колькасці 19 чал., пасля атрымання праграмы з культпропа ЦК КП(б)Б, правёў яшчэ паўторных 23 заняткі. Кожны з слухачоў здаў грамадска-палітычны экзамен не ніжэй чым на добра, а частка на выдатна (**Засадо**—праформ паравознікаў, **Якаўлеў**—майстар цэха, **Крывашэеў**—інжынер і інш.). Зараз актыў прадаўжае займацца 4 разы ў месяц. Прапрацаваны такія пытанні:

1) Ленінская нацпалітыка і сутнасць выступлення т. **Сталіна** на XVII з'ездзе па нацпытанню.

2) Палітычная задача другой пяцігодкі. Главу з работы Леніна „Дзяржава і рэволюцыя"—Ніжэйшая і вышэйшая фазы комунізма.

Цяпер будзем прапрацоўваць „Маніфест комуністычнай партыі"— Маркса і Энгельса. Партактыў, рыхтуючыся да заняткаў і здачы грамадска-палітычнага экзамену, карыстаецца матэрыяламі Маркса, Леніна, Сталіна.

Комсамольская школа міжпаяздного рамонту не мела ні аднаго зрыву заняткаў, усе 14 комсамольцаў і беспартыйныя здалі грамадска-палітычны экзамен, увязалі вучобу з работай на вытворчасці. У часе падвядзення вынікаў зімняй вучобы і пераходу на летнія формы, лепшыя слухачы і школы прэміяваны літаратурай. Тав. **Семак**—член партыі, машыніст паравоза С—19/1, не гледзячы на раз'язны характар работы, не меў ні аднаго пропуску, здаў грамадска-палітычны экзамен па дакладу т. Сталіна на выдатна, прэміяван шасцітомнікам Леніна; член партыі, майстар т. **Тітоў**—шасцітомнікам Леніна і інш. Усяго раздана 10 экз. шасцітомнікаў Леніна", 10—„Пытанні ленінізма"— Сталіна, 10—Маркс—Энгельс—Ленін—Сталін аб тэхніцы, гісторыі партыі, рашэнні XVII з'езда і інш. матэрыялы.

Перад намі зараз стаіць другая задача—яшчэ лепш прапрацаваць рашэнні XVII з'езда партыі.

* * *

Беспартыйны актыў, які прымаў удзел у прапрацоўцы рашэнняў XVII з'езда, падае заявы аб уступленні ў групу спачуваючых. Так, напр., т. **Гайдукоў**—машыніст паравоза С—12, ударнік, мае 17-гадовы вытворчы стаж, піша ў сваёй заяве: „Вывучыўшы рашэнні XVII з'езда, хачу разам з партыяй удзельнічаць у нашым социялістычным будаўніцтве; хачу быць у партыі і актыўна працаваць у ёй. Прашу прыняць мяне ў групу спачуваючых, каб я мог яшчэ лепш падрыхтавацца палітычна, а потым уступіць у кандыдаты".

Такую-ж заяву піша стары рабочы дэпо т. **Стальмашэўскі А. Н.**, герой 1-й пяцігодкі, мае 39-гадовы вытворчы стаж, з якіх 35 год працуе на транспарце.

Качагар паравоза С—56 імя ЦК КП(б)Б **Окунінец Н. В.** на транспарце працуе 5 год, мае грамату лепшага ўдарніка, неаднакрацъ прэміяван, пад кіраўніцтвам свайго машыніста (кандыдата партыі т. Шпакоўскага) падрыхтаваўся ў пам. машыніста. Партгрупай і парткомам гэтыя таварышы прыняты ў спачуваючыя і ўцягнуты ў грамадскую работу. Усяго па дэпо маецца 19 спачуваючых, с якіх уноў прынята 13 чал. Спачуваючымі ў партгрупе кіруе парторг. Ёсць два гурткі, у якіх спачуваючыя вывучаюць статут і праграму партыі і больш паглыблена прапрацоўваюць рашэнні XVII з'езда. Па дэпо гуртком кіруе сакратар парткома, а па паравозніках—парторг т. Лапацін.

Прынятыя ў спачуваючыя маюць грамадскую нагрузку: Усціновіч—праформ абточкі, Падлуцкі—праформ вугальнага складу, Краўчынская—зборшчык узносаў у касу ўзаемадапамогі, Гайдукоў і Окунінец працуюць у брыгадах па праверцы выканання соцдагавароў, некаторыя працуюць у рэдкалегіі (Оўчынскі) і апрача гэтага атрымліваюць перыядычныя заданні.

Побач з пачаўшымся па цэхах здаровым прытокам у групу спачуваючых ёсць і нездаровыя факты, калі ў спачуваючыя хочуць пралезці ўцёкшыя з калгасаў, шукаючыя „лепшага" жыцця. Так, на партгрупе абточкі разбіралі заяву т. Глазукова, які ўвесь час жыў у вёсцы (Сіроцінскі раён), у калгас не ўступіў і з сям'ёй (5 чал.) выехаў у Віцебск і паступіў працаваць у дэпо чорнарабочым. Працуе 3 месяцы, на запытанне, чаму не ўступіў у калгас, гаворыць: „У калгасе з сям'ёй не пражывеш, хачу лепш працаваць на вытворчасці". На жаль, Глазукова рэкамендавалі парторг Барткевіч і Марудоў, якія несур'ёзна аднесліся да рэкамендацыі і прыёму ў групу спачуваючых, пагналіся за колькасцю. Падаў заяву аб прыёме ў спачуваючыя слесар Лагуноў, які працуе ў дэпо 8 мес., прыехаў з вёскі і інш. Партгрупа абточкі правільна зрабіла, калі асудзіла выступленне Глазукова, што „ў калгасе з сям'ёй не пражывеш" і адмовіла яму ў прыёме. Таксама ўстрымалася ад прыёму Лагунова, указаўшы членам партыі Барткевічу і Марудову на неабходнасць больш пільна падыходзіць к дачы рэкамендацый.

Работа па прыёму ў групу спачуваючых толькі пачалася і патрабуе самай сур'ёзнай увагі ўсёй партарганізацыі як па замацаванню і выхаванню ўноў прынятых, так і па далейшаму прыёму лепшых ударнікаў—актывістаў дэпо, жадаючых уступіць у спачуваючыя.

Гэта асабліва павінны ўлічыць парторгі і партком у цэлым, якія павінны забяспечваць штодзённае кіраўніцтва групамі спачуваючых і прыняццем у іх новых рабочых-ударнікаў.

* * *

Кіраўніцтва парторгамі ажыццяўляецца ў пастаяннай сувязі сакратара, членаў парткома з цэхамі і дачай канкрэтных указанняў, у дапамозе састаўляць і правяраць соцдагаворы паміж комуністамі, састаўляць планы работы. Партком размяркоўвае нагрузкі, кіруе работай рэдкалегіі і комсамольскай групай, правярае ўплату членскіх узносаў і т. д. Для прапрацоўкі паасобных пытанняў бягучай палітыкі, як пастаноў ЦК і СНК аб школе, паасобных перадавых „Праўды" і іншых пытанняў, пасылаюцца агітатары, прапагандысты з партактыва дэпо, якія загадзя рыхтуюцца да кожнай тэмы.

Разгортваючы работу па выкананню рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б дэпо ст. Віцебск уключылася ў вытворчы паход імя **Сталіна**, арганізаваўшы спаборніцтва паміж станцыямі.

Масавая работа праводзіцца дыферэнцыявана. Калі па цэху прамыўкі меўся сістэматычны перапрастой паравозаў на гарачай і халоднай прамыўцы (замест заданых 10 гадз. паравозы на гарачай прамыўцы прастойвалі 11—12 гадз.), то, сабраўшы старых рабочых і пагутарыўшы з імі аб прычынах перапрастою, тут-жа былі выяўлены недахопы, як: дрэнная расстаноўка рабочай сілы ў цэху, затрымка дэталей падсобнага цэха і інш. Адразу-ж па ініцыятыве старых рабочых была створана скразная брыгада прамыўкі, падсобнага цэха з абточкамі, якая тэрмінова сігналізавала аб усякіх непаладках і затрымках матэрыялаў і т. д. Устаноўлена сувязь з паравозным цэхам. Цяпер паравозы на гарачай прамыўцы прастойваюць ніжэй нормы, г. зн. замест заданых 10 гадз. стаялі ў красавіку 8,81 гадз.; знізіўся таксама прастой на халоднай прамыўцы. У мэтах умацавання спаранай язды праводзілася спецыяльная канферэнцыя качагараў па пытанню ліквідацыі цякучасці качагараў, аўладання тэхнікай, г. зн. падрыхтоўкі качагара і пам. машыніста і ўмацавання працоўнай дысцыпліны на паравозах.

Лепшы качагар паравоза С—56—**Окунінец**—падзяліўся сваім вопытам, як ён на працягу 2-х гадовай работы на паравозе не меў зрыву спаранай, парушэнняў працоўнай дысцыпліны, а наадварот—неаднакраць прэміраваўся, як ён рыхтуецца ў машыністы. Яго прыкладу паследвалі качагары паравозаў С—27 тт. Ігуменеў і Чэрняк (комсамолец), паравоз імя „Комсомольской правды" 3—17. Цяпер гэтыя качагары працуюць памочнікамі машыністаў. На гэтай-жа канферэнцыі былі выкрыты ілжэўдарнікі, якія дрэнна абыходзяцца з паравозамі. Тут-жа былі ўказаны недахопы ва ўзаемаадносінах паміж качагарамі і пам. машыністаў, калі машыніст Баркоўскі (член партыі) адмовіўся вучыць качагара, гаворачы: „у мяне не школа на паравозе".

У рэзультаце палепшання ўзаемаадносін брыгад на паравозе, качагары ўзяліся за падрыхтоўку сябе ў памочнікі машыністаў, а машыністы са свайго боку абавязаліся ўсямерна дапамагаць ім. К XVII парт'езду 25 качагараў былі падрыхтаваны ў памочнікі і к 1 мая яшчэ 30. 50 пам. машыністаў вылучаны на 6-месячныя курсы машыністаў з адрывам ад вытворчасці, а 50 чал. машыністаў пасля падрыхтоўкі здалі экзамен на права праўлення дарожнай камісіяй.

З 21/V пачалі працаваць 9-месячныя курсы машыністаў, у колькасці 70 чал., без адрыву ад вытворчасці, па вывучэнню магутных паравозаў „Феликс Дзержинский" і „Иосиф Сталин". Працуюць 6-месячныя курсы па падрыхтоўцы качагараў у памочнікі, на якіх займаецца 45 чалавек.

Таксама дыферэнцыявалі работу нарадчыкаў, выклікальшчыц-дзяжурных па дэпо. Пераход выклікальшчыц на здзельную аплату палепшыў своечасовы выклік брыгад к паяздам. Дабіліся таксама некаторага палепшання спаранай язды, г. зн. калі ў снежні было 81 проц. спаранай, у студзені 84 проц., то ў маі мы маем 90 проц.

На кватэры лепшага ўдарніка дэпо т. **Бонаха** быў арганізован вечар лепшых вытворцаў па пытанню абмену вопытам работы старых вытворцаў. Праведзен вечар сталінскіх ударнікаў па пытанню лепшай рэалізацыі рашэнняў XVII партз'езда ў дэпо, на якім прысутнічала 200 чал.

Лепшыя ўдарнікі дэпо ў колькасці 47 чал. к 1 мая прэміраваны курортам, рэчамі і грашыма на 5125 р. (машыністы Больчунас, Сухорскі—члены партыі, Шэмелеў, Брыкоў—качагар, Гапановіч—заг. электрастанцыі і інш.).

* * *

У рэзультаце разгортвання партыйна-масавай работы мы дабіліся некаторага палепшання ў выкананні вытворчых вымярыцеляў. Так, па дарожнаму конкурсу на лепшую эканомію паліва, паравозы дэпо ў цэлым з 26/II па 25/IV з'эканомілі 1 494 тоны вугалю, што складае 16,2 проц. эканоміі супроць заданай нормы. Мы дабіліся таго, што з 80 паравозаў, прымаўшых удзел у конкурсе, ні адзін не мае перапалу, 43 паравозы мелі звыш 15 проц. эканоміі паліва.

Рабочыя, ІТР і служачыя паравознага дэпо за чэсную работу беражлівую эканомію паліва атрымалі 71 000 руб. прэміі.

Дэпо ў цэлым па МББ чыгунцы вышла на першае месца.

План перавозак у 1-м квартале 1934 г. перавыканалі: замест заданага прабегу 1 378 000 клм., выканана 1 549 427 клм., г. зн. перавыкананне на 12,4 проц., а ў красавіку перавыканана на 8,3 проц.

Усяго за эканомію паліва і перавыкананне прабегу рабочым за-, плачана за 4 мес. 135 070 р., што па сутнасці значна палепшыла матэрыяльна-бытавыя ўмовы рабочых. 400 рабочым дэпо далі насення для індывідуальных гародаў—засеяна 30 **га** зямлі. Кандыдат партыі **Рудак**—машыніст манеўровага паравоза, сям'я якога састаіць з 6 чал., абсемяніў 0,15 **га** зямлі, на якой пасеяў 12 пудоў бульбы, 1 000 расады бручкі, 500 буракоў, 35 шт. памідораў, засеяў морквы і гуркоў. Кончыў сяўбу 6/V, зараз ужо мае добрыя ўсходы. „Цяпер я спакойны, што буду забяспечан на ўвесь год“—гаворыць т. Рудак.

Выкананне сярэднесутачнага прабегу таварных паравозаў з прамыўкай за май выканана на 204,4 клм., пры заданні ў 197,3 клм; пасажырскіх—заданне 260 клм., выканана 270,8 клм.; карысная работа паравоза—заданне 10,4 гадз., выканана на 10,8 проц.; рух паяздоў па раскладу—пасажырскімі 97,69 проц., таварнымі—94,96 проц.

Асноўныя недахопы ў выкананні вытворчых вымярыцеляў гэта—сістэматычнае перавыкананне нормы хворых паравозаў, як з заводскага рамонту (заданне 17,18 проц., выканана 18,58 проц.), так і без заводскага рамонту(заданне 13,38 проц., выканана 13,98 проц.). За красавік месяц маецца 27 поўторных рамонтаў, нізкая працоўная дысцыпліна, няма дастатковай пільнасці, у рэзультаце чаго псуюцца паравозы ў дарозе. Так, за красавік 24 выпадкі, астановак 19, разрываў 7. У маі—псавання паравозаў—9 выпадкаў, астановак 5, разрываў 2, зрываў спаранай па віне паравозных брыгад 11 выпадкаў.

Не ўсе комуністы на вытворчасці з'яўляюцца сапраўднымі ўдарнікамі, некаторыя з іх, як Шафранскі, Рукман, парушаюць працоўную дысцыпліну.

Рабочыя, ІТР і служачыя ўключыліся ў спаборніцтва станцый, узяўшы на сябе такія абавязацельствы: поўнасцю і своечасова выдаваць паравозы к паяздам, не затрымліваць паравозы пры набіранні паліва і экіпіроўцы іх, своечасова выгружаць з вагонаў вугаль, быць пільнымі да сігналаў у дарозе.

Рабочыя выконваюць свае абавязацельствы: за май трэба было выдаць 1 209 паравозаў, фактычна выдана 1 250, з іх 17 позніх падач.

У дэпо аб'яўлена ўнутрыдэпоўскае спаборніцтва на лепшы цэх і лепшую брыгаду па якасці рамонту, абыходжанню са станком, наогул за чыстату і тэхнічную спраўнасць ва ўсім дэпо, на лепшую насценгазету і лепшы трыкутнік. Для прэміравання ўдарнікаў к гадавіне пастановы ЦК і СНК аб транспарце (3|VII) і к XVII гадавіне Окцябра выдзелена 10 000 рублёў.

У жніўні месяцы намечана правесці сплашны агляд паравозаў, станкоў, цэхаў на прадмет выдачы пашпартоў гатоўнасці к зіме.

У сувязі з правядзеннем Усебеларускага рэйду на транспарце, ст. Віцебск пачала ўжо папярэднюю праверку: партгрупа паравознікаў на партгрупе і прафесіянальных сходах праводзіць мітынгі паравозаў з абгаварэннем работы кожнай брыгады і стану паравозаў. Насценгазета сістэматычна асвятляе гэтыя пытанні ў друку.

Для папярэджання здарэнняў у дарозе сіламі брыгад у колькасці 30 чал. праводзіцца старанны агляд кожнага саставу, правільнасць фармавання паяздоў, тэхнічнага стану паравоза і вагонаў, своечасовага адпраўлення і т. д. Але дасягненні, якія ёсць у рабоце, яшчэ не адпавядаюць задачам, пастаўленым перад транспартам. Партыйна-масавая работа слаба яшчэ разгорнута.

Перад намі стаяць цяпер наступныя задачы: забяспечыць сістэматычную праверку ўзятых на сябе абавязацельстваў, паказаць вопыт лепшых, каб дапамагчы адстаючым, яшчэ шырэй разгарнуць спаборніцтва паміж рабочымі і брыгадамі і на аснове гэтага дабіцца свядомай жалезнай дысцыпліны на транспарце, больш узняць авангардную ролю і адказнасць комуністаў, дабіцца выканання і перавыканання вытворчых вымярыцеляў. Разгортваннем партыйна-масавай работы значна палепшыць якасць усёй работы з давядзеннем кожнага пачынання да канца.

Пад кіраўніцтвам палітаддзелаў, партыйная арганізацыя дэпо і пад яе кіраўніцтвам рабочыя, ІТР і служачыя будуць біцца за большэвіцкае выкананне заданых вымярыцеляў, за аздараўленне транспарта.

---

**Закржэўскі**

Парторг цэха прамыўкі дэпо ст. Віцебск

# Аб партыйнай рабоце цэха прамыўкі дэпо ст. Віцебск

На аснове рашэнняў XVII партз'езда і даклада тав. Кагановіча дэпо ст. Віцебск у асноўным перабудавала сваю партарганізацыю. Раней наша дэпо мела адзін партыйны калектыў, які ўзначальваўся бюро з 7 членаў і 3-х кандыдатаў. Кожны член бюро парткалектыва меў сваю асноўную нагрузку і кіраваў усімі цэхамі. Было 10 парт' ячэек, таксама з бюро і сакратарамі. Як бюро парткалектыва, так і бюро ячэек займаліся сістэматычнымі зацяжнымі паседжаннямі, вынясеннем агульных, ні к чаму не абавязваючых, рэзалюцый, якія не забяспечваліся праверкай выканання, а таму не ўсе рашэнні бюро парткалектыва і бюро ячэек праводзіліся ў жыццё.

Цяпер мы маем партком на чале з сакратаром і 5 членамі, 10 партгруп з парторгамі. Зараз менш часу ўдзяляем паседжанням і я, як парторг, знаходжуся непасрэдна ў цэху, дзе і праводжу ўсю партработу, кожнаму комуністу даюцца канкрэтныя заданні. Я завёў дзеннік, куды кожны дзень запісваю, якое і каму даў заданне і як гэтыя заданні выконваюцца.

Да перабудовы ў партыйным калектыве з боку некаторых комуністаў мелі месца праявы антысемітызма. Так, т. Москаленко атрымаў за гэта вымову, пасля чаго партыйная ячэйка яго забыла, не ўцягнула ў работу і таму т. Маскаленко дрэнна працаваў у цэху, сістэматычна не выконваў вытворчага задання. Але перабудова, якая дала штуршок да больш чулых адносін, стварыла пераварот у т. Маскаленко. Пагутарыўшы з ім, я запрапанаваў яму распрацаваць нацпытанне і ў парадку даклада ізлажыць на партгрупе. Пасля гэтага т. Москаленко зразумеў сваю памылку і зараз з'яўляецца добрым вытворцам—перавыконвае вытворчыя заданні.

Вось яшчэ факты: рабочы-слесар т. Спірадзенка няўважліва аднёсся да прышваброўкі цэнтравога падшыпніка, у рэзультаце чаго падшыпнік грэўся, што магло прывесці да выплаўлення яго. Раней аб гэтай справе паставілі-б на бюро ячэйкі, потым на сходзе, на бюро парткалектыва і т. д, мы-ж на гэту справу рэагавалі адразу: пагаварылі з майстрам цэха, з самім т. Спірадзенка, з яго таварышамі па цэху і рашылі ў выглядзе пакарання перавесці яго ў чорнарабочыя. Аб гэтай справе напісалі ў насценгазету. Цэхавы сход таксама абмеркаваў гэта пытанне.

Усё гэта зрабіла адпаведны ўплыў—паступова заражаючыся энтузіязмам астатніх таварышоў, даваўшых добрыя паказчыкі ў цэху, т. Спірадзенка стаў на адно з першых месц і ў падзяку за добрую работу майстрам цэха быў узнагароджан новым спецкасцюмам. Зараз ён працуе добра.

Многа дапамагло ў нашай рабоце вывучэнне рашэнняў XVII партз'езда, якія мы сістэматычна прапрацоўвалі на партгрупе, на даму ў рабочых. У мяне збіраліся жонкі рабочых і за чашкай чаю мы прапрацоўвалі гэты матэрыял. Наша насценгазета асвятляла ход прапрацоўкі, хваліла ідучых уперадзе і падганяла адстаючых. У рэзультаце, уся партгрупа ўсвоіла матэрыял на добра, разам з якой не дрэнна займаліся і беспартыйныя рабочыя—тт. Казлоўскі, Драздоў Захараў і інш. На аснове вывучэння рашэнняў XVII з'езда партыі, у нашым цэху паднялася свядомасць. Адбыўся зрух, які даў станоўчыя рэзультаты: прастой паравозаў у гарачай прамыўцы стаў ніжэй нормы, паложанай па вымярыцелях, г. зн. на 1 паравоз трэба 10 гадзін, а мы яго выпускаем за 7—8 гадзін. Па халоднай прамыўцы мы ўкладваемся ў пэўную колькасць гадзін—42—48 гадзін,—норма, вызначаная для паравозаў серыі „Э“ „ЭШ“ і „ЭГ“.

Але не ўсё ў нас яшчэ абстаіць добра. Тт. **Сталін, Кагановіч** і **Андрэеў** на XVII партз'ездзе ўдзялілі асаблівую ўвагу працдысцыпліне на чыгуначным транспарце. І праў тав. **Андрэеў**, які гаварыў на з'ездзе, што „перш за ўсё трэба пачаць умацоўваць дысцыпліну ў асяроддзі каманднага саставу, трэба перш за ўсё дабіцца таго, каб не ламалі дысцыпліну уверху...“ Але не ўсе кіруючыя работнікі ажыццяўляюць на справе дысцыпліну. Так, рабочы Жукаў не выканаў задання брыгадзіра цэха т. Альшэўскага аб перавозцы вугле-палівальнага рукава, але т. Альшэўскі не налажыў на Жукава ніякага спагнання за нявыкананае заданне. Тав. Альшэўскі мабыць дрэнна прапрацаваў пункт статуту аб дзяржаўнай і працоўнай дысцыпліне. Гэта з'яўляецца прымірэнцтвам, што, моў, я свой, добры хлопец, я заваюю сабе танненькі аўтарытэт. Усё гэта, вядома, не ўмацоўвае дысцыпліну, а расхіствае яе. Партгрупе неабходна рэзка рэагаваць на такія факты, правесці масавую раз'яснялыную работу вакол гэтага факту і дабіцца ўстанаўлення найстражэйшай дысцыпліны на транспарце.

У асноўным-жа, за выключэннем такіх паасобных парушэнняў дысцыпліны, апошняя павышаецца. Гэтаму дапамагае шырока разгорнутае за апошні час соцспаборніцтва і ўдарніцтва: арганізаваны 3 сталінскіх брыгады, якія спаборнічаюць з іншымі брыгадамі цэхаў дэпо. Вытворчы план перавыконваецца: ніжэй 100 проц. выканання ў нас няма.

Палітычны ўзровень рабочага расце—мы перыядычна наладжваем масавыя чыткі і ў насценнай газеце асвятляем важнейшыя пытанні па транспарту, адзначаем наш асноўны бок—зрыў працдысцыпліны і даем адчуваць, што рашэнні XVII партз'езда павінны ўвайсці ў наша штодзеннае жыццё.

Наша партгрупа своечасова паставіла пытанне аб палепшанні матэрыяльнага становішча рабочых цэхаў. Мы правялі вялікую раз'ясняльную работу па атрыманню гародаў і апрацоўцы іх. Я, як парторг, каб паказаць прыклад і ўцягнуць іншых рабочых, разам з жонкай пры ўсіх апрацаваў, а потым і абсеменіў гарод. Гэтыя гароды безумоўна дадуць вялікую карысць рабочым.

Наша партарганізацыя толькі пачала перабудоўвацца. Тыя зрухі, якія ёсць, неабходна замацаваць і дабівацца іх далейшага правядзення ў штодзенным жыцці.

Пытанні дысцыпліны трэба ставіць у парадак работы кожнага дня. Нельга забываць, што гэта з'яўляецца залогам перамогі адмоўных бакоў на нашым транспарце. Трэба шырэй разгортваць партыйна-масавую работу, дабіўшыся забяспечання большэвіцкім уплывам усіх рабочых цэха, бо толькі гэта замацуе нашы дасягненні, дасць магчымасць вырашыць тыя задачы, якія мы абавязаны выканаць у другой пяцігодцы.

---

**Сінельнікаў**

Сакратар парткома ст. Віцебск

# Аб партмасавай рабоце парткома ст. Віцебск

„Ахваціць палітычным уплывам і бальшэвіцкім палітычным уздзеяннем усіх рабочых данага прадпрыемства, цэха, звяна“—такава асноўная задача кожнай партарганізацыі, пастаўленая тав. **Кагановічам** у выступленні на XVII партз‘ездзе. Між тым, партыйна-масавая работа да гэтага часу на транспарце пастаўлена зусім нездавальняюча. Гэта ў значнай ступені аб‘ясняе ўсе тыя прарывы, якія маюць месца на транспарце.

З 50 чал. комуністаў ст. Віцебск соцспаборніцтвам былі ахвачаны толькі адзінкі. Партыйнай асветы не было, у комвузе і соўпартшколе займалася ўсяго 4 чал. Нязначная частка комуністаў была вядучай на вытворчасці, адсюль дрэнныя рэзультаты работы ўсёй групы, змены. Спаборніцтвам і ўдарніцтвам была ахвачана значная частка рабочых і ІТР; ударнікамі лічыліся толькі тыя, хто з года ў год па традыцыі атрымліваў ударныя граматы, прэміі і т. д. Зусім не выяўляліся ўноў растучыя кадры, якія сваімі ўдарнымі адносінамі да работы паказвалі ўзоры работы.

Каб мець уяўленне аб стане працоўнай дысцыпліны даволі ўказаць, што ў студзені было наложана дысцыплінарных і грашовых спагнанняў за нарушэнне працоўнай дысцыпліны і брак у рабоце—144, у лютым—160 і ў сакавіку—154 (усіх рабочых каля 500 чал.).

Такія комуністы, як Новадворскі, Чэрапаў, Самсонаў, саставіцелі—Жукоўскі, Сакратароў і рад іншых, сістэматычна не выконвалі сваіх заданняў, адпраўлялі паязды дрэнна сфармаваныя і несвоечасова. Рабочыя не ведалі аб рэзультатах сваёй работы. Важнейшыя пастановы і дакументы партыі і ўрада праходзілі міма іх, аб наложаных спагнаннях у большасці даведваліся выпадкова, аб грашовых—у дзень атрымання зарплаты.

Першае, за што прышлося ўзяцца пры перабудове партработы гэта—за наладжванне партыйнай вучобы, за арганізацыю партыйных груп у зменах. У перыяд зімняй партвучобы трэба было забяспечыць дакладнае вывучэнне дакументаў XVII партыйнага з‘езда. Гэта ўжо дало значны зрух у рабоце комуністаў.

Увялі невялікія сходы пасля дзённай работы, на якіх камандзіры змен падводзілі вынікі дзённай работы, тут-жа адзначаючы лепшых ударнікаў работы тэтага дня, ганьбячы гультаёў і разгільдзяеў, зрываючых работу. На гэтых-жа сходах мы яшчэ раз прапрацавалі пастанову ЦК і СНК ад 23 сакавіка аб рэгуляванні перавозак. Пасля кожнага сходу партгрупе гэтай змены даваліся заданні на работу ў наступнай змене.

Рэзультаты ўвядзення такіх сходаў апраўдалі сябе: значна палепшылася работа, сталі выяўляцца лепшыя людзі, сапраўдныя ўдарнікі, пачала разгортвацца крытыка і сам акрытыка (але на сёння яшчэ яўна недастаткова). Былі арганізаваны, адсутнічаўшыя раней, зменныя рэдкалегіі. Павысілася адчуванне адказнасці ў радзе комуністаў. Так, парторгам другой змены—лепшым ударнікам тав. **Чэпікавым**—былі выкрыты дэзарганізатары транспарта, злодзеі Архіпаў і Архірэеў, што выклікала тэрарыстычны акт класавай помсты з боку Архіпава і яго пасобніка Ільїна—яны забілі тав. Чэпікава.

Аднак партыйна масавая работа да гэтага часу настолькі дрэнна была пастаўлена, што ў паасобных комуністаў была прытуплена класавая пільнасць. У акце забойства партком не разгледзіў работу класавага ворага.

З вялікім спазненнем партыйная арганізацыя, пад кіраўніцтвам палітаддзела, разгарнула вакол гэтага пытання вялікую масавую работу, узняўшы факт забойства на прынцыпова палітычную вышыню, мабілізаваўшы ўсю партыйную, комсамольскую арганізацыю, лепшых ударнікаў на лепшае выкананне задач, пастаўленых партыяй перад транспартам.

Вялікую ўвагу я ўдзяліў вывучэнню комуністаў, а таксама і беспартыйных—лепшых ударнікаў, іх бытавых ўмоў, запатрабаванняў. Мы былі ў некаторых комуністаў дома, гутарылі з іх сем'ямі, высняючы прычыны дрэннай іх работы, гутарылі ў паасобку з кожным. Характэрны такі факт: адзін член партыі ўвесь час дрэнна працаваў. Выяснілі, што прычынай гэтага з'яўляецца яго жонка, якая „пініла“ яго кожны дзень. Я выклікаў жонку гэтага комуніста, раз'яснію ёй, які уплыў мае хатні настрой мужа на яго работу, што ад гэтага здараецца брак у рабоце, утрымліваюць з зарплаты і т. д. Праз некаторы час абстаноўка гэтага комуніста дома рашуча змянілася і зараз ён за красавік і май не мае спагнанняў, пачаў атрымліваць ударныя карткі, стаў актыўным у грамадскім жыцці змены.

Значна палепшылі сваю работу комуністы Жукоўскі, Новадворскі і рад іншых. За красавік і май толькі тры комуністы маюць спагнанні, у той час як у сакавіку такіх комуністаў было 16. Выпадак з комуністам, які выправіўся пасля маёй гутаркі з жонкай, навёў партком на думку аб скліканні жонак рабочых і ІТР для правядзення гутарак з імі на гэтую-ж тэму. Такі сход прайшоў з вялікім натхненнем. Жонкі рабочых паставілі пытанне аб арганізацыі гурткоў (палітычных і інш.), аб большай сувязі з імі, аб неабходнасці разгортвання сярод іх палітычна-масавай работы.

Адначасова з разгорнутай масава-раз'яснялыіай работай з лепшых, апраўдваючых сябе на вытворчасці, рабочых і ІТР знімаліся спагнанні, даваліся заахвочванні (падзякі, павышэнні па службе, грашовыя прэміі і т. д.). Уся гэта сума мерапрыемстваў (хоць далёка яшчэ недастатковая) дала вельмі нязначны зрух у рабоце станцыі. Рабочыя і ІТР, на аснове разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва, выконваюць самаабавязацельствы, узятыя на сябе па конкурсу. Знізіліся парушэнні працоўнай дысцыпліны. У красавіку было наложана дысцыплінарных спагнанняў 79, у маі 83. У красавіку план нагрузкі быў выкананы на 117,4 проц., прастой вагонаў па 1-му аддзелу на 96,1 проц., прастой вагонаў па 2-му аддзелу на 100,5 проц. Каэфіцыент манеўравай работы выканан на 110 проц. За 25 дзён мая план пагрузкі выканан на 101 проц., прастой вагонаў па 1-му аддзелу

на 113,6 проц., па 2-му аддзелу на 102,3 проц. Манеўравы каэфіцыент выканан на 118,7 проц. і т. д. Рэзка знізіліся здарэнні: за люты—15 выпадкаў, сакавік—9, красавік—7, май—3 выпадкі.

З кожным месяцам павялічваюцца рады спаборнічаючых: за сакавік—208, красавік—251, май—268.

22 мая па Віцебску быў праведзен агляд стрэлак, прыўрочаны к Усесаюзнаму дню агляду стрэлкі. Прапрацаваная на ўсіх зменах адозва тульскіх рабочых выявіла новых ударнікаў станцыі. Так, пад кіраўніцтвам комуніста--стрэлачніка **Цімчэнка**--быў азелянён стрэлачны пост № 18, пафарбавана будка, прыведзены ва ўзорны стан стрэлкі. Азелянён рад іншых будак (23, 10, 13, 21, 20 пасты, 4 і 1-ы цэнтральныя пасты і т. д.) К дню агляду былі падрыхтаваны спецыяльныя плакаты для ўзорных і брудных стрэлак. У камісію агляду былі прыцягнуты прадстаўнікі служб паравознага дэпо, чыгункі, сувязі, хатнія гаспадыні. Лепшыя ўдарнікі-стрэлачнікі вылучаны інспектарамі якасці. З агледжаных 730 стрэлак у гэты дзень брудных было выяўлена толькі 10.

Масавая работа, якая зараз разгортваецца па ст. Віцебск, усё яшчэ з'яўляецца недастатковай. Не забяспечана яшчэ поўнае выкананне станцыяй задач, пастаўленых перад транспартам рашэннямі партыі. Але усё-ж гэтыя першыя крокі—вынікі двухмесячнай работы—паказваюць, што зрухі ў нашай рабоце маюцца.

У далейшым перад партыйнай арганізацыяй усяго трыкутніка павінны быць пастаўлены наступныя задачы: сістэматычна паляпшаць матэрыяльна-бытавыя ўмовы рабочых і ІТР, вывучаць кожнага рабочага і камандзіра, дакладна аналізаваць кожны выпадак парушэння працоўнай дысцыпліны, робячы кожны раз адпаведныя вывады; перанесці ўвесь цэнтр партмасавай работы непасрэдна ў партгрупу, змену, дабівацца поўнага ахвату кожнага рабочага ў паасобку соцспаборніцтвам і ўдарніцтвам, перадаючы адстаючым вопыт лепшых.

Партмасавая работа павінна быць падпарадкавана задачы выканання ўсіх тых чарговых мерапрыемстваў, якія павінны быць выканаў станцыяй, вырашаючай на справе перавозкі.

---

**Б. Осіпаў**

Сакратар парткома паравознага дэпо ст. Жлобін

# Аб партмасавай рабоце па паравознаму дэпо ст. Жлобін

Ліквідацыя канцылярщчыны, пасяджэнчай мітусні, забяспечанне адказнасці кожнага работніка за даручаную яму справу—пад гэтым вуглом праводзілася перабудова партработы згодна рашэнняў XVII з‘езда па арганізацыйнаму пытанню

Партыйная сетка перабудавана ў нас так: замест існуючых трох цэхавых ячэек і базавай ячэйкі у нас створаны дзве партыйныя арганізацыі на чале з парторгамі—паравознікаў і школы ФЗВ, 5 партыйных груп на чале з партгрупоргамі і на паравозах, замест ранейшых парторгаў—партпрымацаваныя. Усе парторгі непасрэдна падначалены партыйнаму камітэту дэпо.

Перабудова дала магчымасць скараціць колькасць агульных, часта нічога не даючых, сходаў і паседжанняў і перанесці ўсю цяжкасць работы ў цэх, брыгаду, на кожнага комуніста ў паасобку. Перабудова наблізіла партком да кіраўніцтва партыйнымі групамі, да кожнага комуніста. Партыйны камітэт і асобна сакратар даюць партгрупам і паасобным членам партыі заданні і пасля пэўнага тэрміну правяраюць выкананне іх. Для дапамогі ў рабоце партгруп парткамітэт прымацаваў членаў парткома, адзін член парткома прымацован да комсамольскай арганізацыі.

Пасля перабудовы партыйнай работы і дэтальнай прапрацоўкі апошніх пастаноў партыі і ўрада па рабоце чыгуначнага транспарта, у якіх ЦК ВКП(б) усклаў вялікую адказнасць на комуністаў за работу чыгуначнага транспарта, значна ўзмацнілася партыйная і працоўная дысцыпліна сярод членаў партыі і працоўная сярод усёй рабочай масы. Напр., у лютым парушэнняў працоўнай дысцыпліны было 57, у сакавіку—58, у красавіку—30, у маі—26. Скараціліся выпадкі астановак у дарозе па віне машыністаў (люты—19, сакавік—14, красавік—1 і май—1). Па эканоміі паліва—у студзені быў перапал на 2,09 проц., у лютым—5,10 проц., у сакавіку—9,16 проц., у красавіку—9,20 проц. і ў маі—11,26 проц. Процант руху паяздоў па раскладу: люты—86 проц., сакавік—92 проц., красавік—96,5 проц., май—99 проц.

Процант хворых паравозаў: у лютым—пры заданні проценту хворых паравозаў 15,08, было выканана на 19,19 проц., у сакавіку, пры заданні 16,81 проц.—на 16,75 проц., у красавіку, пры заданні 17,65 проц.—на 12,41 проц. і ў маі, пры заданні 14,79 проц.—на 12,54 проц.

Гэтых поспехаў партарганізацыя дабілася, па-першае, праз узмацненне партыйна-масавай работы, па-другое, члены партыі адчулі тую адказнасць, якую ўсклаў на іх XVII партз'езд. Партыйныя групы сталі працаваць многа лепш, чым яны працавалі да перабудовы і патрэцяе, з часу перабудовы партработы партком удзяляў належную ўвагу кожнаму адстаючаму цэху, паравозу, прымацоўваючы да іх інжынерна-тэхнічных работнікаў, дапамагаўшых сваімі тэхнічнымі ведамі выходзіць з прарыву.

Лепш стаў працаваць нізавы друк: калі да перабудовы насценгазеты цэхаў выпускаліся праз 8—10—15 дзён, то пасля перабудовы яны выпускаюцца праз 2—3—5 дзён, змяшчаючы канкрэтны вытворчы матэрыял, больш крытыкі, што таксама дапамагала зжыццю меўшыхся ў рабоце паасобных таварышоў недахопаў і мабілізоўвала рабочых на барацьбу з прарывамі ў выкананні транфінплана.

Разам з палепшаннем работы дэпо значна вырасла колькасць ударнікаў: у лютым—146 чал., у сакавіку—208 чал., у красавіку—257 чал. і ў маі—317 чал. (усяго рабочых 624 чал.). За добрую арганізацыю работы ад палітаддзела ў дзень 1-га мая мы атрымалі пераходны чырвоны сцяг на пяршынства ў раёне.

Пасля перабудовы партком асабліва вялікую ўвагу ўдзяляе праверцы выканання сваіх рашэнняў і заданняў сакратара парткома, што ўсклала пачуццё адказнасці на кожнага комуніста і рабочага дэпо за выкананне даручанай ім работы.

Асабліва ўдзяляецца ўвага барацьбе з абязлічкай у спаранай яздзе на паравозах, бо спараная язда з'яўляецца важнейшым ключом у аздараўленні паравознага парка. Гэта дало магчымасць працаваць паравозам у дарозе лепш, чым яны працавалі раней. За гэты час падрыхтавана машыністаў паравозаў 13 чал„ пам. машыністаў—12 чал., качагараў—15 чал. і машыністаў стацыянарных установак—10 чалавек.

Для павышэння палітычнага і тэхнічнага ўзроўню рабочых дэпо па ініцыятыве партарганізацыі, са згодай на гэта саміх рабочых, з 22 сакавіка ўведзены штодзенныя заняткі перад пачаткам работы—паліттэхгадзіна, якая праводзіцца і дагэтуль сярод рабочых дэпо і паравознікаў (у паравознікаў паліт. і тэхгадзіна праводзяцца разам, штодзенна з 12 да 14 гадз.). Гэта мерапрыемства дало магчымасць павысіць палітычны і тэхнічны ўзровень рабочых, што прывяло к скарачэнню браку ў рамонце: калі ў студзені быў 31 выпадак браку, у лютым—24, красавіку—14, то ў маі 11 выпадкаў. Рабочыя добра ўсвоілі рашэнні XVII з'езда і дысцыплінарны статут на транспарце, што дало рэзкае зніжэнне ў парушэнні працоўнай дысцыпліны—з 67 выпадкаў да 26.

Вывучэнне рашэнняў XVII з'езда шырока праводзілася ў сетках партасветы, пасля чаго парткомам была арганізавана здача залікаў па рашэннях XVII з'езда і дакладу тав. **Сталіна**—у абавязковым парадку для ўсіх комуністаў, комсамольцаў і ў добравольным парадку для беспартыйных рабочых. Рэзультаты здачы наступныя: партарганізацыя налічвае ў сваіх радах усяго 94 чал., а здала залікі 86 чал., з якіх: на вельмі добра—20 чал., добра—34 чал., здавальняюча—22 чал. і слаба—10 чал. 8 чал. залікаў не здалі ў сувязі з іх хваробай і адсутнасцю (на курортах і ў дамах адпачынку). З комсамольцаў пакуль здала залікі з 63 чал. 12, прыём залікаў ад іх прадаўжаецца. З жадаючых 18 чал. беспартыйных рабочых залікі здала 12 чал.: на вельмі добра—2 чал., на добра—5 чал. і здавальняюча—5 чал.

Здавальняюча праведзена вялікая палітычная кампанія па падпісцы на пазыку другога года другой пяцігодкі, што яшчэ раз пацвердзіла рост палітычнай актыўнасці і свядомасці рабочых мас. Гэта гаворыць і аб правільнай перабудове і расстаноўцы партыйных сіл на вытворчасці. У асноўным падпіска была праведзена на працягу 2-х дзён, па колькасці людзей ахвачана 100 проц., к трохтыднёваму заработку—127,2 проц., а к месячнаму заработку—95,42 проц. Была праведзена падпіска сярод хатніх гаспадынь—ахвачана 85 чал. на суму 1000 руб. і ў падшэфным калгасе на суму 500 р.

Пасля перабудовы партыйнай работы палепшылася работа партыйных груп, як, напр., партгрупа механічнага цэха. Яе цэх выконвае праграму, не мае ні аднаго выпадку браку ў выпускаемай прадукцыі для паравозаў, усе 8 чал. комуністаў з'яўляюцца ўдарнікамі і паказваюць узоры лепшай работы. Нядрэнна пастаўлена партыйна-масавая работа. Насценгазета цэха працуе добра, 5-га мая атрымала прэмію ад рэдакцыі дарожнай газеты „Палітаддзел". З 53 чал., працуючых у цэху, 38 чал. з'яўляюцца ўдарнікамі, парушэнняў працоўнай дысцыпліны сярод рабочых цэха няма.

Такіх рэзультатаў група дабілася дзякуючы добрай і чоткай выконваемасці ўсіх даваемых заданняў кіраўніком гэтай партгрупы—парторгам т. **Аўсяннікавым**.

Добра працуе бyўшы парторг, а зараз партпрымацаваны да паравоза № 557—член КП(б)Б тав. **Карыбскі А.** Яго паравоз да студзеня месяца (калі ён яшчэ працаваў на манеўрах на другім паравозе) меў сістэматычны перапал паліва, спазненні ў дарозе, знаходзіўся ў няспраўным, брудным стане, і толькі пасля таго, як партарганізацыя паставіла пытанне перад адміністрацыяй аб перакідцы т. Карыбскага з манеўраў на паяздны паравоз серыі Ш ч. № 557, паравоз стаў працаваць добра, эканоміць паліва. За ўвесь час сваёй работы на гэтым паравозе (са студзеня месяца г.г.) т. Карыбскі са сваёй брыгадай з'яўляецца лепшым ударнікам, не мае ні аднаго выпадку спазнення ў дарозе, паравоз знаходзіцца ў спраўным і чыстым стане. Па гэтаму паравозу зараз падцягваюцца ўсе астатнія паравозы дэпо. За добрую і чэсную работу т. Карыбскі прэміяван пуцёўкай на курорт.

Зараз асноўная партыйная работа накіравана на тое, каб падцягнуць усіх комуністаў, а з імі і ўсіх беспартыйных працаваць так, як працуе партгрупа механічнага цэха, як працуе комуніст Карыбскі.

Пасля перабудовы партыйнай работы я перайшоў на аператыўнае кіраўніцтва партгрупамі і комуністамі ў паасобку, г. зн. на дачу вусных або пісьмовых штодзенных заданняў парторгу і паасобным комуністам. Гэта спрыяе быстраму правядзенню ў жыццё таго ці іншага пытання і аблягчае праверку выканання даручаемай мною работы, а таксама штодзенна звязвае мяне самога з комуністамі. Я адмовіўся ад старых метадаў кіраўніцтва, не даю заданняў, разлічаных на некалькі дзён, а кірую аператыўна кожны дзень. Гэта дало станоўчыя рэзультаты ў маёй партыйнай рабоце.

За гэты перыяд партарганізацыя правяла вялікую работу па выяўленню і ачышчэнню дэпо ад класава-чуждых элементаў, жулікаў, раскрадальнікаў соцыялістычнай маёмасці. Выкрыты класава-чуждыя элементы—3 чал.: Ліпскі І., які меў сувязь з белапалякамі, настроен антысовецкі, Вержбіцкі, Міцкевіч — бyўшыя кулакі, яны выгнаны з работы на транспарце; чатыры злодзеі, раскрадаўшыя чыгуначны інструмент і матэрыял. Так, слесар Кашын злоўлен у часе крадзяжу інструмента з паравозаў, слесар Скарабагаты таксама краў

інструмент з інструментальнай дэпо. Качагар Хоцін і вартаўнік Каралёў, узламаўшы дзверы, кралі ўначы з кладовай дэпо карасіну і інш. матэрыялы. Усе гэтыя жулікі былі зараз-жа злоўлены і адданы пад суд.

Партарганізацыя вяла лютую барацьбу з сабатажнікамі, гультаямі, п'яніцамі, прагульшчыкамі, парушаючымі і разлагаючымі працоўную дысцыпліну на транспарце. Выключан з партыі і зволен з вытворчасці член КП(б)Б Пржэвальскі, які сабатыраваў—пасля 7-гадзіннай работы на станцыі адмовіўся рабіць манеўры, не з'явіўся на паравоз, п'янстваваў у вёсцы, паламаў паравоз у дарозе і запатрабаваў дапаможны. Машыніст Тамкоў—з'явіўся на работу п'яны і ледзь не пабіў пры манеўрах вагоны, за што рабочыя запатрабавалі звальнення яго з работы. Машыніста Лямцэва, які з'явіўся п'яны, не дапусцілі да работы і зволілі. Трэба адзначыць, што такіх выпадкаў рабочая маса сама не церпіць і патрабуе ад адміністрацыі звальнення з работы лодыраў, рвачоў, прагульшчыкаў і ўсіх, хто ідзе супроць наладжання работы транспарта. Усё гэта спрыяла ўмацаванню працоўнай дысцыпліны сярод усяго рабочага калектыва.

Асноўны недахоп у партыйнай рабоце заключаецца, па-першае, у тым, што яшчэ няма сапраўднай перабудовы партыйнай работы, забяспечваючай уваходжанне ў дэталі работы дэпо, што няма масавай палітычнай работы сярод беспартыйных рабочых, па-другое, у тым, што камуністы і самі парторг і на сёнешні дзень яшчэ маюць нізкі палітычны ўзровень, што значна перашкаджае іх рабоце.

---

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

## РАШЭННІ XVII ПАРТЗ'ЕЗДА—У МАСЫ

*КУТОК ПРАПАГАНДЫСТА*

## К пытанню аб пераадаленні перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей*)

XVII з'ездам партыі пастаўлена задача пабудавання ў другой пяцігодцы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

> «Асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі з'яўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элементаў і класаў наогул, поўнае знішчэнне прычын, параджаючых класавае адрозненне і эксплаатацыю і пераадаленне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей, ператварэнне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў свядомых і актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства».

Мы спынімся тут толькі на важнейшых перажытках капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей.

Барацьба з традыцыямі капіталізма ў пераходны перыяд упорная і доўгая таму, што іх абараняюць і прабуюць выкарыстаць у сваіх мэтах паміраючыя класы. Эксплаатацкія класы ў Савецкім саюзе разгромлены, хоць перажыткі капіталізма ў савецкай эканоміцы і сазнанні людзей яшчэ далёка не знішчаны. Прадстаіць далейшае, доўгае і ўпорнае наступленне соцыялізма, разгортванне класавай барацьбы пролетарыята супроць гэтых перажыткаў. Асноўнай прадпасылкай пераадалення перажыткаў капіталізма з'яўляецца знішчэнне класаў і завяршэнне тэхнічнай рэканструкцыі краіны. Важнейшая задача другой пяцігодкі састаіць у пераадаленні перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей, хоць гэта не значыць, што ў перыяд 1933—37 гг. мы ўжо пераадалеем **усе** перажыткі капіталізма. Поўнае і канчатковае ўстараненне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей будзе дасягнута толькі пры комунізме.

Важнейшы з гэтых перажыткаў—**процілегласць паміж горадам і вёскай.** Гэта процілегласць з'яўляецца законам развіцця капіталістычнага грамадства. Капіталізм увекавечвае беспрасветнасць вясковага і абмежаванасць гарадскога жыцця. Капіталістычны горад эксплаатуе вёску, ператвараючы пот і кроў вясковай беднаты ў золата землеўладальнікаў і банкіраў. Ён захоўвае дробную і найдрабнейшую гаспадарку ў земляробстве, замаруджвае развіццё прадукцыйных сіл, прысвойваючы львіную долю прадукцыі земляробства праз рэнту, падаткі, проценты і манапольныя цэны на прамысловыя тавары.

Соцыялістычны горад не эксплаатуе, а вядзе працоўныя масы вёскі па шляху комуністычнай рэволюцыі. У Савецкім саюзе ў сілу

---

*) Перапрацаваная радыёлекцыя.

панавання дыктатуры пролетарыята процілегласць паміж горадам і вёскай быстра размываецца, хоць розпасць (класавая, тэхніка-эканамічная, культурная) паміж імі яшчэ астаецца. У сапраўднасці, рабочы клас і сялянства—гэта розныя класы; калгаснае сялянства—гэта клас учарашніх дробных таваравытворцаў. Сельска-гаспадарчая праца ў земляробстве яшчэ не з'яўляецца разнавіднасцю працы індустрыяльнай. Культурны ўзровень вёскі ніжэй социялістычнай культуры совецкага гораду.

Асноўная маса сялянства арганізавана ў калгасы. Калгаснае сялянства з'яўляецца моцнай апорай пролетарскай дзяржавы. Аднак калгаснік не ёсць яшчэ социяліст. Нельга яшчэ сказаць, што поўнасцю знішчаны спекулятыўныя тэндэнцыі селяніна-калгасніка.

> «Аб'яўленне калгаснага гандлю азначае легалізацыю рыначнай цаны на хлеб больш высокай, чым устаноўленая дзяржаўная цана» (**Сталін**—«Аб рабоце ў вёсцы»).

Таму зусім не выключана, што тыя або іншыя групы калгаснікаў у момант разгортвання калгаснага гандлю папрабуюць яго скарыстаць для спекулятыўных мэт. Умацаванне дзяржаўнай дысцыпліны, разгортванне совецкага гандлю паміж горадам і вёскай, **большэвізацыя** калгасаў—вось шлях, які забяспечвае поспехі барацьбы з прыватна-ўласніцкімі перажыткамі ў калгасах.

Але, апрача калгаснікаў, існуюць яшчэ аднаасобнікі-сяляне, якіх толькі прадстаіць уцягнуць у калгасы і паставіць на шлях перааддалення перажыткаў капіталізма.

> «Справа перапрацоўкі дробнага земляроба, перапрацоўкі ўсёй яго псіхалогіі і навыкаў ёсць справа, патрабуючая пакаленняў. Вырашыць гэту справу ў адносінах да дробнага земляроба, аздаравіць, так сказаць, усю яго псіхалогію можа толькі матэрыяльная база, тэхніка, прымяненне трактарсў і машын у земляробстве ў масавым маштабе, электрыфікацыя ў масавым маштабе» (**Ленін**, т. XXVI).

У СССР ужо створана матэрыяльная база социялізма ў выглядзе буйнай прамысловасці, рэарганізуючай земляробства. Вось чаму ў другой пяцігодцы мы паставілі задачу—стварэння ўсіх неабходных прадпасылак для ўстаранення процілегласці паміж горадам і вёскай.

Машынна-трактарныя станцыі—социялістычная індустрыя совецкага сяла—быстра паднімаюць вёску ў эканамічных, палітычных і культурных адносінах да ўзроўню социялістычнага горада. Аднак, поўны ахват машынна-трактарнымі станцыямі калгасаў, якога мы дасягнем у другой пяцігодцы, яшчэ не ўстараняе ўсёй розніцы паміж горадам і вёскай. Канчаткова і поўнасцю гэта розніца будзе зжыта на базе электрыфікацыі ўсёй краіны і знішчэння ўсіх астаткаў старых класавых розпасцей.

Да перажыткаў капіталізма ў совецкай эканоміцы, несумненна, адносіцца і яшчэ нязжытая **культурна-эканамічная адсталасць нацыянальных акраін,** якія царскі імперыялізм душыў і грабіў. Пры панаванні дыктатуры пролетарыята ўсе народы Саюза совецкіх рэспублік перажываюць быстры эканамічны, палітычны і культурны ўздым.

Роўнамернае размяшчэнне прадукцыйных сіл, социялістычная рэканструкцыя народнай гаспадаркі, развіццё нацыянальнай па форме і пролетарскай па зместу культуры,—такавы рычагі, якімі пролетарская

дзяржава ўжо ў другой пяцігодцы знішчае гістарычную адсталасць эканомікі і культуры нацыянальных раёнаў краіны, астаўшуюся нам ад капіталістычнага мінулага Pacii.

Упорную барацьбу партыя вядзе **з перажыткамі капіталістычных адносін да грамадскага багацця і працы.** Гадамі і дзесяцігоддзямі капіталізм прывучаў людзей да воўчага быту і сазнання. Паднажыцца за кошт багацця, ствараемага рукамі мільёнаў рабочых і сялян,—гэта запаведзь капіталізма. Пры капіталізме мільёны рабочых бяднеюць, кучка паразітаў узбагачаецца.

У СССР праца выключае эксплаатацыю чалавека чалавекам. Работа для пролетарскай дзяржавы, для гаспадара совецкай краіны—ёсць работа для сябе, бо дзяржава—гэта і ёсць узброены і арганізаваны ў пануючы клас пролетарыят, бо гаспадары краіны—гэта мільёны рабочых і калгаснікаў. Работнік, які робіць у сябе на вытворчасці брак, псуе прадукцыю, з'яўляецца раскрадальнікам сваёй-жа грамадскай уласнасці. Работнік, які зрывае працоўную дысцыпліну на соцыялістычным прадпрыемстве, з'яўляецца растратчыкам свайго-ж грамадскага рабочага часу. Вось чаму выхаванне соцыялістычных адносін да грамадскага багацця і працы, барацьба з гэтымі перажыткамі капіталізма з'яўляецца абавязковай умовай будаўніцтва соцыялізма.

Рабочы клас гадамі выхаваў у сабе дысцыпліну **грамадскай** працы. У другім становішчы знаходзіцца селянін, вякамі прывучаны да раздробленай працы. У яго няма навыкаў і прывычак да **грамадскай** працы. Таму барацьба за соцыялістычную дысцыпліну працы ў калгасах, пераадаленне ў іх прыватна-ўласніцкіх адносін да калектыўнай працы з'яўляецца абавязковай задачай соцыялістычнай рэволюцыі.

Важнейшым рычагом у гэтых адносінах з'яўляецца арганізацыя размеркавання прадуктаў па колькасці і якасці працы, затрачваемай кожным работнікам, арганізацыя дзяржаўнага кантролю за мерай працы і спажывання кожнага і разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва. Няма такога кутка ў совецкай краіне, дзе ўжо не меліся-б героі соцыялістычнай працы, усведамляючыя, што яны працуюць не толькі для сябе і свайго бліжняга, але і для дальняга, для ўсёй соцыялістычнай бацькаўшчыны. Гэта пачуццё ўмацоўваецца ўдзелам мільёнаў у планаванні народнай гаспадаркі. Але нам патрэбна не ўсякае, а дзяржаўнае планаванне, разлічанае на спалучэнне прыватных інтарэсаў з інтарэсамі ўсёй пролетарскай дзяржавы. Прыватна-гаспадарчае планаванне (напр., вытворча-фінансавы план калгаса, які не ставіць на першым месцы інтарэсы дзяржавы) можа толькі пашкодзіць справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Буйнейшым **перажыткам капіталізма ў совецкай эканоміцы і сазнанні людзей з'яўляецца бюракратызм.** Усімі сваімі гістарычнымі карэннямі бюракратызм звязан з капіталістычным і прыгонніцкім мінулым Pacii. Пры капіталізме бюракратызм расце ў сілу адрыву дзяржаўнага і вытворчага апарата ад працоўных, у сілу таго, што гэты апарат стаіць над імі як орган прыгнечання і падаўлення. У Pacii гэтыя класавыя карэнні бюракратызма падтрымліваліся асабліва нізкім культурным узроўнем працоўных, нізкай матэрыяльнай культурай (бездарожжа), раздробленасцю сялянскай эканомікі.

Окцябрская рэволюцыя зламала «бюракратычна-ваенную дзяржаўную машыну» буржуазіі і памешчыкаў. Але бюракратызм астаўся ў якасці найбольш агіднага перажытку капіталізма. Другая пяцігодка

завяршае культурную рэволюцыю ў совецкай краіне і стварае матэрыяльна-культурную аснову для канчатковага пераадалення бюракратызма. Карэнні бюракратызма цяпер—у яшчэ недастатковай культурнасці, у бездарожжы, ў буржуазна-чыноўніцкіх элементах, маючыхся ў совецкім дзяржаўным і кааперацыйным апараце. Пролетарская дзяржава вядзе барацьбу з бюракратызмам не толькі ачышчэннем свайго апарата ад буржуазна-чыноўніцкіх і бюракратычных элементаў, але і разгортваннем у краіне культурнай рэволюцыі і рэканструкцыяй народнай гаспадаркі, рэканструкцыяй апарата, форм і метадаў яго работы.

Шлях барацьбы з бюракратызмам—уцягненне працоўных у дзяржаўнае кіраўніцтва. Партыя ставіць сваёй мэтай злучэнне прадукцыйнай працы ўсіх з удзелам усіх у дзяржаўным кіраўніцтве. Тысячы перадавых рабочых і калгаснікаў ужо ўдзельнічаюць у форме соцыялістычных сумясціцеляў у справе дзяржаўнага кіраўніцтва.

> «Мэтай нашай з'яўляецца **бясплатнае** выкананне дзяржаўных абавязкаў **кожным** працоўным па адбыцці 8-гадзіннага «ўроку» прадукцыйнай работы; пераход к гэтаму асабліва трудны, але толькі ў гэтым пераходзе залог канчатковага ўсталявання соцыялізма» **(Ленін,** т. XXII).

У совецкай эканоміцы, дзе пануе планавы пачатак, рух вызначаецца самімі людзьмі (рабочым класам пад кіраўніцтвам партыі), поспехі і недахопы **арганізацыі і кіраўніцтва** неадкладна даюць аб сабе ведаць на развіцці эканомікі. Калі правільная арганізацыя кіраўніцтва вырашае цяпер на дзевяць дзесятых поспех дзяржаўнага будаўніцтва, то бюракратычнае «кіраўніцтва» губіць справу развіцця соцыялістычнай эканомікі. Яно затрымлівае выкарыстанне магутных рэзерваў соцыялістычнага будаўніцтва, жывіць коснасць, раўненне на горшыя ўзоры, душыць ініцыятыву і вопыт мільёнаў.

Бюракрат, які не правярае **выкананне** законаў і прадпісанняў, упадабляецца вядомаму герою ў «Горе от ума»—Фамусаву, які гаварыў:

«А у меня что дело, что не дело, обычай мой таков: подписано и с плеч долой».

Барацьба з бюракратызмам—гэта класавая барацьба рабочага класа з перажыткамі капіталізма. Бюракраты зрастаюцца з буржуазнымі элементамі, якія скрозь і ўсюды выкарыстоўваюць чыноўнікаў-бюракратаў, як сваіх агентаў у апараце пролетарскай дзяржавы. Іх трэба здымаць з пастоў, адстараняць ад дзяржаўнага кіраўніцтва, замяняць новымі, пролетарскімі кадрамі, не заражанымі бюракратычнай каростай капіталістычнага грамадства.

Гаворачы аб найбольш глыбокіх перажытках капіталізма, мы маем таксама на ўвазе **процілегласць паміж разумовай і фізічнай працай.** Капіталізм асудзіў велізарнейшы клас сучаснага чалавечага грамадства—пролетарыят—на цяжкую **фізічную** працу. Разумовая праца стала здабыткам прывілеяванай групы з прадстаўнікоў эксплаататарскіх класаў. Кіраўніцтва дзяржавай у капіталістычных краінах таксама з'яўляецца манаполіяй касты бюракратаў—агентаў пануючай буржуазіі. Процілегласць паміж разумовай і фізічнай працай таму носіць пры капіталізме рэзка выражаны антаганістычны характар.

Дыктатура пролетарыята ўжо знішчыла класава-антаганістычны характар процілегласці паміж разумовай і фізічнай працай, хоць

сама процілегласць далёка не зжыта. У СССР ужо няма антаганізму паміж працай дзяржаўнага (таксама гаспадарчага) кіраўніцтва і прадукцыйнай працай на вытворчасці, бо і тая і другая праца—розныя бакі дзейнасці пануючага рабочага класа. Аднак, існуюць спецыяльныя кадры рабочага класа і яго партыі, якія заняты **выключна** працай кіраўніцтва (разумовай працай) і якія мы павінны ўсямерна ўмацоўваць. Ступень механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці і культурны ўзровень яшчэ недастаткова высокія, у сувязі з чым існуе і яшчэ доўга будзе існаваць вялікая рознасць паміж кваліфікаванай і некваліфікаванай працай. Неабходна настойлівая барацьба з дробнабуржуазнай ураўнілаўкай, сціраючай грань паміж кваліфікаванай і некваліфікаванай працай.

Паспешныя гутаркі аб ліквідацыі процілегласці паміж разумовай і фізічнай працай на даным этапе могуць пашкодзіць справе комунізма. Гэта процілегласць можа быць пераадолена толькі на аснове найвышэйшага развіцця разумовай працы ў совецкай краіне, а таксама нябачанай раней кваліфікацыі работнікаў фізічнай працы.

Гэтага можна дасягнуць толькі пры поўным комунізме, калі будзе на электрычнай аснове аўтаматызавана вытворчасць, культурнасць падымецца да вельмі высокага ўзроўню, калі грамадства пяройдзе да размеркавання прадуктаў па патрэбнасці. З другога боку, толькі пры поўным комунізме рабочы час, які затрачваецца работнікам на вытворчасці, можа быць зведзен да мінімуму. За лік гэтага будзе рэзка павялічан час, які кожны работнік можа затрачваць на ўдзел у грамадскім кіраўніцтве і на развіццё сваіх разумовых здольнасцей і ведаў.

Вось чаму другая пяцігодка яшчэ не ставіць задачу знішчэння процілегласці паміж разумовай і фізічнай працай.

> «Але ці можна сказаць, што мы ўжо пераадалелі ўсе перажыткі капіталізма ў эканоміцы? Не, нельга гэтага сказаць. Тым больш нельга сказаць, што мы пераадалелі перажыткі капіталізма ў сазнанні людзей. Нельга гэтага сказаць не толькі таму, што сазнанне людзей у яго развіцці адстае ад іх эканамічнага становішча, але і таму, што ўсё яшчэ існуе капіталістычнае акружэнне, якое стараецца ажыўляць і падтрымліваць перажыткі капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей у СССР і супроць якога мы, большэвікі—павінны ўвесь час трымаць порах сухім. Зразумела, што гэтыя перажыткі не могуць не з'яўляцца спрыяючай глебай для ажыўлення ідэалогіі разбітых антыленінскіх груп у галовах паасобных членаў партыі» (**Сталін**, адчотны даклад XVII з'езду).

Прадстаіць барацьба з усімі відамі апартунізма, выкрыцця вылазак класавага ворага.

Барацьба з апартунізмам, барацьба з нацыяналістычнымі перажыткамі, адлюстроўваючымі класава-варожую ідэалогію, з'яўляецца важнейшым рычагом у справе пераадалення перажыткаў капіталізма ў сазнанні людзей.

> «Вось чаму нельга гаварыць, што барацьба скончана і няма больш неабходнасці ў палітыцы наступлення социялізма» (**Сталін**, адчотны даклад XVII з'езду).

Умовай паспяховага наступлення социялізма з'яўляецца магутная дыктатура пролетарыята. Асноўнай прадпасылкай пераадалення перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей з'яўляецца ўма-

цаванне пролетарскай дзяржавы. І на аснове гэтага—знішчэнне класаў і завяршэнне соцыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі. Без гэтай палітычнай і эканамічнай базы немагчыма ліквідаваць перажыткі капіталізма ў совецкай эканоміцы.

Пролетарская дзяржава ўзнікла ў рэзультаце Окцябрскай рэволюцыі, узарваўшай буржуазна-памешчыцкую дзяржаву Расіі. На ўвесь пераходны перыяд ад капіталізма к комунізму неабходна магутная дыктатура пролетарыята, як адзіна магчымая сіла, рухаючая ўперад пролетарскую рэволюцыю. У першай пяцігодцы ў сілу панавання дыктатуры пролетарыята ў Совецкім Саюзе пабудавана матэрыяльная база соцыялізма—фундамент соцыялістычнай эканомікі. У другой пяцігодцы мы павінны пабудаваць соцыялістычнае грамадства. Задачу пабудавання бяскласавага грамадства можна выканаць толькі на шляхах умацавання дыктатуры пролетарыята. Пролетарская дзяржава ў другой пяцігодцы неабходна для канчатковага знішчэння класаў. Яна неабходна для ўмацавання абароназдольнасці краіны і адлюстравання могучай быць контррэволюцыйнай інтэрвенцыі капіталістычных краін.

Нават у соцыялістычным грамадстве (першая фаза комунізма) яшчэ астаецца неабходнасць у пролетарскай дзяржаве. Пролетарская дзяржава патрэбна будзе для знішчэння астаткаў старых класавых рознасцей. Затым яна патрэбна для выхавання новай соцыялістычнай дысцыпліны працы і для аховы соцыялістычнага прынцыпу размеркавання грамадскага прадукта па працы.

Яна патрэбна для аховы грамадскай соцыялістычнай уласнасці ад людзей, не зжыўшых традыцый капіталізма—«паднажыцца на народным дабру».

Нарэшце, яна патрэбна для развязвання сіл і дапамогі міжнароднай пролетарскай рэволюцыі.

Адміраць дзяржаўная ўлада пролетарыята можа толькі на вышэйшай фазе комуністычнага грамадства. Эканамічнай асновай адмірання дзяржавы з'явіцца поўнае і канчатковае пераадаленне перажыткаў капіталізма ў совецкай эканоміцы і ў сазнанні людзей, канчатковае зжыванне астаткаў старых класавых рознасцей і пераход грамадства да размеркавання прадуктаў па патрэбнасцях. Гэта будзе магчыма толькі пры поўным комунізме. Вось чаму ўсякія гутаркі аб адміранні пролетарскай дзяржавы на даным этапе з'яўляюцца контррэволюцыйнай тэорыяй. Вось чаму наша партыя і яе кіраўнік тав. **Сталін** неаднаразова падкрэсліваў, што для нашага руху ўперад патрэбна сільная і магутная дыктатура пролетарыята.

---

## Аб малацьбе і малатарні

Практыка цэлага раду мінулых год паказала, што малацьба ў нас часта праводзілася нядобраякасна. Паўторныя (праверачныя і пробныя) абмалоты давалі многа працантаў „дадатковага“, раней выкінутага з малатарні, разам з саломай, зярна.

Зразумела, што ў радзе выпадкаў мы мелі справу з прамым шкодніцтвам—вынікам кулацкай работы. Апрача гэтага ёсць многа фактаў, калі мы атрымлівалі нядобраякасную малацьбу і неслі велізарнейшыя страты ўжо сабранага з поля ўраджаю, у рэзультаце выключна нашай нядбайнасці да выканання раду працейшых тэхнічных правіл і запатрабаванняў (а часам і няведання аб іх існаванні).

Рад работнікаў калгасаў, МТС і соўгасаў (нават тэхнічна-свядомыя практыкі) лічыць, што не варта звяртаць увагу (асабліва ў такі гарачы час, як малацьба) на розныя дробязі. Яны кажуць, што страты ў часе ўборкі і малацьбы з'яўляюцца немінучымі і, па іх думцы, гэтыя страты звычайна вымяраюцца „грамамі“.

Неабходна раз і назаўсёды адкінуць такія „неахайна-панскія“ адносіны да агульна-калгаснай і дзяржаўнай маёмасці, якой з'яўляецца ўраджай.

Трэба добра разумець і цвёрда помніць, што страты ў 5—10 проц. нявымалачанага або нявытрасенага з саломы зярна, пры рабоце малатарні з сярэдняй прадукцыйнасцю ў 10 тон за змену, саставяць ад 1,0 да 2 тон (60—120 пуд.) толькі за адны суткі (пры двухзменнай рабоце гэтай малатарні); што нават самыя нязначныя неахайнасці ў абыходжанні з малатарняй, самыя дробныя паломкі і няспраўнасці яе механізмаў, самыя найменшыя непаладкі ў яе рабоце і недакладнасці рэгуліроўкі—прыводзяць да такіх-жа і нават яшчэ большых страт; што адначасова з павелічэннем страт прама прапарцыянальна памяншаецца прадукцыйнасць работы як малатарні, так і працуючых пры ёй людзей.

Работнікі калгасаў, МТС і соўгасаў павінны добра зразумець і заўсёды цвёрда помніць, што аўладаўшы тэхнікай малацьбы і малатарні, яны могуць і павінны дабіцца сапраўды поўнага абмалоту ўраджаю і цалкам знішчыць страты яго ў часе малацьбы.

Малацьбы без страт, з захаваннем поўнай прадукцыйнасці малатарні, мы можам і павінны дабіцца ўжо ў сёлетнім годзе. Гэтага ад нас патрабуе наш уласны добрабыт. Гэтага ад нас патрабуюць найшырэйшыя масы калгаснікаў. Такую задачу перад намі ставяць партыя і ўрад.

У гэтым артыкуле мы ставім сваёй задачай даць некалькі парад у справе ўстаноўкі і рэгуліроўкі малатарні, кантролю над якасцю яе работы і коратка намеціць спосабы знішчэння розных дробных непаладак і няспраўнасцей у часе работы.

## 1. Пабудова і тыпы малатарань

Пад малацьбой, у вузкім значэнні гэтага слова, мы разумеем толькі працэс (аперацыю) выдалення зярнят з каласоў без наступнага падзелу атрыманай масы—вораху (сумесі зярнят, саломы, мякіны і інш.) на складаючыя яе часткі. Гэты працэс (аперацыя) вытвараецца пры дапамозе барабана і прыбарабання (ці дэкі, як завуць інакш часта апошнюю).

Барабан звычайна складаецца з восі, на якую насаджаны некалькі круглых (або злёгку абкантаваных) калёс (кругоў), злучаных у падоўжным напрамку планкамі.

Да планак прымацоўваюцца, той ці іншай формы, білы або штыфты (зубы). У першым выпадку барабан носіць назву „**більнага**“, а ў другім „**штыфтавога**“. Як правіла, каля більнага барабана змяшчаецца гладкая рашотчатая дэка, а каля штыфтавога—штыфтавая (зубчатая) дэка (бываюць выпадкі, што каля штыфтавога барабана змяшчаецца дэка, якая састаіць з двух—адной гладкай, другой зубчатай—палавін).

Каласы, пападаючы паміж барабанам і дэкай, расціраюцца, атрымліваюць рад частых рэзкіх удараў, у выніку чаго зярняты і выдаляюцца з каласоў.

Вельмі часта малатарні, якія маюць більныя барабаны, завуць „еўрапейскімі“, а маючыя штыфтавыя барабаны—„амерыканскімі“, хоць наяўнасць таго ці іншага барабана сама па сабе яшчэ і не вызначае тыпу малатарні.

Лепшым барабанам у нашых умовах трэба лічыць штыфтавы, бо ён лепш спраўляецца з сыраватым збожжам, дае большую прадукцыйнасць, больш і лепш рве і пераціpае салому на кавалкі, што мае немалаважнае значэнне (такая парваная, памятая і перабітая салома больш прыгодна і для корму і для падсцілу жывёле).

Зубы ў штыфтавога (зубчатага) барабана бываюць рознай формы, сярод іх адрозніваюць рускія, германскія і клінцовыя. Лепшымі зубамі трэба лічыць клінцовыя.

Канцы вала барабана звычайна змяшчаюцца ў падшыпніках. Падшыпнікі могуць быць гладкія з укладышамі або без іх, у іх можа быць або не быць кальцавая змазка (падшыпніка Селерса) і, нарэшце, падшыпнікі могуць быць ролікавыя і шарыкавыя. Апошнія трэба лічыць найбольш падыходзячымі, бо яны менш за ўсё зрабатваюцца і з‘яўляюцца найбольш лёгкімі на хаду.

Звычайна адрозніваюць малатарні **простыя, поўскладаныя і складаныя**.

**Простымі малатарнямі** завуць такія, якія толькі абмалачваюць збожжа і не падзяляюць атрымліваемы ворах на складаючыя яго часткі: зярно, салому, мякіну, збоіны і т. д. Толькі як выключэнне, у некаторых выпадках мы сустракаем простыя малатарні, абсталяваныя саломатрасам, які з большага выдзяляе з вораху салому, але пакідае зярно ў сумесі з мякінай, збоінамі і інш.

Простыя малатарні патрабуюць вялікай колькасці рабочых рук, набыцця дадатковых адвейваючых і зернеачышчальных машын і установак і значна зацягваюць абмалот ураджаю. Таму яны ў сучасны момант амаль не маюць пашырэння ў нашых калгасах і соўгасах.

**У поўскладаных і складаных** малатарнях мы маем той-жа пабудовы (більныя або штыфтавыя, хоць звычайна і большых размераў, пераважна—больш доўгія) барабан і дэку, да якіх ужо абавязкова пры-

стасоўваецца цэлы рад дадатковых, як-бы дапаможных (у даным выпадку, але фактычна самастойна да гэтага існаваўшых і могучых далей існаваць) механізмаў і прылад, як, напр.: саломатрас, грохат, скатныя доскі, веялкі, сартыроўкі, элеватары, шнэкі, шасталка і інш.

Такім чынам і поўскладаныя і складаныя малатарні мы можам разглядаць як свайго роду камбайны апрацоўваючыя ўраджай (камбінацыю раду самастойных машын).

Уся розніца паміж поўскладанымі і складанымі малатарнямі заключаецца ў тым, што першыя звычайна маюць меншую колькасць злучаных у адно цэлае механізмаў і прыстасаванняў, падзяляюць ворах на салому, мякіну і зярно, пакідаючы апошняе ў амаль неачышчаным і неадсартыраваным выглядзе. Другія-ж маюць больш розных, злучаных ў адно цэлае, механізмаў, і канчаткова ачышчаюць і нават сартыруюць (на некалькі сартоў) зярно.

Фактычная розніца паміж „амерыканскім“ і „еўрапейскім“ тыпамі малатарань, апрача наяўнасці ў першай штыфтавога, а ў другой більнага барабанаў, заключаецца яшчэ ў тым, што ў першай амаль усе працэсы: падача снапоў на стол, іх развязванне, растрасанне, падача ў барабан, адвод і складанне ў скірды саломы і мякіны, нават насыпанне ў мяшкі і ўзважванне зярна—аўтаматызаваны і механізаваны, у той час як у малатарнях „еўрапейскага“ тыпу (нават у найбольш складаных з іх) усе гэтыя працэсы не настолькі, а то і зусім не механізаваны. Дзякуючы гэтаму „амерыканскія“ малатарні патрабуюць значна менш людзей (рабочых рук) для свайго абслугоўвання.

Дакладна апісаць пабудову, узаемадзеянне частак і працэс малацьбы, шлях праходжання і падзяленне вораху на складаючыя яго часткі, працэс веяння, ачысткі і сартыроўкі зярна і т. д. мы тут не маем магчымасці. Таму, абмежаваўшыся сказаным, пяройдзем да практычных парад выкарыстання малатарні і арганізацыі малацьбы.

## Выбар месца малацьбы

Прыступаючы да малацьбы, трэба перш за ўсё выбраць месца для току (месца малацьбы).

Ток можа быць арганізован як у крытым памяшканні (гумно, малацільны сарай), так і пад адкрытым небам.

У першым і другім выпадках неабходна паклапаціцца аб тым, каб грунт току быў дастаткова цвёрды (малатарня не павінна асядаць у часе работы), роўны (найбольшая лёгкасць перамяшчэння прадуктаў малацьбы і знішчэнне іх страт) і дастатковых размераў.

Пры арганізацыі малацьбы пад адкрытым небам неабходна:

выбраць месца з такім разлікам, каб унікнуць лішніх перавозак прадуктаў малацьбы;

калі салома складаецца на месцы малацьбы, то для папярэджання падмачвання скірды дажджавой вадой—складаць на ўзгорку, абкапаць месца скірды канавай і т. д.;

у выпадку арганізацыі току блізка каля будынкаў, асабліва жылых, адхіліць небяспеку пажараў;

ачысціць пляцоўку току ад пажніўя, дзярніны і ўтрамбаваць яе;

распланаваць размяшчэнне малатарні і рухавіка так, каб напрамак ветру ў часе малацьбы ў даным месцы супадаў з напрамкам ад рухавіка да машыны, ці яшчэ лепш (больш небяспечна ў пажарных адносінах), прыходзіўся пад некаторым вуглом да злучаючай іх лініі і быў з боку рухавіка, а ні ў якім разе не з боку малатарні.

## Установка малатарні

**Установку малатарні** неабходна рабіць строга па ўроўню ці ватэрпасу, г. зн. яна як у папярочным, так і падоўжным напрамку павінна быць устаноўлена строга гарызантальна.

Калі малатарня будзе ў якім-небудзь напрамку (падоўжным ці папярочным) пастаўлена коса (нахільна), то прадукты абмалоту немінуча будуць збягаць да аднаго якога-небудзь боку тых сітаў і рам, па якіх яны праходзяць.

Апошняе ў сваю чаргу будзе выклікаць або павелічэнне страт або забіванне, няправільную работу і дачаснае зношванне малатарні і таму мы атрымаем змяншэнне яе прадукцыйнасці, павелічэнне простояў і іншыя зусім непажаданыя, для нас рэзультаты.

Устанавіўшы малатарню па ўроўню, неабходна ўсімі магчымымі мерамі замацаваць яе ў гэтым палажэнні. Гэтаму служаць: тармазы, спецыяльныя тормазныя кліны, колікі, заганяемыя ў зямлю падпоры і т. д.

Нельга забываць паставіць кліны (распоркі) і паміж абадамі пярэдніх калёс і рамай малатарні—гэта папярэдзіць раскачванне яе.

## Установка рухавіка

Рухавік (трактар, лакамабіль) неабходна ўстанавіць так, каб сярэднія лініі шківоў рухавіка і малатарні знаходзіліся на адной прамой лініі,

Праверыць і зрабіць такую ўстаноўку лёгка, нацягваючы па лініі шківоў малатарні і рухавіка шнур. Трэба каб шківы супадалі з лініяй шнура і былі роўналежны ёй.

Адлегласць паміж малатарняй і рухавіком павінна быць не менш 12—15 метраў, а пажадана і больш.

## Праверка шківоў

Барабан кожнай малатарні павінен вярцецца з пэўнай для кожнай малатарні колькасцю абаротаў у мінуту. Гэта колькасць залежыць ад дыяметра барабана малатарні і віду культуры вымалачваемага зярна. Таму кожны раз перад малацьбой той або іншай культуры, або зменай рухавіка, працаваўшага да гэтага з малатарняй, неабходна правяраць суадпаведнасць дыяметраў шківа рухавіка і шківа малатарні.

Зрабіць гэта можна так: бяруць лік абаротаў у мінуту шківа рухавіка, памнажаюць яго на дыяметр гэтага шківа ў сантыметрах, атрыманы лік дзеляць на лік абаротаў, патрэбны для барабана малатарні—у рэзультаце атрымліваецца дыяметр патрэбнага для малатарні шківа, выражаны ў сантыметрах.

Лік абаротаў у мінуту, які дае рухавік, можна ўзяць з даведніка або дапаможніка па данаму рухавіку. Можна яго падлічыць і самому (калі рухавік мае параўнальна малую колькасць абаротаў), карыстаючыся пры гэтым гадзіннікам з секунднай стрэлкай, або змерыць яго пры дапамозе спецыяльнага лічыльніка абаротаў—тахометра.

Патрэбны лік абаротаў барабана малатарні можна падлічыць наступным чынам: для зернавых культур бяруць лічбу 475 і дзеляць яе на дыяметр барабана данай малатарні, выражаны ў метрах.

Для бабовых культур (гарох, віка і інш.) трэба ўзяць лічбу 132 і таксама падзяліць на дыяметр барабана малатарні, выражаны ў метрах. Можна ўзяць гэтыя лікі і з дапаможніка, які звычайна дадаецца заводам да кожнай малатарні.

## Пасы

Для работы кожнай з прымяняемых зараз у нашых калгасах малатарань патрэбны пасы.

Пасы бываюць скураныя, прагумаваныя і тканыя. Якім-бы пас не быў, ён на сёнешні дзень з'яўляецца дэфіцытнай рэччу (іх нехапае), а таму на пытанні аб пасах мы хоць і коратка, але спынімся.

**Даўжыня паса** вызначаецца такім спосабам: дакладн адмяраюць адлегласць паміж цэнтрамі валаў, на якіх сядзяць шківы (тыя, для якіх мы рыхтуем рамень), падвойваюць гэту адлегласць і дадаюць да яе дзве палавіны акружнасці шківоў—па адной палавіне акружнасці кожнага шківа.

**Новыя прагумаваныя пасы** вельмі лёгка выцягваюцца, таму пры дакладным вызначэнні даўжыні новага прагумаванага паса робіцца так: вызначыўшы, як сказана вышэй, даўжыню патрэбнага паса, скідаюць з яе столькі сантыметраў, колькі яна мае метраў.

**Адразаць пас** неабходна строга па вугольніку так, каб лінія абрэзу была дакладна перпендыкулярна да бакоў паса. Гэта вельмі важна для правільнага сшывання і далейшай работы паса.

**Перад сшываннем паса** раіцца на канцах яго зрабіць дакладную размётку пунктаў праколу або прабівання паса. Пункты праколу павінны быць размешчаны ў шахматным парадку.

Прабіваецца толькі скураны, а пракалваецца толькі прагумаваны або тканы пас. Пракалваць скураны пас не раіцца, як нельга прабіваць прагумаваны або тканы пас. Для праколкі прагумаванага і тканага паса раіцца ўжываць не вельмі вострае шыла.

**Сшываць пас** трэба па падвойных і нават на трайных радах пунктаў праколу на кожным з яго канцоў, захоўваючы наступныя правілы:

скураны пас не павіненмець прабітых дзірак (праколаў), змяшчаючыхся да краю бліжэй 10 *мм*, і паміж дзіркамі павінна быць у сярэднім каля 15 *мм.*;

прагумаваны пас патрабуе ўжо павелічэння адлегласцей ад краю да пунктаў праколу да 15 *мм*, і паміж пунктамі праколу ў 25 *мм.*

тканы з бавоўны або пяньковы пас дапускае адлегласць праколаў ад краю не менш 20 *мм* і паміж праколамі 30 *мм*;

канцы паса павінны заходзіць адзін за адзін і іх папярэчныя краі павінны быць прыціснуты ўшывальнікамі.

Швы ўшывальнікаў не павінны крыжавацца паміж сабою і павінны быць зроблены з добрай сырамятнай скуры, быць па ўсёй сваёй даўжыні аднолькавай таўшчыні, падабранай для данай сшыўкі адпаведна таўшчыні паса. Канцы іх пасля сшыўкі павінны быць схаваны ў целе паса (зрабіць адзін—два швы ўдоўж па целу паса і каротка абрэзаць).

**Адзяваць скураныя пасы** трэба мяздрой уверх (гладкім бокам да шківа), а прагумаваныя наадварот—уверх гладкім (пакрытым пластом гумы) бокам.

Сшываць і адзяваць пасы трэба так, каб ніжні (унутраны) канец сшытага або склеенага паса збягаў са шківоў, а не набягаў на іх.

Адзеты на шківы рамень павінен быць так нацягнут, каб ён мог перадаваць рух аднаго (вядучага) другому (вядоўнаму) шківу без слізгання. Аднак, занадта нацягваць пас ні ў якім разе нельга, бо ў такім выпадку будуць сільна награвацца сам пас і падшыпнікі валоў, а таму і той і другія будуць быстра зрабатвацца і выбываць са строю.

Новыя прагумаваныя пасы, звычайна пасля іх згатаўлення, пасыпаюцца талькам. Каб унікнуць буксавання (слізгання) такога паса,

неабходна перад работай працерці яго анучай, злёгку змочанай у вараным ільняным масле (пакосце).

Усе без выключэння пасы неабходна ахоўваць ад пападання на іх мінеральнага масла і карасіны або бензіну, таму што ад іх пасы псуюцца і буксуюць.

У выпадках, калі пас, не гледзячы на ўсе папярэдне прынятыя меры, усё-ж такі пачынае буксаваць, ні ў якім разе нельга пасыпаць або націрацъ яго сухой каніфоллю (што між іншым у нас вельмі часта робіцца), гэта псуе пас. У такіх выпадках неабходна карыстацца або спецыяльнай пастай, якая прадаецца ў магазінах Сельгас-снаба, і якую можна прыгатаваць самому, зварыўшы ў роўных частках каніфоль з якім-небудзь жывёльным або раслінным тлушчам.

Некаторыя з трактарных малатарань маюць не толькі пасы, але і ланцугі Галля (самападаваелі). Змазваць гэтыя ланцугі або звяздчаткі, на якіх яны надзяваюцца, нельга. Адзяваць іх трэба так, каб у часе работы кручкі іх (якімі злучаюцца паасобныя звенні) накіроўваліся ўперад па руху ланцуга, і прарэзы кручкоў знаходзіліся зверху ланцугоў (не прылягалі да звяздчатак).

Каб забяспечыць сябе ад няшчасных здарэнняў, усе пасы, канцы валоў і інш. знадворныя рухаючыяся часткі, павінны быць закрыты спецыяльнымі забяспечваючымі прыстасаваннямі—сеткамі, шчыткамі, агарожай і інш.

## Рэгуліроўка і пуск малатарні

Перад пачаткам работы і пускам малатарню неабходна яшчэ раз аглядзець і ўсе яе часткі, якія труцца, змазаць чыстым неадработаным маслам—алеонафтам, а шарыка-і роліка-падшыпнікі—тавотам.

Усе гайкі і асабліва тыя з іх, якія ўмацоўваюць трусільныя пружыны, зубы барабана і рухаючыяся часткі веялак, павінны быць праверany і падцягнуты да адказу.

Усе падшыпнікі і гайкі на іх павінны быць так адрэгуляваны, каб не выклікалі лішняга трэння валоў (апошнія павінны пракручвацца лёгка ад рукі), але ў той-жа час і не давалі магчымасці люфту (хлябання, хістання) іх.

**Неабходна праверыць і адрэгуляваць дэку** (падбарабанне) малатарні. Перад пачаткам работы яна павінна быць пастаўлена на адлегласці: у пярэдняй частцы (куды падаецца неабмалочанае зярно) 25 *мм.*, у сярэдняй частцы 18—15 *мм*, і ў месцы выхаду зярна з барабана (адбоя)—12—10 *мм.*

Гэтыя адлегласці не з'яўляюцца абавязковымі і пастаяннымі ў часе работы малатарні. У залежнасці ад атрымліваемай якасці абмалоту і стану абмалачваемага зярна, яны могуць змяняцца ў той ці іншы бок.

Сама сабою зразумела, што перад пускам у штыфтавых малатарнях неабходна праверыць расстаноўку штыфтоў (зубоў) барабана і дэкі, якія не павінны быць пагнутымі, дзе-ні дзе зблiжанымі і тым больш чапляцца—біць адзін па другому.

Перад пачаткам работы малатарню неабходна абавязкова прапускаць мінут 10—15, а то і 20 на халастым ходу.

Трэба ўпэўніцца, што ход малатарні нармальны, роўны, што яна не мае стукаў, яе падшыпнікі не награюцца, пасы не звальваюцца. Калі паявяцца якія-небудзь недахопы або няспраўнасці, малатарню трэба спыніць, знішчыць недахопы, выправіць усе няспраўнасці і прапусціць малатарню яшчэ раз на халастым ходу.

Пачынаць работу—падачу збожжа ў барабан малатарні—можна толькі тады, калі мы ўпэўнімся ў поўнай спраўнасці і адрэгуляванасці яе. Прызнакамі апошняга будуць спакойны, роўны гул барабана ў часе ходу, адсутнасць стукаў і дрыжэнняў усёй малатарні і паасобных частак яе, пасы ідуць роўна па сярэдзіне шківоў, не скідваюцца, падшыпнікі не награваюцца.

## Змазка малатарань

У часе работы, калі ўсё ў малатарні ў парадку—работа ідзе без перабояў і вымушаных перапынкаў—яе ўсё-ж такі трэба праз кожныя 2—2,5 гадзіны абавязкова спыняць для змазкі і агляду.

Пры такой астаноўцы павярхоўна аглядаюцца ўсе мацаванні малатарні, асабліва пружыны грохату, правяраецца, ці не грэюцца дзенебудзь падшыпнікі, абавязкова змазваюцца буксы, шатуны і іншыя слізгаючыяся падшыпнікі.

На радзей двух раз за змену (кожныя 4—5 гадзін работы) неабходна правяраць мацаванні штыфтоў барабана малатарні і дэкі, падцягваючы аслабеўшыя гайкі (а таксама і біл у більных барабанах) і робіць змазку шарыка-і ролікападшыпнікаў тавотам, а ў падшыпнік з самазмазваючым кальцом („Селерса“) падліваюць алеонафт або аўтол.

Для ўказаных тут правіл змазкі і павярхоўнага агляду малатарні трэба выкарыстоўваць кожную вымушаную астаноўку, кожны перапынак у рабоце.

## Устараненне няспраўнасцей і непаладак у часе работы

Сучасная малатарня з'яўляецца даволі складанай і дакладнай машынай, патрабуючай пільнага догляду і ўмелага абыходжання з ёю. У часопісным артыкуле цяжка і нават немагчыма ахваціць усе выпадкі непаладак і няспраўнасцей, якія могуць здарыцца пры яе рабоце, але ўсё-ж-такі мы (хоць і вельмі каротка) спынімся на найбольш часта здараючыхся з іх, адначасова даючы парады іх устаранення.

**Малатарня ідзе вельмі цяжка**—рухавік не можа даць яе барабану патрэбнай колькасці абаротаў.

Для дакладнага выяўлення прычыны цяжкага ходу і ўстаранення яго неабходна праверыць лёгкасць ходу малатарні без нагрузкі (падачы снапоў), пры скінутым галоўным пасе (прываднымᅟ ад рухавіка) і адзетых усіх іншых (арматурных). Малатарня павінна праварачвацца параўнальна лёгка—ад рукі, калі вярцець яе за шкіў барабана. Калі такая лёгкасць маецца, то цяжкі ход трэба ўстараніць рэгуліроўкай (адцаленнем) дэкі, калі не, то прычыну трэба шукаць у адсутнасці змазкі, перакосе самой машыны або некаторых з яе валоў і занадта тугой зацяжцы падшыпнікаў.

**Пасы саскакваюць са шківоў, на якія яны надзеты**—няправільная сшыўка, перакос шківоў, або сільны бакавы вецер. Устараняецца—перашываннем паса, перастаноўкай шківоў (перастаноўка рухавіка на малатарні), абаронай паса ад ветру (пастаноўка шчытоў).

**Пасы буксуюць** з прычыны слабага іх нацяжэння, забрудненасці маслам, або занадта цяжкой работы таго механізма (шківа, вала), які прыводзіцца ў рух. Неабходна павялічыць нацяжэнне, укараціўшы пас

або павялічыўшы адлегласць паміж шківамі, ачысціць (прамыць) пас, устараніць перагрузку таго механізма, які прыводзіцца ў рух гэтым пасам.

**Пасы рвуцца** ад старасці ці ад таго, што вельмі туга нацягнуты, маецца ў наяўнасці перагрузка прывадзімага ў рух механізма, ці ад няспраўнасці яго. Патрэбны: замена паса новым, перашыўка (падліненне яго), або рамонт і рэгуліроўка, прывадзімага такім пасам у рух механізма.

**Дрыжэнне ўсёй машыны або паасобных валоў яе** гаворыць аб надта тугой зацяжцы падшыпнікаў і дрэннай іх рабоце, скрыўленні валоў, і аб неўраўнаважанасці барабана і іншых верцячыхся частак. Спосабы ўстаранення дрэннай работы малатарні зразумелы самі па сабе.

**Падшыпнікі грэюцца**—адсутнасць змазкі (забіліся адтуліны, якія праводзяць масла), надта туга падцягнут падшыпнік або нацягнут пас, шыйка вала ў падшыпніку скрыўлена. У апошнім выпадку яе неабходна працачыць у майстэрні.

**Барабан „забівае“ адным бокам**—выпалі адзін або некалькі зубоў з процілеглага боку, або барабан пасля рамонту не ўраўнаважан. Трэба ўставіць новыя зубы замест выпаўшых і ўраўнаважыць барабан.

**Барабан „патрэсквае“**—сагнуты штыфты (зубы) барабана або дэкі, або барабан мае падоўжны люфт. Неабходна выпраміць зубы і ўмацаваць у правільным палажэнні барабан (апошняе робіцца пры даі памозе спецыяльных установачных кольцаў—муфт).

**Барабан „забіваецца“** саломай (яна на яго накручваецца)—ад таго, што абмалачваецца занадта сырое збожжа, недастаткова колькасць абаротаў барабана, фартук або бітэр над саломатрасам апушчан вельмі нізка. Трэба падняць фартук, павялічыць колькасць абаротаў рухавіка або паменшыць шкіў на валу барабана, зменшыць падачу.

**Нячысты абмалот**—прычыны наступныя:

няправільная і няроўнамерная падача;

білы або зубы барабана вельмі зношаны—патрэбна замена;

няправільна (далёка) пастаўлена дэка;

колькасць абаротаў барабана малая—буксуе пас, ціха працуе рухавік або непадыходзіць размер шківа;

няроўнамерна працуе рухавік, а значыць і няроўнамерна верціцца барабан малатарні.

Спосабы ўстаранення аб'ясненняў не патрабуюць.

**Зярно сячэцца** (дробіцца) па наступных прычынах:

дэка пастаўлена няверна (надта блізка да барабана);

зубчаты барабан мае люфт удоўж восі;

колькасць абаротаў барабана надта вялікая (малатарні павінны заўсёды працаваць пры пэўным, цвёрда акрэсленым **нармальным ліку абаротаў**);

новыя зубы або білы барабана на першых парах іх работы немінуча даюць некалькі павялічаную колькасць пасечанага зярна;

няправільна адрэгулявана шасталка.

Часамі бывае, што зярно **і сячэцца і адначасова не чыста вымалачваецца.** Гэта здараецца пры перакосах дэкі (адзін яе бок блізка, а другі далёка ад барабана), або пры люфце і нявернай устаноўцы штыфтавога барабана ўдоўж восі.

Нельга абмяжоўвацца толькі рэгуліроўкай барабана і дэкі і сачыць за стратамі толькі ў выглядзе неабмалочанага і пасечанага зярна. Трэба цвёрда помніць, што не меншыя, а часта нават і большыя

страты мы можам панесці і ў рэзультаце няправільнай рэгуліроўкі і непаладак у рабоце грохату, веялак, шасталкі і сартыровак.

**Неабходна сачыць за чыстатой адыходзячай мякіны і збоін,** як і за правільнай рэгуліроўкай работы вентылятараў у першай і другой веялках і чыстатой сіт (рэшатаў) гэтых веялак.

Нельга мірыцца з недастатковай якасцю работы малатарні (яе ачышчаючых, адвейваючых і сартыруючых прыстасаванняў). Неабходна шырока карыстацца магчымасцямі рэгуліроўкі, сілы і напрамку дуцця (ветру) вентылятараў, змяняючы празоры іх вакон нахілу паражка і асабліва вышыню казырка гэтага паражка.

## Арганізацыя работы на малацьбе

Наш артыкул быў-бы вельмі абмежаваным і няпоўным, калі-б мы нічога не сказалі аб арганізацыі працы на малацьбе, тым больш, што ў сёлетнім годзе НКЗемам СССР выдана спецыяльная інструкцыя, зацверджаная СНК Саюзам, па арганізацыі працы і ацэнцы работ на малацьбе, якая некалькі змяняе існаваўшы дагэтуль парадак.

Згодна гэтай інструкцыі, да кожнай малатарні на ўвесь час яе работы ў калгасе, дырэктарам МТС і старшынёй калгаса вызначаюцца і замацоўваюцца пастаянныя: **машыніст вагаўшчык, машыніст нафтавага рухавіка—качагар лакамабіля або трактарыст трактара—і падавальшчыкі снапоў у барабан і на палок.**

Астатні склад, патрэбны для малацьбы, вылучаецца брыгадзірам паляводчай брыгады калгаса таго ўчастка, ураджай якога абмалачваецца.

Брыгадзір паляводчай брыгады робіць і расстаноўку калгаснікаў каля малатарні, улічвае іх работу і арганізоўвае падвозку збожжа да малатарні. Прыкладная агульная колькасць рабочых на таку прыведзена ў наступнай табліцы:

| Віды работы | Марка малатарні | |
|---|---|---|
| | МК—100 | МО—900 БДО 34 |
| Падавальшчыкі снапоў у барабан . . . | 2 | 2 |
| Падавальшчыкі снапоў на палок . . . . | 4 | 2— 3 |
| Падавальшчыкі снапоў са скірд . . . . | 2 | 6 |
| Адграбальшчыкі саломы ад малатарні . . | 6 | 2— 3 |
| Адграбальшчыкі мякіны ад малатарні . . | 4 | 2 |
| Адцягваюць салому да скірдаў . . . . | 1 | 1 |
| Адцягваюць мякіну к месцу яе ўкладкі . | 1 | 1 |
| Укладваюць салому ў скірды . . . . . | 3— 5 | 2— 4 |
| Укладваюць мякіну ў скірды . . . . . | 2— 3 | 2 |
| Каля мяшкоў . . . . . . . . . | 2— 3 | 2 |
| Брыгадзір . . . . . . . . . . | 1 | 1 |
| Вагаўшчык . . . . . . . . . . | 1 | 1 |
| Машыніст . . . . . . . . . . | 1 | 1 |
| Трактарыст (качагар) . . . . . . . | 1 | 1 |
| Усяго пры малацьбе без сартыроўкі . | 31—35 | 24—28 |
| Падвозчыкаў снапоў і накладальшчыкаў на вазы . . . . . . . . . . | 12—15 | 9—12 |
| Сартыроўка зярна . . . . . . . | 4 | 4 |
| Усяго пры малацьбе з падвозам і сартыроўкай зярна . . . . . . . | 41—48 | 33—40 |

Пры падвозцы снапоў вазамі да самай малатарні гэта лічба змяншыцца за кошт падавальшчыкаў снапоў са скірд. Наогул гэту лічбу нельга лічыць цвёрда ўстаноўленай, яна павінна ўдакладняцца ў кожнай паасобнай брыгадзе.

Аплату работы падавальшчыкаў снапоў у барабан і на палок малатарні ўстанаўляецца **прэміяльна-здзельная**, а для ўсяго астатняга складу брыгады, працуючай на малацьбе, уводзіцца **простая здзельшчына.**

Нормы выпрацоўкі і аплаты работы ў інструкцыі даны прыкладныя і павінны быць удакладнены ў кожнай паасобнай МТС і нават у разрэзе кожнага паасобнага калгаса і брыгады.

За дапушчэнне страт пры абмалоце і недавыкананне норм выпрацоўкі работнікі павінны штрафавацца зніжэннем расцэнак аплаты (колькасці выпрацаваных працадзён). Зніжэнне расцэнак за дапушчэнне страт і невыкананне норм выпрацоўкі машыністам, вагаўшчыкам, качагарам і трактарыстам робіцца ў адпаведнасці з пастановай НКЗ аб аплаце гэтых катэгорый работнікаў, а ўсім іншым—у размеры да 35 проц. выпрацаваных імі працадзён.

За нядобраякасны абмалот працадні зусім не налічваюцца, і збожжа абмалачваецца паўторна за кошт вінаватых.

Пры малацьбе малатарняй МТС прыёмку малацьбы і праверку якасці абмалоту павінны рабіць: з боку МТС дырэктар МТС або па яго даручэнню старшы аграном, а з боку калгаса старшыня праўлення і ўчастковы брыгадзір.

* * *

У заключэнне адзначым, што дабіцца найбольш дзейснага поспеху ў справе арганізацыі барацьбы і сапраўды рацыянальнага выкарыстання малатарань немагчыма без арганізацыі соцспаборніцтва і ўдарніцтва, наладжвання правільнага і поўнага ўліку вынікаў соцспаборніцтва, а таксама своечасовага, штодзеннага паведамлення работнікаў аб выніках гэтага ўліку.

Разам з гэтым мы павінны ўсімі спосабамі садзейнічаць справе **сапраўднага аўладання тэхнікай малацьбы ўсімі работнікамі, працуючымі на таку.**

Там, дзе пытанням соцспаборніцтва і ўдарніцтва і рабочага вынаходніцтва ўдзеляецца дастатковая ўвага, там, дзе як след наладжан улік і штодзенная інфармацыя работнікаў па гэтых пытаннях, там мы заўсёды маем выкананне і перавыкананне промфінплана, змяншэнне сабекошту і павышэнне прадукцыйнасці працы.

Толькі тэхнічна і палітычна пісьменныя работнікі пры правільна наладжанай і своечасовай інфармацыі аб выніках соцспаборніцтва і ўдарніцтва, сапраўды забяспечаць перамогу на гаспадарчым фронце наогул і фронце малацьбы ў прыватнасці, даючы найбольш высокай якасці работу, найменшыя прастоі машын і адначасова найменшыя страты прадуктаў у часе работы гэтых машын.

**К. Тэрро.**

# Які сілас патрэбен для свіней

Барацьба за корм з'яўляецца важнейшай задачай у галіне павышэння прадукцыйнасці, таварнасці і далейшага паспяховага аднаўлення свінапагалоўя ў нашых соўгасах і калгасных свінаводчых таварных фермах.

Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) у сваёй рэзалюцыі «Аб палепшанні развіцця жывёлагадоўлі» ўдзяліў вялікую ўвагу пытанню расшырэння кармавой базы і адзначыў, што трэба:

> «Павялічыць план сіласавання па калгасах у 1934 г. да 12 мільёнаў тон, звярнуўшы асаблівую ўвагу на павышэнне якасці сіласавання і палепшанне пажыўных і смакавых уласцівасцей сіласу.
>
> Давесці ў 1935 г. пасевы кармавых корнеплодаў да 800 тыс. га і пасевы сіласных культур да 900 тыс. га, забяспечыўшы рэзкае павышэнне ўраджайнасці гэтых культур».

Побач з уздымам ураджайнасці зернавых і тэхнічных культур, агромную ролю ў стварэнні ўстойлівай уласнай кармовай базы для свіней павінен адыграць сілас. Сілас, як кармавы сродак для свіней, дае магчымасць забяспечыць свінапагалоўе на працягу не толькі ўсяго стойлавага перыяду ўтрымання свіней—зімой, але і летам, пры недахопе добраякасных пасьбішч. Сілас лёгка перараўваецца, гэта сакавіты корм, багаты вітамінам, галоўным чынам, груп А. В. С. D.

Сіласаванне кармоў з'яўляецца адным з важнейшых мерапрыемстваў па захаванню харчовых якасцей корму. Калі пры сушцы раслін на сена трацiцца да 25 проц. колькасці, а пры неспрыяючым надвор'і гэтыя страты даходзяць да 50 проц. і нават больш, пры аднача-совым значным пагоршанні якасці, то пры добра арганізаваным сіласаванні страты корму рэдка перавышаюць 5—10 проц. колькасці, пры поўным захаванні якасці. Сабекошт адной кармовай адзінкі сіласаванага корму абыходзіцца значна танней у параўнанні з корнеплодамі.

Вопыты па скарыстанню розных сіласаў, праведзеныя Навукова-даследчым інстытутам свінагадоўлі ў Менску па ўсіх групах свіней, а таксама практычныя назіранні за паядаемасцю свіннямі сіласу, ва ўмовах гаспадарчай абстаноўкі эксперыментальнай базы інстытута, пачынаючы з 1929 г., глыбока пераконваюць нас у тым, што ўсе свінні, асабліва маладняк, да якасці сіласу і яго падрыхтоўкі прад'яўляюць выключна вялікія патрабаванні.

Вопыты з культурным сіласам на адкормачным маладняку паказваюць, што засіласаваная зялёная маса ў перыяд васковай спеласці давала грубы сілас, які маладняком паядаўся не ахвотна і з вялікімі астаткамі,

у той час, як кукуруза, засіласаваная ў перыяд малочнай спеласці, давала добры сілас, які ў вялікай колькасці і з вялікай ахвотай паядаўся як дарослымі свіннямі, так і маладняком (ва ўзросце 4—6 месяцаў).

Скармліванне віка-аўсянага сіласу адкормачным подсвінкам, ва ўзросце 5—6 месяцаў з жывой вагой у 35—40 кгр. паказвае, што жывёлы паядалі 2—2,5 кгр. або 20 проц. ад агульнай сутачнай дачы віка-аўсянага сіласу, а нязначныя астаткі былі выключна за кошт груба-сцябельчатых частак аўсу. Вось чаму віка-авёс, як найлепшую сіласную культуру для свіней, неабходна сіласаваць ў пачатку поўнага выхаду аўсу ў трубку і пачатку цвіцення вікі. У гэты перыяд вегетацыі віка-авёс дае найбольш мяккую з дастатковым запасам зялёную масу.

Да апошняга часу як у літаратуры, так і ў свінагадоўчай практыцы зусім забаранялася карміць сіласам падсосных матак у мэтах папярэджання захворвання парасят паносам. Праведзеныя намі вопыты па кармленню віка-аўсяным сіласам падсосных матак у апорнай гаспадарцы інстытута соўгаса «Бабінічы» з поўнай відавочнасцю паказалі, што кормячыя маткі ахвотна паядалі ад 2 да 4 кгр. сіласу, што складае 8—15 проц. сіласу ад сутачнай дачы ў кармовых адзінках.

Віка-аўсяны сілас пры скармліванні яго падсосным маткам, пачынаючы з 10-дзённага ўзросту парасят ва ўказанай колькасці, аказаў станоўчы ўплыў на колькасны і якасны выхад парасят да аднімання. Пры гэтым ніякіх захворванняў парасят не было. Не было выпадку захворвання парасят паносам пры шырокім выкарыстанні сіласу для падсосных матак у гаспадарчай практыцы эксперыментальнай базы інстытута. Наадварот, добра падрыхтаваны сілас, як сакавіты і вітамінны корм, дапамагаў павелічэнню малочнасці матак і, значыцца, лепшай забяспечанасці парасят мацярынскім малаком.

Рэзультаты вопыту кармлення віка-аўсяным сіласам падсосных матак прыводзяцца ў наступнай схеме:

| | Колькасць жывёлы | | Кольк. парасят пад маткай | | Сярэдняя вага парасят перад адніманнем | Зьедзена сіласу адной маткай у суткі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Матак | Парасят сасуноў | У пачатку вопыту | У канцы вопыту перад адніманнем | | |
| I гр. Канц. корм 90 проц. | | | | | | |
| Сена— 5 „ | 5 | 31 | 6,2 | 6,0 | 10,8 | — |
| Бульба— 5 „ | | | | | | |
| II гр. Канц. корм 87 проц. | | | | | | |
| Сілас—8 „ | 4 | 22 | 5,6 | 5,2 | 11,7 | 2,0 |
| Сена—5 „ | | | | | | |
| III гр. Канц. корм 80 проц. | | | | | | |
| Сілас—15 „ | 5 | 33 | 8,2 | 8,0 | 12,9 | 4,0 |
| Сена | — | — | — | — | — | — |

Доследы ўплыву сіласу кукурузы + соя з аднашэннем ў сумесі як 1 : 0,25 на парасятах ад'ёмышах паказалі, што парасяты з жывой вагой у 20—25 кгр. могуць паядаць указаны сілас у колькасці да 1 кгр. у суткі на галаву, або 10—16 проц. сіласу ад сутачнай дачы ў кармовых адзінках (даючы пры гэтым здавальняючы прырост жывой вагі).

Таксама заслугоўваюць увагі вопыты нямецкага вучонага (Інстытут жывёлагадоўлі ў Галле) д-ра Лютге: подсвінкі, пастаўленыя на адкорм у 4-месячным узросце з жывой вагой 28 кгр. і атрымаўшыя ў якасці даследуемага корму добра падрыхтаваны кукурузны сілас у колькасці 2—3 кгр. і запараную бульбу 2,7 кгр. на галаву ў суткі, у сярэднім, за перыяд вопыту ў 90 дзён давалі 586 грам прыросту жывой вагі ў дзень на галаву.

На падставе вопыту даных і гаспадарчых назіранняў можна рэкамендаваць наступныя сіласныя культуры для свіней:

| Назва культур | Калі лепш сіласаваць зялёны корм |
|---|---|
| 1. Канюшына. . . . | У пачатку цвіцення. |
| 2. Віка-авёс . . . . | У пачатку поўнага выхаду аўсу ў трубку і пачатку цвіцення вікі. |
| 3. Кукуруза . . . . | У перыяд малочнай спеласці. |
| 4. Бурачнае бацвінне . | У перыяд уборкі буракоў. |
| 5. Кукуруза+ві . . | Кукуруза ў момант малочнай спеласці, віка—у пачатку цвіцення. |
| 6. Кукуруза+соя . . | У перыяд поўнага цвіцення стручкоў |
| 7. „ +канюшына | Канюшын[illegible] тку цвіцення. |
| 8. Гарбузы . . . . | Гарбузы ў перыяд поўнай спеласці. |
| 9. Сланечнік+бабовыя . | Сланечнік у пачатку цвіцення. |

Не так даўно гарбузы лічыліся выключна паўднёвай культурай. У нас гарбуз фігураваў, як гародная расліна, у той час як гарбузы, пры параўнальна меншых стратах, могуць свабодна канкурыраваць з корнеплодамі ў палявой абстаноўцы. Вопыты, праведзеныя сектарам кормаздабывання Менскага Навукова-даследчага інстытута свінагадоўлі па выяўленню ўраджайнасці гарбузоў, у параўнанні з корнеплодамі на вялікіх плошчах у полі, далі наступныя рэзультаты.

| Культуры | Ураджай з 1 *га* (у цнт) | | Карм. адзінак з 1 *га* (у цнт) | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Пладоў ці клубняў | Зялёнай масы | Пладоў ці клубняў | Бацвіння | Усяго |
| Гарбузы . . . . | | 166,0 | 115,6 | 11,9 | 12,75 |
| Бульба . . . . . | 208,0 | 41,7 | 68,9 | 5,0 | 73,0 |

Сілас, кукуруза + бабовыя і сланечнік з бабовымі ў роўных прапорцыях змешваюцца ў момант закладкі сіласу. Гарбузы сіласуюцца з сумессю бабовага сена ці гарохавай саламянай рэзкі.

На падставе вопыту і шматгадовых практычных назіранняў за паядаемасцю сіласу ўсімі групамі свіней, рэкамендуюцца наступныя нормы скармлівання добраякаснага сіласу ў кгр. на адну галаву ў суткі:

| | |
|---|---|
| Маладняку 2—4 мес. | 0,8—1,0 *кгр* |
| „ 4—8 „ | 1,5—2,0 „ |
| Халастым маткам „ | 3,0—4,0 „ |
| Паросным маткам | 3,0—3,5 „ |
| Падсосным | 3,0 „ |
| Кнырам | 2,0—3,0 „ |
| Адкормачным групам старэй 8 мес. | 2,0—4,0 „ |

Скармліванне добраякаснага сіласу свінням праводзіцца такім чынам: перад кожным кармленнем з ямы вымаецца столькі сіласу, колькі яго трэба на адну дачу. Каб сілас не быў надта халодным, яго трэба абліць цёплай вадой, пасля чаго змяшаць разам з другімі кармамі і ў такім выглядзе даваць свінням. Для таго, каб адкрыты сілас зімой не прамярзаў, а летам не псаваўся, сіласную яму трэба пасля кожнага вымання сіласу шчыльна прыкрываць саломай, а зверху закрываць спецыяльным дашчатым шчытам, або саламянай матай.

Спачатку свіней трэба паступова прывучыць да паядання сіласу і на поўную норму, якая паказана вышэй, перайсці толькі на 5—6 дзень. Робіцца гэта для таго, каб у свіней не здарыўся панос або запор, што бывае часта пры рэзкім пераходзе ад аднаго корму да другога. Паросных матак сіласам у вышэйпаказанай колькасці можна карміць за 15-20 дзён да апаросу, пасля чаго норму сіласу для матак неабходна знізіць напалавіну. Зусім спыніць скармліванне сіласу для маткі трэба ў дзень апаросу і зноў пачаць на 8-10 дзень пасля апаросу—у падсосны перыяд.

Зараз шырока разгортваецца кампанія па сіласаванню. Таму асаблівую ўвагу свінасоўгасаў і СКТФ трэба звярнуць на падрыхтоўку сіласных установак і тэхніку сіласавання. Трэба безадкладна падабраць кадры па сіласаванню кармоў, вылучыць для гэтай работы лепшых людзей соўгаса і калгаса.

Асноўныя запатрабаванні да сіласных установак павінны быць прад'яўлены наступныя:

1) дно і сценкі падземнай часткі сіласнай ямы павінны быць непранікальнымі для грунтавых вод і не прапускаць соку, засіласаванай зялёнай масы;

2) у надземнай частцы сіласных установак сілас не павінен прамярзаць.

Каб сілас не псаваўся дно і сценкі ям трэба выкладыць каменнямі або цэглай у 1,5—2 цагліны таўшчынёй і заліць вапнай або цэментам. Такія ямы будуць найлепшымі для захавання сіласу і могуць служыць многа гадоў падрад. Калі ў гаспадарцы няма магчымасці пабудаваць такія ямы і маецца глеба з тоўстым пластом гліны, то пры пабудаванні сіласных

ям, дно і сценкі такой ямы неабходна добра ўтрамбоўваць. Ні ў якім разе нельга сіласаваць корм у неабліцаваных ямах на пяшчаных глебах.

Часта ў неацепленых сіласных вежах сілас у зімні час прамярзае. Для ацяплення трэба знадворныя сценкі вежы абшыць аполкамі, а паміж аполкамі і сценкамі вежы набіць сухога торфу або апілак таўшчынёй не менш 10 см.

Сіласаванне зялёнай масы ў паказаныя вышэй перыяды вегетацыі неабходна рабіць як мага быстрэй, на працягу 1—2 дзён падрад. У часе загрузкі зялёная маса, зрэзаная на сіласарэзцы, шчытна ўтрамбоўваецца ў яме. Пасля канчатковага прыгатаўлення сіласную яму, як правіла, трэба зараз-жа шчытна накрыць, таму што малочна-кіслае бражэнне ў сіласе ўтвараецца толькі пры поўнай адсутнасці кіслароду з паветра. Наадварот, пры доступе кіслароду пачынае быстра развівацца шкоднае масляна-кіслае бражэнне, якое псуе сілас.

Пры накрыванні ямы трэба захоўваць наступны парадак: утрамбаваная зялёная маса зверху пакрываецца пластом у 8-10 см саламянай рэзкі, на якую накладаецца пласт 25-30 см чырвонай гліны. Зверху гліны насыпаецца пласт пяску ў 20-25 см таўшчынёй. Звычайна праз 1—1½ месяцы сілас бывае гатоў для кармлення ім жывёлы.

Якасць сіласу пазнаецца галоўным чынам па паху і па знадворнаму выгляду. Калі сілас мае пах квашанай капусты і няма плесні—значыць сілас добры. Наадварот, наяўнасць гнілога паху і плесні яўна ўказваюць на тое, што сілас папсаваны і ім ні ў якім разе нельга карміць жывёлу.

Пры падрыхтоўцы сіласу неабходна звярнуць асаблівую ўвагу на тое, каб сіласуемая зялёная маса для свіней не была забруджана зямлёй. Назіранні паказваюць, што такі сілас, хоць-бы ён і быў упаўне добраякасным, дрэнна паядаецца свіннямі.

Простыя падлікі паказваюць, што на 1 свінаматку (не лічачы парасят) у год патрэбна 7—8 цэнт. сіласу або на 1 свінаферму ў 140 свінаматак неабходна загатовіць 100 тон сіласу. Такая колькасць сіласу вызваляе свінаферму ад труднасцей захавання 60 тон бульбы і 120-150 тон корнеплодаў.

**Буткевіч.**

# КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

## КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

**XVII С'езд всесоюзной коммунистической партии(б)**
*26 января—10 февраля 1934 года*
**Стенографический отчет**

Москва, Партиздат, 1934 г.

XVII з'езд ВКП(б) увайшоў у гісторыю нашай слаўнай партыі, як з'езд пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва, як з'езд пабудавання бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

XVII з'езд—гэта адна з найбольш яркіх старонак гісторыі гераічнай барацьбы партыі і рабочага класа за комунізм. З'езд прайшоў у абстаноўцы поўнай кансалідацыі сіл партыі і згуртаванасці большэвіцкіх радоў вакол правадыра партыі т. **Сталіна.**

Кожны рабочы і калгаснік, кожны працоўны павінен дасканала вывучыць матэрыялы і рашэнні з'езда, якія разгортваюць шляхі і грандыёзныя перспектывы соцыялістычнага будаўніцтва ў другой пяцігодцы, якія натхняюць к далейшай яшчэ больш упорнай і настойлівай барацьбе за соцыялізм і павінен на справе, на сваёй рабоце праводзіць у жыццё рашэнні з'езда.

У кнізе змешчан поўны тэкст дакладаў і прамоў, заслуханых на з'ездзе; рэзалюцыі і пастановы XVII з'езда ВКП(б); спіс дэлегатаў з'езда з рашаючым і дарадчым галасамі: прывітанні з'езду; імянны ўказацель аратараў, выступаўшых на з'ездзе.

**ЛЕНІН В. І. Што такое „прыяцелі народу" і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў.**

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 158, ц. 90 к., пер. 30 к.

Гэта адна з першых работ Леніна была напісана ў 1894 годзе.

У гэтай брашуры дана крытыка народніцтва з пазіцый паслядоўнага рэволюцыйнага марксізма, сфармуляваны задачы рабочага класа, як гегемона рэволюцыі і задачы пачынаўшай тады складацца авангардна-рэволюцыйнай соцыял-дэмакратыі.

Тут Ленін з поўнай яснасцю вызначае ролю пролетарыята ў прадстаячай рэволюцыі, наносіць сакрушальны ўдар народніцтву, развівае ідэю перарастання дэмакратычнай рэволюцыі ў Расіі ў рэволюцыю соцыялістычную. У „Прыяцелях народу" Ленін з асобай сілай падкрэслівае рэакцыйную ролю астаткаў прыгонніцтва ў нашай краіне, перашкаджаючых рэзвіццю капіталізма, класавай барацьбе і арганізацыі пролетарыята і фармулюе ідэю рэволюцыйнага саюза рабочага класа і сялянства.

Гэта геніяльная брашура Леніна, 40-годдзе выдання якой мы адзначаем у гэтым годзе, з'яўляецца сапраўдным маніфестам рэволюцыйнага марксізма.

**ЛЕНІН В. І. Імперыялізм як вышэйшая стадыя капіталізма.**
Менск, Партвыдавецтва. 1934 г., стар. 91, ц. 45 к.

Напісаная ў першай палавіне 1916 г. у Швейцарыі, гэта кніжка Леніна з'яўляецца праграмнай работай. Даючы агульны і ўсебаковы аналіз новай фазы капіталістычнага развіцця ва ўсёй разнастайнасці яе эканамічных і палітычных з'яў, ахарактарызаваўшы з вычарпальнай паўнатой сутнасць данай эпохі, Ленін з надзвычайнай сілай і яснасцю паказвае, як абвастрэнне супярэчнасцей загніваючага і паміраючага капіталізма ўшчыльную падводзіць масы к пролетарскай рэволюцыі, паказвае задачы, якія стаяць перад пролетарыятам у яго барацьбе за звяржэнне капіталізма. Значэнне гэтай работы ў скарбніцы марксізма-ленінізма надзвычай вялікае.

Асаблівая ўвага ў кнізе ўдзелена крытыцы каўцкіянцтва, яго тэорыі імперыялізма, міжнароднай ідэйнай плыні, якая адраклася ад рэволюцыйных асноў марксізма і прадстаўлена ва ўсіх капіталістычных краінах дзеячамі II Інтэрнацыянала, масай „соцыялістаў“, рэфармістаў, буржуазных дэмакратаў і інш. Ленін даказвае, што невыпадкова каўцкіянцы аб'ядналіся з буржуазнымі ўрадамі, выконваючы ролю лакеяў буржуазіі.

Ленін нездарма назваў гэту сваю кніжку папулярным нарысам. З'яўляючыся бліскучым узорам работы, даступнай мільённым масам працоўных, ленінскі „Імперыялізм“ адначасова прадстаўляе сабой выключна глыбокае навуковае даследванне, якое належыць да ліку найбольш выдатных тэарэтычных работ рэволюцыйнага марксізма.

**ЛЕНІН В. І. Палітычны адчот ЦК XI з'езду ВКП(б).**
Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 48., ц. 35 к.

27 сакавіка 1922 г. на XI, апошнім з удзелам Леніна, з'ездзе нашай партыі Ільіч выступіў з палітычным адчотам ЦК ВКП(б). Падводзячы ў гэтым сваім гістарычным дакладзе вынікі першага года новай эканамічнай палітыкі, Ленін падкрэслівае, што **адступленне скончана.** Ён разгортвае план і праграму новага наступлення за соцыялістычную перабудову ўсёй народнай гаспадаркі.

У якасці асноўнай задачы В. І. высоўвае ўстанаўленне змычкі паміж будуючайся соцыялістычнай эканомікай і эканомікай сялянскай. **Ленін** фармуліруе тут гістарычны тэзіс аб неабходнасці „самкнуцца з сялянскай масай, з радавым працоўным сялянствам і пачаць рухацца ўперад нязмерна, бесканечна павольней, чым мы мячталі, але затое так, што з намі сапраўды будзе рухацца ўся маса. Тады і паскарэнне гэтага руху ў свой час наступіць такое, аб якім мы зараз і мячтаць не можам“.

Ленін падкрэслівае, што эканамічнай сілы ў руках пролетарскай дзяржавы зусім дастаткова, каб забяспечыць пераход к соцыялізму, і што нехапае культурнасці кіруючаму слою комуністаў, што комуністы тады навучацца кіраваць гаспадаркай, калі будуць вучыцца ў старых буржуазных спецыялістаў і здолеюць крытычна скарыстаць іх веды і ўменне, што гвозд усёй работы—у падборы людзей і праверцы выканання.

**Коммунистический интернационал в документах.** Решения, тезисы и воззвания конгрессов Коминтерна и пленумов ИККИ. 1919—1932 г. Пад рэд. **Бела Кун.**
Москва, Партиздат, Институт Маркса—Энгельса—Ленина при ЦК ВКП(б). 1933 г., стр. 1007, ц. 7 р.

Зборнік ахватвае ўсе этапы баявой работы Комінтэрна пад кіраўніцтвам Леніна—Сталіна. Ён выдан к пятнаццацігоддзю Комінтэрна і прадстаўляе сабой вялікую каштоўнасць сярод дакументальнай літаратуры аб Комінтэрне. Гэта каштоўнасць заключаецца ў сістэматычным адлюстраванні ўсёй гісторыі класавай барацьбы пасляваеннага перыяду імперыялістычнай эпохі.

**Международные отношения в эпоху империализма.** Документы из архивов царского и временного правительства, 3-я серия.

Москва, Соц-экГИЗ, т. II, III, IV, V.

Прыведзеныя тут дакументы ў хранагалагічным парадку разгортваюць усе важнейшыя падзеі перад імперыялістычнай вайной 1914—1918 гг.

У кнігах змешчан багацейшы матэрыял для вывучэння экспансіі рускага і замежнага фінансавага капітала напярэдадні сусветнай вайны, даецца поўная карціна перадваеннага крызісу 1914 г. Ускрываючы ўсё ліцамер'е дыпламатыі імперыялістычных драпежнікаў, кнігі даюць поўнае ўяўленне аб тым, як пад маскай імкнення к міру ішла ўзмоцненая падрыхтоўка к сусветнай вайне. Асабліва добра ўскрываюцца пазіцыі царскай Расіі ў прадваенны час.

Аналіз даных матэрыялаў паказвае, што архіўныя дакументы па гісторыі імперыялізма могуць служыць для нас важным сродкам прапаганды.

Брыгада Бібліяграфічнага Інстытута БССР
імя Леніна.

# РЭЗАЛЮЦЫІ ПЛЕНУМА ЦК ВКП(б)

## АБ ВЫКАНАННІ ПЛАНА ПАСТАВАК ЗЕРНЯ І МЯСА

*Рэзалюцыя Пленума ЦК ВПК(б) па дакладах тт. Куйбышэва, Мікаянаі Клейчера, прынятая 1 ліпеня 1934 года*

### I

### АБ ЗЕРНЕПАСТАЎКАХ І ХЛЕБАЗДАЧЫ

Ітогі веснавой сяўбы з'яўляюцца яркім паказальнікам росту, магутнасці і арганізаванасці калгаснага ладу ў вёсцы. Свядомасць і працоўная дысцыпліна калгасных мас падняліся на новую ступень. План веснавой сяўбы перавыканан у тэрміны больш ранніх, чым за ўсе папярэднія гады. Якасць сельскагаспадарчых работ значна паднялася. Не гледзячы на частковую засуху на поўдні, паводле ўсіх даных, ураджай па СССР будзе ў цэлым не горш мінулага года, а ў некаторых абласцях—лепшы мінулагодняга.

Пленум ЦК ВКП(б) лічыць баявой задачай усіх партыйных і савецкіх арганізацый паспяховае і арганізаванае правядзенне ўборкі і забеспячэнне максімальнага збору хлябоў з мінімальнымі стратамі.

Пленум ЦК ВКП(б) папярэджвае партыйныя і савецкія арганізацыі аб небяспецы праяўленняў у бягучым гаду ў паасобных соўгасах і калгасах антыдзяржаўных тэндэнцый: затрымкі выканання і нават спробы прамога зрыву дзяржаўных заданняў па зернепастаўках са спасылкамі на неспрыяючыя метэаралагічныя ўмовы вясны бягучага года.

Выходзячы з таго, што ўстаноўленыя пастановай ЦК ВКП(б) і СНК СССР планы пастаўкі зерня па кожнаму ў паасобку соўгасу, МТС, калгасу і аднаасобнай гаспадарцы, а таксама звароту пазык з'яўляюцца непахіснымі, Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае партыйныя і савецкія арганізацыі, і ў асаблівасці палітаддзелы МТС і соўгасаў—даць рашучы адпор гэтым антыдзяржаўным тэндэнцыям і мабілізаваць сілы і пільнасць калгаснікаў і соўгасных работнікаў на барацьбу за поўнае выкананне ва ўстаноўленыя тэрміны плана зернепаставак і звароту пазык.

Пленум ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

1. Лічыць важнейшай задачай партыйных і савецкіх арганізацый у 1934 гаду разгортванне канкрэтных мер барацьбы са **стратамі** ва ўсіх працэсах работы (хлебаўборка, скірдаванне, перавозкі і захаванне хлеба), для чаго забяспечыць абавязковае скошванне ўсяго паспеўшага хлеба, не дапускаць расцяжкі ўкосу хлябоў і ў сувязі з гэтым асыпання зерня, старанна правесці

падграбанне каласоў, устаноўку зернеўлавіцеляў на ўборачных машынах, скірдаванне і перавозку хлеба такім чынам, каб папярэдзіць рассыпку зерня, устараніць небяспеку падмочкі каласоў у скірдах і копах і ўберагчы тым самым калгасы і соўгасы ад страт зерня.

ЦК асабліва падкрэслівае важнасць барацьбы за захаванне ўраджаю ад раскраданняў як на корані, так і пасля ўборкі, і абавязвае ўсе мясцовыя партыйныя і совецкія арганізацыі, у тым ліку палітаддзелы, цвёрда ажыццяўляць закон ад 7 жніўня 1932 года «Аб ахове соцыялістычнай грамадскай уласнасці».

2. Устанавіць наступныя тэрміны выканання заданняў поўнасцю па рэспубліках Сярэдняй Азіі, Закаўказзя, Паўночна-Каўказскаму, Азова-Чорнаморскаму і Сталінградскаму краях, Крымскай АССР, Украінскай ССР, Паўднёвай і Алма-Ацінскай абласцях Казакстана:

а) па зернепастаўках—у тэрміны, у адпаведнасці з пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 19 студзеня 1933 года;

б) па хлебаздачы соўгасамі—к 1-му лістапада 1934 года;

в) па натураплаце работ МТС—к 1-му лістапада 1934 года;

г) па звароту пазык—к 1-му кастрычніка 1934 года.

Ва ўсіх астатніх краях, абласцях і рэспубліках:

а) па зернепастаўках (за выключэннем Далёка-Ўсходняга края і ўсходняй часткі Ўсходне-Сібірскага края)—у тэрміны, у адпаведнасці з пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 19 студзеня 1933 года;

б) па хлебаздачы соўгасамі—к 1-му снежня 1934 года;

в) па натураплаце работ МТС—к 1-му снежня 1934 года;

г) па звароту пазык—к 1-му кастрычніка 1934 года.

3. Абавязаць дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў МТС і соўгасаў, сакратароў райкомаў і старшынь райвыканкомаў разгарнуць абмалот хлябоў у соўгасах, калгасах і аднаасобных гаспадарках ужо з першых дзён уборкі, устанавіць для кожнай малатарні штосутачную норму абмалоту хлябоў і забяспечыць безумоўнае выкананне малатарнямі ўстаноўленай нормы абмалоту. Пры перавыкананні ўстаноўленага дырэктарам МТС для малатарні задання на сезон яе работы расцэнка за кожную тону намалочанага хлеба звыш задання павялічваецца для машыністаў і вагаўшчыкоў на 15 проц.

4. Устанавіць, што соўгасы, МТС і калгасы абавязаны рабіць пастаўку зерня дзяржаве непасрэдна з-пад малатарань ужо з першых дзён абмалоту, ні ў якім выпадку не дапускаючы затрымак у вывазе намалочанага зерня на ссыпныя пункты.

Абавязаць сакратароў райкомаў, старшынь райвыканкомаў і начальнікаў палітаддзелаў МТС падрыхтаваць гужавы і аўтамабільны транспарт для забеспячэння без якіх-небудзь затрымак і поўнасцю вывазку намалочанага зерня на загатоўчыя пункты.

5. Адлічэнні зерня на ўнутрыкалгасныя патрэбы (выдача авансаў калгаснікам, корм жывёлы і інш.) ад колькасці намалочанага зерня захаваць у размерах, устаноўленых у 1933 годзе, г. зн. 10 проц. ад колькасці фактычна намалочанага зерня, з павышэннем да 15 проц. для перадавых, добра працуючых калгасаў.

6. Тым калгасам, якія поўнасцю выканаюць устаноўленыя для іх месячныя заданні па зернепастаўках і натураплаце работ МТС, дазволіць дадаткова для стварэння насенных фондаў астаўляць ужо ў працэсе хлебаздачы лепшае зерне ў размеры 15 проц. ад колькасці намалочанага зерня для Украіны, Крыма, Азова-Чорнаморскага, Паўночна-Каўказскага краёў, Курскай і Варонежскай абласцей і 10 проц. ад колькасці намалочанага зерня для ўсіх астатніх краёў, абласцей, рэспублік.

7. Прыдаючы выключнае значэнне справе атрымання натураплаты поўнасцю і выходзячы з пастановы СНК СССР ад 1-га ліпеня 1934 года аб тым, што аднясенне калгаса да той ці іншай групы па ўраджайнасці зацвярджаецца толькі міжраёнными дзяржаўнымі камісіямі па ўраджайнасці, Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае кіраўнікоў партыйных і савецкіх арганізацый у раёне, дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў МТС:

а) забяспечыць прад'яўленне машынатрактарнымі станцыямі калгасам рахункаў па натураплаце за ўсе работы, аплачваемыя натурай у строгай адпаведнасці з пастановай міжраённай дзяржаўнай камісіі аб аднясенні кожнага калгаса да той ці іншай групы па ўраджайнасці;

б) даць рашучы адпор усякім спробам з боку рвачоў пераўмяншаць ураджай і зніжаць размеры натураплаты.

8. Абавязаць КамзагСНК СССР і яго ўпаўнаважаных на месцах неадкладна праверыць хлебазагатоўчы апарат, прывесці яго ў поўную гатоўнасць, устараніць меўшыя месца ў мінулым гаду агідныя факты, калі загатоўчыя пункты аказваліся непадрыхтаванымі да прыёмкі зерня, з прычыны чаго ствараліся чаргі сялян-калгаснікаў, прывозіўшых хлеб, а ў асобных месцах загатоўленае зерне пакідалася пад адкрытым небам. КамзагСНК СССР і яго мясцовыя органы абавязаны забяспечыць кожны загатоўчы пункт неабходнымі складамі, падтаварнікамі і брэзентамі, закончыць пачатае будаўніцтва і рамонт складаў для хлеба і сапетак для кукурузы і дэзінфіцыраваць існуючыя склады, а партарганізацыі і палітаддзелы—**дапамагчы ім у гэтай справе.**

9. Абавязаць райкомы і райвыканкомы ўстанавіць асаблівы нагляд за абмалотам, ачысткай і здачай чыстасортнага зерня.

Абавязаць загатоўчыя органы вылучыць асобныя склады для прыёму і захавання чыстасортнага зерня.

Павысіць надбаўку да цэн, устаноўленых для радавога зерня, за сортнасць да 25 проц.

10. Абавязаць палітаддзелы, райкомы, сакратароў крайкомаў, абкомаў і ЦК нацкомпартый, старшынь край (абл) і райвыканкомаў і соўнаркомаў рэспублік:

а) аказаць неабходную дапамогу загатоўчаму апарату ў справе лепшай падрыхтоўкі хлебапрыёмных пунктаў і элеватараў для забеспячэння бесперабойнай прыёмкі хлеба;

б) забяспечыць здачу калгасамі, соўгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі толькі добраякаснага зерня, не дапускаючы ў прыватнасці прыёму зерня вільготнасцю вышэй 18 проц. для поўдня і 19 проц. для астатніх раёнаў Саюза;

в) арганізаваць пільную ахову дзяржаўнага хлеба на загатоўчых пунктах і прыцягваць да стражэйшай адказнасці з неадкладным асуджэннем усіх віноўных у раскраданні і псаванні зерня.

11. Спыніць калгасны і індывідуальна-сялянскі гандаль хлебам, а таксама закупку зерня спажыўкааперацыяй па рэспубліках Сярэдняй Азіі і Закаўказзя, Паўночна-Каўказскаму, Азова-Чорнаморскаму і Сталінградскаму краях, Крымскай АССР, Украінскай ССР і Паўднёвай і Алма-Ацінскай абласцях Казакстана—з 1 ліпеня 1934 года, а ў астатніх абласцях, краях і рэспубліках (за выключэннем Далёка-Ўсходняга края і ўсходняй часткі Ўсходне-Сібірскага края)—з 15 ліпеня 1934 года. Пацвердзіць, што калгасны і індывідуальна-сялянскі гандаль хлебам будзе дазволен толькі пасля выканання краем, вобласцю або рэспублікай у цэлым устаноўленага плана зернепаставак, звароту пазык і натураплаты работ МТС, а таксама засыпкі калгасамі поўнасцю насенных і мінімальных фуражных фондаў.

12. Адобрыць пастанову СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 26 чэрвеня 1934 года «Аб плане хлебаздачы соўгасамі».

13. Указаць партыйным і совецкім арганізацыям на неабходнасць ужо з самага пачатку ўборкі хлеба павесці рашучую барацьбу з усякім супраціўленнем выкананню зернепаставак з боку паасобных калгасаў, аднаасобных гаспадарак і паасобных дырэктароў соўгасаў і МТС, а таксама праяўленнямі лібералізма ў адносінах соўгасаў, калгасаў, МТС і аднаасобных гаспадарак, якія не выконваюць ва ўстаноўленыя тэрміны планаў зернепаставак.

14. Забараніць усім без выключэння партыйным і совецкім, у тым ліку загатоўчым арганізацыям, устанаўляць для калгасаў і аднаасобных гаспадарак сустрэчныя планы па зернепастаўках паміма ўручаных ім абавязацельстваў, прыцягваючы да крымінальнай адказнасці асоб, віноўных у дачы сустрэчных планаў.

## АБ ВЫКАНАННІ ПЛАНА ПАСТАВАК МЯСА

План мясапаставак выконваецца ў радзе раёнаў нездавальняюча, у асаблівасці ў Сярэдне-Волжскім і Саратаўскім краях, Варонежскай, Курскай і Заходняй абласцях, у УССР і ў Казакскай АССР.

Значная колькасць калгасных двароў, аднаасобных гаспадарак, рад ферм, у асаблівасці свінаводчых, і соўгасаў не выканалі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай за першы квартал.

У радзе абласцей і раёнаў гадавы план выканан не шляхам удзелу ў пастаўках усіх калгасных двароў і аднаасобных гаспадарак, а за кошт перадавых гаспадарак, здаўшых мяса авансам, у лік наступных кварталаў, нярэдка за ўвесь год наперад, што стварае прамую пагрозу зрыву выканання плана мясапаставак у наступныя кварталы і гадавога плана ў цэлым.

Замест забеспячэння выканання абавязацельстваў па мясапастаўках кожным калгасным дваром, кожнай аднаасобнай гас-

падаркай, кожным калгасам і соўгасам, абласныя і раённыя арганізацыі заспакойваюцца на сярэдніх цыфрах па краю або раёну, прыкрываючы нядоімшчыкаў і тым самым зрываючы выкананне дзяржаўнага плана мясапаставак.

Пленум ЦК пастанаўляе:

1. Абавязаць Наркамснаб СССР, крайкомы, райкомы і выканкомы шляхам узмацнення арганізацыйнай і растлумачальнай работы і шырокага прымянення практыкі групавой здачы забяспечыць не пазней 1-га жніўня спагнанне ўсіх нядоімак за першае поўгоддзе і безумоўнае выкананне ў тэрмін абавязацельстваў III і IV кварталаў кожным калгасным дваром і кожнай аднаасобнай гаспадаркай (за выключэннем атрымаўшых ільготы і скідкі).

2. Абавязаць Наркамсоўгасаў (т. Калмановіча) сумесна з Наркамснабам устанавіць і прадставіць на зацверджанне КамзагСНК канчатковыя размеры гадавога плана здачы мяса непасрэдна па кожнаму соўгасу, забяспечваючыя поўнае выкананне ўстаноўленага для ўсёй сістэмы Наркамсоўгасаў гадовага плана.

3. ЦК абавязвае Наркамсоўгасаў, Наркамзем і Наркамснаб павесці рашучую барацьбу з тымі кіраўнікамі соўгасаў і таварных ферм, якія не забяспечваюць упітанасць жывёлы, здаваемай дзяржаве, і часта спыняюць усякія клопаты аб жывёле, падлягаючай здачы дзяржаве, аддаючы на забой значна большую колькасць галоў жывёлы, чым патрабуецца планам, і тым самым падрываюць справу мясаснабжэння і жывёлагадоўлі.

4. Абавязаць дырэктароў соўгасаў і старшынь калгасаў перад пачаткам кожнага кварталу рабіць адбор жывёлы, падлягаючай здачы дзяржаве па плану мясапаставак, ставіць гэтую жывёлу на адкорм і нагул з тым, каб забяспечыць здачу дзяржаве ўпітанай жывёлы.

5. Устанавіць, што да выканання абавязацельстваў па здачы мяса за квартал, ферма не мае права прадаваць жывёлу на старану.

6. У калгасах, фермы якіх не выканаюць к 1-му жніўня ўстаноўленых для іх заданняў па мясапастаўках за I і II квартал, зрабіць пераразлік норм здачы жывёлы калгаснікамі па нормах калгасаў, не маючых ферм.

7. Лічыць адным з важнейшых сродкаў забеспячэння выканання плана мясапаставак калгаснымі дварамі і аднаасобнымі гаспадаркамі арганізацыю групавой здачы, абавязаўшы загатоўчыя і мясцовыя партыйныя і савецкія арганізацыі шырока разгарнуць групавую здачу пры выкананні плана III і IV кварталу.

8. Устанавіць для соўгасаў цвёрдыя месячныя планы здачы замест квартальных.

9. Аставіць без змены на 1935 і 1936 гады нормы паставак мяса дзяржаве, устаноўленыя для 1934 года, апублікаваўшы новы закон аб мясапастаўках не пазней 20 ліпеня.

* * *

**Пленум ЦК ВКП(б) перасцерагае ўсе партыйныя арганізацыі ад недаацэнкі труднасцей хлебазагатовак і мясапаставак і ад самацёку ў гэтай рабоце.**

Поспех хлебазагатовак і мясапаставак можа быць забяспечан толькі пры ўмове недапушчэння якога-б то ні было самацёку і забеспячэння большэвіцкай арганізаванасці і канкрэтнасці кіраўніцтва гэтай справай.

ЦК ВКП(б) асабліва падкрэслівае, што галоўным недахопам краявых (абласных) партыйных і совецкіх арганізацый у кіраўніцтве раёнамі, а раёнаў—калгасамі з'яўляецца няўменне бачыць спецыфічныя асаблівасці кожнага раёна і калгаса за сярэднімі статыстычнымі цыфрамі, у рэзультаце чаго пры сярэдніх агульных спрыяючых цыфрах па краю або вобласці астаюцца незаўважанымі і без належнага кіраўніцтва і дапамогі адстаючыя раёны і калгасы.

ЦК ВКП(б) патрабуе ад усіх партыйных і совецкіх арганізацый, у тым ліку ад палітаддзелаў МТС і соўгасаў, сур'ёзных большэвіцкіх адносін да задачы поўнага і безумоўнага выканання ўстаноўленага плана хлеба-і мясапаставак, памятаючы, што выкананне плана хлеба-і мясапаставак з'яўляецца зараз, як і раней, асноўнай умовай далейшага росту і ўмацавання Совецкага Саюза.

# АБ ПАЛЕПШАННІ І РАЗВІЦЦІ ЖЫВЁЛАГАДОУЛІ

*Рэзалюцыя Пленума ЦК ВКП(б) па дакладах тт. Чэрнова і Калмановіча, прынятая 1 ліпеня 1934 г.*

Перамога калгаснага ладу ў вёсцы, забяспечыўшая паспяховае вырашэнне зерневай праблемы, стварыла спрыяючыя ўмовы для паскоранага развіцця жывёлагадоўлі ў соўгасах, калгасах і асабістай гаспадарцы калгаснікаў. Арганізаваныя ў апошнія гады буйныя жывёлагадоўчыя соўгасы і калгасныя таварныя фермы сталі асноўнай базай уздыму жывёлагадоўлі, палепшання якасці жывёлы і росту таварнай прадукцыі. Сур'ёзныя поспехі дасягнуты ў справе ліквідацыі бескароўнасці калгаснікаў, якія пры дапамозе дзяржаўных ільгот і крэдыту набылі з другой паловіны 1933 года 900 тысяч цёлак.

Аднак Пленум ЦК ВКП(б) лічыць, што ў цэлым становішча жывёлагадоўлі прадаўжае аставацца нездавальняючым, яго развіццё ідзе вельмі марудна, а па конях не прыпынен яшчэ працэс скарачэння пагалоўя.

Не прыняты належныя меры да развіцця і палепшання кармовай базы, запушчана справа з пашамі і сенакосамі, закінута вытворчасць важнейшых кармовых траў (канюшына, люцэрна), нізкая ўраджайнасць кармовых культур і лугоў і не пастаўлена належным чынам прамысловая перапрацоўка адыходаў харчовай прамысловасці.

Пленум ЦК ВКП(б) лічыць нездавальняючай работу зямельных і соўгасных органаў, партыйных і савецкіх арганізацый у справе развіцця жывёлагадоўлі і патрабуе ад іх большэвіцкай барацьбы за ўздым жывёлагадоўлі, кіруючыся ўказаннямі т. Сталіна аб тым, што **«справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер такой-жа першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зерневая».**

Асноўным звяном у справе ўздыму жывёлагадоўлі з'яўляецца разгортванне калгасных таварных ферм і ўмацаванне жывёлагадоўчых соўгасаў.

У адносінах жывёлагадоўчых соўгасаў галоўнай задачай з'яўляецца палепшанне пароды жывёлы і павышэнне яе прадукцыйнасці з паступовым ператварэннем соўгасаў у сапраўды ўзорныя гаспадаркі палепшанай і племяннай жывёлы. Жывёлагадоўчыя соўгасы павінны з года ў год павялічваць водпуск (продаж) калгасным фермам дарослай жывёлы і маладняка і тым

самым стаць важнейшай крыніцай дзяржаўнай дапамогі калгасам у справе развіцця калгасных таварных ферм.

Пленум ЦК падкрэслівае рашаючую ролю калгасных таварных ферм у справе развіцця жывёлагадоўлі. Арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне існуючых калгасных таварных ферм і стварэнне фермы ў кожным калгасе павінна стаць першачарговай задачай партыйных і совецкіх арганізацый. Расшырэнне ліку калгасных таварных ферм і павелічэнне пагалоўя ў існуючых фермах павінна ісці: а) шляхам захавання і лепшага вырошчвання маладняка, б) шляхам пакупкі жывёлы ў калгаснікаў, в) шляхам пакупкі жывёлы ў соўгасаў, з прадастаўленнем для гэтага калгасам неабходнага дзяржаўнага крэдыту. Усякім спробам падарваць калгасную таварную ферму і разбазарыць калгаснае стада неабходна даць рашучы адпор, як антыкалгасным вылазкам класавага ворага.

Разам з тым, Пленум ЦК напамінае ўсім партыйным арганізацыям аб неабходнасці ў найкарацейшы тэрмін ліквідаваць бескароўнасць калгаснікаў з тым, каб на працягу бліжэйшых двух год усе калгаснікі безумоўна набылі каровы.

Для забеспячэння найхутчэйшага ўздыму жывёлагадоўлі, Пленум ЦК ВКП(б) лічыць неабходным прымяніць, па прыкладу дзяржаўнага пасеўнага плана, метад дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі з устанаўленнем планавых заданняў па росту пагалоўя жывёлы ў соўгасах і таварных калгасных фермах, плана вырошчвання маладняка соўгасамі, калгасамі, калгаснікамі і аднаасобнікамі і плана вытворчасці кармоў, з давядзеннем гэтых планаў да соўгасаў, калгасаў і сельсоветаў.

Выкананне дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі павінна стаць у цэнтры ўвагі ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый і служыць важнейшым сродкам мабілізацыі работнікаў соўгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў вакол задачы развіцця жывёлагадоўлі.

Пленум ЦК ВКП(б) даручае Палітбюро ЦК і СНК СССР распрацаваць і апублікаваць планавыя заданні на 1934 і 1935 гады па развіццю жывёлагадоўлі па паасобных рэспубліках, краях і абласцях з улікам узбраення жывёлагадоўлі ўсімі сучаснымі сродкамі тэхнікі на аснове наступных указанняў:

## I

## АБ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ Ў СОЎГАСАХ

Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае Наркамсоўгасаў, Наркамснаб СССР і Наркамзем СССР правесці наступныя мерапрыемствы ў адносінах жывёлагадоўлі ў соўгасах:

1. Поўнасцю забяспечыць соўгаснае стада грубымі і сакавітымі кармамі, а таксама пашамі і ў максімальнай меры ўласнымі канцэнтраванымі кармамі.

Устанавіць ва ўсіх жывёлагадоўчых соўгасах і конезаводах кармовыя севаабароты, аснованыя на рэзкім расшырэнні пасеваў кармовых, бабовых і траў, а таксама корнеплодаў, а ў свінасоўгасах, апрача таго, бульбы.

Расшырыць у соўгасах плошчу пад насеннікамі траў і корне-

плодаў з такім разлікам, каб у 1936 гаду поўнасцю забяспечыць патрэбнасць соўгасаў у насенні гэтых культур.

2. Для перапрацоўкі кармоў (размол, складанне сумесі) арганізаваць у кожным жывёлагадоўчым соўгасе пярвічныя кормаперапрацоўчыя ўстаноўкі—блізард, малатковыя млыны, зернедрабілкі, жмыхадрабілкі, забяспечыўшы соўгасы гэтым абсталяваннем у 1935 гаду.

3. Адзначаючы, што Наркамсоўгасаў, не гледзячы на цвёрдыя ўказанні ЦК і СНК, не разгарнуў работу па ўкараненню жывёлагадоўлі ў зернесоўгасах і разгортванню ў спецыялізаваных жывёлагадоўчых соўгасах вытворчасць другіх відаў жывёлы, абавязаць Наркамсоўгасаў у месячны тэрмін прадставіць на зацверджанне СНК план укаранення аўцагадоўлі і буйнай рагатай жывёлы ў зернесоўгасы, свінагадоўлі і аўцагадоўлі—у малочна-мясныя соўгасы, буйнай рагатай жывёлы—у свінасоўгасы і аўцасоўгасы.

4. У мэтах палепшання пароды жывёлы ў соўгасах:

а) у кожным соўгасе выдзеліць ядро найбольш каштоўнага матачнага пагалоўя і вытворнікаў для мэтаў узнаўлення, забяспечыўшы за імі асабліва старанны і кваліфікаваны догляд, утрыманне, кармленне і правільны зоатэхнічны ўлік;

б) абавязаць Наркамсоўгасаў дабіцца рэзкага павышэння якасці работы племянных соўгасаў, забяспечыўшы іх зоатэхнічнымі і ветэрынарнымі кадрамі і стварыўшы ў іх кармовую базу ў размерах, якія-б поўнасцю задавальнялі патрэбнасць соўгасаў ва ўсіх відах кармоў.

5. Прызнаючы нездавальняючымі якасць і тэмпы будаўніцтва соўгасаў, асабліва жыллёвага будаўніцтва, Пленум абавязвае Наркамсоўгасаў забяспечыць поўнае выкананне плана будаўніцтва соўгасаў праграмы 1934 года і прадставіць на зацверджанне СНК план поўнага арганізацыйна-гаспадарчага ўтварэння жывёлагадоўчых соўгасаў з устанаўленнем цвёрдых тэрмінаў сканчэння іх будаўніцтва.

6. Расшырыць практыку індывідуальнага рабочага жыллёвага будаўніцтва соўгасаў і забяспечыць спецыялістаў соўгасаў на працягу 1934—1935 гадоў палепшанымі жыллёвымі памяшканнямі.

7. Адмяніць дзейнічаючыя інструкцыі па аплаце працы ў жывёлагадоўчых соўгасах, як няправільныя і вельмі складаныя. Абавязаць Наркамсоўгасаў перапрацаваць сістэмы прэміяльна-здзельнай аплаты працы, дазволіўшы натуральнае прэміраванне (маладняком) рабочых за перавыкананне вытворчых планаў.

8. Адзначаючы, што соўгасы да гэтага часу не дабіліся сапраўднага гаспадарчага разліку, Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае Наркамсоўгасаў, Наркамснаб і Наркамзем распрацаваць і ўвесці цвёрдую сістэму гаспадарчага разліку ў соўгасах, устанавіўшы самую строгую фінансавую і каштарысную дысцыпліну.

9. Указваючы на наяўнасць безгаспадарчасці і прамога разбазарвання кармоў па многіх соўгасах, запрапанаваць Наркамсоўгасаў устанавіць жорсткі кантроль за гэтай справай і ўскласці персанальную адказнасць за правільнае скарыстанне кармоў на дырэктара соўгаса і начальніка палітаддзела.

## II

## АБ КАЛГАСНАЙ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ

1. Лічачы калгасную таварную ферму лепшай формай арганізацыі калгаснай жывёлагадоўлі, перавесці на працягу 1934 года ўсе грамаджаныя стады калгасаў на становішча калгасных таварных ферм.

2. Устанавіць на 1934 год план пакупкі і кантрактацыі ў калгаснікаў 600 тысяч цялят для ферм і на 1935 год не менш 1 мільёна цялят. Запрапанаваць СНК СССР для аказання дапамогі калгасам у закупцы цялят для ферм выдзеліць дадаткова к дзейнічаючаму крэдытнаму плану на 1934 год крэдыт у 40 мільёнаў рублёў.

3. Даручыць СНК і Палітбюро ЦК устанавіць у двухмесячны тэрмін план продажу калгасным таварным фермам дарослай жывёлы і маладняка з жывёлагадоўчых соўгасаў на 1934—1935 гады па абласцях, краях і рэспубліках.

4. Для павышэння непасрэднай зацікаўленасці калгаснікаў у развіцці жывёлагадоўчых таварных ферм:

а) у законе аб мясапастаўках на 1935 год намеціць дзейнічаючы парадак прадастаўлення ільгот калгаснікам калгасаў, маючых таварныя фермы, і ўстанавіць ільготы калгаснікам гэтых калгасаў па пастаўках мяса, малака і шэрсці дзяржаве ў выглядзе скідкі ў 25 проц. па мясу, 15 проц. па малаку і 20 проц. па шэрсці ад колькасці, здаваемай дзяржаве фермай, шляхам заліку гэтай скідкі ў план выканання асабістых абавязацельстваў калгаснікаў па пастаўцы мяса, малака і шэрсці;

б) устанавіць абавязковы зварот абрату з маслаunion робчых заводаў здатчыкам малака (калгасным фермам, калгаснікам і аднаасобнікам) у размеры 50 проц. у сярэднім за год з тым, каб у перыяд выпайкі цялят зварот абрату праводзіўся поўнасцю.

5. Для расшырэння ўдзелу калгасных таварных ферм у калгасным гандлі і павышэння ў сувязі з гэтым даходаў калгасаў і калгаснікаў, катэгарычна забараніць мясцовым партыйным і савецкім органам патрабаваць ад калгасных таварных ферм водпуску па цвёрдых цэнах жывёлагадоўчай прадукцыі звыш устаноўленых для іх абавязковых дзяржаўных паставак.

6. Стварыць на фермах пастаянныя жывёлагадоўчыя брыгады, устанавіўшы налічэнне працадзён калгаснікам жывёлагадоўчай брыгады на аснове здзельшчыны па колькасці абслугоўваемай жывёлы, вырошчваемага прыплоду і выхаду прадукцыі.

Прадугледзець дадатковае налічэнне працадзён—да 15 проц. і натуральнае прэміраванне маладняком за перавыкананне плана і добрую якасць работы, і—наадварот—утрыманне працадзён за падзеж маладняка, ялавасць матак і нізкую якасць прадукцыі да размераў не звыш 15 проц. выпрацаваных калгаснікамі працадзён.

7. У мэтах павышэння кваліфікацыі і практычнага вопыту калгаснікаў у доглядзе за жывёлай, устанавіць, што працягласць работы калгаснікаў у жывёлагадоўчай брыгадзе павінна быць не менш двух год.

Забараніць перакідку загадчыкаў фермамі на іншыя работы без дазволу райза.

8. Пленум ЦК ВКП(б) падкрэслівае выключную важнасць восені гэтага года для ўсёй справы ўздыму жывёлагадоўлі і ў першую чаргу для захавання маладняка і добрага правядзення зімоўкі.

Пленум ЦК ВКП(б) прапануе партыйным і совецкім арганізацыям забяспечыць правядзенне не пазней кастрычніка бягучага года рамонту жывёлагадоўчых будынкаў і падрыхтоўкі іх к зімняму ўтрыманню жывёлы (уцяпленне, ачыстка, дэзінфекцыя і т. д.) і закончыць пабудову ўсіх новых памяшканняў, усямерна скарыстоўваючы для гэтага мясцовыя будматэрыялы.

## III

## АБ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ КАЛГАСНІКАЎ І АДНААСОБНІКАЎ

1. Расшырыць у 1934 гаду дзяржаўную дапамогу бескароўным калгаснікам у справе набыцця цёлак, устанавіўшы план кантрактацыі і закупкі да канца 1934 года звыш перададзеных ужо калгаснікам 900 тысяч цёлак—2 мільёнаў цёлак, у тым ліку ў калгснікаў і аднаасобнікаў—1,6 мільёна галоў і ў раёнах з вялікай колькасцю бескароўных гаспадарак—з калгасных таварных ферм—400 тысяч галоў.

Выдзеліць для аказання крэдытнай дапамогі калгаснікам, не маючым магчымасці аплаціць поўны кошт цёлак, бяспроцантны грашовы крэдыт у суме 70 мільёнаў рублёў.

2. Захаваць для калгаснікаў і аднаасобнікаў, якія выпойваюць цёлак у парадку кантрактацыі для продажу бескароўным калгаснікам, ільготы па здачы малака і мяса дзяржаве, устаноўленыя пастановай ЦК і СНК ад 14 жніўня 1933 года «Аб дапамозе бескароўным калгаснікам у набыцці кароў».

Дазволіць праўленням калгасаў апрача гэтага налічваць калгаснікам, у якіх закантрактаваны цёлкі, па 10—15 працадзён за кожную вырашчаную і зданую цёлку.

3. Забяспечыць выкананне ўстаноўленага плана 1934 года па продажу калгаснікам з калгасных таварных ферм 1,5 мільёна галоў парасят і 500 тысяч галоў ягнят і з соўгасаў усіх сістэм 300 тысяч цялят, 1,2 мільёна парасят і 200 тысяч ягнят.

4. Калгаснік, які вырасціў у сваёй гаспадарцы нецеля або карову і прадаў іх таварнай калгаснай ферме па дзяржаўнай цане, вызваляецца на 2 гады ад абавязковай пастаўкі дзяржаве малака і мяса.

5. Звярнуць увагу ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый на неабходнасць усямернай садзейнасці развіццю птушкагадоўлі, у асаблівасці ў калгаснікаў і аднаасобнікаў.

У мэтах аказання дапамогі калгаснікам у набыцці птушак і для палепшання пароды птушак скарыстаць існуючыя птушкасоўгасы і птушкафермы, як крыніцу для продажу калгаснікам на ільготных умовах племяннога маладняка птушкі, а таксама шырэй разгарнуць работу раённых інкубатарных станцый для масавага вывядзення куранят і снабжэння імі калгаснікаў.

6. Растлумачваючы, што ўсе жывёлагадоўчыя будынкі калгаснікаў, якія знаходзяцца на іх сядзібах і не заняты аграмаджанай жывёлай, з'яўляюцца іх уласнасцю, устанавіць, што пры ўступленні ў калгас аднаасобніка яго жывёла, за выключэннем рабочай жывёлы, а таксама гаспадарчыя будынкі, неабходныя для трымання жывёлы, не падлягаюць аграмаджанню.

## IV

## АБ КАНІ

1. Асноўным мерапрыемствам па павелічэнню конскага пагалоўя лічыць безумоўнае выкананне соўгасамі, калгасамі, аднаасобнікамі і ўсімі гаспадарчымі арганізацыямі, якія маюць коняй, плана вырошчвання конскага маладняка.

2. Вызваліць у 1935 гаду калгасы, якія вырошчваюць конскі маладняк, ад абавязковых зернепаставак па 0,5 гектара пасеву на кожнае вырошчваемае ў калгасе жарабё.

3. Забараніць пад адказнасць старшынь калгасаў і дырэктароў соўгасаў скарыстанне на цяжкіх работах жарэбных кабыл пасля 6 месяцаў жарэбнасці і за два месяцы да выжарабкі і на 15 дзён пасля выжарабкі—на ўсякай рабоце.

4. Абавязаць дырэктароў МТС прадастаўляць перавагі ў абслугоўванні трактарамі і аўтамашынамі тым калгасам, якія ў большай меры вырошчваюць конскі маладняк.

5. Для забеспячэння конскага пагалоўя фуражом і канцэнтраванымі кармамі ўстанавіць, што пасля выканання дзяржаўнага плана зернепаставак і засыпкі насенных фондаў, калгасы павінны выдзеліць неабходную колькасць канцэнтраваных кармоў па нормах, якія ўстанаўляюцца праўленнямі калгасаў, і 20—25 цэнтнераў грубых кармоў на галаву ў год.

6. Увесці ў калгасах і соўгасах прэміраванне конюхаў, забяспечваючых выкананне плана вырошчвання жарабят, з налічэннем у калгасах да 25 працадзён і ў соўгасах—да 100 рублёў за кожнае вырашчанае жарабё.

7. Абавязаць Наркамзем СССР узяць пад асаблівы нагляд работу дзяржаўных конных заводаў і конегадоўчых ферм, як важнейшую аснову развіцця племянных коняй, і на іх базе арганізаваць шырокую сетку пастаянных злучных пунктаў па раёнах у веданні райза для абслугоўвання конскага пагалоўя калгасаў і аднаасобнікаў.

8. Увесці к пачатку 1935 года абавязковую пашпартызацыю ўсяго конскага пагалоўя.

## V

## АБ ПАЛЕПШАННІ ПАРОДЫ ЖЫВЁЛЫ І ПЛЕМЯННОЙ СПРАВЕ

1. Адзначаючы крайне нездавальняючае скарыстанне наяўных племянных вытворнікаў, абавязаць Наркамзем, Наркамсоўгасаў і Наркамснаб СССР дабіцца поўнага скарыстання ўсіх племянных вытворнікаў для шырокай метызацыі беспароднага стада

соўгасаў, калгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў, штогод складаць і ўносіць на зацверджанне СНК СССР параённы план метызацыі жывёлы.

2. У мэтах палепшання жывёлы і павышэння яе прадукцыйнасці, даручыць Наркамзему СССР, Наркамсоўгасаў, Наркамснабу і іх мясцовым органам правесці да канца 1934 года ўлік усёй племяннай палепшанай жывёлы, завесці і забяспечыць правільнае вядзенне ў кожным раёне адзінай раённай кнігі племяннай і палепшанай жывёлы, якая знаходзіцца на тэрыторыі раёна, і ўвесці ў абласцях, краях і рэспубліках адзіную дзяржаўную племянную кнігу для запісу чыстапароднай жывёлы, якая знаходзіцца на тэрыторыі вобласці, края, рэспублікі, усклаўшы вядзенне адзінай дзяржплемкнігі на наркамземы рэспублік, абл (край) земупраўленні.

3. Вызваліць ад мясапаставак калгасы, племянная жывёла якіх занесена ў адзіную дзяржплемкнігу—адпаведна ліку галоў племяннай жывёлы.

4. Вызваліць ад мясапаставак калгаснікаў, племянная жывёла якіх занесена ў адзіную дзяржплемкнігу і якія прадаюць прыплод дзяржаве.

5. Раёны найбольшага пашырэння чыстапароднай жывёлы вылучыць у якасці спецыяльных дзяржаўных племянных рассаднікаў з арганізацыяй у іх селекцыйна-племяннай работы па вывядзенню лепшых высокапрадукцыйных і скараспелых парод, а таксама па масаваму вырошчванню племяннога маладняка.

Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае Наркамзем і абласныя партыйныя арганізацыі звярнуць асаблівую ўвагу на ўсямернае ўзмацненне племянной справы і развіццё племянных рассаднікаў з тым, каб у 1934 гаду давесці колькасць дзяржплемрассаднікаў да 43, у тым ліку 17 па буйнай рагатай жывёле, 10 па свіннях і 16—па авечках, укамплектаваць іх лепшымі зоатэхнічнымі і ветэрынарнымі кадрамі і дабіцца ператварэння раёнаў племрассаднікаў у раёны ўзорнай жывёлагадоўлі.

6. Перадаць Наркамзему СССР племянныя соўгасы Наркамсоўгасаў, распаложаныя ў раёнах дзяржплемрассаднікаў і пры занальных зоатэхнічных станцыях, з тым, каб ператварыць гэтыя соўгасы ў рэспубліканскія, краявыя, абласныя племянныя рассаднікі чыстапароднай жывёлы, прыплод якіх скарыстаць на палепшанне жывёлы ў калгасах і ў калгаснікаў.

## VI

## АБ РАСШЫРЭННІ КАРМОВАЙ БАЗЫ

Выходзячы з таго, што ў бліжэйшыя гады павінна быць створана моцная кармовая база для магутнага ўздыму жывёлагадоўлі, Пленум ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

1. Выдзеліць у пасеўных планах пад ураджай 1935 года 5 мільёнаў гектараў пасеву зернефуражных культур і бульбы ў якасці цвёрдай кармовай базы жывёлагадоўчых і конегадоўчых таварных ферм калгасаў, вызваліўшы гэтыя пасевы ад абавязковых зерневых і іншых натуральных паставак дзяржаве.

2. Для павышэння кармовых рэсурсаў калгасных таварных ферм на зіму 1934—1935 года вызваліць у 1934 гаду калгасы,

маючыя жывёлагадоўчыя фермы, ад абавязковых паставак зерня з плошчы 1,8 мільёна **га** і бульбы з плошчы 200 тысяч **га**.

3. Устанавіць водпуск па ільготных цэнах канцэнтраваных кармоў для таварных ферм тых калгасаў, якія здаюць дзяржаве прадукцыю звыш устаноўленага для іх плана.

Прапанаваць СНК СССР вылучыць для гэтага на 1934 год 100 тысяч тон макухі і атрубей.

4. Пленум ЦК ВКП(б) ставіць перад партыйнымі арганізацыямі, зямельнымі органамі і кіраўнікамі соўгасаў, МТС і калгасаў, як адну з важнейшых задач,—палепшанне лугоў і пашаў і павышэнне іх ураджайнасці.

Абавязаць Наркамзем СССР загатовіць у 1934 гаду і выдзеліць на падсеў траў на лугах і пашах не менш 2 тысяч цэнтнераў насення дзікарастучых траў.

У гэтых-жа мэтах абавязаць райза і калгасы разгарнуць збор насення дзікарастучых траў, выдзеліўшы для гэтага спецыяльныя ўчасткі з укосных плошчаў 1934 года.

5. Запрапанаваць СНК СССР, побач з агульным расшырэннем пасеву траў у 1935 гаду да 7 300 тысяч **га**, устанавіць план пасеву шматгадовых траў у размеры 2 800 тысяч **га**, у тым ліку 1 800 тысяч **га** канюшыны.

Зацвердзіць план астаўлення на насеннікі плошчаў траў з укосу 1934 года па калгасах у размеры 750 тысяч **га**, у тым ліку шматгадовых траў 645 тысяч **га**, з іх канюшыны 380 тысяч **га**, па соўгасах 100 тысяч **га** шматгадовых траў, усклаўшы на зямельныя органы і соўгасы ўсю адказнасць за захаванне, своечасовую ўборку і абмалот насеннікаў траў.

6. Павялічыць план сіласавання па калгасах у 1934 гаду да 12 мільёнаў тон, звярнуўшы асаблівую ўвагу на павышэнне якасці сіласавання і палепшанне пажыўных і смакавых уласцівасцей сілосу.

Давесці ў 1935 гаду пасевы кармовых корнеплодаў да 800 тысяч **га** і пасевы сілосных культур да 900 тысяч **га**, забяспечыўшы рэзкае павышэнне ўраджайнасці гэтых культур.

Прадугледзець у пасеўных планах на 1935 год расшырэнне пасеву на корм зернебабовых культур (кармовая чачавіца, віка і інш.).

7. Абавязаць Наркамцяжпром арганізаваць выраб канюшынных цёрак, сартыровак «Кускут», хмызняковых і балотных плугоў, а таксама куп'ярэзаў і кустарэзаў і расшырыць выраб сенаўборачнага інвентара, асабліва конных грабель і кормаапрацоўчых машын.

8. Абавязаць Наркамснаб СССР выпрацаваць у другім поўгоддзі 1934 года сухога жому 35 тысяч тон, крывяной і мясакоснай мукі 2 тысячы тон, рыбнай мукі 4 тысячы тон, кукурузнай мязгі 15 тысяч тон, сухой барды 4 тысячы тон, сухой драбіны і сухіх дрожджаў 3 тысячы тон, і ў 1935 гаду сухога жому 115 тысяч тон, крывяной і мясакоснай мукі 15 тысяч тон, рыбнай мукі 12 тысяч тон, кукурузнай мязгі 30 тысяч тон, сухой барды 9 тысяч тон, сухой драбіны і сухіх дрожджаў 8 тысяч тон.

Павялічыць выраб камбікармоў у другой палавіне 1934 года да 120 тысяч тон і ўстанавіць на 1935 год план вырабу камбікармоў у 350 тысяч тон.

Запрапанаваць СНК СССР павялічыць план вырабу абсталявання для камбікармовай прамысловасці і для скарыстання адыходаў харчовасмакавай прамысловасці.

## VII

## АБ ПАЛЕПШАННІ ВЕТЭРЫНАРНАЙ І ЗООТЭХНІЧНАЙ СПРАВЫ

1. Пленум ЦК ВКП(б) адзначае крайне нездавальняючае і запушчанае становішча ветэрынарнай справы: рэзкі недахват і нізкая кваліфікацыя ветэрынарных кадраў, зусім нездавальняючае абсталяванне нізавой ветэрынарнай сеткі, недахоп і нізкая якасць біяпрэпаратаў і медыкаментаў, дрэнная пастаноўка работы ветэрынарных навучальных устаноў і навукова-даследчых інстытутаў і як рэзультат гэтага,—значнае пашырэнне захворванняў жывёлы і высокі процант падзяжу.

Усе гэтыя буйнейшыя недахопы ў ветэрынарнай справе з'явіліся рэзультатам слабага кіраўніцтва Наркамзема СССР, Наркамсоўгасаў і мясцовых зямельных і соўгасных органаў і зусім недастатковай увагі да гэтай справы з боку мясцовых партыйных і совецкіх органаў.

2. Абавязаць Наркамзем Саюза, край (абл) комы і край (абл) выканкомы расшырыць і абсталяваць ветэрынарныя ўчасткі і ў двухмесячны тэрмін вярнуць пад ветэрынарныя ўчасткі, забяспечыўшы іх перавозачнымі сродкамі, усе памяшканні, якія займаліся раней ветэрынарнымі ўчасткамі, лячэбніцамі, амбулаторыямі і ветэрынарнымі пунктамі, кім-бы яны ні займаліся ў сучасны момант.

Давесці колькасць ветэрынарных участкаў у 1936 гаду да 6 тысяч і ветэрынарных пунктаў да 8 тысяч.

3. Абавязаць Наркамзем СССР, край (абл) комы і край (абл) выканкомы на працягу 1934—1935 года дабудаваць і даабсталяваць фабрыкі па вырабу біяпрэпаратаў, забяспечыўшы іх сыравіннай базай, і адкрыць ва ўсіх абласцях, краях і рэспубліках абласныя ветэрынарныя склады з раённымі аддзяленнямі і аптэкамі.

4. Абавязаць Наркамцяжпром, Наркамлегпром, Наркамснаб і Промкааперацыю расшырыць выраб ветэрынарных інструментаў і востра дэфіцытных дэзінфекцыйных сродкаў, біяпрэпаратаў і медыкаментаў, пачынаючы з III кварталу 1934 года.

5. Абавязаць Наркамзем распрацаваць паабласныя абавязковыя ветэрынарна-зоатэхнічныя правілы па ўтрыманню і догляду за жывёлай.

6. Для паказу і перанясення вопыту лепшых узораў работы соўгасаў, калгасна-таварных ферм, калгаснікаў і аднаасобнікаў, абавязаць краявыя (абласныя) і раённыя зямельныя органы арганізоўваць штогод краявыя (абласныя) і раённыя жывёлагадоўчыя выстаўкі і вывадкі маладняка, прэміруючы лепшыя ўзоры работы па жывёлагадоўлі.

7. Для палепшання матэрыяльнага становішча зоатэхнічных і ветэрынарных кадраў, працуючых у раёне, у соўгасах і кал-

гасах, павысіць пачынаючы з III кварталу 1934 года, зарплату старшых зоатэхнікаў і старшых ветурачоў у раёне да 300—400 рублёў, участковых зоатэхнікаў і ветурачоў да 200—275 рублёў, ветфельчароў і тэхнікаў жывёлаводаў да 125—180 рублёў,—у залежнасці ад вытворчага стажу і кваліфікацыі.

8. Абавязаць Наркамзем СССР і Наркамсоўгасаў прадставіць у ЦК і СНК план узмацнення падрыхтоўкі ветэрынарных і зоатэхнічных кадраў як вышэйшай і сярэдняй, так і масавай кваліфікацыі.

Абавязць Наркамзем і Наркамсоўгасаў арганізаваць выданне папулярнай літаратуры па пытннях жывёлагадоўлі і забяспечыць прасоўванне гэтай літаратуры ў калгасы.

9. Абавязаць Наркамзем СССР навуковыя работы Сельскагаспадарчай Акадэміі і абласных вопытных станцый накіраваць на вырашэнне асноўных практычных пытанняў жывёлагадоўлі, у асаблівасці ў вобласці захавання маладняка, адкорму жывёлы і барацьбы з эпізаотыямі.

* * *

Пленум ЦК ВКП(б) патрабуе сапраўднага павароту ўсіх партыйных, совецкіх і гаспадарчых арганізацый, у тым ліку палітаддзелаў МТС і соўгасаў, да справы карэннага палепшання жывёлагадоўлі. ё

Партыйныя, совецкія і гаспадарчыя аргнізацыі, у тым ліку палітаддзелы МТС і соўгасаў павінны па-дзелавому арганізваць работу па выкананню дзяржаўных планаў уздыму жывёлагадоўлі, а партыйныя і совецкія работнікі павінны аўладаць яе тэхнікай і займацца ёю штодзённа так настойліва і ўважліва, як і пытаннямі зернёвай гаспадаркі, прыцягваючы да гэтага ўсе лепшыя і актыўныя беспартыйныя сілы.

---

Галоўлітбел №А 5001.
Тыраж 8726
512 720 друк. зн. (8½ арк.)
Здана ў набор 7/VII—34 г.
Падпісана да друку 17/VII—34 г.
Набрана на лін. № 6
Адк. кар. друк. *З. Варатынская*

*Рэдкалегія*: Мінкін (адк. рэдактар), Конік, Злоткін

Друкарня імя Сталіна, зак. № 1029